# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае сваёго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 (62) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2013 г.



**Міхаіл Меранкоў. *Вайсковы начальнік Лідскага павету ў паўстанні 1863-64 гг. Людвік Нарбут.*** Палатно, алей.
*Захоўваецца ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 2 ( 62 )** **КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ** **2013 г.**

## У НУМАРЫ:





*На першай старонцы выкладкі помятны знак герою паўстання 1863-64 гг. Людвіку Нарбутуу ў Лідскім мікраранёне Індустрыяльны. Аўтар - Рычард Груша.*
Здымак С. Судніка.

Пасведчанне аб рэгістрацыі
№ 907
ад 18.12.2009 г. выдадзена
Міністэрствам інфармацыі
Рэспублікі Беларусь

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

Наклад 300 асобнікаў
13,5 друк. аркушаў

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Замова № 1599
Часопіс падпісаны да друку 30.06.2013 г.
Часопіс надрукаваны 31.07.2013 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 5800 руб.
індывід. 6 мес.- 11600 руб.
Кошт у розніцу: вольны











Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# Першы пленэр імя Браніслава Яманта

17 траўня 2013 года на базе нашай Лідскай дзіцячай мастацкай школы стартаваў I Адкрыты конкурс дзіцячага малюнка "Пейзаж у маім сэрцы", прысвечаны творчасці **Браніслава Яманта.**



**Браніслаў Ямант,**
*(5.08.1886 - 4.02.1957),*
*з вёскі Дакудава Лідскага раёна, пляменнік Марыі Ямант - нарачонай Кастуся Каліноўскага, мастак, прафесар універсітэтаў Стэфана Баторыя ў Вільні і Мікалая Каперніка ў Торуні, намеснік Фердынанда Рушчыца ў Вільні, заснавальнік і першы дэкан факультэта прыгожых мастацтваў універсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні.*

Конкурс праходзіў у два этапы. На першым этапе юныя мастакі малявалі пейзаж з архітэктурнымі збу-даваннямі Гарадзеншчыны і па яго выніках лепшыя навучэнцы былі запрошаныя ў Ліду для ўдзелу ў выязным пленэры на радзіму Б. Яманта ў в. Дакудава.

Хлопчыкі і дзяўчынкі з задавальненнем малявалі прыгожыя берагі Нёмана, любаваліся выдатнай прыродай, якая натхняла на творчасць мастакоў і паэтаў. Атрымаліся выдатныя творы. Але конкурс ёсць конкурс, журы давялося нават паспрачацца, выбіраючы пераможцаў.

Гран-пры, выраблены па адмысловай замове, застаўся ў Лідзе, быў заваяваны навучэнкай Лідскай дзіцячай мастацкай школы Насцяй Дабрынінай. Вызначыліся выхаванцы мастацкіх школ Гародні, Мастоў, Шчучына, Іўя.

З'язджаючы, юныя мастакі і іх настаўнікі ўжо больш ведалі пра творчасць Б. Яманта, захапляліся яго жывапіснымі і графічнымі працамі, дамаўляліся аб творчай сустрэчы на будучы год.

30 траўня ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі адкрылася выстава жывапісных работ з 1-га Лідскага пленэра імя Браніслава Яманта.









***Работа, атрымаўшая гран-пры.***

На адкрыццё выставы прыйшлі вучні Лідскай мастацкай школы. Прыйшлі настаўнікі і бацькі юных талентаў, а таксама зацікаўленыя госці.

Пры адкрыцці выставы ўсімі прысутнымі выказвалася цвёрдая ўпэўненасць, што пасля першага пленэра будзе і другі і наступныя, ёсць мара зрабіць пленэр міжнародным і праводзіць яго сумесна з такой жа мастацкай школай польскага горада Торуня, дзе Браніслаў Ямант пражыў другую частку свайго жыцця.

***Валянціна Грышкевіч.***
*Фота аўтара і А. Колышкі.*

# 1-я Лідскія чытанні да 150-х угодкаў паўстання 1863 года

**1-я Лідскія чытанні**, прысвечаныя 150-м угодкам паўстання 1863 года, прайшлі 6 чэрвеня ў Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы.



На чытаннях прагучала восем дакладаў. З асобнымі эпізодамі паўстання пазнаёміў прысутных Леанід Лаўрэш (Ліда). Пра біяграфіі паўстанцаў распавядалі Надзея Крапівіна (Ваверка, "Біяграфія ксендза Раймунда Зямацкага), Лілея Шавяла (Ліда, "Баляслаў Колышка - двойчы павешаны"), Уладзімір Руль (Нача, "Сям'я Нарбутаў у паўстанні"). Пра мемарыялізацыю паўстання на Лідчыне расказаў Станіслаў Суднік (Ліда). Бібліяграфію паўстання акрэсліла Тарэза Толкун (Ліда), пра экспанаты Лідскага музея, звязаныя з паўстаннем паведаміла Наталля Валынец (Ліда). Пра паўстанне на Гарадзеншчыне далажыў Іван Буднік (Гародня). Ён жа прэзентаваў і сваю кнігу "Да падзеяў паўстання 1863-64 гадоў на Гарадзеншчыне", якая зусім нядаўна выйшла ў выдавецтве ЮрСаПрынт. У кнізе акрамя іншага распавядаецца, як гарадзенцы ўступалі ў аддзелы Людві-ка Нарбута, вайсковага начальніка Лідскага павету, як спрабавалі з'ехаць на цягніку да станцыі Парэчча, каб далучыцца да Л. Нарбута.





Дарэчы, выдатны партрэт Людвіка Нарбута, намаляваны Міхаілам Меранковым па замове Лідскага музея ў канцы 80-х гадоў 20-га стагоддзя, як бы асвячаў чытанні, ствараў гістарызм атмасферы.

З фондаў музея былі выстаўлены і два медалі, якія ўручаліся ўдзельнікам задушэння паўстання. Уладзімір Руль прадставіў арыгінал кнігі Ўладзіслава Карбоўскага "Ludwik Narbut. Zyciorys wodza w powstaniu styczniowym na Litwie", выдадзеную 76-м Лідскім палком пяхоты імя Людвіка Нарбута ў 1933-35 гг. Полк дыслакаваўся тады ў Гародні.



Чытанні праводзіліся Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкай імя Янкі Купалы і Лідскай гарадской арганізацыяй ТБМ імя Францішка Скарыны. Па выніках чытанняў бу-дзе выдадзены зборнік.

*Станіслаў Суднік.*

**На здымках:** даклады чытаюць Надзея Крапівіна, Іван Буднік, Уладзімір Руль; Леанід Лаўрэш,

# КРОНІКА ЛІДЫ




У 2012 годзе “Белпошта” выпусціла **паштовую марку** з выявай Лідскага замка. Намінал маркі 10000 рублёў.







Таварыства польскай культуры на Лідчыне ў пачатку 2013 года выпусціла **каляндарыкі да 150-годдзя паўстання 1863-64 гг.**




6 красавіка 2013 года ў Лідзе на вул. Гагарына адкрыўся магазін **“Еўраопт”**.




У красавікуа 2013 г. у Менскім выдавецтве "Лімарыус" выйшла кніга Леаніда Лаўрэша **“І зорнае неба над галавой...”. Нарысы з гісторыі астраноміі.** 268 ст. Наклад 200 асобнікаў.

21 красавіка ў лідскім мікрараёне Індустрыяльны была адкрыта і асвечана адноўленая **мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута** - вайсковага начальніка Лідскага павету падчас паўстання 1863 года, паўстанцкага палкоўніка, прызначанага за некалькі дзён да смерці галоўнакамандуючым войскаў ВКЛ.

Дошку адкрывалі біскуп Аляксандр Кашкевіч, генеральны консул Польшчы ў Гародні Анджэй Хадкевіч, Лідскі дэкан Вінцэнт Лісоўскі, пробашч Фарнага касцёла айцец Уладзімір Гуляй, пробашч касцёла Святога Юзафа Каласантага айцец Ян Асіповіч. Менавіта каля новазбудаванага касцёла ордэна піяраў на імя Святога Юзафа Каласантага ў форме адмысловай капліцы (праект Рычарда Грушы) і была ўстаноўлена мемарыяльная дошка з 1938 года.

Дошка прайшла разам з Лідай цяжкі гістарычны шлях. Устаноўленая да 75-годдзя паўстання ў 1938 годзе на піярскім касцёле па вул. Сувальскай, у ноч з 17 на 18 верасня 1939 года, перад прыходам Чырвонай Арміі яна была затынкавана жыхарамі горада. У 1989 годзе тынк быў зняты. У 1996 годзе пасля вяртання будынка праваслаўным дошка была знятая і перададзеная ў музей. У 1997 годзе з ведама дырэктара музея Рыгора Жалезнага дошка была вывезена і схаваная на тэрыторыі аднаго з касцёлаў. Прайшло амаль 16 гадоў. Быў пабудаваны новы піярскі касцёл у




***Памятка, выпушчаная Таварыствам польскай культуры на Лідчыне да адкрыцця дошкі***






Лідзе. Чатыры гады ішлі перамовы з ордэнам піяраў, пакуль правінцыял ордэна не дабраславіў устаноўку дошкі, і вось да 150-годдзя паўстання адбылося паўторнае адкрыццё і асвячэнне дошкі памяці Людвіка Нарбута ў Лідзе.




У пачатку траўня Дзяржаўная ўстанова адукацыі “Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці №2 г. Ліды” выдала альбом-казку **“Як зайкі лес падпалілі”** з малюнкамі дзетак і вершаваным тэкстам Станіслава і Рымы Суднікаў.



2 траўня 2013 года гораду Лідзе ўручаны вымпел **“За лепшы санітарны стан горада”** сярод гарадоў з насельніцтвам ад 50000 да 100000 чалавек.




23 траўня **Лідскі малочна-кансервавы камбінат** абвешчаны пераможцам конкурсу “Лепшы экспарцёр 2012 года” ў намінацыі “Харчовая прамысловасць”.

19 чэрвеня ў дзень нараджэння Васіля Быкава прэмію “За свабоду думкі” атрымаў музыка з Бярозаўкі, кіраўнік "WZ-Orkiestra" **Зміцер Вайцюшкевіч.**



***Зміцер Вайцюшкевіч і Аляксандр Мілінкевіч***



29 чэрвеня за дасягненні ў 2012 годзе на Рэспубліканскую дошку гонару занесена **Лідская гімназія № 1**.

# 600-годдзе Ваверскай парафіі Перамянення Божага



16 чэрвеня Ваверская парафія Перамянення Божага ў Лідскім раёне адзначала вельмі круглую дату - 600-годдзе з дня заснавання.

Першая хрысціянская супольнасць у Вавёрцы пачала існаванне ў 1413 годзе. Паданне заслугу пабудовы першага ваверскага касцёла аддае Міхайлу Гілігінавічу, ветэрану Грунвальдскай бітвы. Паводле іншых крыніц утварэнню парафіі Святога Духа спрыялі, а таксама пабудавалі драўляны касцёл, уладары Вавёркі - Жыгімонт Гілігінавіч і яго маці Сафія. Зусім верагодна, што пачаў будаваць касцёл Міхайла Гілігінавіч, а завяршалі яго жонка Сафія і сын Жыгімонт. Але асноўным у дадзеным выпадку з'яўляецца дата, а яна ва ўсіх крыніцах тая самая - 1413 год. Пабудова касцёла ў Вавёрцы апісана ў "Співе пра Міхайлу Гілігінавіча" Станіслава Судніка.

Гістарычныя падзеі склаліся так, што ўжо ў другой палове XV стагоддзя той касцёл быў знішчаны. Будаваліся наступныя. Касцёл, пабудаваны ў 1736 годзе, праіснаваў да 1840 года. Пры парафіі дзейнічала брацтва Святога Яна Непамука, заснаванае ў 1760 годзе. На тэрыторыі парафіі было 6 капліц: у Дзітве, у Лябёдцы, у Місявічах, у Паперні, у Пелясе і ў Радзівонішках.

У1840 годзе Самуэлем Кастравіцкім быў пабудаваны першы мураваны касцёл. Падчас Першай Сусветнай вайны храм быў пашкоджаны. У 1920 годзе касцёл адрамантавалі.

У 1926 - 1928 гадах быў пабудаваны сённяшні трохнефавы касцёл з каменю і цэглы. Пробашчам тады быў кс. Францішак Пясцюк. 13 лістапада 1928 года Лідскі дэкан кс. Гіпаліт Баярунец асвяціў касцёл Перамянення Божага. У той час у склад Ваверскай парафіі ўваходзіла 86 мястэчак і вёсак. У1939 годзе парафія налічвала 8980 вернікаў. Таму сёлета яшчэ адзначаецца і 85-годдзе Ваверскага касцёла.

Часы камунізму не абмінулі парафію і касцёл. Кс. Севярын Янкоўскі, пробашч парафіі з 1939 года, у 1948 - 1954 гадах знаходзіўся ў савецкім лагеры. Пасля вызвалення прыняў парафію на гады 1955 - 1958. З 1958 па 1975 год у парафіі не было святара. У гэты цяжкі час мясцовыя ўлады прынялі рашэнне перарабіць храм у канюшню, а пазней - у склад для штучных угнаенняў. Аднак, па сведчанні мясцовых жыхароў, касцёл ніколі канюшняй не быў, проста стаяў пусты.

Парафіяне ратавалі храм, плацячы падаткі. Парафіянка Мальвіна Мікуц з Серафін разам з іншымі членамі парафіяльнага камітэта ездзілаў Маскву, каб не зачынялі касцёл. З 1975 года ў парафію ў Ваверцы прыязджаў кс. Юзаф Грасевіч з Каменкі, з 1983 па 1995 прыязджаў, а потым стаў пробашчам кс. Станіслаў Пацына.



З 1995 года парафіяй апякуюцца святары з Ордэна Рэгулярных Латэранскіх Канонікаў: кс. Роберт Мазуркевіч, 1995 - 2000, кс. Фелікс Папялевіч, 2000 - 2012.

Галоўным адпустам у парафіі з'яўляецца Ўрачыстасць Перамянення Божага (6 жніўня). Яго папераджае 40-гадзіннае набажэнства. Яшчэ адным вялікім святам з'яўляецца ўрачыстасць Францішкі Рымлянкі (9 сакавіка). Вельмі папулярнымі ў парафіі з'яўляюцца ўрачыстасці Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, Святога Юзафа, Святога Юрыя.






*Да 600-годдзя Ваверскай парафіі выдадзены каляровы буклет, які ўтрымоўвае гістарычныя звесткі, апісанне архітэктурных асаблівасцяў і мастацкага афармлення, а таксама спіс святароў, якія служылі ў Ваверцы:*

*1460, кс. Ян;*
*1537, кс. Ян Стшэмбаш;*
*1622, кс. Ян Хрызастам Ражнятоўскі;*
*1643 - 1649, кс. Адам Ліпніцкі;*
*1661 - 1677, кс. Ян Любатынскі;*
*1700, кс. Антоні Янушкевіч;*
*1739, кс. Дамасі Васілеўскі;*
*1739, кс. Юзаф Галэцкі;*
*1745, кс. Францішак Васілеўскі;*
*1762 -1791, кс. Андрэй Паўлоўскі;*
*1791-1792, кс. Пётр Чэрнік;*
*1792 - 1819, кс. Себасцьян Дамброўскі Sch.P.;*
*1829 - 1836, кс. Юзаф Ларэнт;*
*1833, кс. Вінцэнт Кабылінскі;*
*1840 - 1848, кс. Людвік Паўловіч;*
*1848 - 1849, кс. Станіслаў Даўгяла;*
*1849 - 1863, кс. Раймунд Зямацкі (расстраляны публічна ў Вільні);*
*1893 - 1902, кс. Вінцэнт Раецкі;*
*1902 - 1911, кс. Ян Сахарко;*
*1910 - 1911, кс. Вінцэнт Юхневіч;*
*1911 - 1918, кс. Гіпаліт Маліноўскі;*
*1918 - 1930, кс. Францішак Пясцюк;*
*1930 - 1939, кс. ЯраслаўРакіцкі;*
*1939 - 1958, кс. Севярын Янкоўскі (на працягу 5 гадоў знаходзіўся ў зняволенні, у гадах 1955 - 1958 зноў з 'яўляўся пробашчам парафіі);*
*1958 - 1975, не было святара;*
*1975 - 1983, прыязджаў кс. Юзаф Грасевіч;*
*1983 - 1995, кс. Станіслаў Пацына;*
*1995 - 2000, кс. Роберт Мазуркевіч, CRL;*
*2000 - 2012, кс. Фелікс Папялевіч, CRL;*
*2005 - 2012, кс. Андрэй Роўба, CRL, вікарый;*
*2012 - ... кс. Андрэй Роўба, CRL.*

На працягу аношніх 20 гадоў, дзякуючы набожнасці і ахвярнасці вернікаў і дабрадзеяў, святыня набыла сённяшнюю прыгажосць, якая пабуджае да малітвы.

Парафія і касцёл у Вавёрцы перажылі цяжкія часы, але не страцілі духу набожнасці і веры сваіх продкаў, якія стагоддзямі на гэтай зямлі захоўвалі хрысціянскія традыцыі.

16 чэрвеня юбілейнае набажэнства ўзначаліў біскуп Гарадзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч.

З высокапастаўленых гасцей трэба адзначыць Генеральнага абата Ордэна Рэгулярных Латэранскіх Канонікаў з Італіі і правінцыяла ордэна з Польшчы. Прысутнічалі тры дзяканы і многія святары.

Дэлегацыю свецкіх уладаў ачольваў старшыня Лідскага райвыканкаму Аляксандр Астроўскі, былі старшыні сельсаветаў і кіраўнікі гаспадарак, размешчаных на тэрыторыі парафіі.

Набажэнства ішло ў асноўным на польскай мове, але ўсе звароты да ўладаў былі на беларускай або рускай мовах.

Усе словы ад прыхаджан агучваліся на літаратурнай беларускай мове. Добры прыклад падаў і старшыня Лідскага райвыканкаму, які сваё віншавальнае слова да біскупа пачаў на беларускай мове, перайшоў на рускую, вярнуўся зноў на беларускую, і ўсё гэта лёгка і нязмушана. У сваю чаргу завяршальнае казанне біскупа А. Кашкевіча было на літаратурнай беларускай мове.

***Станіслаў Суднік.***

# Лідскія юбіляры 2013 года

## Станіслаў Нарбут

### 160 гадоў з дня нараджэння

**Станіслаў Нарбут** быў трэцім, самым малодшым сынам Тодара Нарбута - нашчадка старажытнага шляхецкага роду герба "Трубы", ваеннага інжынера, гісторыка і археолага. Станіслаў нарадзіўся ў радавым маёнтку Шаўры Лідскага павету 4 траўня 1853 года. Калі ўспыхнула паўстанне 1863 года, усе старэйшыя сямейнікі не засталіся ў баку ад падзей. Яго старэйшы брат Людвік, паплечнік Каліноўскага, загінуў у баі. Уладальнікаў маёнтка Шаўры абвясцілі небяспечнымі "дзяржаўнымі злачынцамі". Бацьку перасялілі пад нагляд паліцыі ў Вільню, дзе ён хутка памёр. Маці адправілі ў Пензенскую губерню, другога брата, Баляслава - яшчэ далей, у Краснаярск. Маёнтак разам з найбагацейшай гістарычна-археалагічнай калекцыяй і бібліятэкай канфіскавалі. Род Нарбутаў пазбавілі шляхецкай годнасці. Выключэнне зрабілі толькі для маленькіх Станіслава і яго сястры, якія засталіся без бацькоў і без роднай хаты.

11-гадоваму Станіславу далі прытулак у Вільні сваякі і сястра бацькі. З іхняй падтрымкай і дапамогай ён закончыў вучобу ў першай Віленскай гімназіі ў 1871 годзе. Але набыццё спецыяльнасці для яго ператварылася ў велізарную праблему. Бо ён - сын і брат "дзяржаўных злачынцаў" - не меў права пступаць ва ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы Расійскай імперыі. Але, дзякуючы дапамозе сястры, іншых сваякоў, сяброў і знаёмых, у 1872 годзе Нарбут паступіў на лячэбны факультэт Баварскага каралеўскага ўніверсітэта ў Мюнхене. Праз 7 гадоў, у 1879 годзе, атрымаў не толькі дыплом лекара, але і ступень доктара медыцыны. Тут, за мяжой, і пачалася яго лекарская практыка.

Станіслава Нарбута цягнула на радзіму. Але, каб мець права там лячыць людзей, патрэбен быў дыплом лекара, выдадзены ў Расіі. Таму ён быў вымушаны паступіць у Дэрптцкі ўніверсітэт і закончыць у ім два курсы, каб атрымаць другі дыплом лекара.



*Браслаўская бальніца, пабудаваная Станіславам Нарбутам*



*Станіслаў Нарбут*

Чаму для далейшага жыцця ён выбраў Браслаўшчыну? У лісце да сястры Станіслаў пісаў: *"Я ў 1882 годзе прыбыў у Браслаў як першабытны медыцынскі Адам, бо ніколі раней тут лекара не было. Адразу ж улез на браслаўскую гару і ўбачыў у наваколлі 11 азёраў, і ўрачыстасць наваколля глыбока запала мне ў сэрца".*

Спачатку ён меў прыватную практыку ў Друі і Браславе. А калі з'явілася вакансія лекара другога ўчастка Нова-Аляксандраўскага павету, Станіслаў 29 красавіка 1904 года падаў прашэнне на імя ковенскага губернатара. Губернатар 6 (шэсць!) разоў адмаўляў. Пасля ўсіх праверак асобы прасіцеля на лаяльнасць, калі ўлады канчаткова пераканаліся, што праваслаўнага кандыдата на гэтую пасаду не будзе, яны задаволілі просьбу католіка Станіслава Нарбута. І той 4 жніўня 1904 года пачаў афіцыйна працаваць. Гэта, бадай, адзіны выпадак у Беларусі, калі доктар медыцыны працаваў у павятовым мястэчку.

У першую чаргу Нарбуту трэба было пабудаваць бальніцу. Менш, чым за два гады цагляная бальніца была пабудавана. Па тых часах для Браслава, у якім было 2,5 тысячы жыхароў, гэта была выдатная, першакласная лячэбніца. Яшчэ не так даўно ў ёй размяшчалася дзіцячае аддзяленне раённай бальніцы. Цяпер там скіт Полацкага Свята-Панцелеймонаўскага манастыра.

Разам з тым Нарбут набываў велізарны аўтарытэт лекара ў жыхароў Браслаўшчыны. Людзей прываблівалі ягоныя жыццялюбства, няўрымслівасць, жартаўлівасць, бескарыслівасць, надзейнасць, гатоўнасць у любы момант аказаць дапамогу, прынцыповасць, талерантнасць да людзей розных нацыянальнасцяў, веравызнання і маёмаснага становішча. Яго шанавалі за патрыятызм, за любоў да роднага краю. Ён валодаў пяццю мовамі. Нарбуту даводзілася лячыць усе хваробы: унутраныя, жаночыя, вачэй, вуха, горла і носа, а таксама інфекцыйныя і дзіцячыя. Сам ён аддаваў перавагу хірургіі і акушэрскай дапамозе.

Доктар Нарбут не абмяжоўваўся лекарскімі



***Станіслаў Нарбут на аперацыі***

клопатамі. Вялікія беды і страты драўлянаму мястэчку і вёскам Браслаўшчыны прыносілі частыя пажары. У 1895 годзе ён становіцца адным з заснавальнікаў Браслаўскай пажарнай дружыны, якую ўзначальваў да Першай Сусветнай вайны. Праца страхавой касы мястэчка таксама праходзіла з яго ўдзелам. Вельмі негатыўна і непрымірыма доктар ставіўся да п'янства і, як сябар павятовай камісіі, рашуча перашкаджаў распаўсюджванню гэтай звычкі сярод месцачкоўцаў. У 1907 годзе ён заснаваў Таварыства народнай цвярозасці. Станіслаў Нарбут захапляўся тэатрам, таму ўдзельнічаў у аматарскіх пастаноўках як актор і рэжысёр. Выдаваў газету "Дух Браслава".

Калі пачалася вайна, яму давялося пакінуць Браслаў і ўдзельнічаць у баявых дзеяннях на Паўночна-Заходнім фронце загадчыкам вайсковага лазарэта. У час аднаго з баёў яго цяжка параніла, з-за чаго яму ампутавалі нагу. Толькі ў пачатку 1919 года Нарбут вярнуўся ў Браслаў і працягнуў лекарскую практыку.

Калі Браслаў занялі часткі Чырвонай Арміі, Станіслаў не стаў хаваць свайго крытычнага стаўлення да бальшавікоў, але застаўся верным свайму прызначэнню: аказваў лекарскую дапамогу ўсім хворым і параненым людзям.

За польскім часам ён заняў пасаду павятовага лекара. Новыя ўлады падазрона паставіліся да яго як да "рускага чыноўніка", які лячыў чырвонаармейцаў. Нават распачалі следства. У бальніцы яны размясцілі староства і паліцыю. Натуральна, гэта вельмі абурала Нарбута. За лекара заступіліся мясцовыя каталіцкія святары. Аднак нацягнутыя адносіны з польскімі чыноўнікамі ў Нарбута так і засталіся да канца яго дзён. "Тут, у Браславе, я дажыў да старых гадоў і як адданы сабака сыду са свайго паста…" - запэўніў лекар сястру ў лісце ў 1924 годзе. Браслаўчане ж не толькі абралі Станіслава Нарбута ганаровым старшынём пажарнай аховы мястэчка, але і адну з вуліц Браслава назвалі Нарбутаўскай.



***Сям'я Нарбутаў каля сваёй сядзібы на беразе возера Дрысвяты. Паміж 1906-1910 гадамі.***

У студзені 1925 года Нарбут пакінуў дзяржаўную службу, але працягваў лекаваць людзей. У пачатку сакавіка 1926 года ён выехаў на вазку да хворага. Па дарозе моцна прастудзіўся, але даехаў, дапамог хвораму, а ўжо потым паклапаціўся пра сябе. Аднак хвароба прагрэсіравала, і 11 сакавіка Нарбут памёр ад запалення лёгкіх. У адной з віленскіх газет у некралогу нябожчыка назвалі Нестарам зямлі Браслаўскай.

Удава і чацвёра асірацелых дзяцей Станіслава Нарбута засталіся без сродкаў на існаванне і без прытулку. Жыхары Браслаўшчыны вырашылі паставіць на магіле свайго лекара помнік. За кароткі час сабралі больш чым дастаткова грошай. Тады частку з іх накіравалі на пабудову дома для яго сям'і. Адзін з жыхароў Браслава ахвяраваў свой кавалак зямлі на Замкавай гары на ўзвядзенне помніка лекару. Адносна хутка абеліск быў пабудаваны, і ля яго засвяцію вялізарны ліхтар.

Калі адбылося ўз'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі, новыя ўлады вуліцу Нарбутаўскую перайменавалі ў вуліцу Кірава. Нават збіраліся знесці помнік Нарбуту. Аднак, як кажуць, рукі не дайшлі, дакладней - не паспелі. Затое паспелі пашчыраваць вандалы. У выніку памятная дошка "ад жыхароў Браслаўскага павету" знікла, знік і ліхтар. Так стаяў гэты абеліск некалькі дзесяцігоддзяў знявечаны. Потым, у пасляваенны час, на ім умацавалі дошку, якая сведчыла, што гэта помнік ахвярам апошняй вайны. Але знікла і яна. І зноў з дзясятак






***Помнік Станіславу Нарбуту і надпіс на ім***

гадоў помнік лекару заставаўся ў непрыстойным стане.

Надышлі бурныя 1990-я гады. Народ пачаў праяўляць цікавасць да сваёй гісторыі. Намаганнямі грамадскіх дзеячаў, краязнаўцаў, гісторыкаў, інтэлігенцыі Браслава, Віцебска, Літвы напаўзабытае імя Станіслава Нарбута пачало вяртацца людзям. Але ўжо нікога з яго нашчадкаў не засталося на радзіме: усе знайшлі прытулак у Польшчы і Даніі.

Асабліва парупіліся браслаўчане пра ўзнаўленне памяці аб сваім лекары ў 2003 годзе, калі яму спаўнялася 150 гадоў. Белпошта выдала мастацкую марку.




***Марка да 150-годдзя Станіслава Нарбута***



***Бюст Станіслава Нарбута перад Браслаўскай раённай бальніцай***

У мясцовым краязнаўчым музеі пашырылася экспазіцыя матэрыялаў пра яго жыццё і дзейнасць. На абеліску з'явілася драўляная дошка, прызначаная: "Таленавітаму ўрачу-гуманісту ад удзячных жыхароў Браслаўшчыны", і зноў засвяціў ліхтар у вышыні. Праз нейкі час драўляную дошку змянілі на бронзавую з надпісам на беларускай лацінцы: "Станіслаў Осцік Нарбут. 1853-1926. Лекару ўдзячная Браслаўшчына". У двары Браслаўскай ЦРБ устанавілі бронзавы бюст Нарбута, які адліты за сродкі, зробленыя браслаўчанамі на суботніку.

Здавалася б, усё добра: памяць і свядомасць людзей узноўленыя, праўда і справядлівасць перамаглі. Але, не-не, ды ўзнікае нейкая трывога, пачынаюць гнясці сумненні: ці не замала зроблена для памяці такога чалавека?

***Генадзь Шэршань.***

## Ён гонар Нарбутаў зберог!

I

Было ў ім ад родных тое:
Не ўмеў ілгаць, дурыць, лаўчыць.
Жыў толькі праўдаю адною,
Каб гонар роду зберагчы.

Не сябраваў з лайдацтвам, з пыхай,
Гнаў зайздрасць прэч, як найдалей,
Казаў: "Навошта тое ліха?
Мне без яго нашмат лягчэй!"

Ахвярай розных пертурбацый
Стаў у дзяцінстве мой герой:
Паўстання, здрады, карных акцый,
Прайшоўшых жорсткай чарадой,

Няўмольна знішчыўшых дазвання:
Сямейны лад, спакой і быт,
Прынёсшых друз расчараванняў,
Прагнаўшых шчасцейка ў нябыт.

(У Тэадоравага сына
На ўсё жыццё ад той пары
Былі складанымі ўспаміны
Пра свае родныя Шаўры.)

Але жыла пад тым цяжарам,
Як самы лепшы дабрадзей
Жар-птушкай зыркай, вабнай мара
Настрой ўздымаючы вышэй.

Каб спраўдзіць чын яе належна,
Ён нават даў сабе абет,
І з'ехаў з Вільні ў замежны:
Баварскі універсітэт.

Магнітам лекарскія веды
Цягнулі Нарбута ў свой стан,
І за мяжой студэнт наш зведаў,
Што мара не ўвяла ў зман

Яго, а добрай зоркай стала
Ў ягоным лёсе, і таму
Вучыўся хлопец вельмі ўдала,
Адпавядаючы свайму

Жаданню і сваёй заяве,
Пададзенай у рэктарат.
Адточваў спрыт у любай справе,
Як доктар, фельчар і медбрат.

II

... Нібы анёл выратавальны
З'явіўся лекар Станіслаў
У Браслаў з місіяй ухвальнай,
Якую спрытна распачаў.

Ён - паслядоўнік Гіпакрата -
Таленавіты, малады,
Вясёлы, трохі зухаваты
З паветам зжыўся назаўжды.

Бо палюбіў красу азёраў,
Людзей тутэйшых палюбіў
І працай шчырай, бездакорнай
Аўтарытэт ураз набыў.

Было для хворых з'явай новай,
Што ім тактоўна спагадаў
На ўсіх пяці мясцовых мовах
Народны лекар Станіслаў,

Што кожны раз урач выдатны
Быў вельмі лёгкі на пад'ём,
Не вымагаў ніколі платы,
Ахвяраваў уласным сном,

Каб толькі ўзняць на ногі хворых!
У сітуацыі любой
Аптымістычным і бадзёрым
Быў легендарны доктар той.

Імпанавала браслаўчанам,
Ну, літаральна, ўсё ў ім:
Уменні, вопыт і стараннасць
У спалучэнні з залатым

Характарам, з жыццёвым гартам,
Зрабіўшым стоікам яго,
А заадно і бацькі вартым
Таленавітага свайго.

У дні жыццёвых землятрусаў,
У час сумненняў і нуды
Не паддаваўся злым спакусам,
А піў напой "жывой вады",

Якой быў лекарскі занятак -
Быцця зайздросны элексір -
Што адганяў той хціві статак
І ў душы ўсталёўваў мір.

Аб іншым ён не марыў нават,
Не сніў аб іншым зыркіх сноў,
Захоплены любімай справай -
Аздобай лёсу ўсіх Майстроў.

Казаў тады ў павеце кожны
Пра Станіслава: "Далібог,
Дапамагчы ніхто не зможа,
Калі ўжо Нарбут сам не змог!"

...Дзесяткі год у цэнтры ўвагі
Быў знакаміты наш зямляк.
Чыны знайшлі яго, павага,
Любоў і векавечны знак:

Сама лячэбніца ўзнікла
Ў ціхім Браславе таму,
Што лекар жыў у ім нязвыклы,
Што падуладнымі яму

Былі хваробы, болькі, раны,
Што ўцякала гэта дрэнь
Ад працы Нарбута старанннай,
Нібы ад сонца змрочны цень.

У гонар лекара ад Бога
Даў назву вуліцы народ,
Дзе ў доме веку маладога
Пражыў з сям'ёй ён восем год.

(Сам гэты дом свайму рупліўцу
Па-над азёрнаю вадой
Шматлікія добразычліўцы
Пабудавалі грамадой.)

Урач такую дамінанту
Жыццю мястэчка задаваў,
Што стаў бясспрэчнейшым гарантам
Перадавых грамадскіх спраў!

Не, не адной медычнай працай
Раскрыць свой талент Нарбут змог:
Вучыў з пажарамі змагацца,
Вёў з Мельпаменай дыялог.

Як газетчык, як рэдактар
Не меў у Браславе раўні, -
Ён уяўляў сабою фактар,
Які ўпрыгожваў тыя дні

Ўсяго азёрнага павету,
Куды ўрача калісьці лёс
З богаўхвальнай, людскай мэтай
На крылах светлых мар прынёс!

**III**

...Як на сваёй апошняй мілі
Ён без прытомнасці ўпаў,
Трывожна "Трубы" затрубілі:
"Канае лекар Станіслаў!

Канае, як і жыў - прыгожа.
Чакай, павет, прыход нуды,
Бо замяніць яго не зможа
Ніводзін лекар малады".

Сцвярджалі "Трубы" літаральна:
"Канешне, Нарбут не святы,
Ды варты памяці сакральнай
На ўсе наступныя гады!"

Звінелі "Трубы" урачыста
На цэлы браслаўскі разлог:
"Ён быў узорным гуманістам!
Ён гонар Нарбутаў збярог!"

***Уладзімір Руль, 2005 г.***

# Пятро Макарэвіч
## 75 гадоў з дня нараджэння

*Жыў па-людску і рабіў нямала,*
*Разліваў, як сонца, весялосць...*
*А мая персона выклікала*
*Найчасцей - няўдзячнасць або злосць.*

Гэтыя радкі з верша Пятра Рыгоравіча Макарэвіча "Не распяты на крыжы, на жаль" найлепей характарызуюць самога аўтара, як чалавека. Ён асоба шчырая, чыстая, сумленная, адкрытая, улюблёная ў навакольны свет.

Нарадзіўся Пётр Макарэвіч 15 красавіка 1938 года, у вёсцы Шынкі Крупскага раёна, што на Меншчыне, на беразе рэчкі Можа. Сама прырода прабудзіла ў ім паэтычны дар, які з нараджэння жыў у ім, каб у пэўны момант выліцца на паперу. Гэтаму спрыяла і прырода родных мясцін, якая зачароўвала будучага паэта, западала ў душу. Але, на жаль, не такім ужо і сонечным было дзяцінства Пятра Макарэвіча, асабліва ранняе. Яму ішоў чацвёрты гадок, як пачалася Вялікая Айчынная вайна, бацьку і дзвюх старэйшых сясцёр вывезлі у Германію. На долю адной маці выпаў клопат пра астатніх пецярых дзяцей: двух хлапчукоў і траіх дзяўчынак. У сям'і ж ўсяго было сем чалавек.

Далей у Макарэвіча ўсё ішло так, як ў большасці беларускіх хлопцаў: вучоба ў школе, служба ў арміі, вучоба ў педагагічным інстытуце імя Горкага (бібліятэчны факультэт). Будучы студэнтам трэцяга курса ён звязаў сваё жыццё з прыгожай маладой дзяўчынай Янінай, ураджэнкай в. Дубчаны, што на Лідчыне. Праз два гады нарадзілася дачушка Юля, а яшчэ праз два, у 1966 г. - Дзіна.

У 1964 г. пасля заканчэння вучобы быў накіраваны на пасаду загадчыка Лідскай раённай бібліятэкі, дзе працаваў каля года.

Затым пасада інструктара райкама КПБ, потым перайшоў на працу ў органы дзяржаўнай бяспекі. Праз пяць гадоў звальняецца, папярэдне адсядзеўшы ў каталажцы. Пасля ўсяго гэтага вельмі цяжка было знайсці працу.

У 1971 годзе каля года адпрацаваў на Лакафарбе грузчыкам, а затым каля трыццаці гадоў аддаў працы карэспандэнта ў рэдакцыі мясцовай газеты "Уперад" (зараз "Лідская газета").

Працаваў на міжраённай выратавальный станцыі.

У паэзіі Пятра Макарэвіча можна знайсці тое, што ў свой час запала яму ў душу, што ўсхваляла, чаму ён радуецца, што яго абурае. У яго вершах няма надуманасці, слоўнага штукарства.

Што датычыць тэмаў - гэта справа яго густу і выбару. У творы ж яго ўвайшла яскравая вобразнасць, метафарычнасць, вершы яго дакладныя, гранёныя, жыццесцвярджальныя. Аб яго творчасці сказана нямала. Вось, напрыклад, знакаміты паэт Анатоль Вярцінскі, у прадмове да кнігі П. Макарэвіча "Расінкі беларускіх слоў" адзначае: "Вершы Пятра Макарэвіча ў пераважнай большасці яўна аўтабіяграфічныя. Яшчэ яны, як прызнаецца сам аўтар, "майго характару адбітак". І чытаючы іх, міжволі задумаешся, як над асаблівасцямі нацыянальнага характару і светаўспрыняцця беларуса, так і над драматычнымі перыпетыямі яго лёсу, яго учарашняга і сённяшняга жыцця-быцця. З аднаго боку, ён - "сумленны сын зямлі", "сын ціхай рачулкі Можы", выходзіць на жыццёвы шлях з даверлівай, адкрытай душой, са спагадай і замілаваннем да ўсяго жывога (адзін з найлепшых вершаў так і называецца "Спагада жывому - жыве"), поўны аптымізму, безагляднага жыццялюбства ("Здаецца, разліўся я сонцам, а сонца ўлілося ў мяне!"), шчырага імкнення "са свайго мазаля сціпла жыць". А з другога боку - лірычны герой вершаў (ён жа ў дадзеным выпадку і рэальная асоба, гэта значыць, сам аўтар) змушаны то ахоўваць са зброяй ў руках чужую мяжу, то служыць па-халуйску "партыйных нягоднікаў зграі", то згаджацца (паспрабуй не згадзіся!) ісці на курсы КДБ і потым мець справу з д'ябальскай кадэбісцкай кухняй, з "друзам стукацтва", "прымаць на явачнай данос" і г.д."



Зараз на заслужанным адпачынку. Жыве ў Лідзе.

*Ў паэзіі сцвярджаю годнасць,*
*Каб праўдай дыхалі радкі.*
*Хай без мяне слуга ў пагонах*
*Тчэ павуцінныя сілкі.*

**Творы:**

1. Птица свободы: антология одного стихотворения / Пётр Макаревич.- Минск: Кнігазбор, 2012.- 120 с.

2. Расінкі беларускіх слоў: вершы, пераклады / Пётр Макарэвіч.- Мінск, 2008.- 172 с.

3. Злітак: лірыка / Пётр Макарэвіч.- Ліда: Лідск.

друк., 1997.- 72с.

4. Акраец жыцця: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 2012.- 18 снежня.- С.4

5. Акраец жыцця. Ранак на бацькаўшчыне. Унукі і летнік. Спагада жывому - жыве: вершы / Пётр Макарэвіч // Наша вера.- 2012.- №3.- С.52-53.

6. Исповедь влюбленного в "круг" и "квадрат"/ Пётр Макаревич // Нёман.- 2012.- №7.- С.107.

7. Краю роднага букет: вершы / Пётр Макарэвіч // Літаратура і мастацтва.- 2012.- №20.- С.8.

8. Краю роднага букет: вершы / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 2011.- 11 кастрычніка.- С.4.

9. Вершы / Пётр Макарэвіч/ / Ад лідскіх муроў: літаратурна-мастацкі зборнік 2010-2011гг.- 2011.- №7.- С.10-15.

10. Красуйся, Нёман!: верш / Пётр Макарэвіч / / Лідская газета.- 2011.- 24 мая.- С.5.

11. Наш горад праменны: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 2011.- 18 студзеня.- С.5.

12. Ліда святочная: верш / Пётр Макарэвіч// Лідская газета.- 2010.- 19 кастрычніка.- С.5.

13. Ліда святочная: верш / Пётр Макарэвіч // Принеманские вести.- 2010.- 23 верасня (№38).- С.5.

14. Хай паўсвету стане ганіць...: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 2008.- 25 кастрычніка.- С.4.

15. Вершы / Пётр Макарэвіч // Принеманские вести.- 2008.- 3 студзеня.- С.7.

16. Вершы / Пётр Макарэвіч // Принеманские вести.- 2007.- 19 ліпеня.- С.24.

17. Паэт Самарагд Сліўко: [да 75-годдзя з дня нараджэння] / Пётр Макарэвіч // Лідскі Летапісец.- 2006.- №4.- С.51-52.

18. Памяці С.Ф.Сліўко / Пётр Макарэвіч // Принеманские вести.- 2006.- 17 жніўня.- С.7.

19. Гімн маржам: верш / Пётр Макарэвіч// Принеманские вести.- 2003.- 16 студзеня.- С.4.

20. Лида: стихи / Пётр Макаревич // Принеманские вести.- 2001.- 14 ліпеня.- С.1.

21. Хай без мяне...: вершы / Пётр Макарэвіч // Ад лідскіх муроў.- 1999.- №2-3.- С.66-67.

22. Любімая Ліда: вершы / Пётр Макарэвіч // Ад лідскіх муроў.- 1998.-№1.- С.25-28.

23. Уставай суайчыннік з каленяў: верш / Пётр Макарэвіч // Наша слова.- 1998.- 9 верасня.

24. Дзень векапомны Белагруды: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 1998.- 15 жніўня.- С.4.

25. Винить окрестных - ерунда. Имя твое: стихи/ Пётр Макаревич // Лідская газета.- 1998.- 9 чэрвеня.

26. Адкідваю... усмешкай: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 1997.- 16 верасня.

27. Адвечная песня ўладных: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 1997.- 31 ліпеня.

28. Слезы на щеке любой обиды. У сосны белорусской: стихи / Пётр Макаревич // Лідская газета.- 1997.- 12 чэрвеня.

29. Мінулае: верш / Пётр Макарэвіч// Лідская газета.- 1997.- 13 мая.

30. Анікому яму не капаю: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 1997.- 27 лютага.

31. Есенин: стихи / Пётр Макаревич // Лідская газета.- 1997.- 4 студзеня.

32. Душа ў блакіце лунае: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 1994.- 20 снежня.

33. Хачу, каб жывое жыло: верш / Пётр Макарэвіч.- 1994.- 22 кастрычніка.

34. Каб жыць з табою - молім бога: верш / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 1992.- 7 сакавіка.

35. Вершы / Пётр Макарэвіч // Лідская. газета.- 1991.- 14 снежня.

36. Сатырычныя вершы / Пётр Макарэвіч // Уперад.- 1991.- 30 красавіка.

37. Нягоды Радзімы: верш / Пётр Макарэвіч // Уперад.- 1987.- 30 мая.

38. Любімая Ліда: верш / Пётр Макарэвіч // Уперад.- 1985.- 31 жніўня.

39. Ранак: верш / Пётр Макарэвіч // Гродненская правда.- 1981.- 4 ліпеня.

40. Песня пра Ліду: верш / Пётр Макарэвіч // Гродненская правда.- 1980.- 1 лістапада.

41. Имя твое: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1980.- 7 красавіка.

42. Имя твое: стихи / Пётр Макаревич // Гродненская правда.- 1980.- 31 мая.

43. Лида: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1977.- 26 студзеня.

44. Милицейские сердца: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1975.- 22 сакавіка.

45. Чайка: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1974.- 22 чэрвеня.

46. Имя твое: стихи / Пётр Макаревич// Уперад.- 1973.- 8 сакавіка.

47. Студенческое: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1973.- 14 красавіка.

48. Родине: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1973.- 29 жніўня.

49. Жар-птица: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1972.- 15 красавіка.

50. Колыбель коммунизма: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1971.- 7 лістапада.

51. Спутнице: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1971.- 6 сакавіка.

52. Я пил абхазское вино…: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1971.- 20 лютага.

53. Отчий дом: стихи / Пётр Макаревич/ / Гродненская правда.- 1971.- 16 января.

54. Капли: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1970.- 12 верасня.

55. Глаза: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1970.- 6 чэрвеня.

56. Лилия: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1970.- 10 кастрычніка.

57. О Ленине. О тебе: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1969.- 25 кастрычніка.

58. Монолог П.Я.Чаадаева: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1969.- 27 верасня.

59. Мчатся птицы: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1969.- 12 ліпеня.

60. Отчий дом. С трибуны души. Девиз моей

жизни: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1969.- 7 чэрвеня.

61. Цвети, земля: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1969.- 1 мая.

62. Ведет меня алое знамя: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1968.- 13 студзеня.

63. К тебе мои мечты: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1968.- 13 студзеня.

64. Звездный вечер: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1966.- 9 ліпеня.

65. Ленин: стихи / Пётр Макаревич // Уперад.- 1966.- 20 жніўня.

66. Погляди, моя родная…: стихи / Пётр Макаревич // Сцяг працы.- 1966.- 12 сакавіка.

67. Есенин: стихи / Пётр Макаревич // Гродненская правда.- 1965.- 20 лістапада.

68. Раздумье: стихи / Пётр Макаревич // Сцяг працы.- 1965.- 28 ліпеня.

69. Клятва: стихи / Пётр Макаревич // Сцяг працы.- 1965.- 8 мая.

70. Верю. Звонок жизни…: стихи / Пётр Макаревич // Сцяг працы.- 1964.- 10 верасня.

**Пераклады:**

1. Бунін, І. Слова. Цвятаева, М. ***Б. Пастэрнаку. Яшын, А. Арол: вершы / пер. з рус. Пятро Макарэвіча // Галасы з небакраю: анталогія паэзіі свету ў беларус. перакладах XX ст./ склад. М. Скобла, уступ. арт. Е. Лявонавай, навук. рэд. Л. Баршчэўскі.- Мінск: Лімарыус, 2008.- С.446-448.

2. Бровка, П. Как лист дубовый...: стихи / Петрусь Бровка; пер. с бел. Петра Макаревича // Нёман.- 2012.- №7.- С.108-109.

3. Пысин, А. Мы дымим маршанскаю махоркой...: стихи / Алексей Пысин; пер. с бел. Петра Макаревича // Неман.- 2012.- №7.- С.109-111.

4. Гаврусев, С. Ромашковый мальчик, ты в джунглевых травах по шею...: стихи / Степан Гаврусев; пер. с бел. Петра Макаревича // Нёман.- 2012.- №7.- С.111-113.

5. Цютчаў, Ф. Вясновая навальніца / Ф. Цютчаў; перакл.з рус. Пятро Макарэвіча // Роднае слова.- 2001.- №5.- С.38.

6. Пушкін, А.С. Руслан і Людміла: урывак з паэмы / А.С.Пушкін; перакл. з рус. Пятра Макарэвіча// Ад лідскіх муроў.- 2000.- №4.- С.62-65.

7. Міцкевіч, А. Два словы: вершы / Адам Міцкевіч; перакл. з пол. Пятра Макарэвіча // Лідская газета.- 1998.- 24 снежня.

8. Міцкевіч, А. Будрыс і яго сыны / Адам Міцкевіч; перакл. з пол. Пятра Макарэвіча // Лідская газета.- 1998.- 12 верасня.

9. Цвятаева, М. Час Марыны / Марына Цвятаева; перакл. з рус. Пятра Макарэвіча // Лідская газета.- 1992.- 13 кастрычніка.

10. Цютчаў, Ф. Жыві прасцей / Фёдар Цютчаў; пер. з рус. Пятра Макарэвіча// Уперад.- 1988.- 17 студзеня.

11. Раждественскі, Р. Яго крэда / Роберт Раждзественскі; перакл. з рус. Пятра Макарэвіча // Уперад.- 1987.- 30 мая.

**Пра яго:**

1. Васько, У. Сто галасоў аднаго зборніка: [тры дзесяцігоддзі лідскі паэт Пётр Макарэвіч захапляецца перакладамі на беларускую мову твораў класікаў і знакамітых сучасных паэтаў Расіі] / Уладзімір Васько // Літаратура і мастацтва.- 2012.- 15 чэрвеня.- С.7.

2. Анталогія аднаго верша ад Пятра Макарэвіча: [зб. П.Макарэвіча "Птица свободы"] // Наша слова.- 2012.- 16 траўня (№20).- С8.

3. Васько, В. Удача автора книги "Птица свободы": [о новой книге лидского поэта Петра Макаревича] / Владимир Васько // Принеманские вести.- 2012.- 3 мая.

4. Газета - мая сваха: [газета "ЛіМ" у жыцці паэта Лідчыны Пятра Макарэвіча] / Пётр Макарэвіч // Літаратура і мастацтва.- 2012.- 24 лютага (№8).- С.5.

5. Лідзін, П. Лідчане прыняты ў Саюз пісьменнікаў: [Уладзімір Васько, Алесь Стадуб, Пётр Макарэвіч] / П. Лідзін // Принеманские вести.- 2008.- 3 студзеня.- С.7.

6. Жалкоўскі, А. ...і вершам з бярозавым сокам: [лідскі паэт П. Макарэвіч] / Аляксандр Жалкоўскі // Принеманские вести.- 2008.- 17 красавіка.- С.5.

7. Салавей любові і кахання: [Адам Міцкевіч ў жыцці лідскага паэта П. Макарэвіча] / Пётр Макарэвіч // Лідская газета.- 1998.- 24 снежня.

8. Тэленарыс пра паэта: [Пятра Макарэвіча] // Тэлескоп.- 1998.- 27 жніўня.

9. Шафарэвіч, Т. Прэзентацыя зборніка: ["Злітак" П. Макарэвіча ў ЦБ] / Т. Шафарэвіч // Тэлескоп.- 1998.- 14 мая.

10. Вершы, народжаныя любоўю: [зборнік "Злітак" П. Макарэвіча] // Лідская газета.- 1998.- 31 студзеня.

**ПАЖЫЦЦЁВЫ КОДЭКС**

Не нашу ў кішэні дулю
З дзён зялёных да сівых:
Выпускаю слова куляй,
Нават горкае, услых.
Ставяць пасткі браканьеры
Мне, дзяўбуць у пух і прах.
Ды пляваў я на кр'еру!
Вабіць толькі волі пах.
Рабалепнаму хай свеціць
Бляск уладны медаля.
Даражэй за ўсё на свеце -
Годнасць людская мая.
Для людзей маёй пароды
Пернік горшы за бізун.
І за лёс свой непагодны
Не пускаю я слязу.
Прад начальствам я ніколі
У жыцці не шапкаваў.
Раб касы, сякеры, поля -
Па-кавальску верш каваў.

*Падрыхтава Лідская ЦРБ імя Я. Купалы.*

# Святлана Цішук

## 75 гадоў з дня нараджэння

*Як з песні вон не кінуць словачка,*
*Якое ў ёй невыпадковае,*
*Так і сляды жыцця незвыклага*
*З скарбонкі памяці не выкінуць!*

Нарадзілася Святлана 15 траўня 1938 года ў горадзе Гомелі. Была яна першай і адзінай дачкой у сям'і Фядосавых Аляксандра і Марыі. Так здарылася, што Вялікая Айчынная вайна асіраціла малую дзяўчынку.



***Са стрыечным братам і сястрой у Рагачове***

Дзякуючы чалавечай сардэчнасці Навуменка Агафіі Рыгораўны і Быкава Аляксандра Рыгоравіча - цёці і дзядзі з боку матулі паэткі, Святлана Аляксандраўна амаль не адчувала гаротных ўздзеянняў свайго сіроцтва. Удзячнасць сваім прёмным бацькам пранясла яна скрозь усё жыццё.

У горадзе Гомелі прайшло дзяцінства і юнацтва паэткі. Пасля сямі класаў сярэдняй школы, Святлана перавялася ў вячэрнюю школу і працавала на заводзе "Камінтэрн". Затым дзяўчынка паступае ў фізкультурны тэхнікум, які праз два гады вучобы з Гомеля пераводзяць ў г. Гародню, дзе яна паспяхова заканчвае вучобу і ў 1957 годзе паступае ў фізкультурны інстытут. Пасля першага курса Святлана Аляксандраўна стрэла сваю другую палову - Цішука Сяргея Андрэевіча, які ў той час працаваў настаўнікам фізкультуры ў Лідскім індустрыяльным тэхнікуме. Так бучая паэтка аказалася на Лідчыне.



З 1961 года Святлана Аляксандраўна працуе трэнерам па баскетболу ў дзіцячай спартыўнай школе №1 г. Ліды. Спачатку яе вучнямі былі хлопчыкі, а затым і дзяўчынкі.

У 1973 годзе яна скончыла Гарадзенскі педагагічны інстытут, але яе лёс па-ранейшаму быў звязаны са спортам.

Нямала сіл і здароўя аддала яна сваім выхаванцам. Многія з іх увайшлі ў асноўны склад сборной Беларусі па баскетболу.

З 1979 года Святлана пачала пісаць вершы, з 1991 - па-беларуску. Яна - цудоўны лірык. Дазваляе сабе вялікую раскошу быць самой сабой, быць адкрытай, шчырай, добрай. Святло і пяшчота, радасць і замілаванне ў яе вершах - гэта Сонца мінулага і будучага дня душы паэткі Святланы Цішук. На яе вершы напісаны песні, адна з якіх "На зямлі Беларусі" ўзяла першую прэмію ў Санкт-Пецярбурзе.

З 1992 года яна знаходзіцца на заслужанным адпачынку. Жыве ў Лідзе. Яна адна з нямногіх жанчын, якая можа сказаць: "Я - ШЧАСЛІВАЯ!"

**Спіс твораў:**

1. На крылах белай вароны: вершы// Святлана Цішук.- Ліда, 1999.- 123 с.



***З мужам***

2. Гладыёлус-чараўнік: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 2010.- 16 студзеня.- С.4.

3. Люблю Беларусь: верш// Святлана Цішук// Лідская газета.- 2009.- 9 чэрвеня.- С.6.

4. Беларуская мова: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 2007.- 13 студзеня.- С.4.

5. На зямлі Беларусі: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 2005.- 15 кастрычніка.- С.5.

6. Палю свечку памяці: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 2005.- 17 верасня.- С.4.

7. Я люблю: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 2001.- 27 сак.- С.5.

8. Саджаю кветкі. Даглядаю кветкі...:верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 2000.- 25 лістапада.- С.2.

9. Мінуламу сонцу, мінуламу дню ёсць месца, ёсць схованка ў сэрцы...: вершы/ Святлана Цішук// Ад лідскіх муроў.- 2000.- №4.- С.16-17.

10. У руху: вершы/ Святлана Цішук// Ад лідскіх муроў.- 1999.- №2-3.- С.92-93.

11. Я не жадаю вайны: верш/ Святлана Цішук// Гродзенская праўда.- 1999.- 27 ліпеня.

12. Вайны курганы: верш/ Святлана Цішук// Гродзенская праўда.- 1999.- 15 чэрвеня.

13. Спатканне пад чаромхай: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1999.- 13 лютага.

14. Мы сустрэліся: верш/ Святлана Цішук// Ад лідскіх муроў.- 1998.- №1.- С. 55-56.

15. Жыве Беларусь. Чайная ружа чакае. Элегія: вершы/ Святлана Цішук// Гродзенская праўда.- 1998.- 8 верасня

16. Усміхайся: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1997.- 16 верасня.

17. Вечар: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1997.- 31 ліпеня.

18. І зноў вясна: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1997.- 12 чэрвеня.

19. Вершы/ Святлана Цішук// Гродзенская праўда.- 1997.- 15 мая.

20. Мы сустрэліся. Гладыёлус-чараўнік: вершы/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1997.- 4 студзеня.

21. Сонечным днём: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1995.- 2 верасня.

22. Я спадзяюся: верш/ Святлана Цішук// лідская газета.- 1994.- 20 верасня.

23. Сірочы ліст: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1994.- 2 ліпеня.

24. Я чакала: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1993.- 6 лістапада.


*З мужам*



25. Палітыкан хоча!: верш/ Святлана Цішук// лідская газета.- 1993.- 16 кастрычніка.

26. Вечарам у парку: верш/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1993.- 31 жніўня.

27. Ёсць краіна Беларусь: песня/ Святлана Цішук// Лідская газета.- 1992.- 10 кастрычніка.

28. Хай кажуць мне..: верш/ Святлана Цішук// Уперад.- 1990.- 26 чэрвеня.

29. На вастрыні гісторыі. Лірычна-эпічная гісторыя са старажытных часоў: п'еса/ Святлана Цішук// Лідскі летапісец, № 4 (56). - 2011 г.

**Неапублікаваныя:**

1. Дзіцячыя гульні ў двары. Мюзікл.
2. Каток - футбаліст. П'еса-казка (для дзяцей).
3. Жыў - быў коцік. Вершаваная казка.
4. Блакітны яблык П'еса-казка (для ўсіх).
5. Порва знітаваная. П'еса.
6. Улётны сюрпрыз. Мюзікл.
7. Нішто не забыта. П'еса.
8. Дзённы сон. П'еса.
9. Два каханні - у абдым. Мюзікл.
10. Казачныя гісторыі з жыцця дзяўчынкі Хадоркі - 1. Пра цікавыя казачныя падзеі, што адбываюцца з Хадоркай у яе хаце. П'еса-казка.
11. Казачныя гісторыі з жыцця дзяўчынкі Хадоркі - 2. Пра цікавыя казачныя падзеі, што адбываюцца з Хадоркай у летнім садзе. П'еса-казка.
12. Казачныя гісторыі з жыцця дзяўчынкі Хадоркі - 3. Пра цікавыя казачныя падзеі, што адбываюцца з Хадоркай на ўзлеску вялікага лесу. П'есаказка.

13. Казачныя гісторыі з жыцця дзяўчынкі Хадоркі - 4. Пра цікавыя казачныя падзеі, што адбываюцца з Хадоркай на марскім пляжы. П’еса-казка.

14. Казачныя гісторыі з жыцця дзяўчынкі Хадоркі - 5. Пра цікавыя казачныя падзеі, што адбываюцца з Хадоркай у хаце дзядулі Банэткі. П’еса-казка.

15. Казачныя гісторыі з жыцця дзяўчынкі Хадоркі - 6. Пра цікавыя казачныя падзеі, што адбываюцца з Хадоркай і іншымі персанажамі ў Навагоднюю ноч. П’еса-казка.

16. Казанні пра лясных жыхароў ад бабулі Святланы.

17. Пытанкі хлопчыкам і дзяўчынкам ад бабулі Святланы.

18. Падборка вершаў і песень.

*(Машынапісы неапублікаваных твораў знаходзяцца ў рэдакцыі “Лідскага летапісца”.)*

**Пра яе:**

1. Васько,У. "На крылах белай вароны": [пра кнігу С. Цішук]/ Уладзімір Васько// Гродзенская праўда.- 2001.- 9 студзеня.- С.3.

2. Васько,У. Споведзь перад роднымі: [пра кнігу С. Цішук "На крылах белай вароны"]/ Уладзімір Васько// Лідская газета.- 2000.- 23 снежня.- С.4.

*Падрыхтава Лідская ЦРБ імя Я. Купалы.*

***Святлана Цішук,***
***лаўрэат міжнароднага конкурсу***

# СЛЯДЫ ЖЫЦЦЯ...
# *(дакументальная паэма)*

**Мая выснова!**

Як з песні вон не кінуць словачка,
Якое ў ёй невыпадковае,
Так і СЛЯДЫ ЖЫЦЦЯ нязвыклага
З скарбонкі памяці не выкінуць!

**1.**

У свет прыйшло дзяўчо цнатлівае
Крынічкай чыстай, гаманліваю.
Яе сустрэў свет мірным сонейкам.
Прад ёю лёс стаў малым конікам.

І конік-лёс павёз дзяўчыначку
Ў гады і ў дні без адпачыначку,
У з’явы добрыя, грымотныя
І на сустрэчайку з турботамі.

Лічыць не шкодзіць незлічонае!
Плыло жыццё дзяўчынкі чоўнікам,
Калі бацькі люлялі, гушкалі
Сваю дачку на Беларушчыне.

Расло дзяўчо ў сямейным шчасцейку.
Жыццё пры шчасцейку не засціцца,
За ім не бачаць вочы зоркія
Бядотаў будучага жорава.

І конік-лёс на шлях бядоты ўстаў!
Сям’я спазналася з чарнотаю:
Вайна вялікая злюцелая
Накрыла чорным шчасце белае...

У смерць звяла вайнеча лютая
Бацькоў дзяўчынкі і шмат людскасці.
Вайнеча ў вір сірочы кінула
Дзяўчо малое без правініны!

Чамусьці людзі, мір не ўзброены
Ад войнаў ні слязой праклёнаю,
І ні сірочасцю дзіцячаю,
І не калецтвам, шчасцем страчаным...

**2**

Часы бягуць, шпаркуюць хуткія...
З Зямлі сыйшла вайна з пакутамі.
Вайнеча лютая знясільвае,
Калі яе хтось перасільвае!

І конік-лёс з дзяўчынкай выехаў
На новы шлях да шчасця ціхага.
Дзяўчынку вітыя сцяжыначкі
Сустрэлі і з сябе не скінулі.

Пасля вайнечы так заведзена:
Жадаць больш шчасця незавейнага,
Наноў пісаць жыцця гісторыі
І ў марах не сустрэцца з горайкам.

Хаваць заведзена ў мінулае
Зло, з якім людзі сутыкнуліся
Адное памяці даводзіцца
Вяртаць прайшоўшае на ходнікі.

Дзяцінства час дзяўчынкі доўжыўся
Без злосных здзекаў, без варожасці.
Сыйшла вайна! І неба мірнае
Не пхнула лёс дзяўчынкі ў жвірыну.

Дзяўчо сустрэлася са школаю
І з чалавечым наваколейкам.

Хаця сірочасць не змяншалася,
Дзяўчо жыцця ўжо не пужалася.

Калі кагось шкадуюць,мілуюць,
Таго бядоты не асільваюць!
Дзяўчынцы родненькая цётачка
Дала ў душу ад сонца нотачкі.

Гады і дні гучалі бомамі.
Дзяўчынку лёс трымаў у Гомелі.
Дзяўчо дзяўчынай стала ладнаю,
І свет убачыў яе з радасцю.

**3**

Дзяўчыне з ветлівай прыгожасцю
Адны да твару ўчынкі гожыя,
Якім дзяўчаты навучаюцца,
З радзінай сонцам асвятляюцца.

Дзяўчына - Светачка Фядосава
Бацькоў не мела: зніклі досвіткам
Яны ў вайнечы паглынаючай,
Людзей крывавячай, збіваючай.

Хаця вайна Святланцы выдала
Сірочасць зімную, агідную,
Сябры і родныя ля Светачкі
Былі гасціннасцю прыветнаю.

Заўсёды любяць сэрцы шчодрыя
Святлом, цяплом людзей адорываць.
І дзякуй ім! Бо без іх міласці
Святлана ў цемрадзі зблудзілася б.

Святланы лёс не валаводзіўся-
Зрабіў у светлы шлях уходзіны,
У шлях, дзе шчасце невычэрпнае
Жыве з надзеяй, з жывой вераю!

Сваім жыццём Света не здрадзіла
Ні марам-зорачкам, ні радасці.
Усмешка Светы, быццам сонейка,
Паміж людзьмі заўжды фасоніцца!

Калі жыццё мірам аздоблена,
Тады сцяжынкі без калдобінаў.
Тады кіруй па іх ты, рухайся
Без жахаў сонечнай пястухаю!

Шукае маладосць ідылію,
Бо маладыя мае крылачкі,
Бо мае вось жыццём незгнутую,
Бо мае дні, бы гукаў хуткасці.

**4.**

Святлане сэрцайка выхоўвала
Дзяржава словам адухоўленым,
Дзяржава гучным словам-заклікам,
Дзяржава словачкам прысмакавым:

- Будзь, моладзь, шчырай патрыёткаю!
Я аб табе жыву турботамі...
Мацуй і ты сваю адзіную
Дзяржаву шчасця вершаліннага!

Увагай ты маёй аблашчана,
Я табе дня не дам бядашчага,
У працу і ў навуку дзверачкі
Я адчыняю і для Светачкі...

Дзяржавы роднай абяцаначкі
Душою Светы ўмілаваныя.
У гучных словах Света бачыла
І клопат і лагоднасць матчыну.

Напраўдайку: дзяржавы шчодрасці
Былі да людцаў падыходамі,
Былі бы міласцінай беднаму...
Святлана такі бок не ведала!

Калі чыясь душа-вандроўніца
Ідзе, імкнецца да галоўнага,
Тады дзяржава дапамогаю
Паддобрыцца аблíччам Богавым!

Змагла Святлана скончыць тэхнікум,
Бо не была яна няўмехаю.
І ўжо яна спазнала таінства
Вялікай працайкі настаўніцы!

Нялёгка быць спрактыкаванаю,
Хоць і Святланай Аляксандраўнай.
Нялёгка даць дзіцячым сэрцайкам
Акраец з ведаў, з міласэрнасці!

**5.**

Святлана зноў вучыцца прагнула.
Не можа быць навука багнаю!
І інстытута аўдыторыі
Святлану ведамі адорвалі.

Дзяржава з Светы ні рубельчыка
Не вымагала. Хоць нябезлічнай
Яна грашоваю падтрымкаю
Спрыяла юнакам няўрымслівым.

І інстытут Святлана скончыла -
Праз пяць гадкоў-масткоў праскочыла.
Яна, спазнаўшыся з навукаю,
Не йшла малою, вузкай вулкаю.

Жыццё няўдачамі не пстрыкае,
Калі святло ў душы вялікае!
І свет, і людзі Свету ведалі
Прыгожай, чыстай, зоркай ветлівай.

Пры сонцы людзейкі руплівыя
Прымаюць выгляды шчаслівыя,
І дабрабыт стварае ауру,
Спявае ім мінорнай арыяй.

Ёсць у жыцці людзей асобіна:
Ім не пазбавіцца ад побыту,
Ім ад яго не адкарастацца
Нават вучонасцю блішчастаю.

Патрэбен побыт, бы адзежына.
З нагоды той не да бянтэжання.
Патрэбны людзям хлеб са скваркаю!
Патрэбна хата людзяў вартая!

Багацце Светы-сіраціначкі
Было адно - душа гасцінная
Ды кніжак стос вядомых аўтараў...
Відна здалёк душа багатая!

**6.**

Рэспублікай народнасць беларуская
Ўвайсці ў Саюз Савецкі мусіла,
Бо два стагодзейкі з Расіяю
Яна жыццё сваё асільвала.

Бальшавікі, узяўшы ўладайку,
Стварылі новую галактыку -
Саюз Савецкі з шмат рэспублікаў.
Народы любяць словы трубныя!

Прыйшлі ў Саюз, каб з дыктатураю
Сабе прыдбаць шчасце няхмурнае!
Не шкадавала ўлада ярая
Ўздымаць людзей на крыж ахвяравы...

І дыктатура самавітая
Стварыла шчасцейка прывіднае
Для людцаў працаю змазолеых,
Для людцаў з непрытомнай воляю.

Быццё ў Саюзе Света зведала.
Не цяжка быць чагосьці сведкаю.
Не цяжка бачыць што здараецца -
Цяжэй заўважыць што хаваецца!

Бывае, вочы бачаць брыдкасці.
Бывае сэрца болем бітае.
Аднак душа народа вечная
Чакае шчасця, шляху млечнага.

Пятнаццаць метрайкаў кватэрына!
У невялікім яе чэраве
Жылі і Света з цёцяй, з дзядзяю,
Яўген, Тамара, Галя, Надзейка...

Не стала Светачка бядачынай,
Хоць побыт быў заўжды з нястачамі.
Не стала Света злоснай роспаччу:
Душа яе не знала восені!

**7.**

Пасля вайнечы доўгай жудаснай,
Хаця душа ў людзей астудная,
Ім трэба стаць самою працаю,
Бо працай дух, жыццё ўзнаўляюцца!

І працавалі людзі! Жылачкаў
Не шкадавалі. Мелі сілачкі
Акрыліць сэрцы ўжо для шчасцейка.
Мінулым новы дзень не засціцца!

Людскою працай абнаўлялася
Дзяржава. Словам ухваляліся,
Дыпломам, медалямі, ордэнам
Героі працы славай гордыя!

Святлане - цёця апякункаю.
І за сірочасць на рахуначак
Дзяржава Свеце - мізэр-пенсію.
Для сіраты помач-збавенейка!

Людзей дзяржава падахвочвала,
Каб незнарок яны не збочылі
У бок, дзе воля жыве птушкаю,
Саюз Савецкі каб не зрушылі!

І кары меч дзяржавы ўладнае
Караў у смерць, хаваў за кратамі
Людзей, што ўладзе супярэчылі...
Так таленты згаралі свечкамі!

Святлана з карай не сустрэлася.
Дзяўчына ў сонцы мараў грэлася.
Яна дзяржавы клопат бачыла.
І чалавек бывае ўдзячлівы!

Умеюць людзі цераз смецейка
Пераступіць. Яго адмеціны
Яны сціраюць...Іх уласнае
Малое сонца грэе ласкаю!

**8.**

Света на стромцы жыцця гонкага
Была жывой прыгожай гронкаю,
Якая людзям спадабалася
І імі кветачкаю звалася.

І хлопцы кладачку адшуквалі
Да Светачкі прыязні гукамі.
І лёс прызначыў ёй з Сярожаю
Сустрэчу ў Гомелі прыгожую.

І двое сэрцайкаў кахаліся.
Каханне ўраз надыдзе хваляю
І панясе, і ўзрушыць сэрцайка...
І сэрца любаму даверыцца!

Святлана зведала бяссонейка
І ў хмарны дзень хадзіла сонейкам.
Усім дзяўчатам шчасце мроіцца.
У марах- з любым яно зорыцца!

Сяргей для Светы стаў выбраннікам.
У ім усё было каханае.
І сэрца бачыла ў ім генія:
Яно каханне выпраменьвала!

Сярожа выгляд меў зайздроснейшы.
Красе яго спрыяла хросная,
Напэўна, з той вядомай казачкі.
Не змыць красу, бы бруд, у лазенцы!

Краса з бясспрэчнай перавагаю
Ў сябе ўлюбёнасць мае загадзя.
І Света, твар Сярожы ўбачыўшы,
Каханнем сэрцайка пазначыла.

Прыняў Сяргей пачуцці Свеціны -
Задыхаў сам кахання квеценню.
Кахалі двое! Лета гонкае...
І Света ўжо - Сярожы жонкаю!

**9.**

Дзяўчаты мараць аб вяселейку,
Аб сукні на сабе вясельнае,
Аб упрыгожваннях, аб вэлюме,
У столю каб шампанскім стрэлілі...

І часцяком бацькі, напяўшыся,
З народу прыкладу набраўшыся,
Вяселле ладзяць адмысловае.
Ад шыкавання хто адмовіцца?

І на такім вяселлі госцейкам
Пакажуць дабрабыт у росквіце,
Пакажуць бляск сваёй заможнасці,
Які з цяжкіх пазыкаў змножаны.

Пазыкі, госцейкам нябачныя,
Праз доўгі час будуць выплачвацца.
Бацькі,за маладых бядуючы,
Даюць пасаг ім не шкадуючы!

І маладыя ўсе на шчасцейка
Бяруць бацькоўскае прычасцейка.
А сірата? Ёй - ні вяселейка!
І ні пасагу ёй завелькага!

Сяргею, Светачцы ўрачыстасцю
Было адно каханне чыстае.
Яно адно сукенку шлюбную
Пашыла Свеце з слова: “Любая!”

Саюз Савецкі слыў дарадцаю
Для грамадзян, каб плённай працаю
Яны жылі. А сам ён лінію
Цягнуў уладную адзіную.

Ён прагнуў працайкі адданае
Ад грамадзян за плату танную:
Чым меней грошай, больш пакорлівых
Сярожаў, Светаў ім адораных!

**10.**

І конік-лёс ад хваляў Сожавых
Павёз Святлану за Сярожаю!
Святлана з Гомелю паехала,
З сабой забраўшы водгук рэхавы.

Яна ўзяла з сабой у водгуку
Дзяцінства рысачкі нязводныя,
Юнацтва мары неабсяжныя...
Не быў той груз для Светы цяжкасцю!

Вязла з сабой у Ліду Светачка
Яшчэ надзеі пракаветныя
На шчасце-сонейка без набрыдзі
І на гады, на дні прывабныя.

І толькі не было пасагавых
У Светы рэчаў! Нават загадзя
Сіротка іх прыдбаць не здужыла
Ў краіне, дзе быў побыт звужаны.

Хоць Света мела адукацыю,
Была ахмурана пульсацыяй
Яна ідэяй раўнаправейка:
- Багацце мець - жыць не па правілах!-

Стаяў Саюз Савецкі моцненька
На той ідэі. Дух, бы ўпоцемку,
Святланін быў. За прапагандаю
Не бачыў ён, не чуў падманлівасць!

Багацце мець - рэч неадольная...
Замест яго каханне золатам
Падараваў Сяргей. І зведала
Святлана шчасцейка нябеднае!

Спяваў Саюз Савецкі звонамі...
Сяргей, Святлана ў час рамонкавы
З дзяржавай злосцю не спрачаліся.
Дзяўчаты, хлопцы сустракаліся!
Кахаліся!!!

**P. S.**

У 1991 годзе рускамоўная штучная вялікая шматнацыянальная імперыя з імем Савецкі Саюз, у неверагодных напружаных намаганнях праіснаваўшая ўсяго 74 нядоўгія для дзяржавы гады, скончыла сваё існаванне пад моцным націскам волявыяўлення народаў, ахвочых да незалежнасці. Савецкі Саюз "рассыпаўся" на мноства асобных нацыянальных краін. У вольнай незалежнай Беларусі сэрца рускамоўнай гераіні майго аповеду адгукнулася на занядбаны, ледзьве чутны пры Савецкім Саюзе голас мовы яе дзядоў-беларусаў. І тады яна загаварыла па-беларуску! І тады яна агучыла ў сваіх вершах вартасць, жыццядзейнасць і яркія, сонечныя краскі беларускай мовы.

Каб жа не згінула на сваёй зямлі ні краіна Беларусь, ні беларуская мова, ад якой і цяпер адракаюцца некаторыя...

# Юльян Міхайлавіч Грыневіч

## 70 гадоў з дня нараджэння

**Грыневіч Юльян Міхайлавіч** нарадзіўся 8 чэрвеня 1943 года ў вёсцы Цішкі Лідскага раёна.

У 1965 годзе скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі; кваліфікацыя - інжынер-механік; выкладчык вышэйшай катэгорыі.

Працоўную дзейнасць ў Лідскім каледжы Установы адукацыі "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" (ранейшая назва - Лідскі індустрыяльны тэхнікум) пачаў у 1968 годзе. Са жніўня 1968 па жнівень 1973 г. працаваў выкладчыкам. Са жніўня 1973 г. па верасень 1974 г. - загадчыкам дзённага аддзялення. З верасня 1974 г. да верасня 1977 года - намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце. У перыяд з верасня 1977 г. па верасень 1978 г. выконваў абавязкі дырэктара. З верасня 1978 г. па травень 2010 г. - дырэктар, з траўня 2010 па кастрычнік 2012 г. - намеснік дырэктара каледжа. Сёння - на заслужаным адпачынку.

За працяглы час працоўнай дзейнасці ў каледжы зарэкамендаваў сябе прафесіяналам высокага класа, які дасканала валодае метадамі эфектыўнага кіраўніцтва персаналам, матывацыі калег. Яму былі характэрны такія прафесійна-этычныя якасці як кампетэнтнасць, патрабавальнасць, творчы пошук, здольнасць у кароткі час арганізаваць калектыў, рацыянальна спланаваць сваю работу.

Юльян Міхайлавіч валодаў высокім інавацыйным патэнцыялам, разумеў патрабаванні дзяржаўных стандартаў да працэсу жыццядзейнасці адукацыйнай установы. Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле ў каледжы быў выкананы вялікі аб'ём работ па паляпшэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы, аснашчэнні кабінетаў і лабараторый сучаснымі прыборамі, абсталяваннем, мультымедыйнай тэхнікай, адкрыты новыя, запатрабаваныя на рынку працы, спецыяльнасці. Практычна поўнасцю абноўлены аўтамабільны парк каледжа, праведзены маштабныя работы па капітальным рамонце будынкаў вучэбных карпусоў і інтэрнатаў, упарадкаванні прылеглых тэрыторый.

Вялікая заслуга Юльяна Міхайлавіча ў арганізацыі эфектыўнай вучэбна-метадычнай, выхаваўчай і спартыўна-масавай работы, тэхнічнай творчасці навучэнцаў. Лідскі каледж неаднаразова станавіўся пераможцам абласных і рэспубліканскіх конкурсаў, выстаў, спартакіяд і спаборніцтваў, злётаў вынаходцаў і рацыяналізатараў, аглядаў мастацкай самадзейнасці і інтэрнатаў, паспяхова праходзіў атэстацыі і акрэдытацыі спецыяльнасцей і навучаль-най установы.





Ю.М. Грыневіч з задавальненнем дзяліўся досведам сваёй работы на пасяджэннях Вучонага савета ўніверсітэта, Савета дырэктароў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне сярэдняй спецыяльнай адукацыі Гарадзенскай вобласці, калегіях Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, педагагічных нарадах і навукова-метадычным савеце каледжа.

Юльян Міхайлавіч - высокакваліфікаваны выкладчык, які дасканала валодае дысцыплінай, методыкай выкладання. Сістэматычна павышаў свой прафесійны ўзровень, паглыбляў веды па педагогіцы і псіхалогіі, карыстаўся павагай калег, навучэнцаў і іх бацькоў. Вёў актыўны лад жыцця. Стыль яго работы - не кабінетны. На працягу рабочага дня ён не раз заходзіў у вучэбныя аўдыторыі і лабараторыі, наведваў інтэрнаты, цікавіўся, чым жывуць і як працуюць яго супрацоўнікі, якія поспехі і цяжкасці ў навучэнцаў, ставіў перад калектывам важныя, часам вельмі няпростыя задачы, якія затым паспяхова рэалізуюцца ў рэальных справах і дасягненнях каледжа.

Юльян Міхайлавіч прымаў актыўны ўдзел ў грамадскім жыцці горада Ліда і Лідскага раёна. На працягу шэрагу гадоў выбіраўся дэпутатам гарадскога Савета, быў старшынём гарадской камісіі па адукацыі, зараз - член Савета старэйшынаў пры райвыканкаме.

Пры Ю.М. Грыневічы ў Лідскім каледжы дзейнічала самая шматлікая ў Беларусі арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" (да 750 чалавек).

За заслугі ў галіне адукацыі, творчы ўклад, ініцыятыву Ю.М. Грыневіч быў узнагароджаны Ганаровымі граматамі Міністэрстваў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР і БССР, Вярхоўнага Савета БССР, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, Гарадзенскага абласнога ўпраўлення адукацыі, Лідскага райвыканкаму, у 1983 годзе - нагрудным знакам "За выдатныя поспехі ў сярэдняй спецыяльнай адукацыі" Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР, у 1986 годзе - ордэнам "Знак пашаны". У лютым 2010 года ён быў узнагароджаны нагрудным знакам "Выдатнік адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Жанаты. Мае дзвюх дачок.

***А. Баргдановіч.***

# Іван Іванавіч Фясенка

## 60 гадоў з дня нараджэння

**Фясенка Іван Іванавіч**, педагог, краязнавец, музеязнавец. Нарадзіўся 15.4.1953 г. на чыг. ст. Нёман Лідскага раёна. Скончыў геаграфічны факультэт БДУ (1975). Выкладаў геаграфію ў Забалацкай СШ (з 1975), быў выхавальнікам у Воранаўскай школе-інтэрнаце (з 1976), выкладаў гісторыю і геаграфію ў базавай школе ў в. Даўгялы (з 1977), геаграфію ў Радунскай СШ (1980-92). З 1995 г. настаўнічаў ў базавай школе в. Клайшы. Праводзіць вялікую нацыянальна-патрыятычную работу з вучнямі (перапіска іх з пісьменнікамі, мастакамі, арганізацыя і збор краязнаўчых матэрыялаў). Разам з вучнямі сабраў шмат матэрыялаў па гісторыі і культуры роднага краю. Арганізатар (1985) і кіраўнік Гістарычна-краязнаўчага музея Радунскай СШ. У 1997 г. музею прысвоена званне народнага. Распрацаваў методыку далучэння вучняў да комплексна-краязнаўчага пошуку, музейнай справы. З 1998 г. працуе па аўтарскай краязнаўчай праграме "Родынь". Удзельнік абласнога конкурсу аўтарскіх праграм дзіцячых арганізацый і аб'яднанняў 2002 - 03 гг. За творчую самарэалізацыю ў аўтарскім краязнаўчым праекце "Родынь" у 2003 г. узнагароджаны граматай. Даследуе гісторыю і культуру Воранаўшчыны. Удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных навуковых канферэнцый і семінараў па пытаннях краязнаўства, патрыятычнага выхавання школьнікаў і музейнай справе. Зрабіў паведамленні "Пахаванні ўдзельнікаў паўстання 1863 г. на тэрыторыі Воранаўскага раёна і іх стан", "Тэадор Нарбут - лёс і спадчына" на міжнароднай гістарычна-краязнаўчай канферэнцыі (1988, г.п. Радунь), "Дзейнасць народнага гістарычна-краязнаўчага музея Радунскай СШ № 1 як цэнтра адраджэння культурнай і гістарычнай спадчыны народа" на рэспубліканскіх краязнаўчых чытаннях (г. Мінск, 2000). На базе музея Радунскай СШ № 1 праходзяць рэспубліканскія і абласныя семінары кіраўнікоў музеяў навучальна-выхаваўчых устаноў. У 1985 г. заснаваў гістарычна-края-знаучы клуб "Родынь" у г.п. Радунь. Асноўныя кірункі яго работы: вывучэнне гістарычных падзей, жыцця і творчасці выдатных прадстаўнікоў мінулага, помнікаў архітэктуры Гарадзеншчыны, удзел у паходах па выдатных мясцінах Беларусі, арганізацыя сустрэч са знакамітымі сучаснікамі, прапаганда беларускіх звычаяў і традыцый, музыкі, літаратуры, фальклору, беларускай мовы. Сябры клуба ўдзельнічалі ў пабудове помнікаў паўстанцам 1863 г. у в. Нача, аднаўленні пахавальні В.А. Шукевіча. З 1988 г. актыўна ўдзельнічае ў экалагічным руху, праводзіць вечарыны, прысвечаныя выдатным дзеячам 17 - 19 ст., сустрэчы з вучонымі, гісторыкамі, літаратарамі, краязнаўцамі. Узнагароджаны граматай прэзідыума Рэспубліканскага савета таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры за актыўную работу па ахове і прапагандзе гістарычна-краязнаўчай спадчыны (1988), нагрудным знакам "За актыўную працу" (1991) за прапаганду дасягненняў педагагічнай навукі сярод шырокай педагагічнай грамадскасці і актыўны ўдзел у распаўсюджванні педагагічных ведаў сярод насельніцтва і інш. Стварае энцыклапедыю Воранаўскага раёна .



*Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Воранаўскага раёна. Мінск 2004. Стар. 443-444.*

# Станіслаў Іванавіч Бараноўскі

## 60 гадоў з дня нараджэння



**Бараноўскі Станіслаў Іванавіч**, беларускі навуковец-эканаміст. Доктар эканамічных навук, прафесар. Нарадзіўся 2 траўня 1953 года ў г. Лідзе. Скончыў: МТІММП (г. Масква), спецыяльнасць "Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве". У 1983 - 1988 гг. працаваў на заводзе "Лідсельмаш". У БДТУ працуе з 1999 года. У наш час - загадчык кафедры эканамічнай тэорыі і маркетынгу БДТУ.

Намеснік старшыні рады па абароне доктарскіх дысертацый пры БДТУ, чалец рады па абароне кандыдацкіх дысертацый пры БДУ, чалец рэдкалегіі часопіса "Эканоміка і кіраванне", чалец рэдкалегіі часопіса "Новая эканоміка".

Навуковыя інтарэсы: удасканаленне маркетынгавай дзейнасці прадпрыемстваў, структурныя пераўтварэнні галін і прадпрыемстваў народнай гаспадаркі, эфектыўнасць лагістычных сістэм прадпрыемстваў хіміка-лясного комплексу.

Педагагічная дзейнасць: *Эканамічная тэорыя, Мікраэканоміка, Асновы маркетынгу, Міжнародны маркетынг.*

Колькасць публікацый - 267.

Падрыхтавана дыпламаваных спецыялістаў - 39.

Падрыхтавана кандыдатаў эканамічных навук - 3.

*БДТУ.*

*70 гадоў таму назад*

# Загінулі за Бацькаўшчыну

**29.XII-2010 года, г. Ліда.**

Я, Уладзімір Хрышчановіч, з малых гадоў чуючы расказы маіх бацькоў, дзядоў, зацікавіўся краязнаўствам і ведаў, як імперыі - нямецкая, польская і расейская стараліся хітрасцю альбо вайной забраць народ і землі Вялікага Княства Літоўскага (пазнейшая назва - Летува + Рэспубліка Беларусь + Украіна) пад сваю ўладу і на сваю карысць. Ведаў, як у час вайны 1939-1945 гг. вынішчаліся беларусы свядомыя, цвёрдыя, патрыятычныя - немцамі, чырвонымі партызанамі, белымі польскімі партызанамі Арміі Краёвай.

Пра забойства Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова, іх пахаванне і пошукі магілы іхняй пачуў ад Лілеі Сазанавец - студэнткі Віленскага ўніверсітэта. Яна запісала расказ жонкі Юльяна Сакавіча - Вольгі (Пагуды) пра той час. На пачатку гэта быў тэкст машынапісны, а пазней кніга "Мадонна", выдадзеная ў 2001 г. у Вільні ў ТБК Летувы. Лілеяй Сазанавец быў усталяваны крыж каля самага тоўстага дрэва на могілках, але гэта места было не дакладнае і многія "даследчыкі" аб'явілі гэта месца, як знойдзеную імі магілу Ю. Саковіча. Па расказах людзей старэйшых у 1974 годзе бацюшка Аляксей Івашкевіч спілаваў лістоўніцы і іншыя векавыя дрэвы, што раслі на поўнач ад царквы, чым разбурыў сістэму каардынат у памяці людзей, якія арыентавалі магілы па гэтых дрэвах. Прыкладна ў 1997 годзе (дакладна да 1999 г.) на сходзе гарадской арганізацыі БНФ на вул. Кірава-6 у прысутнасці прыкладна 70 чалавек Лілея Сазанавец звярнулася з просьбай да прысутных, каб яны апыталі старэйшых людзей, дзе дакладна магіла Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова, і паведамілі ёй. На сходзе прысутнічаў Змітровіч, па яго словах ён быў сябрам СБМ у 1942-44 гадах.

Пачуўшы просьбу Лілі Сазанавец, ён хуценька ўстаў і даўся ў дзверы, я выйшаў за ім і пачаў распытваць яго пра той час і тыя падзеі. Змітровіч блытана нешта казаў ў адказ і заявіў, што не ведае месца пахавання. Пасля ад'езду Лілі з Беларусі да мяне звярнулася Вольга Саковіч (дачка Юльяна) з просьбай знайсці места пахавання яе бацькі Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова.

Я распытваў многіх людзей старэйшых, але ўсё безвынікова.

У канцы 2000 г. я напісаў пісьмо ў Беларускае гістарычнае згуртаванне ў Аўстраліі да старшыні - айца Міхаіла Бурноса. Атрымаў ліст ад айца Міхаіла Бурноса 07.02.2001 г. з адрасам доктара Вітаўта Кіпеля - кіраўніка Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў ЗША.

Пасля жніўня 2001 года, Вітаўт Кіпель прыслаў мне ліст з паведамленнем, што копіі майго ліста перасланы былым лідзянам ў ЗША Язэпу Сажычу і Міколу Грэбеню, але лістоў ад іх я не атрымаў.

Вітаўт Кіпель прыслаў копію старонак часопіса “Беларуская думка”, № 1, кастрычнік 1960 г. (Нью-Ёрк, Саўт-Рывер, ЗША), на якіх паказана агульная сітуацыя на Лідчыне ў 1941-1944 гг.

***“ЛІДЗКАЯ АКРУГА ПАДЧАС НЯМЕЦКАЕ АКУПАЦЫІ 1941 - 1944 Г.***

*На Лідчыне, як і на ўсёй Заходняй Беларусі, пасьля разгрому арміяў Савецкай Расіі ў чэрвені 1941 г. і акупацыі яе нямецкімі войскамі, палякі разгарнулі надзвычайную дзейнасьць. Яны неадкладна ўвайшлі ў кантакт з кіруючымі нямецкімі вайсковымі ўладамі ды пачалі займаць усе становішчы ў акруговай, паветавай і валасной адміністрацыі, у паліцыі, а таксама і ў нямецкіх установах: мясцовых вайсковых камэндантурах, а пазьней і ў акруговым камісарыяце нямецкае цывільнае адміністрацыі. Адначасна палякі ахапілі пэрсанальную абслугу мясцовых нямецкіх кіраўнікоў. Такім чынам, ад самага пачатку нямецкае акупацыі, уся адміністрацыйная і паліцэйская ўлада ў паветах і валасьцёх апынулася поўнасьцю ў польскіх руках. Мясцовыя крайсляндвірты-немцы былі акружаны полькамі машыністкамі, перакладчыцамі, сакратаркамі; а ў нямецкай акруговай адміністрацыі палякі таксама поўнасьцю ахапілі сваімі людзьмі дапаможныя становішчы перакладчыкаў і г. д., а нават і другарадныя кіраўнічыя становішчы.*

*Дабіцца гэтага палякам было няцяжка, бо наплывовы элемэнт з Пазнаньшчыны добра валодаў нямецкаю моваю і такім чынам мог увайсьці ў давер да немцаў.*

*Палякі адразу распачалі акцыю вынішчэньня беларускага нацыянальнага актыву як сваімі рукамі, так і рукамі немцаў. Рабілася гэта вельмі проста. Досыць было паляку-паліцэйскаму затрымаць каго-небудзь і, прывёўшы да нямецкіх уладаў, сказаць, што гэта камуністы, як затрыманага бяз допыту і суда выводзілі ў недалёкія кусты і расстрэльвалі.*

*У той час ня было сувязі з мясцовасьцямі, і таму нельга даць дакладных лічбаў аб вымардаваных беларусах у першую пару акупацыі. У маёй - забалоцкай - воласьці ў канцы жніўня 1941 г., бяз ніякае прычыны, былі забраныя палякамі-паліцэйскімі Аляксей Смолік з вёскі Праважа і мой дваюрадны брат з Гудзінімскіх Пасек. Арыштаваных завялі ў "ортскамэндантуру" ў Астрынку з рапартам, што іх злавілі, як узброеных камуністых. Ахвяры былі зараз-жа выведзеныя на мясцовыя жыдоўскія могілкі і расстраляныя. Мяне меў спаткаць такі самы лёс, але за мяне заступіўся былы войт польскай адміністрацыі, які быў добрым сябрам майго нябожчыка бацькі.*

*Польская мясцовая адміністрацыя накладала на беларускае насельніцтва значна большыя падаткі й іншыя павіннасьці, чым па палякоў. Амаль з кожнае беларускае хаты былі высыланыя хурманкі ў нямецкія*

*абозы. Абозы былі цяжкай павіннасьцяй: шмат народу памёрла там ад хваробаў, шмат было забіта вайной, а хто вярнуўся дамоў, то без каня. Палякаў гэтая павіннасць абмінала.*

*Ужо першая высылка на прымусовыя працы ў Нямеччыну так сама лягла цяжарам на беларусоў. Забіралі моладзь нават з тых гаспадарак, дзе яе рукі, як апошняга мужчыны, былі неабходна патрэбныя для абрабляньня зямлі. Польская адміністрацыя загадвала сваякам-беларусам абрабляць зямлю ў такой гаспадарцы. У тым самым часе беззямельныя й беспрацоўныя палякі ў вялікай колькасьці пражывалі ў мястэчку Забалоцьце, але іх не пасылалі на працу ў Нямеччыну.*

*Увесну 1942 г., калі нямецкая цывільная адміністрацыя абвясьціла, што Заходняя Беларусь не становіць польскіх Крэсаў Усходніх, а зьяўллецца часткаю Беларусі (Вайсрутэніі), то мясцовыя палякі выказвалі жаль, што ня вынішчылі ўсіх беларусаў да вайны - ня было-б для каго тварыць Беларусь.*

*У красавіку 1942 г. у мястэчку Васілішкі быў заснаваны паветавы аддзел Беларускай Народнай Самапомачы (БНС), на чале якога стаў настаўнік Юліян Груцкі. Тады-ж быў прыслапы на становішча школьнага інспэктара Шляхтун, стары беларускі настаўнік, які за часоў польскага панаваньня не атрымаў працы настаўніка, бо быў беларусам. Распачалася арганізацыя беларускіх школаў. У травені 1942 г. у Забалацьці быў заснаваны валасны аддзел БНС, на старшыню якога прызначылі мяне. Пачалася паступовая замена палякаў беларусамі ў адміністрацыі.*

*На гэту арганізацыйную беларускую нацыянальную дзейнасьць палякі адказалі сваім крывавым тэрорам, ажыцьцяўляючы сваё спозненае вынішчэньне беларусаў.*

*У нядзелю 19 чэрвеня 1942 г. папетавы старшыня БНС у Шчучыне, ён-жа і дырэктар настаўніцкае сэмінарыі, Рандарэвіч зарганізаваў Сьвята Моладзі на беразе Нёмана, у 7 км ад Шчучына. Пасьля імпрэзы, ейныя кіраўнікі Рандарэвіч, Груцкі і Шляхтун зайшлі на вячэру да мясцовага сьвятара. Пад час вячэры, у памешканьне сьвятара ўварвалася некалькі ўзброеных палякаў, якія зажадалі ад прысутаых дакумантаў. Шляхтун і Груцкі паказалі свае настаўніцкія пасьведчаньні, й іх не чапалі, але Рандарэвіча забралі, завялі ў жыта і застрэлілі.*

*На наступны дзень - 20 чэрвеня - інспэктар Шляхтун і настаўнік Груцкі раніцай варочаліся на самакатах дамоў. Не даязджаючы 4 км. да Васілішак, яны былі затрыманы палякамі-паліцэйскімі з Васілішак, заведзеныя ў жыта і застрэленыя. Самакаты засталіся на дарозе. Калі аб зьнішчэньні данесьлі ў паліцыю, дык дасьледваньне было праведзена фармальна, і ніхто ня быў выкрыты. Праз тыдзень сяляне знайшлі трупы замардаваных па цяжкім паху і данесьлі ў паліцыю. Паліцыя прывязла трупы ў Васілішкі і з кпінамі казала, што гэта "падла" засмуродзіла ўсё мястэчка.*

*Па некаторым часе на прыходзе Турэйск, каля Шчучына, быў замучаны на сьмерць са сваёй матушкай сьвятар Іван Аляхновіч.*

*Перад Калядамі 1942 г. кіраўнік гаспадарчага аддзелу Васілішкаўскай паветавай управы Гарадзейчык наведаў сваю сям'ю ў вёсцы, адлеглай 8 км. ад Васілішак. У Сьвяты Вечар, калі сям'я Гарадзейчыка была за сталом, узброеная банда палякоў уварвалася ў хату і тут-жа застрэліла Гарадзейчыка.*

*На пачатку 1943 г. былі ўведзены" новыя асабістыя пасьведчаньні (аўсвайсы), у якіх была рубрыка "нацыянальнасьць". Кіраўнік фінансавага аддзелу Васілішкаўскай паветавай управы Грушнік, якога палякі лічылі сваім чалавекам, падаў у пасьведчаньні нацыянальнасьць беларускую. У кароткім часе па атрыманьні ім пасьведчаньня, увечары нехта пастукаў да яго ў дзьверы. Грушнік адчыніў дзьверы і быў застрэлены з пісталета.*

*У сакавіку 1943 г. начальнік Лідзкай гарадзкой паліцыі, беларус, лейт. Канчук Усевалад, праходзіў каля рынку ў Лідзе з сястрой і ейнай калежанкай. Праходзячы праз натоўп, Канчук атрымаў стрэл у патыліцу і паваліўся забітым. Забойцы перабеглі вузкі выган, пераскочылі праз ручай і зьніклі ў Лідзкіх руінах.*

*У канцы травеня 1943 г. з Менску былі прысланыя: Ю. Саковіч на становішча Акруговага Старшыні БНС у Ліду і Л. Маракоў на становішча паветавага старшыні ў Васілішкі. Ніхто з мясцовых беларусаў яшчэ ня ведаў аб гэтых новых прызначэньнях, але палякі ведалі, і мясцовы падпольны польскі суд вынес прысуд сьмерці новапрызначаным беларусам. Ужо за два дні да прыбыцьця ў Васілішкі Л. Маракова, адзін тамтэйшы кравец паляк казаў свайму сябру А.С., які пражываў у гэтага краўца, што лепш-бы не прыяжджаў сюды новы паветавы старшыня, бо доўга тут не пабудзе.*

*Перад Сёмухай прыехалі ў Васілішкі Саковіч і Маракоў. На наступны дзень яны пайшлі адведаць беларусаў у фальварку Гайкаўшчына, недалёка ад Васілішак. Палякі хацелі забіць іх у дароге, але прыбылыя ішлі з групай некалькіх асобаў, таму забойцы на самакатах абмінулі іх. Каля 3-яй гадзіны дня Саковіч з Мараковым вярнуліся ў Васілішкі, але дзьверы кватэры былі замкнутыя, бо гаспадыня пайшла адведаць сваю матку. Тады прыбылыя пайшлі да знаёмае лекаркі, прысланае на працу з Менску. Прайшоўшы некалькі крокаў праз плошчу, Саковіч з Мараковым спаткалі дзьвюх асобаў, якія, мінаючы, хутка дасталі пісталеты і застрэлілі прыбылых. Забойцы пераскочылі ксяндзоўскі плот і зьніклі паміж будынкаў. Забойцамі былі: плютановы польскага войска, пражываўшы ў Старых Васілішках і шляхціц з фальварку Острава Васілішкаўскай воласьці.*

*У ліпені 1943 г. Ільля Кіслы, беларускі грамадзкі дзеяч, праяжджаючы на самакаце апоўдні па галоўнай вуліцы Ліды, атрымаў стрэл у патыліцу.*

*На пачатку восені 1943 г. Мікола Сямашка, камандант ахоўнага аддзелу ў маёнтку Запольле, адлеглым 4 км. ад Ліды, быў застрэлены паляком паліцэйскім.*

*Увосень гэтага самага году Жалудоцкі паветавы старшыня Токць Барыс, які ехаў хурманкай з мяст. Жалудок да чыгуначнай ставцыі Скрыбава, на паўдарозе быў затрыманы і застрэлены палякамі.*

*У 1943 г. валасны старшыня ў Бакштах Кастусь Кішкель быў арыштаваны польскай паліцыяй бяз прычыны. Пасьля допыту, паляк-паліцэйскі Дражынкевіч, адводзячы арыштаванага да турмы, застрэліў яго па дарозе, нібы за спробу ўцёку.*

*Тады-ж быў застрэлены палякамі Юрацішкі школьны інспэктар Пратасэвіч.*

*У пачатку сакавіка згінуў на парозе свае хаты старшыня г. Ліда Пінкевіч. Забойцы пастукалі ўвечары ў дзьверы і, калі Пінкевіч адчыніў, застрэлілі яго з пісталета.*

*Вышэй пералічаныя беларусы, памардаваныя палякамі, былі мне асабіста ведамыя (за выняткам Пратасэвіча); з імі я супрацоўнічаў, або спатыкаўся. Але, апрача пералічаных, палякі вымардавалі на Лідчыне мноства іншых: настаўнікаў, працаўнікоў адміністрацыі і сялян, аб чым я толькі чуў з пераказаў іншых беларусаў пазьней. Некалькі такіх выпадкаў я і падаю ніжэй.*

*Банда польскіх партызанаў напала на хутар заможнага беларуса каля чыгуначнага прыстанку Курган. Палякі дамагаліся ад селяніна зброі, якое той ніколі ня меў. Селяніну выломвалі пальцы, прыпякалі гарачым зялезам, заганялі пад пазногці смалякі і запальвалі іх, рэзалі скуру і салілі жывое цела; так зьдзекваліся, пакуль селянін ні сканаў. Усе гэтыя катаваньні палякі рабілі ў прысутнасьці жонкі і дзяцей катаванага.*

*Аляксандар Федаровіч быў змабілізаваны ў паліцыю, але хутка звольніўсл, бо ня было каму працаваць на гаспадарцы. У хуткім часе яго знайшлі на адлегласьці 12 км. ад хаты, утопленым у рацэ Дзітва, супроць Навасёлак, са зьвязанымі рукамі й нагамі.*

*Увесну 1944 г. палякі распачалі антыбеларускі тэрор у больш масавым абсягу. На пачатку красавіка 1944 г. толькі ў Белагрудзкай і Беліцкай валасьцёх было забіта польскімі бандамі больш 100 беларусаў у працягу аднаго тыдня. Вымардоўваліся сваякі настаўнікаў, працаўнікоў адміністрацыі, БНС, вясковых старастаў, якія працавалі пад нямецкай акупацыяй, а таксама забіваліся ўсе тыя, хто працаваў падчас савецкае акупацыі да 1941 г. нават на найніжэйшых становішчах, як: вясковыя ўпаўнаважаныя, працаўнікі сельпо і г. п.; сваякі іх таксама вымардоўваліся. Такім чынаы палякі ачышчалі Беларусь ад інтэлігентнейшай часткі насельніцтва, ад сваіх патэнцыяльных ворагаў. Такую акцыю палякі маглі арганізаваць на Лідчыне, дзякуючы свеасаблівым мясцовым абставінам.*

*Ад пачатку нямецкай акупацыі на Лідчыне дзеіла моцная нелегальная польская арганізацыя, якая ў другой палове 1943 г. была прызнаная немцамі за дзейнік, з якім належыць лічыцца. Немцы ня толькі талеравалі гэтую польскую арганізацыю, але і памагалі ёй зброяю, амуніцыяй, лекамі, а нават прыймом у шпіталі хворых і раненых польскіх партызанаў. Па вуліцах Ліды было відаць едучых хурманкамі польскіх ахвіцэраў і жаўнераў. У маёй прысутнасьці ў канцылярыю акруговае нямецкае жандармэрыі ў Лідзе прыбыў польскі паручнік у ўніформе, зажадаў спатканьня з акруговым камандантам жандармэрыі, што і было зараз-жа выканана.*

*Немцы вялі на Лідчыне падвойную палітыку: афіцыйна нібы падтрымлівалі нацыянальныя імкненьні беларусаў, а за плячыма давалі паляком магчымасьць арганізаваць збройную сілу, нацкоўваючы іх на беларусаў. Стацыянаваньне літоўскіх ды ўкраінскіх батальёнаў на Беларусі дадаткова сьцьвярджае факт, што немцы не ўважалі беларускі народ за прыхільны для сябе.*

*Адклікаючы з вясковых школаў усіх беларускіх настаўнікаў, якія яшчэ ня былі памардаваныя палякамі, немцы тлумачылі гэта беларусам, як імкненьне захаваць настаўнікам жыцьцё. Можна прыпушчаць, што гэтае адкліканьне было ўступкай польскім дамаганьням аб спыненьні арганізацыі беларускіх школ на Лідчыне.*

*Выпраўляючы беларусаў ў раёны, на працу на кіраўнічыя становішчы, немцы запэўнялі іх аб сваёй дапамозе і рэпрэсіях супроць палякоў за эвэнтуальныя акты тэрору. У сапраднасьці-ж немцы не рабілі ніякіх захадаў у сувязі з мардаваньнем палякамі беларусаў. Трэба прыпушчаць, што гэтая дзейнасьць была на руку немцам.*

*Зьмена польскай адміністрацыі на беларускую на Лідчыне адбывалася вельмі паволі. Паліцыя да канца была пад кантролем палякаў. На пачатку красавіка 1944 г. на 23 камэндантаў паліцыі 21 камэндант былі палякамі. Дзьве трэціх агульнага складу паліцыі Лідчыны былі палякамі. Акруговы камісарыят Ліды да канца быў запоўнены польскімі дапаможнымі працаўнікамі, за выняткам некалькіх беларусаў.*

*Палякі вельмі ўмела абслугоўвалі розныя асабістыя патрэбы нямецкіх кіраўнікоў, пачынаючы ад акруговага камісара. На дзень нарадзінаў камісара палякі падаравалі яму каштоўны пярсьцёнак з нацыстоўскага колеру каменем. Сымпатыі камісара да палякоў дайшлі да таго, што ў 1944 г. ён езьдзіў на Вялікдзень на сьвянцонку да польскіх партызанаў. Полькі машыністкі і сакратаркі вельмі ахвотна абслугоўвалі розныя жыцьцёвыя патрэбы нямецкіх кіраўнікоў і, карыстаючыся з магчымасьцяў, адстойвалі польскія нацыянальныя справы. Пры такіх прыязных абставінах палякі разбудоўвалі свае збройныя аддзелы на выпадак магчымасьці захопу ўлады на Лідчыне і на ўсёй Заходняй Беларусі. Некалькі ілюстрацыяў для характарыстыкі магчымасьцяў гэтае польскае падрыхтоўчае дзейнасьці падаецца ніжэй.*

*Адзін селянін з вёскі, адлеглай 2 км. ад Васілішак, аднойчы ня выехаў на шарварк. На наступны дзень жандармы з паліцыяй зайшлі да гэтага непаслухмянага чалавека. Аказалася, што ён быў пад польскай уладай: у хаце была цэлая канцылярыя. Плютановы пісаў на машынцы. Жандармы арыштавалі плютановага, забралі куфар актаў, машынку і запас зброі. Праз дзьве гадзіны пасля гэтага ў жандармэрыю зьявіўся польскі паручнік з капралам і зажадаў звальненьня арыштаванага і звароту ўсяго забранага, пагражаючы збройным выступленьнем супроць немцаў. Немцы выканалі ўсе дамаганьні польскіх партызанаў.*

*У Васілішкаўскай жандармэрыі працаваў*

*"обэр-вахмайстар" Цесьляк з Верхняй Сілезіі (мабыць, зьнемчаны паляк). Ён перадаваў усе патрэбныя сакрэты паляком, за што меў каханку польку і частыя пачастункі ад палякаў.*

*Пасьля забойства Саковіча і Маракова былі выкрыты іх забойцы, а так сама было сабрана шмат матэрыялаў аб польскай дывэрсійнай дзейнасьці ды акцыі супроць беларусаў на Лідчыне. Матэрыялы былі перададзеныя Ільлі Кісламу для далейшага ходу. Гэтыя матэрыялы забрала Лідзкая жандармэрыя і пераслала жандармэрыі ў Васілішках. Палякі зараз-жа былі паінфармаваныя аб кампрамітуючых іх матэрыялах, і ўжо праз тыдзень па атрыманьні матэрыялаў Кіслы быў застрэлены палякамі, аб чым мы ўпаміналі вышэй. Больш трох месяцаў матэрыялы ляжалі ў Васілішкаўскай жандармерыі. Трэба прыпушчаць, што папярэджаныя немцамі палякі паліцэйскія, выкрытыя ў матэрыялах, пайшлі ў партызаны, забраўшы зброю і амуніцыю з паліцыі.*

*Частка Гарадзеншчыпы і Беласточчыны былі далучаныя да Ўсходняй Прусіі. Польская падпольная арганізацыя з Васілішак дзеіла на абшары гэтых адлучаных тэрыторыяў. Гэтая дзейнасьць была выкрыта нямецкімі ўладамі Усходняе Прусіі, якія выкрылі карэньні яе ў Васілішках і прыбылі сюды для ліквідацыі. Аднак, Васілішкаўская жандармэрыя не дапусьціла да гэтай ліквідацыі, матывуючы патрэбай часу для далейшага сачэньня.*

*У гэтым часе ў Васілішках была раскватэраваная рота 63 батальёну "штуцманшафту" ўкраінцаў, з якімі мы мелі прыязныя дачыненьні. Украінцы таксама выкрылі існаваньне польскай падпольнай арганізацыі і, ня пытаючыся немцаў, дня 23 сьнежня 1943 г. арыштавалі ў Васілішках 22 палякоў. На наступны: дзень 5 асобаў было звольнена, а рэшта мела быць дастаўлена ў Ліду. Транспарт складаўся з арыштаваных палякаў, 8 нямецкіх жандармаў і 15 украінскіх "штуцманаў". Каля Ваверкі польскія партызаны зрабілі засаду, відаць, загадзя паінфарманыя. Стрэламі з кулямётаў палякі забілі 3-х немцаў і 9-х украінцаў ды адбілі арыштаваных палякаў. Роту ўкраінскіх "штуцманаў" перавялі"з Васілішак у Іўе, відаць, для супакою, і ніякіх рэпрэсіяў супроць палякоў за забітых немцаў ня было.*

*Па-ранейшаму польскія банды наяжджалі на беларускія вёскі, рабавалі сялян, а пазьней даносілі немцам, быццам беларусы маюць зносіны з савецкімі партызанамі. Немцы прысылалі карныя вайсковыя аддзелы, якія забівалі нявінных беларусаў, хапалі й вывозілі на працу ў Нямеччыну, а вёскі палілі. Так была спалена вёска Вялікае Сяло Скрыбаўскай воласьці; шмат вёсак было спалена часткова.*

*Савецка-расійскія партызаны апэравалі пераважна на абшарах, якія прылягалі да вялікіх лясоў. На Лідчыне ня было вялікіх лясных масываў, і таму ня было спрыяльных абставінаў для савецкіх партызанскіх злучэньняў, якія дзеілі на ўзьмежах Лідчыны, за Нёманам, у Занямонскай пушчы і на ўсходзе, у Налібоцкай пушчы. Там яны вымардоўвалі беларускі нацыянальны актыў побач свае антынямецкае акцыі.*

*На мяжы Радунскай і Забалацкай валасьцей, пры сутыку іх з Літвой, дзеіла невялікая колькасна партызанка жыдоў, якія ўратаваліся з Радунскага гэтто. Аднак, гэтыя партызаны не выяўлялі ніякае дзейнасьці, апрача рабаваньня насельніцтва для свайго харчаваньня.*

*(Подпіс аўтара не падаецца для бясьпекі яго сваякоў, якія жывуць пад савецкай уладай)."*

*(Лексіка і правапіс, на колькі ўдалося, захаваныя. Рэд.)*

Толькі пасля 2000 года Вольга Саковіч прыслала мне копію газеты таго часу "Беларускі голас" № 25 ад 25 чэрвеня 1943 года, якая выдавалася ў Вільні беларускім лацінскім шрыфтам. У той час рэдактарам газеты быў выбітны дзеяч беларускага руху - Францішак Аляхновіч.

*"Ліда, 17 чэрвеня 1943 г.*

*Беларускае грамадзянства Ліды пахавала лепшых сыноў свайго Народу Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова, якія загінулі ад рук подлых ворагаў нашае Бацькаўшчыны.*

*Сумна і цяжка на душы... Рука адмаўляецца пісаць аб гэтых новых, цяжкіх ахвярах...*

*Толькі некалькі дзён назад Саковіч і Маракоў, маладыя яшчэ і поўныя сіл і энэргіі, энтузіястыя беларускай справы, прыехалі да нас на працу. Прыехалі яны сюды з даручэння Генэральнага Коммісара ў Менску, каб папоўніць кадры беларускіх працаўнікоў у Лідчыне. Акруговы коммісарыят дэлеггаваў іх часова ў Васілішкі, дзе ўся адміністрацыя і паліцыя абсаджаны амаль выключна палякамі. За пару тыдняў яны меліся вярнуцца ў Ліду, каб тут абняць прызначаныя ім адказныя становішчы ў адміністрацыі.*

*Вярнуліся яны раней, але ... у трунах...*

*Нашыя ворагі пільна сачылі за кожным іх крокам. На трэйці дзень пасьля прыезду ў Васілішкі, яны былі застрэляны подлымі бандытамі з-за вугла ў дзень на вуліцы.*

*Балючая, цяжкая страта!.. Але нашыя ворагі мыляюцца, калі думаюць, што гэткімі агіднымі забойствамі яны змусяць нас адмовіцца ад барацьбы за лепшую будучыню, за вольнасць нашае Бацькаўшчыны, бо на месца забітых з'явяцца шарэгі маладых беларускіх змагароў, каторыя памсьцяцца за сьмерць забітых і для каторых постаці Саковіча і Маракова будзе прыкладам ахвярнасьці ў барацьбе за лепшую будучыню.*

*На праваслаўных могілках, дзе хавалі загінуўшых, сабралося шмат беларускага грамадзянства. Былі прысутнымі: Коммісар Акругі спадар Ганвэг, ягоны заступнік спадар Дрэхсэль, жонка Саковіча. Было шмат вянкоў: ад Акруговага Коммісара, Нацыянал-сацыялістычнай Партыі, беларускага грамадзянства, шмат красак і зелені.*

*Вечная Вам памяць, чэсьць і слава Вам, дарагія змагары!*

*Няхай родная зямелька будзе Вам лёгкай!*

***Юльян Саковіч***

*Юльян Саковіч нарадзіўся 24 жніўня 1906 году*

*ў фальв. Баўдырох, Крэўскае валасці, Ашмянскага павету. Па сканчэнні беларускай гімназіі ў Вільні, студыяваў прыроду ў Віленскім Ўнівэрсытэце. За палітычную дзейнасьць быў праследаваны польскаю ўладаю, арыштаваны і дзеля таго ня мог скончыць унівэрсытэту. Выбух польска-нямецкай вайны звольніў яго з лягеру ў Бярозе Картузкай.*



**Юльян Саковіч у 1938 г.**

*Таксама прасьледавалі яго і бальшавікі. Калі прыйшлі немцы, ён адразу з'явіўся на працу. У Менску быў першым камэндантам беларускай паліцыі, а пасля працаваў па арганізацыі Беларускай Самаабароны. Ад жніўня 1942 году быў прыдзеланы да Коммісcара Менск-Акруга, як муж даверу і акруговы кіраўнік Самапомачы.*

*На гэтым становішчы ён працаваў да апошняга часу. Ад чэрвеня г.г. быў прыдзеланы да Акруговага Коммісcара ў Лідзе.*

***Леанід Маракоў***

*(Аўтабіяграфія)*

*Нарадзіўся ў 1914 г. Бацькі - сяляне Менскага павету, Сенніцкай воласці, вёскі Лошыца. Потым бацька перабраўся ў Менск, дзе працаваў за муляра. У 1928 годзе скончыў сямігадовую школу, а ў 1931 - Менскі беларускі педагагічны тэхнікум (Сэмінарыю), пасля чаго працаваў за настаўніка ў Лагойскім павеце, адначасна вучыўся ў Беларускім Універсітэце ў Менску, дзе студыяваў гісторыю і літаратуру. У 1935 годзе за дзейнасць супроць бальшавікоў быў арыштаваны мой бацька Маракоў Дзімітры, а ў 1936 годзе - мой брат - беларускі паэта Маракоў Валеры. Пасьля сканчэння ўніверсіытэту я быў накіраваны ў Магілёў на працу ў Пэдінстытут як навуковы працаўнік, але ў хуткім часе ў 1938 г. быў арыштаваны і пасля вызвалення з турмы ў 1939 г. працаваў за настаўніка ў сярэдняй школе г. Жлобіна (Гомельская акруга). Пасьля прыходу нямецкай арміі вярнуўся ў Менск, дзе дзе жыве мая сям'я: старая маці, меншы брат, жонка і дзеці. Працаваў дырэктарам Народнае Школы, а ад мая месяца 1942 - старшынёю акругі БНС Менск-горад і сябрам Цэнтральнай Рады БНС. 1 чэрвеня 1943 году быў накіраваны ў распараджэнне Лід-*



**Вольга Станіславаўна Маракова з сынамі Ўладзімірам і Леанідам, 1940? г.**



**Валеры і Леанід Мараковы, 1930-я гг.**

**Julian Sakovič**

Juljen Sakovič naradziŭsia 24 žniŭnia 1906 hodu u falv. Baŭdyroch, Kreŭskaje volaści, Ašmianskaha pavietu. Pa skančeńni bielaruskaj himnazii u Vilni, studyjavaŭ pryrodu u Vilenskim Universytecie. Za palityčnuju dzieinaść byŭ prasledavany polskaju uladaju, aryštavany i dziela taho nia moh skončyć universytetu. Vybuch polska - niamieckaj vajny zvolniŭ jaho z lahieru u Biarezie Kartuzkaj.

Taksama prašledavali jaho i balšaviki. Kali pryjšli niemcy, jon adrazu źjaviŭsia da pracy. U Miensku byŭ pieršym kamendantam bielaruskaj palicyi, a paśla pracavaŭ pa arhanizacyi Bielaruskaj Samaachovy. Ad žniŭnia 1942 hodu byŭ prydzielany da Kommissara Miensk-Akruha, jak muž davieru i akruhovy kiraŭnik Samapomačy.

Na hetym stanoviščy jon pracavaŭ da apošniaha času. Ad červienia h.h. byŭ prydzielany da Akruhovaha Kommissara u Lidzie.

**Leanid Marakoŭ**

(Aŭtabijahrafija) *)

Naradziŭsia u 1914 h. Baćki — sialanie Mienskaha pavietu, Sieńnickaj volaści, vioski Łošyca. Potym baćka pierabraŭsia u Miensk, dzie pracavaŭ za mulara. U 1928 hodzie skončyŭ siamihadovuju školu, a u 1931 — Mienski bielaruski pedahahičny technikum (Seminaryju), paśla čaho pracavaŭ za nastaŭnika u Łahojskim paviecie, adnačasna vučyŭsia u Bielaruskim Universytecie u Miensku, dzie studyjavaŭ historyju i litaraturu. U 1935 hodzie za dziejnaść suproć balšavikoŭ byŭ aryštavany moj baćka Marakoŭ Dzimitry, a u 1936 hodzie — moj brat — bielaruski paeta Marakoŭ Valery. Paśla skančeńnia universytetu ja byŭ nakiravany u Mahiloŭ na pracu u Pedinstytut jak navukovy pracaŭnik, ale u chutkim časie u 1938 h. byŭ aryštavany i paśla vyzvaleńnia z turmy u 1939 h. pracavaŭ za nastaŭnika u siaredniuj škole h. Žlobina (Homielskaja Akruha). Paśla prychodu niamieckaj armii viarnuŭsia u Miensk, dzie žyvie maja siamja: staraja maci, mienšy brat, žonka i dzieci. Pracavaŭ dyrektaram Narodnaje Škoły, a ad maja miesiaca 1942 — staršynioju akruhi B.N.S. Miensk-horad i siabram Centralnaj Rady BNS. 1 červienia 1943 hodu byŭ nakiravany u rasparadžeńnie Lidzkaha Gebietskommissar'a.

(—) Marakoŭ

*) Ad redakcyi: źmieščanaja tut aŭtabiahrafija była napisana samim niabožčykam niezadoŭha pierad śmierciu.

**Valancin Vaŭčok**

Razam z Sakovičam i Marakovym, byŭ pachavany u supolnaj mahiłcy jašče adzin malady bielarus — Valancin Vaŭčok.

Vaŭčok naradziŭsia 2 studzienia 1927 hodu. Pracavaŭ u specyjalnaj achovie (Wachmannschaft) Akruhovaha Kommisaryjatu u Lidzie. Zhinuŭ 14.VI. 43 h. ad niešČaślivaha vypadku.

**Фрагмент некралогу па Юльяну Саковічу, Леаніду Маракову і Валянціну Ваўчку**

*скага Гэбітскоммісcара.*

*( - ) Маракоў.*

*Ад рэдакцыі: Змешчаная тут аўтабіяграфія была напісана самім нябожчыкам незадоўга перад сьмерцю.*

* * *

***Валянцін Ваўчок***

*Разам з Саковічам і Мараковым быў пахаваны ў супольнай магілцы яшчэ адзін малады беларус - Валянцін Ваўчок.*

*Ваўчок нарадзіўся 2 студзеня 1927 году. Працаваў у спецыяльнай ахове (Wachtannschaft) Акруговага Коммісарыяту ў Лідзе. Згінуў 14.VI.43 г. ад нешчаслівага выпадку.”*

*(Па магчымасці захаваны лексіка і правапіс беларускага лацінскага тэксту. Рэд.)*

У паведамленні пра забойства Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова паведамляліся і звесткі пра маладога беларуса - Валянціна Ваўчка, загінуўшага ад нешчаслівага выпадку - і адначасова пахаванага ў супольнай магіле. Звесткі пра Валянціна Ваўчка дазволілі адшукаць яго родных.

Я, Уладзімір Хрышчановіч, вучыўся у адным класе з братамі Барысам і Жорам Ваўчкамі, якія жылі на вуліцы Маладварцовай.

Дом іх па вул. Маладварцовай, забралі пад дзяржаву - канфіскавалі, бо быў больш за 100 м$^2$ памерам і зрабілі там суд, а яны пазней жылі каля каталіцкіх могілак, мелі сястру, якая выйшла замуж за знаёмага мне чалавека. Сустрэўшыся на рынку з гэтай сям'ёй, я распытаў іх, хто са старэйшых родзічаў іх, можа расказаць пра падзеі 1943 года. Яны далі мне нумар тэлефона хатняга цёці сваёй - Галіны Ваўчок, якая нарадзілася 02.02.1925 года, і яна расказала мне пра супольную магілу Валянціна Ваўчка, Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова. На магіле Валянціна Ваўчка быў пастаўлены помнік, але пазней было аб'яўлена рашэнне гарвыканкаму аб закрыцці могілак, а праз 20 год аб іх скасаванні. Дазвалялі ўсім родзічам пераносіць прах сваіх родных на новыя могілкі ў канцы вуліцы Варшаўскай (пад быка). Родзічы Валянціна Ваўчка вырашылі перазахаваць яго парэштні на новыя могілкі. Перазахаванне было зроблена неакуратна, і частка парэштакаў Валянціна Ваўчка засталася ў магіле. Помнік з надпісам укінулі ў раскопаную магілу, а зверху і падставу ад помніка. Зямлю разраўнялі, і знік нават след ад былой магілы.

Расказ сп. Галіны Ваўчок быў позняй восенню 2003 г., выпала многа снегу і засыпала - зараўняла ўсе могілкі. Дамовіўся я з сп. Галінай Ваўчок, што вясною, як сыдзе снег, мы абавязкова сходзім на могілкі, і яна пакажа месца пахавання Валянціна Ваўчка, Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова. Як сышоў снег, вясною 2004 года сп. Галіна Ваўчок паказала месца супольнай магілы Валянціна Ваўчка, Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова.

Я стаўшы на паказаным месце папрасіў яе мяне сфатаграфаваць - ёсць здымак.

Аб адшуканай магіле - паведаміў дочцы Юльяна Саковіча - Вользе Саковіч у Летуву.

Вольга Саковіч пазнаёмілася з сям'ёй сп. Галіны Ваўчок і яе мужам Мікалаем Пятровічам.

Вольга Саковіч вырашыла ўсталяваць на магіле бацькі Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова сціплы, часовы помнік. Помнік быў заказаны ў прыватнай фірме па вул. Савецкай. Усталяваны і асвечаны 15-19.VI-2004 г. бацюшкам Дзмітрыем, са Свята-Юр'еўскай царквы, на 61 годзе пасля забойства іх у мястэчку Васілішкі, і пахавання ў г. Лідзе. Вольга Саковіч шукала сына Леаніда Маракова. Па яе просбе я ёй перадаў нумар тэлефона Леаніда Ўладзіміравіча Маракова, які жыў ў Менску і быў аўтарам публікацый па гісторыі рэпрэсій расійскага НКУС на землях Беларусі. Высветлілася што ён ёсць пляменнік Леаніда Маракова, і праз яго Вольга Саковіч пазнаёмілася з сям'ёй сына Леаніда Маракова, які не адзін раз прыязжаў у г. Ліду распытваў старых людзей у Свята-Юр'еўскай царкве, распытваў бацюшку царквы, але без выніку.

Мне ж ад старэйшых людзей удалося атрымаць пацверджанне, што ў царкве адначасова стаялі тры труны: Валянціна Ваўчка, Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова. Паніхіду па забітых служылі шэсць праваслаўных святароў Лідчыны і Вільні пры вялікай колькасці людзей. На развітанні гучалі жалобныя прамовы не толькі беларусаў, але і прадстаўнікоў гітлераўскай адміністрацыі на акупаванай Беларусі. Так фашысты хвалілі свой удзел у забойстве і рабілі з беларускіх патрыётаў калабарантаў. Сёння вядома, што забойства Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова было здзейснена польскай Арміяй Краёвай па загаду нямецкіх спецслужбаў, якія на Лідчыне цесна супрацоўнічалі з палякамі.

“Энцыклапедыя гісторыі Беларусі” пра Юльяна Саковіча падае наступную інфармацыю:

*“**САКОВІЧ Юльян** (24.8.1906, фальв. Баўдыры Ашмянскага пав. Віленскай губ. - 13.6.1943), дзеяч нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі; у Вял. Айч. вайну супрацоўнічаў з ням. акупантамі. Скончыў Віленскую бел. гімназію, вучыўся ў Віленскім ун-це, з якога выключаны за рэв. дзейнасць. Быў чл. Бел. студэнцкага саюза, КПЗБ, Т-ва бел. школы (ТБШ). У 1929 разам з Г. Вялецкім выдаваў у Вільні час. "Вольная думка" - орган Бел. паступовага (перадавога) студэнцтва. У лют. 1933 на працэсе над кіраўніцтвам ТБШ прыгавораны да 3 гадоў турмы. Напярэдадні 2-й сусв. вайны арыштаваны і зняволены ў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. У вер. 1939 вызвалены, вярнуўся на Віленшчыну, дзе арыштаваны органамі НКУС. З чэрв. 1941 у Мінску. У перыяд акупацыі Беларусі займаў пасады нач. адм. аддзела Беларускай народнай самапомачы (БНС), з чэрв. 1943 акр. старшыні БНСу Лідзе. Адзін з кіраўнікоў Беларускай незалежніцкай партыі. Забіты польскімі падпольшчыкамі ў в. Васілішкі (Шчучынскі р-н).*

*Сяргей Ёрш.”*

Пра Беларускую незалежніцкую партыю там напісана наступнае:

*"**БЕЛАРУСКАЯ НЕЗАЛЁЖНІЦКАЯ ПАРТЫЯ**, БНП, арганізацыя беларускіх дзеячаў на акупіраванай ням.-фаш. захопнікамі тэр. Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Створана ў пач. 1942. Першы з'езд БНП адбыўся ў кастр. 1942. У кіруючае ядро ўваходзілі У. Родзька (старшыня ЦК БНП, бургамістр Віцебска), Ф. Аляхновіч (кіраўнік Віленскага к-та БНП), І. Гінько (кіраўнік Глыбоцкага акр. к-та Бел. нар. самапомачы), Р. Зыбайла (кіраўнік Слонімскага акр. к-та Бел. нар. самапомачы), Б. Рабуха (камандзір коннага эскадрона Навагрудскай паліцыі), Ю. Саковіч (кіраўнік Мінскага акр. к-та БНП і адм. аддзела Бел. нар. самапомачы), А. Сянькевіч (рэдактар "Беларускай газэты") і інш. Выдавала "Беларускі інфармацыйны бюлетэнь" (рэдактар М. Рагуля, выйшла 6 нумароў). Было ўтворана 5 акр. к-таў БНП. Мела кантакты з кіраўнікамі Палескай сечы Украінскай паўстанцкай арміі (ПС УПА), якія прапаноўвалі БНП заняць антыням. пазіцыі. Члены БНП, працуючы ў створаным гітлераўцамі бел. апараце, імкнуліся арганізаваць бел. нац. рух для адначасовага выступлення супраць ням.-фаш. захопнікаў і бальшавікоў. Было створана некалькі ўзбр. і нелегальных груп (найбольш на Палессі - 12). Да сярэдзіны 1944 БНП не мела шырокай падтрымкі ў інш. бел. груп, не стала рэальнай паліт. сілай. Р. Астроўскі ў пач. 1950-х г. тлумачыў прычыны гэтага тым, што "пачаць вайну за незалежнасць на два франты - супраць немцаў і бальшавікоў - было б раўназначна самазабойству. Зрабіць такі крок было немагчыма. Бальшавікоў усе добра ведалі і з імі змагаліся, а ў адносінах да немцаў - так усе былі ўпэўнены, што Захад звяжа ім рукі. У такой сітуацыі неабходна было дамагчыся найбольшага, прытым легальным спосабам". З прыходам Чырв. Арміі дзейнасць БНП значна актывізавалася. У канцы чэрв. 1944 Родзька пры падтрымцы гітлераўцаў арганізаваў і накіраваў у сав. тыл узбр. групы А. Лапіцкага (раён Вілейкі), С. Мануйлы (раён Баранавіч), Сікоры (раён Пастаў), у лістападзе - атрад колькасцю 27 чал. на чале з М. Вітушкам і Гінько (раён Маладзечна, у снежні разгромлены супрацоўнікамі НКУС). Аднак масавай падтрымкі насельніцтва БНП не дамаглася. Большасць яе атрадаў і падп. груп былі разгромлены НКУС. Шэраг дзеячаў БНП на чале з Родзькам арыштаваны.*

*У. І. Гуленка."*

У гэтым артыкуле шмат недагаворак, прынамсі цалкам замоўчана роля ксендза Вінцэнта Гадлеўскага ў дзейнасці БНП. Менавіта В. Гадлеўскі быў першым знішчаны немцамі. Спрошчана сітуацыя і ў выказванні Р. Астроўскага пра два франты. Два франты: антысавецкі і антыпольскі БНП мела ўвесь час. Яна мусіла адкрываць яшчэ трэці фронт - антынямецкі, для чаго было жаданне, але не было сілаў. Немцы ведалі гэта і аслаблялі БНП, як маглі, хаця на поўнае і адкрытае знішчэнне не ішлі. Атмасфера гэтага часу добра перададзена ў мастацка-біяграфічным аповедзе Лілеі Сазанавец "Мадонна" пра жонку Юльяна Саковіча Вольгу Саковіч (Пагуду). Фрагмет з аповеду ёсць сэнс прывесці:

*"Вольга разгарнула паперку.* На сваё здзіўленне і таемную радасць яна ўбачыла, што гэтая цыдулка была ад Юльяна. "Мая даражэнькая, - пісаў ён сваім таропкім почыркам, - будзь гатовая. Я прыеду!" Вольга не зусім зразумела тады, да чаго яна павінна быць гатовай. Яна бачыла толькі гэтае цудоўнае слова "даражэнькая" і нязвыклае хваляванне прыемна запаланіла яе сэрца. У гэтым хваляванні яна нават забылася пра папярэджанне Асіповіча.

Вольга вярнулася ў дом. Нешта незвычайнае, напэўна, адбілася на яе твары, таму што гэта адразу заўважыла Зіна, якая тады якраз наведала сяброўку.

- Што з табою? - пацікавілася яна ў Вольгі, - ты свецішся, нібы яснае сонейка.

- Так, нічога асаблівага, - не стала засяроджвацца на падрабязнасцях Вольга, яна не хацела раскрываць сваю тайну нават лепшай сяброўцы.

Дзяўчына ўзяла нейкую кнігу з паліцы, паклала туды Юльянаву цыдулку. Зіна заўважыла гэтую маніпуляцыю.

- Што гэта? Нейкая цыдулка? Ад каго? - дапытвалася яна.

- Ад вучня майго, - адказала Вольга, - так, дробязь.

Зіна зразумела, што сяброўка не хоча распавядаць пра гэтую цыдулку і не стала настойваць на гэтым Вольга, калі хацела, сама ўсё ёй расказвала. Зіна здагадвалася, што цыдулка была ад Юльяна. На тое ж яна і была лепшай сяброўкай, каб заўважыць, што Вольга апошнім часам стала нейкая не такая, як заўсёды. Вольга закахалася. Гэта было відавочна. Па настроі сяброўкі Зіна зразумела, што тая хоча застацца адна і хутка засубіралася дамоў. Тым больш, што надыходзіў камендацкі час

Вольга, як толькі Зіна пайшла, яшчэ некалькі разоў запар перачытала дарагую ёй цыдулку. Перачытвала яна яе і на наступны дзень. Але праз дзень цыдулка нечакана некуды знікла. Вольга добра памятала, што напярэдадні яна паклала яе, як звычайна, у кнігу. Назаўтра паперкі ў кнізе не знайшла. Куды яна магла падзецца, Вольга не ведала. Страта цыдулкі непрыемна ўразіла дзяўчыну. Яна нібы страціла не нейкі невялічкі кавалачак паперы, а нешта дарагое ёй. Гэтае дарагое было ад Юльяна. Гэта было прыкра, але хутка Юльян сам заявіўся да Вольгі.

Гэта здарылася праз некалькі дзён пасля таго, як Асіповіч папярэдзіў яе аб небяспецы. Стаяў канец кастрычніка. Ужо добра бралася на восень. Вечарамі моцна халадала. Патрэбна было паліць печ, бо ў хаце было халаднавата. Вольга якраз варушыла вугольчыкі ў грубцы ў сваім пакоі, калі ў дзверы нечакана пастукалі. Яна не ведала, хто да яе мог прыйсці ў такі позні час, але нечакана ў яе моцна забілася сэрца. На парозе стаяў Юльян і ўсміхаўся ёй сваёй незвычайнай усмешкай.

- Збірайся, - прамовіў Юльян, - толькі рэчаў ніякіх з сабою не бяры. Проста апраніся ды выходзім.

Вольга не стала нічога дапытвацца. Хуценька накінула на плечы палітончык, усунула ногі ў боцікі. Вось яна і гатовая. На вуліцы іх чакалі нейкія незнаёмыя хлопцы. Яны моўчкі ішлі ззаду за Юльянам і

Вольгай ажно да самага чыгуначнага вакзала.

Калі выйшлі на вуліцу, Юльян ціха спытаў:

- Ты атрымала маю цыдулку?

Вольга толькі моўчкі хітанула галавою. Яна не стала паведамляць Юльяну, што цыдулка некуды знікла. Не хацела турбаваць яго, да таго ж баялася пакрыўдзіць такой сваёй няўважлівасцю.



***Вольга Пагуда (Саковіч)***

- Мне паведамілі, што табе пагражае небяспека. Тваё прозвішча занесена ў спісы на арышт. Праклятыя палякі! Толькі даносамі займаюцца!- не ўстрымаўся Юльян, - але мы здолелі перахітрыць іх. Зараз ты будзеш жыць у Менску, там табе будзе больш бяспечна

Вольга, вядома, не магла нават уявіць, якая небяспека ёй пагражае, але яна верыла Юльяну. Калі ён лічыць, што ёй нешта пагражае, значыць, так яно і ёсць.

Яны не адразу паехалі ў Менск. Па дарозе заехалі ў Радашковічы, дзе тады жыла ўдава Браніслава Тарашкевіча. Гэтая жанчына вельмі ўзрадавалася, калі ўбачыла Юльяна. Кінулася да яго, як да роднага, расплакалася. Справа ўтым, што недзе знік яе сын. Яна вельмі непакоілася. Юльян яе супакойваў, казаў, што нічога дрэннага з ім не здарылася, і ён хутка з’явіцца, хоць Вольга па яго вачах бачыла, што Юльян таксама вельмі занепакоены. Мацярынскае сэрца не падманула. Сын Тарашкевічаў тады загінуў. Усё было абстаўлена так, нібы ён загінуў ад рук немцаў. Значна пазней высветлілася, што забілі хлопца не немцы, а савецкія партызаны. Самае жудаснае ў ягонай гібелі было тое, што сын Тарашкевіча таксама быў партызанам. Але ён быў сынам вядомага беларускага палітычнага дзеяча, змагара за незалежную Беларусь. Гэтага яму даравацьж, вядома, не маглі. Яго таксама палічылі за нацыяналіста і знішчылі, як нішчылі тады ўсіх "ворагаў народа". Савецкай уладзе не патрэбныя былі беларусы, нават калі яны былі партызанамі.

Нарэшце Вольга з Юльянам апынуліся ў Менску. Вырашана было, што пакуль Вольга застанецца жыць у Юльянавай кватэры. Ён баяўся пасяліць яе недзе ў іншым месцы У першы ж вечар за вячэраю, калі Вольга, яшчэ сарамеючыся ў чужой кватэры, адчувала сябе трошкі няёмка, Юльян, пасля непрацяглага маўчання раптам спытаў у яе:

- А чым ты хочаш займацца?

Вольга не чакала такога пытання, але адказ чамусці сам ў яе вырваўся:

- Я хачу быць настаўніцай.

Дзіўна, але Юльяна зусім не ўразіў такі адказ.

- Добра. Заўтра раніцай пойдзеш на працу. У Менску ўжо ёсць адна беларуская школа. Праўда, дырэктарам там зараз жыд, але чалавек ён зусім нядрэнны і беларускай справе не замінае. Хутчэй, наадварот. Там няма выкладчыка нямецкай мовы. Як ты, валодаеш трохі?

Вольга адказала, яшчэ не зусім верачы ў сур'ёзнасць прапановы:

- Так, трохі ведаю. Магу нават збольшага гаварыць па-нямецку.

- Вось і добра, - пагадзіўся Юльян.

Вольга, вядома, не чакала, што лёс яе павернецца такім чынам. Усю ноч яна не спала, успаміналы перажытае напярэдадні, хвалявалася перад заўтрашнім днём. І вось ён, яе першы ўрок у Менску. Перад вачыма Вольгі зусім незнаёмыя твары. Як яны, гэтыя дзеці, паставяцца да сваёй новай настаўніцы? Вольга пачала ўрок. Вельмі хвалявалася, голас трохі дрыжэў. Яна сама гэта адчувала, але справіцца са сваім хваляваннем пакуль што не магла. Нечакана дзверы расчыніліся і на парозе апынуліся трое: Юльян, дырэктар, з якім Вольга раніцай ужо пазнаёмілася, і немец, які, напэўна, кантраляваў гэтую школу. Вучні. усе, як адзін, паўскоквалі са сваіх месцаў. "Heil. Hitler!"- у адзін голас дружна гаркнулі яны прывітанне. "Heil!"- адказаў немец і павярнуўся да Вольгі. Тая нечакана адказала:

- Жыве Беларусь!

Адказала і сама спалохалася сваіх слоў, бездапаможна глянула на Юльяна.

Той адабральна хітануў галавою, немец усміхнуўся, павярнуўся ды выйшаў з класа. Вечарам, калі яны вярнуліся дамоў, Юльян распавядаў Вользе што яны перад тым, як зайсці ў клас, хвілін пяць стаялі перад дзвярыма і слухалі, як яна праводзіць урок. Юльян за яе вельмі хваляваўся, але немцу спадабалася новая настаўніца, а яе прывітанне - найбольш.

Гэты перыяд у жыцці Вольгі стаў самым значным, самым трывожным, самым шчаслівым і самым няшчасным. Менавіта тут, у Менску, яна стала жонкай Юльяна. Іх збліжэнне адбывалася даволі цяжка. Безумоўна, яны ўжо кахалі адзін аднаго. Кахалі яшчэ з той, першай сустрэчы. Але ж яны не маглі вось гэтак адразу кінуцца адзін аднаму на шыю. Вольга дык і ўвогуле не магла сама зрабіць першы крок, таму што была жанчынай, ёй гэта зрабіць не дазваляла прыродная сціпласць. Акрамя таго, яна ўсё ніяк не магла паверыць, што такі значны чалавек, як Юльян, можа пакахаць яе, такую простую і зусім звычайную дзяўчыну.

Але Юльян пакахаў яе. Вольга стала менавіта той жанчынай, якую ён чакаў і гэтак доўга шукаў. І самы звычайны чалавек, і выбітны шукае таго адзінага, хто яму патрэбен больш за ўсё. Больш за кар'еру, больш за матэрыяльны дабрабыт. Вольга для Юльяна і стала той адзінай. Але Юльян баяўся ў гэтым прызнацца і самому сабе, і Вользе. Найперш ёй, Вользе.

На час сустрэчы з Вольгай тым жнівеньскім вечарам Юльян быў ужо далёка не хлапчуком. Ён меў больш за трыццаць гадоў. За плячыма ў яго быў вялікі багаж, і жыццёвы, і палітычны. Калі б Юльян быў звычайным простым чалавекам, такім, якіх налічваліся тысячы, яго б, зразумела, зусім не стрымлівала даволі значная розніца ва ўзросце паміж ім і Воль-

гай. Справа была ў іншым. Юльян не хацеў для Вольгі таго небяспечнага, неспакойнага жыцця, якое лёсам было наканавана яму самому. Ужо на пачатку дваццатых гадоў, калі ён упершыню ехаў у Вільню, каб здабыць там навуку, ён і сам не думаў, што яму прыйдзецца стаць адным з самых актыўных удзельнікаў змагання супраць польскіх акупацыйных уладаў. Змаганне за незалежнасць Беларусі для яго пачалося яшчэ ў час вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі. Магчыма, калі б Юльян вучыўся ў нейкай іншай навучальнай установе, ягоны лёс склаўся б іншым чынам. Віленская беларуская гімназія на той момант была асяродкам, цэнтрам, дзе выхоўваўся гонар і цвет беларускай нацыі. Амаль усе тыя, хто вучыўся разам з Юльянам, потым спрычыняцца да змагання за незалежнасць Беларусі і ў час бальшавіцкай акупацыі, і ў час нямецкай.

У той час, калі Юльян паступіў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, шмат якім свядомым беларусам ужо надакучыла пальшчызна, але многія паддаліся пад прапаганду Саветаў і палічылі, што савецкая ўлада - гэта значна лепш, чым польская акупацыя. Паддаўся гэтай прапагандзе і малады Юльян Саковіч. Ён стаў сябрам Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, якая некаторы час стаяла на пазіцыях, блізкіх да камуністычных. Юльян нават уступіў у камсамол. У Віленскім універсітэце, куды ён паступіў пасля сканчэння гімназіі, Юльян становіцца сябрам Незалежніцкага Беларускага студэнцкага саюза, куды савецкай уладай актыўна засылаліся камсамольцы, якія павінны былі праводзіць велізарную прапагандысцкую працу ў гэтай моладзевай арганізацыі. Юльян і ягоныя сябры змагаліся за незалежную Беларусь, засланцы-камуністы змагаліся за тое, каб зрабіць з Саюзу цалкам пракамуністычную, паслухмяную арганізацыю.

Юльяна і яшчэ некалькіх сяброў, для якіх уся барацьба мела сэнс толькі ў свабодзе Беларусі, не задавальняла тая справа, якой займаліся ў Саюзе. Тое, што хацелі камуністы, не адпавядала мэтам Юльянавай барацьбы. Гэтае незадавальненне не засталося без увагі з боку пракамуністычных функцыянераў, тым больш, што Юльян заўсёды адрозніваўся праматой свайго характару і не хаваў сваіх уласных поглядаў. Камуністам не патрэбен быў занадта самастойны чалавек. Юльян і яшчэ некалькі яго таварышаў былі выключаныя з Незалежніцкага Беларускага студэнцкага саюзу. Гэтае выключэнне стала першым званочкам для таго, каб Юльян задумаўся ды пачаў больш крытычна адносіцца да савецкай улады. Але цалкам тады яшчэ погляды яго не змяніліся. Памылкі сваіх сяброў з Саюзу ён яшчэ не лічыў за памылкі ўсёй савецкай улады.

Юльян Саковіч у перыяд з канца дваццатых і да пачатку трыццаць дзвятага года практычна ўвесь час знаходзіўся ў польскай турме, з якой яго час ад часу выратоўвалі родныя: бацька прадаваў галандскія сыры і выкупляў сына з турмы - гэта была турма польская, а не ГУЛАГ, хоць турма ёсць усё ж турма. За тыя кароткія перыяды свабоды паміж чарговымі арыштамі ён паспяваў заставацца адным з самых уплывовых змагароў за незалежнасць Беларусі. Нешта такое было ў яго асобе, што нават у турме ён уяўляў сабою вялікую небяспеку для польскіх уладаў. Бесперапынныя арышты не дазволілі яму скончыць універсітэт, але ён увесь час займаўся самаадукацыяй і здолеў стаць адным з самых адукаваных людзей свайго часу і ў сваім асяродку.



***Юльян Саковіч у 1930-я гг.***

Але нават канфлікт у студэнцкім саюзе яшчэ не адбіў канчаткова веру ў савецкую ўладу. Юльян лічыў, што гэта - не ідэалагічны канфлікт, а проста ягоныя сябры па Саюзе самі памыляюцца. У той час Юльян яшчэ верыў, што савецкая ўпада дапаможа беларусам атрымаць незалежнасць. Але якое расчараваньне чакала яго, калі яму давялося сутыкнуцца нарэшце з сапраўднай савецкай уладай. Гэта была зусім не тая ўлада, аб якой трубілі ва ўсе трубы савецкія прапагандысты.

Адразу ж пасля таго, як у Заходняй Беларусі нарэшце ўсталявалася савецкая ўлада, і Юльян марыў аб тым, што зараз ён будзе мець магчымасць усе свае сілы аддаць на справу беларушчыны, яму прыйшлося змяніць польскую турму на савецкую, на турму НКВД. І гэтая турма была нашмат страшнейшай, чым Картуз-Бяроза. У польскай турме яго, прынамсі, каралі за тое, што ён быў ворагам польскай улады. У турме НКВД яго каралі за тое, што ён - беларус. З яго намагаліся зрабіць “ворага народа”, за свабоду якога ён гэтак апантана змагаўся з самай ранняй маладосці. Гэта было крушэнне ўсіх надзей. Турма НКВД выбіла з яго свядомасці апошнія рэшткі ілюзій, што заставаліся яшчэ ў яго наконт савецкай улады. Калі б не пачатак вайны, якую немцы пачалі з Савецкім Саюзам, Юльян, хутчэй за ўсё апынуўся б у Курапатах. Але пачалася вайна, і ў агульным вэрхале ён здолеў уцячы.

Ён паехаў дадому ў свой фальварак Баўдыры, што на Ашмяншчыне. Магчыма, лёс яго склаўся б інакш, калі б палякі зноў не распачалі на яго паляванне. Польская паліцыя, якая хуценька пайшла на службу да немцаў, адразу ўспомніла Юльяну ўсе ягоныя "злачынствы". Зноў над яго галавой навісла смяротная небяспека. Нехта з палякаў данёс немцам, што ён -камуніст. Нейкім цудам Юльяну ўдалося ўцячы са сваіх родных месцаў у Менск, дзе яго менш ведалі.

Ён мог бы, безумоўна, перасядзець вайну, займацца якой-небудзь нязначнай справай, але неспакойная душа яго патрабавала дзеяння. Юльян Саковіч зноў на пярэднім плане барацьбы за незалежнасць сваёй краіны. Яго, неардынарнага, разумнага, інтэлігентнага, адразу заўважылі немцы. Прапанавалі пайсці на працу да іх. Немцы вялі барацьбу з бальшавікамі, акрамя таго, спачатку яны не мелі нічога супраць

беларусаў. Прынамсі, гэта яны дэкляравалі на першых часах сваёй акупацыі ў Беларусі. Юльян пасля працяглых роздумаў пагадзіўся пакуль што супрацоўнічаць з немцамі, маючы на ўвазе працу не на іх, а на беларусаў. Ён лічыў, што на гэты раз з дапамогай немцаў магчыма будзе нарэшце атрымаць незалежнасць для сваёй краіны. Тым больш, што немцы абяцалі дапамагчы беларусам са зброяй.

Ён пачаў шукаць стасункаў з такімі ж, як ён, беларусамі. І практычна ўжо ў першыя дні свайго жыцця ў Менску іх знайшоў. Не адзін Юльян марыў аб свабоднай Беларусі. Аб гэтым марылі і Наталля Арсеннева, і Леанід Маракоў, і многія іншыя, вядомыя і невядомыя. Усіх іх пасля абвінавацяць у калабарацыянізме, у здрадзе Радзіме. Усім ім пасля прыпомняць нямецкі мундзір. Тое, што пад гэтым мундзірам білася гарачае беларускае сэрца, таксама стане "віною" гэтых людзей.

Практычна ўсе беларусы, якія сталі паплечнікамі Юльяна па барацьбе, таксама, як і ён, паспелі ўжо хлебануць "савецкага шчасця" ў турмах НКВД. Некаторыя вярнуліся дзеля беларускай справы з эміграцыі. Юльян Саковіч з паплечнікамі распачынаюць актыўную працу па стварэнні беларускіх вайсковых і паліцэйскіх аддзелаў. Пачынаюць працаваць розныя грамадскія арганізацыі і беларускія школы. Для таго, каб атрымаць уладу, спачатку і патрэбна была дапамога немцаў.

У кастрычніку 1941-га года, у той самы час, калі Юльян ратаваў Вольгу ад немінучай гібелі ў Маладзечне, яго ў Менску прызначылі начальнікам Адміністрацыйнага аддзела Беларускай Народнай Самапомачы (БНС). Немцы ў той час яшчэ давяралі Юльяну. Магчыма, тады яны яшчэ не ведалі пра яго камуністычныя ілюзіі ў час вучобы ў Вільні. Тое, што немцы давяралі Юльяну, не давала спакою палякам, яго непрымірымым ворагам. На Саковіча даносы пасыпаліся цэлым шквалам, пачынаючы практычна з першых дзён яго працы ў Адміністрацыі. Але пакуль што гэтыя даносы не неслі вялікай небяспекі. Немцам ён яшчэ быў патрэбен. Яны яшчэ не здагадваюцца, што Юльян з'яўляецца адным з арганізатараў Беларускай Незалежніцкай Партыі. Гэтая партыя ўжо ўяўляла небяспеку для саміх немцаў, таму што ім патрэбныя былі, як і бальшавікам, толькі паслухмяныя беларусы. Зусім незалежная Беларусь ім была не патрэбная. На той кватэры, дзе жыў Юльян, і дзе знайшла прытулак Вольга, неаднаразова праходзілі сакрэтныя сходы БНП

Кватэра, на якой жыў у той час Юльян Саковіч, знаходзілася нібы на парахавой бочцы. Кожную хвіліну Юльян чакаў, што яго арыштуюць. Таму ён і не хацеў уцягваць Вольгу ў свае надзвычай небяспечныя справы. Такое неспакойнае жыццё і стала падставай дзеля таго, каб ён да апошняга стрымліваў свае пачуцці да дзяўчыны. Але стрымліваць іх было ўсё цяжэй. Кожны дзень бачыць перад сабою каханую жанчыну, кожны дзень чуць яе голас і не мець магчымасці адкрыць ёй сваё сэрца - гэта было невыносна. Гэта было значна цяжэй, чым пераносіць пакуты ў турме. Каханне вяло сваю барацьбу, і каханне перамагло.

Як ні хавалі адзін ад аднаго Юльян і Вольга свае пачуцці, як ні адцягвалі яны тое, што павінна было здарыцца, яно ўсё роўна здарылася. Ні вайна, ні палітычная барацьба не змаглі перашкодзіць каханню. Прырода жыве па сваіх законах. Юльян і Вольга сталі мужам і жонкай.

Юльян надзвычай аберагаў Вольгу ад тых палітычных спраў, якімі займаўся сам, але яна, як кажуць, была ў курсе справы. Практычна ўсё абмяркоўвалася і планавалася на кватэры Юльяна, бо гэта было самае бяспечнае месца. Юльян займаў вялікую пасаду ў Адміністрацыі, сюды наўрад ці прыйшоў бы нехта з праверкай. На кватэры Саковіча і праводзіліся практычна ўсе сходы Беларускай Незалежніцкай Партыі. Тут планаваліся і розныя мерапрыемствы, якімі павінны былі займацца беларусы.

Пра Беларускую Незалежніцкую Партыю патрэбна распавесці асобна. Да сённяшняга дня дакладна не вядома, калі яна была заснаваная. Адныя лічаць, што БНП была заснавана летам 1942-га году, калі ў Менску адбыўся з'езд БНП, які яны лічаць заснавальніцкім. Але маюцца і іншыя звесткі. Па гэтых звестках БНП была заснавана яшчэ ў трыццаць дзевятым годзе ў Вільні. У сорак другім годзе прайшла толькі рэарганізацыя БНП, а не яе арганізацыя. Юльян Саковіч меў самае непасрэднае дачыненне да гэтай партыі. Ён з'яўляўся адным з яе арганізатараў і ачольваў Менскі камітэт. У Менску сябры БНП нават друкавалі падпольны бюлетэнь БНП, але самае галоўнае, сябры гэтай партыі пачалі падрыхтоўку да арганізацыі беларускага партызанскага руху.

На сходах БНП вырашаліся самыя розныя пытанні барацьбы за незалежнасць Беларусі. І гэта была не толькі вайсковая барацьба, барацьба з дапамогай зброі. Незалежнасць любой дзяржавы не можа трымацца толькі на зброі. Часта на сходах разглядаліся пытанні мовы, школы, нацыянальнай царквы. Вольга спачатку адмаўлялася прымаць удзел у гэтых сходах. Яна лічыла, што вырашаць такія сур'ёзныя пытанні - справа выключна мужчынская. Але ёй давялося адзін раз папрысутнічаць на такіх размовах, потым яшчэ раз і яна са здзіўленнем заўважыла, што ёй лроста цікава. Калі-нікалі да яе нават звярталіся па параду, як да арбітра. І кожны раз, калі Вольга давала такую параду, Юльян з гонарам паведамляў сябрам:

- Вось вам голас простай сялянкі!

У гэтую кароткую фразу ён укладаў і сваё захапленне каханай жанчынай, і гонар, што яна такая разумная, разумнейшая нават за яго і за ягоных сяброў.

Вечарамі, калі яны заставаліся адныя, яны часта проста размаўлялі. Часцяком гутарка іх зводзілася да той ролі, якую мелі ў жыцці іх абодвух палякі. І Вольга, і яе сям'я нямала пацярпелі ад гэтых людзей, пра Юльяна дык і казаць ужо не было чаго. Практычна ўся маладосць яго прайшла ў польскіх турмах. Чаму так адбывалася? Палякі ж самі па сабе - гэта ж народ зусім нядрэнны. І ў Вольгі, і ў Юльяна было нямала сярод іх сяброў. Але гэта былі, як трапна казаў Юльян, сапраўдныя палякі, такі ж самы пацярпелы народ, як і беларусы. А вось тыя, хто прымазаўся да палякаў,

такія, як той жа маладзечанскі ксёндз Завадскі - вось гэта былі сапраўдныя ворагі. І справа была зусім не ў тым, што яны лічылі сябе палякамі У такіх людзей увогуле не было нацыянальнасці. Гэта былі людзі без роду. Гэта людзі, якія дня не маглі пражыць без таго, каб не зрабіць некаму шкоду. І зусім не мае значэння, якая гэта была шкода: ці падпаліць чужое гумно, ці напісаць на некага данос. Проста гэтак здарылася, што даносы на Юльяна пісалі менавіта тыя людзі, якія адносілі сябе да палякаў, але яны маглі быць кім заўгодна. Калі б была такая нацыянальнасць, як здраднікі, то гэтым людзям яна як найлепш бы падышла.

З недаверам Юльян адносіўся і да каталікоў, незалежна ад таго, беларусамі яны былі ці палякамі. Юльян часта казаў, што толькі зусім нямногія беларусы-каталікі сапраўды дбаюць пра Беларусь.

- Той не беларус, - казаў Юльян, - хто лапай хрысціцца.

Магчыма, ён памыляўся, і Вольга нават спрабавала з ім спрачацца. Яе якраз выхоўвалі ў талерантнасці і павазе да розных рэлігій. Але пасля яна зразумела, чаму ў Юльяна такія складаныя адносіны з каталіцкай царквой. Недавер да каталікоў можна было патлумачыць тымі сямейнымі абставінамі, якія складваліся ў сям'і Юльяна. Яго маці была каталічкай і не проста каталічкай, а фанатычкай. У той жа час яго бацька быў праваслаўным. Не зусім зразумела, чаму такая фанатычка пагадзілася выйсці замуж за праваслаўнага хлопца, але шлюб іх адбыўся. І была дамова, што ўсіх сыноў яны будуць хрысціць у праваслаўнай веры, а дачок - у каталіцкай. Такое размежаванне не магло не паўплываць на самасвядомасць Юльяна. Але пры ўсёй ягонай нецярпімасці да каталікоў ён меў і шмат сяброў сярод іх. У тым змаганні за Беларусь веравызнанне значэння не мела.

Такім было жыццё Вольгі і Юльяна ў Менску. Вольга не ўсё ведала з таго, чым займаўся Юльян і не належала да ніводнай нелегальнай арганізацыі, якой кіраваў альбо якую арганізоўваў Юльян са сваімі сябрамі. Вольга была проста каханай жанчынай. Гэтага ёй было дастаткова. Тым больш, што хутка ў яе з'явіліся новыя клопаты.

Неяк вечарам - было ўжо даволі позна - яны вячэралі толькі ўдваіх. Нечакана Вольга адчула нейкую незразумелую млявасць. Раптоўна пацямнела ў вачах. Пальцы саслабелі, і лыжка са звонам пакацілася па падлозе. Вольга спалохалася. Што гэта з ёю? Такога ніколі раней не здаралася! Праз імгненне млявасць адышла. Вольга ўздыхнула вальней. Хацела нахіліцца, каб падняцьз падлогі лыжку. Юльян ласкава затрымаў яе руку.

- Ціха, ціха, - прамовіў ён, - не рабі рэзкіх рухаў. Не хвалюйся, даражэнькая, ты зацяжарыла.

Сапраўды, як гэта яна сама не здагадалася, што ў яе арганізме пачаліся нейкія змены. Яна ўжо другі тыдзень адчувала, асабліва раніцай, што ёй неяк нядобрыцца. Але Вольга не надавала гэтаму значэння. Думала, што трохі прастыла. Яна была гэтак радая, што побач з ёю Юльян, што яна мае магчымасць кожны дзень яго бачыць, кожны дзень мець такое шчасце, што ёй нават у галаву не прыходзіла: яна можа стаць яшчэ больш шчаслівай. У яе будзе дзіцятка!

-Я цябе вельмі прашу, Вольга, - казаў Юльян, - беражыся! Не дай Бог, каб нешта здарылася з табою ці з нашым маленькім!

Хуткае нараджэнне дзіцяці - гэта было і агромністае шчасце для іх абоіх, і яшчэ адно выпрабаванне. Вольга разумела, што час зараз надзвычай небяспечны, кожная хвіліна можа кардынальна змяніць жыццё. Гэта не быў час для кахання, для сямейнага шчасця, але сэрца не пытаецца: час ці не час. Вольга ў тыя кароткія імгненні шчасця, што былі падораныя ёй лёсам, дзе кожная хвіліна была цэлым багаццем, забывала і пра вайну, і пра тое, што побач - амаль адныя ворагі.

Юльян жа адчуваў яшчэ больш складаныя пачуцці. Ён быў значна старэйшым, ён быў мужчынам і ён нёс адказнасць і за яе, Вольгу, і за іх будучае дзіця.

У свае трыццаць шэсць гадоў Юльян ужо не быў рамантычным хлопчыкам. Так склаўся яго лёс, што за змаганнем ды амаль што бесперапыннымі адсідкамі ў польскіх турмах, яму не давялося адчуць смак сапраўднага кахання. Магчыма, яму проста не хапала часу ў маладосці знайсці каханую жанчыну, ці лёс знарок не даваў яму магчымасці пакахаць іншую жанчыну, таму што бярог яго дзеля той, адзінай, якая тады яшчэ проста не падрасла. У жыцці нічога не адбываецца выпадкова.

Юльян кахаў Вольгу так, як можа кахаць дарослы мужчына: раз і назаўсёды. Ён хаваў ад Вольгі тое шчасце, якое запаланіла яго пасля таго, як даведаўся, што хутка стане бацькам. Гэта была яго самая найвялікшая мара. Гады ішлі, ён заставаўся адзінокім, а яму гэтак хацелася, каб яго шыю абнялі маленькія, гэтакія родныя ручкі, ручкі яго дзіцяці. Юльян марыў аб сваім бацькоўстве, але зараз, калі мара гэтая вось-вось павінна была здзейсніцца, ён пачаў баяцца гэтага. Як вопытны палітык і вопытны змагар, Юльян не мог не разумець, што тая справа, якой ён зараз займаўся, можа загубіць яго ў кожны момант. Што тады стане з ягонай сям'ёй? Але іншым чынам ён жыць не мог і іншым шляхам пайсці таксама не мог.

Настаў час, калі немцы пачалі патроху разумець, што тыя беларусы, якіх яны ўзялі да сябе на службу, зусім не апраўдваюць іхніх надзеяў. Гэта не былі людзі, гатовыя верай і праўдай служыць Трэцяму Рэйху ды Гітлеру. Гэтыя людзі намагаліся праводзіць сваю ўласную гульню, і гэтая гульня была не на карысць немцам.

Немцам не патрэбная была цалкам незалежная Беларусь. Над Юльянам навіслі чорныя хмары небяспекі. Усе даносы, якія бесперапыннай плынню сыпаліся на яго з боку польскіх даносчыкаў, з нямецкай педантычнасцю ды акуратнасцю ўважліва прагляадаліся і падшываліся ў асабістую справу яго нямецкім начальствам. Справа з кожным днём станавілася ўсё больш пульхнай. Немцы больш не давяраюць Юльяну Саковічу, але і не знішчаюць пакуль што. Яшчэ не прыйшоў час, каб запроста так яго знішчыць: занадта віднай асобай паспеў ён стаць за гэты кароткі час. Юльян здагадваўся, што яго чакае расправа. З ранняй маладосці ён пачаў займацца нелегальнымі справамі

і навучыўся прадчуваць небяспеку. Ён не дзеліцца сваімі трывожнымі прадчуваннямі ні з кім: ні з Вольгай, каб не напалохаць яе ў такім стане, у якім яна зараз знаходзілася; ні з адным са сваіх лепшых сяброў і паплечнікаў Леанідам Мараковым, хоць той і сам аб усім здагадваўся, бо такая ж небяспека навісла і над ім самім. Юльян хавае свае пачуцці ад Вольгі, але яму ўсё цяжэй схаваць свае сапраўдныя адносіны да немцаў. Немцы - такія ж самыя акупанты, якімі былі і бальшавікі. Юльяну ўсё цяжэй стрымлівацца і не сарвацца, ён стараецца трымаць сябе ў руках, але нервовая напруга апошняга часу ўсё ж дала аб сабе знак.

Гэта быў час, калі на тэрыторыі Беларусі ўжо даволі шырока разгарнулася партызанская вайна. Партызаны былі розныя: савецкія, якіх заслала ў беларускія лясы Масква, беларускія, што вялі аднолькавую барацьбу супраць нямецкіх, польскіх ды бальшавіцкіх акупантаў, польскія ў Заходняй Беларусі, якія марылі аб вяртанні Польшчы на "Крэсы Всходне" і якія нарабілі найбольшай шкоды беларускім змагарам за незалежнасць. Былі таксама проста рабаўнікі, якія карысталіся момантам і рабавалі вёскі дашчэнту. Ад усяго гэтага пакутаваў народ, у асноўным, вяскоўцы. Пачасціліся напады на нямецкіх афіцэраў на дарогах. Па сведчанні мясцовых жыхароў напады гэтыя здзяйснялі, часцей за ўсё, савецкія партызаны. Яны не думалі пра тое, што напад на нямецкага афіцэра паблізу вёскі можа нанесці велізарную шкоду насельніцтву. Іх не турбаваў лёс простых беларускіх сялян. Іх не хвалявала тое, што сваімі неабдуманнымі дзеяннямі яны рызыкуюць сотнямі невінаватых жыццяў. Немцы, усё больш раз'юшаныя няўдачамі на фронце, не разбіраліся асабліва, хто вінаваты. Яны пасля кожнага тэрарыстычнага акту пасылалі ў бліжэйшую ад здарэння вёску сваіх карнікаў, і тыя рабілі там тое, што лічылі патрэбным. У некаторых вёсках яны расстрэльвалі усіх мужчынаў, якіх яшчэ знаходзілі, у іншых спальвалі вёску разам з жыхарамі. Юльян Саковіч, як і ўсе астатнія беларускія змагары, быў надзвычай занепакоены лёсам сваіх суайчыннікаў. Да справядлівасці патрэбна адзначыць, што не ўсе і немцы прытрымліваліся той пазіцыі, што за дзеянні савецкіх партызанаў патрэбна караць мірнае насельніцтва. Да такіх нямецкіх службоўцаў адносіўся і гаўляйтэр Кубэ, якога за вальнадумства хутка знішчылі. Па некаторых меркаваннях, Кубэ загінуў не столькі ад рук савецкай падпольшчыцы, колькі ад рук саміх немцаў, якіх не задавальняў больш той, хто спачуваў беларусам.

Адбывалася чарговае паседжанне ў камісарыяце, на якое былі запрошаныя ўсе чыны нямецкай адміністрацыі. Кубэ - ужо апальны, але яшчэ жывы. Юльян Саковіч надзвычай узрушаны рэпрэсіямі супраць беларускага насельніцтва. Нервы напружаныя, што струны. Юльян не вытрымлівае і на нямецкай мове пачынае лаяцца з найбольш агрэсіўнай часткай нямецкай адміністрацыі. Ён перамешвае нямецкую лаянку з добрым славянскім матам. Немцы яго зразумелі. Зразумелі ўсё: і нямецкую мову, і беларускую. Гэта было ўжо занадта. Гэты нахабны беларус, якому нямецкая ўлада аказала такі давер, занадта распусціўся. Такога немцы дараваць не маглі. Проста ў зале паседжання Юльян быў арыштаваны на пяць сутак за парушэнне субардынацыі. Гэта была першая ластаўка на шляху да гібелі. Юльян ужо тады быў упэўнены, што ён больш не вернецца з турмы да Вольгі і да маленькай дачкі, якая на той час ужо паспела нарадзіцца і радавала бацьку сваёй бяззубай усмешкай. Але тады Юльян яшчэ вярнуўся. Ён адседзеў свае пяць сутак і прыйшоў дамоў.


*Юльян Саковіч у 1943 г.*

Яшчэ не настаў час яго знішчыць, але і пакідаць яго ў Менску было непажадана. Юльян гэта разумеў, і сам першы прыняў захады дзеля таго, каб ураТаваць, калі не сябе, дык хоць сваю сям'ю. Ён вырашыў, што будзе лепш, калі яны пераедуць жыць у Маладзечна. Зараз Менск і Маладзечна памяняліся сваімі ролямі: раней Менск ураТаваў Вольгу ад гібелі, зараз Маладзечна было для яе больш бяспечным месцам. Яна зноў апынулася ў бацькоўскай хаце. Родныя сцены на гэты раз далі прытулак не толькі ёй, але і яе сям'і.

Сам Юльян яшчэ заставаўся працаваць у Менску, але жыў разам з Вольгай у Маладзечне. Тыя некалькі месяцаў, калі яны пераехалі ў Маладзечна, сталі самымі шчаслівымі ў жыцці Вольгі. Вольга, якая, як і ўсе дзяўчаты, некалі запоем учытвалася ў раманы пра каханне, сама зараз, нібы літаратурная гераіня, адчувала тыя самыя пачуцці.

Бацькі Вольгі добра прынялі Юльяна. Яны бачылі, якое шчасце свяцілася ў вачах дачкі, бачылі, з якой любоўю адносіцца Юльян і да жонкі, і да дачкі, і радаваліся, што Вольга знайшла сваё шчасце. Але радасць была з горыччу. Доўгімі бяссоннымі начамі бацька і маці не спалі, ціха перамаўляліся, абмяркоўвалі розныя спосабы, якім чынам можна выратаваць Юльяна, над якім, яны гэта адчувалі, навісла смяротная небяспека. Але што маглі зрабіць простыя беларускія сяляне? Яны маглі толькі прасіць Бога, каб быў літасцівы да іх сям'і.

А Юльян на поўныя грудзі глытаў сваё сямейнае шчасце, першае і апошняе. Бацькі Вольгі здзіўляліся тым пяшчотным пачуццям, якія Юльян, гэты загартаваны ў палітычным змаганні чалавек, меў да сваёй маленькай дачкі. Побач з ёю гэта быў зусім іншы чалавек. Некуды дзявалася суворасць, напружанне. Гэта быў проста добры, пяшчотны бацька.

Адразу пасля нараджэння маленькай Волечкі было заведзена, што купалі яе толькі ў прысутнасці Юльяна, і ён прымаў самы непасрэдны ўдзелу гэтай нялёгкай справе. Бацька Вольгі толькі ўсміхаўся такім дзівацтвам зяця. У беларускіх сем'ях не было прынята, каб мужчына хадзіў каля дзяцей. Гэта была выключна жаночая справа, мужчыны мелі шмат іншых тур-

бот. Юльян жа Волечку купаў кожны дзень. Часамі здаралася, што ён доўга недзе затрымліваўся, прыходзіў час купання, а яго ўсё не было. Маці Вольгі, шкадуючы ўнучку, якую патрэбна было класці спаць, настойвала на купанні без Юльяна. Дзяўчынку купалі, кармілі і клалі спаць. Заяўляўся Юльян.

- Ну што, будзем купаць дачушку? - бадзёра пытаўся ён у родзічаў.

І яны не асмельваліся адабраць у яго тую маленькую радасць, якая ў яго яшчэ была. Ён так ніколі і не даведваўся, што дзіця ўжо выкупанае. Зноў маці Вольгі даставала з печы чыгунок з цёплай вадою. Прыносілі з сенцаў начовачкі. Маленькую Волечку купалі яшчэ раз, чым яна была надзвычай задаволенай.

Юльян не проста любіў сваю дачку, як любяць сваіх дзяцей іншыя бацькі. Гэта было захапленне, любоў проста бязмежная. Малая адказвала яму тым жа. Яна нібы адчувала, што радасць мець бацьку будзе ў яе вельмі непрацяглая. Волечка ніколі не плакала на руках у бацькі. Першае слова, якое ў яе выпадкова атрымалася, было: "Та-та-та".

Неяк у нядзелю Юльяну не патрэбна было нікуды спяшацца. Гэта былі надзвычай рэдкія хвіліны, калі ён меў магчымасць заставацца разам са сваёю сям’ёю. Яны сядзелі разам з Вольгай на канапе. Юльян зняў з рукі гадзіннік.

- Гэта не звычайны гадзіннік, а імянны, - распавядаў Юльян, - я атрымаў яго яшчэ падчас вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі за поспехі ў вучобе. Прайшло гэтулькі гадоў, дзе ён толькі не быў, гэты гадзіннік, у якія абставіны не трапляў, а я яго яшчэ ніводнага разу не рамантаваў.

Раптам маленькая Волечка, якая дагэтуль спакойна сядзела на бацькавых руках і нават трошкі прыдрамала, выхапіла з рук бацькі гадзіннік і з усяе сілы кінула ў кут. Ад гадзінніка ў розныя бакі пасыпаліся дэталькі. Вольга знямела; гэта ж рэліквія, талісман!

Юльян некалькі імгненняў няўцямна пазіраў на тое, што яшчэ зусім нядаўна было яго гадзіннікам, а зараз стала грудком непатрэбнага друзу, а пасля зарагатаў. Ён рагатаў гэтак моцна, што з кухні прыбегла напалоханая маці Вольгі. Яна даўно ўжо не чула смеху ад свайго зяця.

- Паглядзіце, якая моцная ў мяне дачка! - усклікнуў Юльян і высока падкінуў пад столь Волечку, якая таксама ажно залівалася ад свайго дзіцячага шчаслівага смеху.

Гэта былі апошнія хвіліны, калі Юльян быў разам з сям’ёю. Праз некалькі дзён ён вярнуўся вечарам пахмурны, нейкі нават счарнелы, нібы ноч. Узяў на рукі Волечку, доўга прыціскаў яе да грудзей, цалаваў то у адну пульхную шчочку, то ў другую. Хаваў ад жонкі твар, але яна заўважыла, як па шчацэ мужа павольна пацякла буйная сляза. Сэрца трывожна затрымцела: нешта здарылася! Юльян моўчкі перадаў дачку на рукі Вользе, трошкі памаўчаў, нібы не асмельваючыся нешта паведаміць. Пасля ціха прамовіў:

- Мяне пераводзяць у Ліду. Заўтра раніцай еду. Ты збяры мне ў чамадан тое-сёе.

- А я? - ледзь не шэптам запытала Вольга. Нейкая незразумелая трывога запала ў душу. Юльян часцяком некуды ехаў, але ніколі яшчэ Вольга так за яго не трывожылася, хоць кожны раз ён вельмі рызыкаваў.

- Ты з Волечкай пакуль што застанешся тут, у бацькоў. Я, як толькі ўладкуюся, адразу забяру вас, а пакуль што там няма дзе жыць, - Юльян рабіў намаганне гаварыць спакойна, але гэта яму не вельмі ўдавалася.

Вольга моўчкі хітанула галавою ў знак таго, што ўсё зразумела, і пайшла прасаваць ды складваць у чамадан Юльянавы кашулі

Ён паедзе! Яна застанецца адна! Колькі часу ёй давядзецца быць без Юльяна? Тыдзень? Месяц? Вольга не ведала, што без яго яна змушана будзе заставацца ўсё астатняе жыццё. Лёс рыхтаваў ёй расстанне з каханым чалавекам назаўсёды.

Юльян прысеў за стол, задумаўся, пасля пачаў нешта хуценька пісаць. Асадка толькі мільгала ў ягоных пальцах. Закончыў, перачытаў, звярнуўся да Вольгі:

- Я заўтра паеду. А гэтую паперку пакладу ў шуфляду. Ты, Волечка, заўтра, калі я ўжо паеду, пачытай яе. Гэта важна.

Вольга моўчкі пагадзілася. Гаварыць яна не магла. Слёзы душылі, не давалі вольна дыхаць.

Пасля настала ноч. Гэта была апошняя ноч, калі яны былі разам.

Назаўтра, калі Юльян паехаў, а Вольга разам з маці ўволю наплакаліся, пры тым, яны нават самі не ведалі, чаго плачуць, Вольгу нечакана нібы працяло: яна ўспомніла пра тую паперку, якую ўчора напісаў Юльян. Што гэта за паперка? Магчыма, там меліся нейкія важныя даручэнні, а яна забыла пра яе! Дрыжачымі ад хвалявання рукамі яна выцягнула з шуфляды невялікі белы чатырохкутнік. Разгарнула. Тое, што там было напісана, нібы маланкай ударыла яе. Гэта было не проста ўражанне, гэта быў шок. Невідушчымі вачыма хвілін дзесяць няўцямна пазірала Вольга на чорныя, хуткія літары.

*"Тэстамэнт. На выпадак маёй сьмерці спадчына.*

*Я, Саковіч Юльян, знаходзячыся ў добрай памяці і па добрай волі, у выпадку маёй сьмерці аддаю ў спадчыну 40 гектараў зямлі, якія належаць мне ў фальварку Баўдыры, а таксама ўсю маю рухомую і нерухомую маёмасьць маёй дачцы Маланцы (хрышчанай Вользе). Да дасягненьня ёю паўналецьця распараджацца маёй маёмасьцю даручаю маёй жонцы Вользе Пагуда.*

*Маладэчна 9 чэрвеня 1943 года."*

На жудасны вокліч Вольгі з кухні прыбегла маці, з вуліцы ўскочыў у хату напалоханы бацька.

- Што здарылася? - занепакоілася маці, - дзе Волечка?

Яна кінулася да ложка, дзе мірна пасопвала яе ўнучка. Убачыла, што з унучкай усё ў парадку, звярнулася да дачкі.

- Волечка, дачушка, што здарылася? Скажы нам, дачушка! - трэсла яна за плячук бледную, не падобную на самую сябе, Вольгу.

- Мама, - ледзь здолела вымавіць Вольга, - я больш ніколі не ўбачу Юльяна!

- Што ты такое гаворыш, дачушка! - паспрабавала супакоіць яе маці, - чаму гэта ты яго больш не ўбачыш? Праз нейкі тыдзень прыедзе, забярэ вас з Волечкай. Ён жа цябе гэтак любіць!

Вольга не слухала таго, што казала ёй маці.

- Вось, глядзі, што ён мне пакінуў, - яна працягнула маці тэстамэнт.

Тая некалькі разоў запар перачытала некалькі радкоў, якія гэтак напалохалі яе дачку. Маці, мудрая жанчына, усё зразумела ўжо даўно. Яна кожны дзень чакала гэтага, але яна ж не магла палохаць дачку. У той і так выдаўся няпросты лёс. Бацькі Вольгі даўно ўжо мелі падазрэнне, што зяця яны будуць мець вельмі нядоўга, але Вольгу патрэбна было супакойваць. У яе на руках малое дзіця, ёй патрэбен спакой, хоць аб якім спакоі магла весціся гаворка ў тыя жудасныя часы?!

- Не хвалюйся так, дачушка, - супакойвала маці, - паглядзіш, усё будзе добра. Проста зараз такі час, а Юльян такі важны чалавек, што патрэбна аб усім паклапаціцца заранёў. Гэта проста паперка, аб якой не варта нават і думаць, - казала маці, але ў вачах яе таксама затаілася глыбокая трывога.

Тое, што казала маці, зусім не супакойвала Вольгу. Хутчэй, наадварот. Час быў трывожны ўжо каторы год для Юльяна, тэстамэнт жа ён напісаў упершыню.

... Калі ў хату раптам забегла напалоханая Зіна і адразу з парога паведаміла: "Юльяна больш няма!", Вольга нечакана спакойна адказала: "Я ведаю". Праўда, пасля яна не памятала, што ў той дзень прыбягала Зіна, і што яна першая прынесла гэтую жудасную вестку, як і не памятала Вольга свайго адказу сяброўцы. Пра смерць Юльяна Зіне паведаміў усё той жа швагер Стэфан. Адкуль ён ведаў гэтыя падрабязнасці, ён, зразумела, Зіне не паведамляў, але ведаў Стэфан пра смерць Юльяна, калі не ўсё, дык шмат чаго. Ён паведаміў пра тое, што Юльян загінуў, калі аб гэтым не ведаў яшчэ ніхто: ні з боку немцаў, ні з боку Юльянавых паплечнікаў. Магчыма, Стэфан ведаў больш, чым немцы па гэтай справе таму, што ён быў паляк, а Юльяна, як вядома, забілі тэрарысты з Арміі Краёвай. Вядома ж, пры несупраціўленні гэтаму злачынству з боку тых жа немцаў.

Вольга знаходзілася ў нейкім незразумелым стане. Рэчаіснасць да яе даходзіла не суцэльным шэрагам, якім яна была на самой справе, а нейкімі кавалкамі. Вольга то ўспамінала, то зноў забывала падрабязнасці таго жудаснага часу. Вось Зіна паведамляе ёй пра тое, што Юльян загінуў, вось нейкія людзі аб нечым перамаўляюцца з бацькамі Вольгі. Вось ёй дапамагаюць сабрацца, яна едзе ў цягніку. Едзе на пахаванне каханага чалавека. Побач з ёю дзве сястры Гурыновічаў, сяброў Юльяна. Яны, гэтыя маладзенькія дзяўчаткі, ні на хвіліну не пакідаюць Вольгу адну. Зіны побач няма. Яна не паехала разам з сяброўкай, каб падтрымаць яе ў гэты цяжкі час. Шмат пазней яна патлумачыць гэта тым, што яе папярэдзіў Стэфан, каб яна ні ў якім разе не ехала ў Ліду на пахаванне. Там, казаў Стэфан, яе могуць забіць. Зіна не паехала, хоць Вольга працяглы час думала, што гэта яна была побач. Вольга перыядычна трызніла ў той час, таму ў памяці яе засталіся толькі кароткія эпізоды. Шмат пра што яна магла ўспомніць толькі з дапамогай сяброў.

.. Яны прыехалі ў Ліду. Дабраліся да могілак, дзе ўжо ў гэты час святар чытаў заўпакойную малітву. Вялікая брацкая магіла. Тры дамавіны. Каля дамавінаў Леаніда Маракова і яшчэ аднаго маладога хлопчыка галосяць родныя. Сясцёр Гурыновічаў папярэдзілі, каб яны не падпускалі блізка да дамавіны Юльяна Вольгу. Тое, што на пахаванні прысутнічае жонка Юльяна, ведалі лічаныя людзі. Яе прысутнасць старанна хавалася ад староннягa вока. Забойцы былі побач.

Вольга чула жалобны гул званоў, плач, гоман людзей, бачыла нечыя твары. Раптам у вачах пацямнела, усё некуды паплыло: паплыла царква, дрэва, прыхінуўшыся да якога яна стаяла, паплыў людскі натоўп. Калі яна расплюшчыла вочы ды падняла галаву, натоўпу вакол ужо не было. Яна ўбачыла, што сядзіць на нейкай лаўцы, злева ад яе вялізная гара - насып на брацкай магіле, крыж. Насупраць яе стаіць хлопчык і ўважліва зазірае ёй у твар. Хлопчык заўважыў, што Вольга ачнулася, прамовіў:

- Пайшлі, цёця.

Вольга не ведала, што гэта за хлопчык, куды ён яе запрашае. З цяжкасцю яна разумела, дзе знаходзіцца і навошта. Яны пайшлі па нешырокай сцяжынцы, якая падзяляла могілкі амаль што на дзве роўныя часткі. Выйшлі за вароты, перайшлі на другі бок вуліцы. Зайшлі ў нейкі двор. У хаце, у зусім незнаёмых для Вольгі людзей адбывалася памінанне яе мужа і ягоных сяброў, што загінулі разам з ім.

Вольга вярнулася назад у Маладзечна. Зноў цягнік, зноў побач сёстры Гурыновічы. Дома Вольга ўбачыла чорную хустку на галаве ў сваёй маці, апухлы ад слёз твар. Бацька маўчаў, толькі мацней прыціскаў да грудзей маленькі жывы камячок, сваю ўнучку. Яны нічога не распытвалі ў Вольгі. Яна таксама маўчала, не вымавіла ані слова пасля таго, як патрапіла ў сваю родную хату. Моўчкі пайшла ў свой пакой, які яшчэ некалькі дзён таму быў не толькі яе, але і Юльянавым *Маці паціху ўвайшла ў пакой услед за Вольгай, разаслала ложак..."*

Жывучы ў Літве, сям'я Юльяна Саковіча - дачка Вольга Саковіч і яе маці Вольга, маючы ў доме дзве пенсіі і адну заработную плату - сабралі грошы на помнік груntоўны, але заставалася пытанне - наколькі дакладна вызначана магіла Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова.

22.XI- 2006 г. дамовіўшыся са сп. Галінай Ваўчок і ўзяўшы інструмент - рыдлёўкі, лом і г. д. ды двух работнікаў на "біржы працы" мы прыйшлі на могілкі і пачалі адкопваць былую магілу Валянціна Ваўчка.

Натрапілі на падмурак помніка па Валянціну Ваўчку - адсунулі яго ў бок (на былую дарожку, на някопаную зямлю). Ніжэй ляжаў помнік Валянціна Ваўчка з надпісамі.

Я ўдакладніў межы магілы на захад і ўсход, замераў месца магілы адносна магілы Канстанціна







**Стары помнік па Валянціну Ваўчку, знойдзены падчас раскопак на месцы, паказаным Галінай Ваўчок**

Кішкеля і Мікалая Сямашкі, зрабіў эскіз з замерамі ў сантыметрах, зрабіў фотаздымкі, і магілу Валянціна Ваўчка засыпалі. Так у прысутнасці сп. Галіны Ваўчок, роднай сястры Валянціна Ваўчка было дакладна установлена месца пахавання ў супольнай магіле Валянціна Ваўчка, Юльяна Саковіча, Леаніда Маракова.

25.XII-2006 г. быў заказаны выраб помніка па ўзору Вольгі Саковіч (дачкі Юльяна Саковіча) да 01.VI-2007 года.

З вялікім клопатам, са згрызотаю і пераменамі, з "памылкай" ў даце нараджэння (спраўленай ў 2010 годзе) - помнік быў усталяваны і асвечаны 27.X-2007 года ў прысутнасці сп. Галіны Ваўчок, Вольгі Саковіч, Валерыя і Яніны Мараковых.

На чорных надмагільных мармуровых плітах выбіты радкі з вершаў

Валянціна Таўлая: на магіле яго стрыечнага брата Валянціна Ваўчка:

*"... мы ўлюбіўшыся насмерць*
*у шляхі, пракладзеныя ў заўтра,*
*навучылі песню разумець,*
*што ў змаганні і загінуць варта."*

Ларысы Геніюш - на магіле Ю. Саковіча:

*"Колькі б гора не было прад намі,*
*Колькі б цяжкіх не лягло дарог,*
*Пройдзем імі, калі будзе з намі*
*Еднасць, згода і Вялікі Бог."*

Валерыя Маракова - на магіле брата роднага - Леаніда Маракова:

*"О, Беларусь, ці чуеш ты, ці чуеш?*
*Твой лепшы сын распяты за цябе,*



**Айцец Дзмітры асвячае помнік па Валянціну Ваўчку, Юльяну Саковічу і Леаніду Маракову**



***Злева направа: Яніна Маракова - жонка сына Леаніда Маракова, айцец Дзмітры, Вольга Саковіч - дачка Юльяна Саковіча, Галіна Ільінічна Барысевіч (Ваўчок) - родная сястра Валянціна Ваўчка, Валеры Маракоў - сын Леаніда Маракова.***



***Злева направа: Галіна Ільінічна Барысевіч (Ваўчок) - родная сястра Валянціна Ваўчка, Вольга Саковіч - дачка Юльяна Саковіча, Валеры Маракоў - сын Леаніда Маракова, Яніна Маракова - жонка сына Леаніда Маракова, Зміцер Маракоў - унук Леаніда Маракова.***



***Помнікі па Кастусю Кішкелю, Валянціну Ваўчку, Юльяну Саковічу, Леаніду Маракову, Ільі Кіслым і Язэпу Пінкевічу***

*Няўжо ў грудзёх тваіх панує*
*Яго вялікіх дум разбег!”*

Пад “Дзяды” 2008 года тут жа быў усталяваны помнік па Ільі Кіслым і Язэпу Пінкевічу. Помнік устаноўлены на сродкі Вольгі Саковіч і асвечаны айцом Дзмітрыем 29.09.2008 г. На надмагільных плітах вершы Ларысы Геніюш.

Па Ільі Кіслым:
*“Недасказана, нязроблена так многа,*
*неадпомшчана за слёзы і за кроў.*
*Я пакіну вам мае трывогі.*
*Я пакіну вам маю любоў...”*

Па Язэпу Пінкевічу:
*“... Няхай сэрцу змучанаму сьніцца*
*пах вясны, вішнёвы белы дым,*
*залатая сонца калясніца,*
*вольны сьцяг і пераможны гімн.”*

На магіле Кастуся Кішкеля застаўся аўтэнтычны помнік, пастаўлены роднымі.

І на ўсіх помніках, як пароль, выбіты словы **“Загінулі за Бацькаўшчыну”**.

***Уладзімір Хрышчановіч.***

***Здымкі Ўладзіміра Хрышчановіча.***

*(Гэта апошні краязнаўчы артыкул Уладзіміра Хрышчановіча, вечная яму памяць.)*

**Літаратура:**

1. Энцыклапедыя гістрыі Беларусі. Т. 1. Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі. Мінск, 1993.
2. Энцыклапедыя гістрыі Беларусі. Т. 6. Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі. Мінск, 2001.
3. Bielaruski holas. № 25, 25 чэрвеня 1943, Вільня.
4. Беларуская думка. № 1, кастрычнік 1960, Нью-Ёрк, ЗША
5. Лілія Сазанавец. Мадонна. ТБК у Літве. Вільня, 2001.
6. Леанід Маракоў. Валеры Маракоў. Лёс, хроніка, кантэкст. Беларускі кнігазбор. Менск, 1999.

---

14 чэрвеня 2013 года на Лідскіх праваслаўных могілках была адпраўлена памінальная ліцця ў памяць дзеячоў беларускага нацыянальнага руху і святароў, якія пахававаны альбо былі пахаваны тут.

Асноўнай нагодай сталася тое, што 13 і 14 чэрвеня споўнілася 70 гадоў з дня смерці дзеячоў Беларускай незалежніцкай партыі Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова, а таксама Валянціна Ваўчка.

Ліцію адпраўлялі Лідскі дабрачынны айцец Расціслаў Салаўёў, святары Ўладзімір Камінскі і Дзмітры Тарарака. Ад першага да апошняга слова ліція адпраўлялася на беларускай мове, на мове, дзеля якой у тым ліку жылі і паміралі сябры БНП.



# Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.

***(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)***

## Парафія Ляцкая

**1.**

**Парафіяльны Ляцкі касцёл** знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, вёскі і мястэчкі парафіі па алфавіту:

**Агароднікі** (Ogrodniki), вёска васпана Сцыпіёна, на летні поўдзень міля.

**Альбінаўцы** (Albinowce), таго ж васпана разам з васпанам Скіндарам, на летні ўсход малая міля.

**Андрушаўцы** (Andruszowce), васпана Ельца двор, вёска і дзве карчмы, капліца рускага абраду (уніяткая - *Л.Л.*), у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, чвэрць мілі ад касцёла Ляцкага.

**Балі** (Bale), належыць Ляцкай плябані, ксяндзам-піярам шчучынскім і васпану Скінадару, на летні поўдзень адна міля.

**Барсукі** (Borsuki), васпана Сцыпіёна, на летні ўсход малая міля.

**Барысаўка** (Borysowka), васпана Скіндара, у кірунку паміж захадам і летнім поўднем палова мілі ад касцёла.

**Вайкалы** (Wojkaly), васпана Александровіча, паміж поўднем і летнім захадам палова мілі.

**Вызгі** (Wyzgi), васпана Чэпіка і Свяцкіх, на летні ўсход вялікая міля.

**Высокі Ляцк** (Wysokie Lackie), двор васпана Скіндара, на захад чвэрць мілі.

**Галубкі** (Holubki), вёска васпана Ельца, на летні ўсход чвэрць мілі.

**Гельна** (Gelna), фальварак васпана Тызенгаўза з карчмой, на летні поўдзень адна вялікая міля.

**Дамуцёўцы** (Damuciowce), васпана Сцыпіёна, на зімовы ўсход адна малая міля.

**Догі** (Dogi), вёска таго ж васпана Сцыпіёна, частка вёскі належыць плябані Ляцкай, а частка ксяндзам-піярам шчучынскім, там жа дзве карчмы, адна васпана Сцыпіёна, другая належыць ксяндзам-піярам шчучынскім, у кірунку паміж поўднем і зімовым усходам адна міля.

**Доўгая** (Dowha), належыць плябані Ляцкай разам з малой карчмой, на зімовы захад палова мілі.

**Дубраўляны** (Dubrowlanie), належыць плябані Ляцкай, васпану Сцыпіёну і ксяндзам-піярам, тут ёсць карчма васпана Сцыпіёна, на зімовы поўдзень адна сярэдняя міля.

**Захарамяла** (Zahoremiala), васпана Сцыпіёна з карчмой, на летні ўсход малая міля.

**Крывасёлкі** (Krzywosiolki), васпана Александровіча, на поўнач адна міля.

**Кухары** (Kucharze), вёска васпана Александровіча, тут жа карчма пад такой жа назвай васпана Скіндара, на зімовы захад палова мілі.

**Куверкі** (Kuwerki), васпана Скіндара, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам малая міля.

**Кулакі** (Kulki), ксяндзоў-піяраў, на зімовы ўсход палова мілі.

**Карлаўшчына** (Karlowszczyzna), двор васпана Скіндара, на летні захад палова чвэрці мілі.

**Калечыцы** (Kaleczyce), васпана Сцыпіёна з карчмой, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам вялікая міля.

**Кузьмы** (Kuzmy), васпана Якімовіча, на летні захад міля.

**Лукаўцы** (Lukowce), васпана Сцыпіёна з карчмой, на летні ўсход міля.

**Ляцк** (Lack), вёска, якая мае некалькі дамоў, і ў якой касцёл парафіяльны ёсць пунктам, ад якога чыніцца апісанне парафіі, сама вёска з карчмой належыць плябані.

**Навасады** (Nowosady), фальварак і вёска васпані Бараноўскай, на поўнач палова чвэрці мілі.

**Намейкі** (Nomejki), вёска і карчма васпана Скіндара, на летні захад чвэрць мілі.

**Няліта** (Nielita), карчма васпана Скіндара, у дзвесце крокаў ад касцёла на зімовы захад.

**Пілоўцы** (Pilowce), васпана Тызенгаўза, вёска ўніяцкага і лацінскага абраду, там жа і карчма, на зімовы захад сярэдняя міля.

**Пратасаўшчына** (Protasowszczyzna), фальварак васпана Тузенгаўза, на зімовы захад сярэдняя міля.

**Пуроўцы** (Purowce), ксяндзоў-піяраў, у кірунку паміж поўднем і летнім захадам адна вялікая міля.

**Рагачы** (Rohacze), ксяндзоў-піяраў, на зімовы ўсход чвэрць мілі.

**Радзяёўшчына** (Radziejowszczyzna), фальварак ксяндзоў-піяраў, палова чвэрці мілі на зімовы ўсход.

**Рамантоўшчына** (Romantowszczyzna), фальварак васпана Баровіча, у кірунку паміж усходам і зімовым поўднем палова чвэрці мілі.

**Салагубаўцы** (Salohubowce), таго ж васпана Александровіча з карчмой, на летні ўсход вялікая міля.

**Сеўкі** (Siewki), ксяндзоў-піяраў, на летні ўсход сярэдняя міля.

**Скаргі** (Skruhy), васпана Ельца з карчмой, на поўнач чвэрць мілі.

**Скоржыкі** (Skorzyki), васпана Віткевіча, на летні поўдзень вялікая міля.

**Старадворцы** (Starodworce), двор, вёска і карчма васпана Александровіча, паміж поўначчу і летнім усходам адна сярэдняя міля.

**Тапілішкі** (Topieliszki), васпана Сцыпіёна з карчмой, на летні ўсход вялікая міля.

**Халескаўшчына** (Chaleckowszczyzna), фальварак васпана Сцыпіёна з карчмой, на летні захад чвэрць мілі.

**Чаплічоўшчына** (Czapliczowszczyzna), фальварак васпана Сцыпіёна, у кірунку паміж усходам і зімовым поўднем адна сярэдняя міля.

**Шоркіна** (Szorkini), таго ж васпана Александровіча з карчмой, на поўнач вялікая міля.

**Яўлашы** (Jawlosze), вёска васпана Скіндара з карчмой, на летні захад палова мілі.

**2.**

Ад гэтага парафіяльнага касцёла, наступныя суседскія касцёлы:

**Каменка**, касцёл парафільны ў тым жа павеце і дэканаце, на землях васпана Тызенгаўза, на зімовы захад вялікая міля.

**Шчучын**, касцёл парафіяльны на землях васпана Сцыпіёна, у павеце і дэканаце Лідскім, на зімовы ўсход адна вялікая міля.

**Дэмбраў**, касцёл парафіяльны, калісьці філія Ляцкага касцёла на землях васпана Тызенгаўза, паміж поўднем і летнім захадам вялікая міля.

**Васілішкі**, касцёл парафіяльны ў старостве васпана Александровіча, у павеце і дэканаце Лідскім, паміж поўначчу і летнім усходам тры мілі.

**Новы Двор**, касцёл парафіяльны ў старостве васпана Ромера, паміж захадам летнім і поўначчу тры вялікія мілі.

**3.**

**Найзначнейшыя гарады каля Ляцкага касцёла:**

**Ліда**, судовы горад, на летні ўсход восем вялікіх міль.

**Гародня**, сталічны горад, паміж поўднем і летнім захадам восем вялікіх міль.

**4.**

Дарога **з Ляцка да Ліды**, няроўная, месцамі ідзе праз зараслі, выбоістая і крывая.

Дарога **з Ляцка да Гародні**, не трамбаваная, прамая, праз тры мілі вельмі пясчаная.

**З Ляцка да Ліды** як летам, так і ўзімку дзень язды.

**З Ляцка да Гародні** дзень язды як летам, так і ўзімку.

**5.**

Стаў **васпана Ельца**, невялікі, зарослы, на рацэ Спушы, калі ехаць да Ліды, управа на летні ўсход чвэрць мілі ад Ляцка.

Два малыя ставы належаць **Ляцкай плябан**і, адзін на рацэ Спушы, другі на рацэ Трудаўцы, якая пачынаецца за трыста крокаў ад плябані ў кірунку паміж поўначчу і летнім усходам.

Стаў **васпана Скіндара** на рацэ Спушы, на летні захад палова чвэрці малой мілі ад касцёла Ляцкага.

Стаў **васпана Сцыпіёна** на рацэ Спушы, на летні захад палова чвэрці малой мілі ад касцёла Ляцкага.

Стаў **васпана Сцыпіёна** на рацэ Спушы каля фальварка Халяцкоўшчына палова чвэрці сярэдняй мілі на летні захад.

Стаў **васпана Скіндара** на той жа Спушы, калі ехаць на Гародню, улева паміж поўднем і летнім захадам чвэрць сярэдняй мілі.

**6.**

Значнага лесу ва ўсёй парафіі няма, найчасцей адкрытае поле, у многіх месцах ёсць па некалькі моргаў зарасляў і хмызняку, ёсць лес на самай поўначы, за дваром Старадворцы васпана Александровіча, гэты лес даўжыні і шырыні мае чвэрць вялікай мілі, для будоўлі добрага дрэва няма, расце дуб, елка і бяроза. Лясы васпана Скіндара і васпана Сцыпіёна маюць



бярозу, вольху, дуб, знаходзяцца за дваром Высокі Ляцк, маюць даўжыні і шырыні чвэрць вялікай мілі, зімовы захад.

**7.**

**Млыны гэтай парафіі:**

Млын **васпана Ельца**, на летні ўсход чвэрць мілі.

Млын на **рацэ Спушы**, належыць плябані Ляцкай, паміж летнім усходам і поўначу, ад касцёла парафіяльнага Ляцкага праз трыццаць геаметрычных шнуроў.

Млын другі **плябані Ляцкай** на рацэ Трудаўцы, якая пачынаецца з крыніц за пяцьсот крокаў ад плябані.

Млын **васпана Скіндара** каля двара Карлаўшчына на рацэ Спушы, палова чвэрці мілі на летні захад.

Млын і валюш **васпана Сцыпіёна** каля фальварка Халескаўшчына, на летні захад чвэрць мілі.

Млын **васпана Скіндара**, каля двара Высокі Ляцк, на рацэ Спушы, на захад чвэрць мілі.

**8.**

**Партыкулярныя дарогі і публічныя тракты:**

**Дарога ад касцёла Ляцкага да карчмы Андрушоўцаў**, паміж поўначчу і летнім усходам, утрамбаваная, ідзе полем па землях васпана Ельца, з левага боку двор, ад двара крута ўправа і далей праз лес да карчмы ў Старадворцах, дзе з левага боку двор васпана Александровіча, а адтуль да вёскі Калечыцы праз лес, далей прама да ксяндзоў-францішканаў шайбакпольскіх, далей управа да Васілішак публічным трактам Лідскім і Віленскім.

**Дарога да Каменк**і, дзе ёсць касцёл парафіяльны, на зімовы захад, полем да карчмы Халескаўшчына васпана Сцыпіёна, потым дарога ідзе ўлева, праз лес васпана Скіндара і васпана Тузенгаўза каля варот фальварка Пратасаўшчына таго ж васпана Тызенгаўза, потым праз вёску Пілоўцы, дзе і заканчваецца парафія, адтуль дарога ідзе ўправа да Каменкі.

**Дарога да Дэмбрав**а, на захад, дзе касцёл, які раней быў філіялам касцёла ў Ляцку, полем, каля карчмы Халескаўшчына васпана Сцыпіёна, потым дарога ідзе ўправа праз вёску Яўлашы васпана Скіндара, потым управа пясчаным гарадзенскім гасцінцам вялікая міля.

**Дарога да Ятвескага касцёла**, на зімовы поўдзень, які быў калісьці філіялам Ляцкага касцёла, а зараз ксяндзоў-піяраў, дарога ідзе праз зараслі, хмызняк і вёскі Догі і Дубраўляны.

**Дарога да Шчучынскага парафіяльнага касцёл**а, пачынаецца ад касцёла Ляцкага, на зімовы ўсход, прама праз лясок ксяндзоў-піяраў, каля фальварка тых жа ксяндзоў-піяраў, далей управа, праз вёску Дамуцёўцы, якая мяжуе з парафіяй Шчучынскай.

Парафія Ляцкая не мае межаў ваяводскіх і павятовых, яна цалкам, з усімі вёскамі і мястэчкамі ляжыць у Лідскім павеце.

*Гэтае апісанне парафіі подпісам сваёй рукі падцвярджаю, ксёндз* ***Міхал Курчэўскі****, плябан Ляцкі.*

## Парафія Навадворская

Касцёл парафільяны ў мястэчку **Новы Двор** у павеце і дэканаце Лідскім, вёскі і мястэчкі гэтай парафіі па-алфавіту:

**Астрына** (Ostryna), мястэчка і двор васпана Зянковіча, старасты астрынскага, на поўдзень вялікая міля.

**Баклажнікі** (Baklazniki), карчма васпана Сцыпіёна, пры ёй руская (ўніяцкая) вёска, паміж поўднем і зімовым усходам паўтары мілі.

**Баравыя** (Borowce), адзін дом васпана Александровіча, на летні ўсход палова малой мілі.

**Бараніха** (Baranicha), васпана Ланеўскага, на зімовы ўсход адна вялікая міля

**Баяры** (Bojary), вёска Навадворскай плябані, на поўнач чвэрць мілі.

**Бершты** (Berszty), каралеўская вёска рускага (ўніяцкага) абраду, у якой знаходзіцца малая частка рымлян навадворскай парафіі, на мяжы Гарадзенскага павету знаходзіцца, на зімовы захад паўтары вялікія мілі.

**Бярэзаўцы** (Brzozawce) васпанства Пясецкіх, Стоцкіх, Сыруцяў, на зімовы ўсход ад касцёла Навадворскага адна міля.

**Голдзішкі** (Gaudziszki), фальварак і вёска васпана Александровіча, на летні ўсход адна вялікая міля.

**Глінкаўшчына** (Glinkowszczyzna), фальварак васпана Ліпніцкага, на летні ўсход вялікая міля.

**Глыбокае** (Globokie), васпанства Пратасевічаў, Александровічаў, Стацкевічаў, зімовы ўсход малая мерная міля.

**Глыбокае** (Globokie), двор і вёска руская (ўніяцкая) васпана Мікульскага, на зімовы захад палова вялікай мілі.

**Грамкі** (Hramki), вёска васпана Александровіча, старасты Васілішскага, на летні ўсход малая мерная міля.

**Даўнароўшчына** (Downarowszczyzna), фальварак васпана Прыбылоўскага, на летні ўсход адна вялікая міля.

**Дубічы** (Dubicze), фальварак і вёска яснавяльможнага пана Вількянца, на зімовы захад чвэрць малой мілі.

**Замасцяны** (Zamosciany), вёска руская (ўніяцкая) васпана Табанскага, належыць да каралеўшчыны і Васілішскага староства, у ёй некалькі рымскіх дамоў парафіі Навадворскай, на поўнач паўтары вялікія мілі.

**Зеняпішы** (Zieniapisze), двор васпана Даўгірда, на летні ўсход паўтары вялікія мілі.

**Зеняпішы** (Zieniapisze), фальварак васпана Стацэвіча, на летні ўсход паўтары вялікія мілі.

**Зеняпішы** (Zieniapisze), двор васпана Шастака,

на летні ўсход паўтары вялікія мілі.

**Зобы** (Zobie), васпана Хруля, на поўнач палова вялікай мілі.

**Зубрава** (Zubrowo), каралеўская вёска, часткова руская (ўніяцкая), часткова рымская, на поўнач дзве вялікія мілі.

**Кажамякі** (Kozemiaki), фальварак васпана Нарбута, на зімовы ўсход палова малой мілі.

**Казакі** (Kozaki), вёска васпана Александровіча, старасты Васілішскага, на летні ўсход малая мерная міля.

**Казакі** (Kozaki), вёска васпана Шостака, паміж усходам і поўначчу адна вялікая міля.

**Калеснікі** (Kolesniki), вёска васпана Даўгірда, на летні ўсход паўтары мілі.

**Кенпіна** (Kepina), карчма васпана Александровіча, старасты Васілішскага, на летні ўсход, малая мерная міля.

**Кобраўцы** (Kobrowce), двор, вёска і карчма васпана Нарбута, на поўдзень палова вялікай мілі.

**Краснае** (Krasna), два каралеўскія дамы, на поўнач палова малой мілі.

**Кулеўцы** (Kulowce), вёска і карчма васпана Зянковіча, старасты Астрынскага, на летні захад чвэрць мілі.

**Кульбачына** (Kulbaczyn), фальварак васпана Сцыпіёна, паміж зімовым усходам і поўднем паўтары вялікія мілі.

**Куюцёўцы** (Kujuciowce), фальварак карчма васпана Залескага, на летні ўсход малая мерная міля.

**Лойбішкі** (Lojbiszka), карчма васпана Нарбута, на поўдзень вялікая міля.

**Малікоўцы** (Malikowce), вёска васпана Ромера, старасты навадворскага, на поўдзень тысяча крокаў.

**Малятычы** (Malatycze), вёска і карчма васпана Зянковіча, абраду рускага (ўніяцкага), на зімовы ўсход малая міля.

**Мацюкі** (Maciuki), вёска васпані Пратасевіч і васпана Статкевіча, на зімовы ўсход вялікая міля.

**Мікулішкі** (Mikuliszki), вёска і карчма васпана Пірускага, на поўнач вялікая міля.

**Мінюцёўка** (Miniuciowka), фальварак васпана Ромера, старасты Навадворскага, на зімовы ўсход вялікая міля.

**Новы Двор** (Nowy Dwor), мястэчка і двор васпана Ромера, у якім касцёл парафіяльны ёсць кропкай, ад якой чыніцца гэтае апісанне, мястэчка належыць да староства Навадворскага, некалькі дамоў належаць плябані.

**Няпраха** (Niepracha), фальварак васпанства Гржымалаў, Стоцкіх, Сыруцёў, на зімовы ўсход вялікая міля.

**Пескі** (Piaski), васпанства Пясецкіх і Паморскіх, на поўдзень, палова вялікай мілі, там жа вёска і карчма васпана Вільканца.

**Пілоўня** (Pilownia), дом мельніка і карчмара васпана Мікульскага, на зімовы захад вялікая міля.

**Плёткі** (Plotki), фальварак яснавяльможнага пана гетмана Тышкевіча і вёска, якая належыць лоўчаству (паляўнічай гаспадарцы), на летні ўсход вялікая міля.

**Прудзяны** (Prudziany), вёска васпана Александровіча, на летні ўсход малая міля.

**Пугачы** (Puhacze), вёска васпана Александровіча, на зімовы ўсход палова малой мілі, там жа і фальварак васпана Нарбута.

**Равятычы** (Rewiatycze), фальварак, вёска і карчма васпана Піруcкага, на поўнач чвэрць малой мілі.

**Радзевічы** (Rodziewicze), васпанства Радзевічаў і Няцецкіх, на летні ўсход чвэрць малой мілі.

**Рачкоўшчына** (Raczkowszczyzna), фальварак васпана Александровіча, суддзі земскага Лідскага, на летні ўсход малая міля.

**Рынкаўцы** (Rynkowce), вёска і карчма васпана Александровіча, на летні ўсход палова малой мілі.

**Рыцялоўшчына** (Rytelowszczyzna), васпанства Няцецкіх, на поўнач восемдзесят крокаў.

**Сабакоўшчына** (Sabakowszczyzna), васпана Тубялевіча, на поўдзень восемдзесят крокаў.

**Савічы** (Sawicze), вёска васпанства Гржымалаў, на зімовы ўсход вялікая міля.

**Скелдычы** (Skieldycze), вёска васпана Вільканца, на зімовы ўсход чвэрць малой мілі.

**Скіпраўцы** (Skiperowce), вёска васпана Даўгірда, на летні ўсход паўтары вялікія мілі.

**Смаліха** (Smolicha), ваколіца васпанства Ня-



цецкіх, на поўнач палова малой мілі.

**Старынкі** (Starzynki), фальварак васпана Вамперскага, на поўдзень чвэрць малой мілі.

**Сырні** (Syrni), вёска і карчма васпана Стасевіча, на поўнач вялікая міля.

**Таневічы** (Taniewicze), вёска Навадворскага староства, на летні ўсход малая міля.

**Ціхава** (Cichow), карчма васпана Зянкевіча, на поўдзень вялікая міля.

**Шамякі** (Szemiaki), васпанства Шамякаў і Тамковічаў, на поўнач вялікая міля.

**Яхнавічы** (Jachnowicze), васпанства Бараноўскага і Іхновічаў, на летні ўсход малая мерная міля.

**2.**

**Ад касцёла парафіяльнага, суседнія касцёлы:**

**Дэмбраўскі касцёл** парафіяльны, у тым жа дэканаце і павеце, на землях васпана Тышкевіча, падскарбія, на поўдзень тры мілі.

**Ляцкі касцёл** парафіяльны, у тым жа дэканаце і павеце, на землях васпанаства Скіндараў, на зімовы ўсход дзве з паловай вялікія мілі.

**Мерачскі касцёл** парафіяльны, у Сімненскім дэканаце і Троцкім павеце, на летні захад восем міль.

**Васілішскі касцёл** парафіяльны, у тым жа дэканаце і павеце, на землях васпана Александровіча, у старостве Васілішскім, на ўсход тры мілі.

**Забалацкі касцёл** парафіяльны, у тым жа дэканаце і павеце, на землях васпанства Длускіх, на летні ўсход тры мілі.

**3.**

**Парафіяльныя ўніяцкія цэрквы ў межах Навадворскай парафіі:**

**Глыбоцкая парафіяльная царква**, на землях васпана Мікульскага, на зімні захад палова вялікай мілі.

**Астрынская парафільная царква**, на землях васпана Зянковіча, старасты астрынскага, на поўдзень вялікая міля.

**Сабакінская парафіяльная царква**, на землях васпана Янкоўскага, на поўнач паўтары вялікія мілі.

**4.**

**Значнейшыя гарады каля Навадворскага касцёла:**

**Гародня**, горад сеймавы, на рацэ Нёман, на зімні захад восем міль.

**Ліда**, судовы горад, на летні ўсход восем міль.

**5.**

Дарога **на Гародню з Новага Двар**а няроўная, балоцістая, пясчаная, масты і грэблі дрэнныя.

Дарога **да Ліды** камяністая, пясчаная, месцамі балоцістая.

**З Новага Двара да Гародні** летняя дарога шаснаццаць гадзін язды, узімку дзевяць.

**Да Ліды**, летняя дарога шаснаццаць гадзін язды, узімку восем.

**6.**

**Вялікае возера Берштанскае** на мяжы парафіі Навадворскай, у Гарадзенскім павеце, шырынёй да трох геаметрычных шнуроў, даўжынёй каля чвэрці мілі, пачынаецца з балот Берштанскай пушчы, ад касцёла парафіяльнага Навадорскага на зімовы захад паўтары вялікія мілі.

**Возера Мілева** васпана Мікульскага, шырынёй два шнуры, даўжынёй чатыры шнуры, на летні захад вялікая міля.

**Возера Паўхова**, недалёка ад Навадворскага староства васпана Ромера, шырынёй тры шнуры, даўжынёй шэсць, на летні захад вялікая міля.

**Возера Карпавае**, належыць Навадворскаму староству васпана Ромера, шырынёй тры шнуры, даўжынёй шэсць, знаходзіцца там жа, дзе і папярэдняе.

**Малое возера васпана Пірускага**, на поўнач чвэрць малой мілі.

**Возера Чортавае**, малое, належыць плябані Навадворскай, знаходзіцца там жа, дзе і папярэдняе.

**Багна каля ракі Нявішы**, цягнецца з гразкага гаю (на летні ўсход) праз усю Навадворскую парафію на тры мілі, шырыня ў розных месцах розная, але месцамі да мілі, у іншых на палову мілі ці на чвэрць мілі.

**Малыя балоты** бываюць каля кожнай вёскі, назваў не маюць, з іх пачынаюцца наступныя рэчкі і крыніцы:

Рака **Нявіша** пачынаецца ў Васілішскай парафіі, цячэ за некалькіх сотняў крокаў каля фальварка васпана Саткоўскага, далей цячэ на летні ўсход за некалькі дзесяткаў крокаў ад фальварка васпана Александровіча, Лідскага земскага суддзі, тут ёсць добрая грэбля, але мост дрэнны, улетку бяспечны, але ўвесну, калі вялікая вада, нявыгадны, далей рака цячэ за некалькі дзесяткаў крокаў ад фальварка Кажамякі васпана Нарбута, за некалькі сотняў крокаў ад вёскі Пугачы на зімовы ўсход, адтуль балотамі, дзе ёсць брод пад назвай Прут. Далей гэтая рака праз балоты, лясы прыцякае да каралеўскай вёскі Краснае, якая знаходзіцца на поўначы, дзе цераз раку ёсць пераправа па надта дрэнным мосце да рускай (уніяцкай) вёскі Якубавічы, і там жа ёсць пераправа па вельмі небяспечным мосце. Адтуль рака цячэ балотамі, лясамі пушчай аж да Пілоўні, дзе ёсць карчма васпана Мікульскага і дрэнны мост, адсюль паварочвае на зімовы захад, і тут жа пачынаецца каралеўская пушча, рака далей цячэ на зімовы захад і ўліваецца ў Котру.

Рака **Котра**, свой пачатак бярэ з Дубіцкіх азёраў і балотаў, якія ляжаць на поўначы. Цячэ на поўнач каля вёскі Зубрава праз балоты працягласцю некалькі міль і каралеўскай пушчай да вёскі Бершты на зімовы захад,

тут ёсць добры мост, і тут па рацэ праходзіць мяжа паміж Лідскім і Гарадзенскім паветам, па рацэ могуць плыць толькі плыты.

Рака малая, **Навадворская**, пачынаецца з малых балотаў і крыніц на поўдні, цячэ каля фальварка Старынкі і там мае брод, пры гэтым бродзе з аднаго боку грэбля, далей рэчка цячэ балотамі, зараслямі за некалькі дзесяткаў крокаў ад фальварка Сабакоўшчына і тут зноў мае дрэнны брод, з гэтага месца цячэ цераз балота і зараслі за некалькі дзесяткаў крокаў ад мястэчка Новы Двор, дзе таксама ёсць брод. Пасля броду ўпадае ў Навадворскі стаў і пасля ставу цячэ цераз балота, зараслі і на поўначы ўпадае ў Нявішу.

Рака малая **Кульбачынка**, пачынаецца на зімовым усходзе, выцякае з балот каля Бярэзаўцаў, цячэ каля фальварка Кульбачына, праз чвэрць малой мілі ўпадае ў Астрынку, у кірунку паміж поўднем і зімовым усходам.

Рака **Астрынка**, пачынаецца з астрынскіх балот і лясоў на поўдні, цячэ каля двара і мястэчка Астрына, дзе ёсць мост, добрая грэбля, адтуль цячэ да Ціхава ставу, потым праз лес і пушчу да ставу Крупічоўшчына, дзе ёсць грэбля і добры мост, адтуль цячэ цераз балоты і пушчу і ўпадае ў раку Котру на зімовым захадзе.

Рака **Кобраўка**, пачынаецца з балот і крыніц на зімовым усходзе, плыве за некалькі дзесяткаў крокаў ад вёскі і двара Кобраўцы, дзе ёсць камяністы і балоцісты брод, далей цячэ пятляючы, і на рацэ ёсць мост і добрая грэбля, адтуль да става Лойбішкі, дзе таксама ёсць добры мост і грэбля, і далей упадае ў раку Астрынку.

**Крыніца** за некалькі сотнях крокаў ад той жа ракі Кобраўкі, на шляху з ваколіцы Пяскі да Лойбішкаў мае нявыгадны брод.

Рака **Нявішка**, малая і нешырокая, пачынаецца на зімовы ўсход з лясоў і крыніц, цячэ за некалькі дзесяткаў крокаў ад фальварка Няпраха васпана Гржымалы, адтуль да фальварка Мінюцёўка, дзе ёсць нявыгадны брод, з таго месца цячэ да вёскі Малятычы, дзе балоцісты і камяністы брод, далей цячэ праз фальваркі Глыбокае васпанства Пратасевічаў і Статкевічаў, і тут зноў ёсць мост і нявыгадны брод, далей цячэ на летні ўсход і ўпадае ў большую раку Нявішу.

Рака **Ліхачоўка**, выцякае з лесу і крыніц на зімовы ўсход, працякае за некалькі дзясятках крокаў ад ваколіцы Радзевічы, тут ёсць добрыя мост і грэбля, далей рэчка цячэ за некалькі дзясяткаў крокаў ад вёскі Рынкаўцы на летні ўсход, каля гэтай вёскі ёсць брод без пераезду, потым рака цячэ балотамі, пушчай і ўпадае ў Нявішу на ўсходзе летнім.

Рэчка **Лакаўка**, выцякае з малых балот на летнім усходзе, цячэ каля вёскі Таневічы, дзе ёсць нявыгадны мост, потым на поўнач, балотамі і праз палову мілі ўпадае ў Нявішу.

Рэчка **Куюцёўка** пачынаецца на летні ўсход з малых балот Голдзішскіх, цячэ каля фальварка Яхновічы, там ёсць сажалка, далей цячэ каля вёскі Грамкі да Кулёўцаў, дзе ёсць брод, адтуль цераз балота цячэ да вёскі Прудзяны, потым цераз балота, лес і каля вёскі Таневічы, на летні ўсход, упадае ў рэчку Лакоўку.

Рэчка **Зеняпіша**, пачынаецца на летні ўсход ад крыніц, цячэ каля фальварка Зеняпішы васпана Даўгірда, тут ёсць малы невыгодны масток (і тут заканчваецца парафія Навадворская і пачынаецца парафія Забалацкая), далей цячэ за некалькі дзесяткаў крокаў ад фальварка Зеняпішы васпана Шостака, тут ёсць грэбля і добры мост, потым цячэ каля фальварка Зеняпішы васпана Стасевіча, тут ёсць брод камяністы і балоцісты, потым рэчка працякае каля вёска Бацэвічы і Сырні, тут ёсць дрэнны брод, адтуль балотамі і лясамі цячэ на поўнач і ўпадае ў Нявішу.

**Крыніца** каля фальварка Равятычы на поўначы, выцякае з балотаў і стварае нявыгадны брод.

**Малы стаў васпана Сцыпіёна**, падстолія Літоўскага, на рацэ Кульбачынка, на зімовы ўсход ад касцёла парафіяльнага Навадворскага паўтары мілі.

**Малы стаў пры двары старасты Астрынскага** на рацэ Астрынка, дзе і знаходзіцца канал, на поўдзень адна вялікая міля.

**Стаў Ціхава** на рэчцы Астрынка на поўдзень адна вялікая міля.

**Стаў Лойбішкі** васпана Нарбута на рацэ Кобраўка, на поўдзень вялікая міля.

**Стаў Крупічоўшчына** на рацэ Астрынка, на зімовы захад вялікая міля.

**Два малыя ставы васпана Мікульскага**, за некалькіх дзесяткаў крокаў ад двара Глыбокае і там жа адна сажалка, зімовы захад.

**Стаў Навадворскі** на рацэ Навадворцы, на летні ўсход за некалькі дзясяткаў крокаў ад Навадворскага двара, некалькіх сотнях крокаў ад касцёла, там жа і дзве сажалкі.

**Стаў васпана Прыбылоўскага** з крыніцы, якая пачынаецца у гразкім лесе, на летні ўсход вялікая міля.

**Стаў васпана Пратасевіча**, пад назвай **Мітвіца**, на малой рацэ Нявіша, на зімовы ўсход тры чвэрці мілі.

**Стаў васпана Шостака** на рацэ Зеняпішка, на летні ўсход паўтары вялікія мілі.

**7.**

**Лясы.** У парафіі Навадворскай болей лясоў, чым адкрытага поля, бо ўсе вёскі атачае лес, у якім ёсць celsius розные дрэва розных гатункаў: бяроза, дуб, сасна, елка, вольха, ліпа, граб. Большы лес расце на летнім захадзе, ён пачынаецца за некалькі сотняў крокаў ад касцёла парафіяльнага і цягнецца аж да Пілоўні, тут растуць розныя дрэвы, у тым ліку годныя да будоўлі, гэты лес злучаецца з каралеўскай **Берштанскай пушчай**.

**8.**

**Млыны ў парафіі:**

**Млын васпана Сцыпіёна** на рацэ Кульба-

чынка.

**Млын васпана Зянковіча** на рацэ Астрынцы ў Астрыне.

**Другі млын** таго ж пана на той жа рацэ **ў Ціхаве.**

**Млын васпана Ромера**, пад назвай **Крупячоўшчына**, з валюшам на той жа рацэ Атрынцы.

**Млын васпана Нарбута** на рацэ Кобраўка, пад назвай **Лойбішкі**, з валюшам.

**Млын васпана Пратасевіча**, пад назвай **Мутвіца**.

**Млын васпана Прыбылоўскага**, над назвай **Мазёўка**.

**Млын васпана Ромера** ў Новым Двары, каля двара.

**Млын васпана Мікульскага** ў Глыбокім, каля двара.

**Млын васпана Шостака** ў Зеняпішах, каля двара.

**Млын васпана Мікульскага** ў Пілоўні, пусты.

**9.**

**Партыкулярныя дарогі** ў парафіі згодна з даўжынёй апісваюцца так:

**Дарога да Забалаці**, дзе ёсць касцёл парафіяльны і тракт да Вільні, пачынаецца ад касцёла парафіяльнага Навадворскага і вядзе на летні ўсход, ідзе праз мястэчка Новы Двор, пераехаўшы цераз брод раку Навадворку дарога ідзе да вёскі Пугачы і фальварка Кажамякі, пасля іх просты гасцінец ідзе адкрытым полем, потым цераз грэблю і добры мост цераз раку Ліхачоўку, ад ракі па правай руцэ за некалькіх дзесяткаў крокаў ваколіца Радзевічы, а за некалькі сотняў крокаў вёска Рынкаўцы, па правым баку за некалькі дзясяткаў крокаў цягнецца лес, далей дарога ідзе цераз поле і малыя зараслі да броду пад назвай Нявішны стаў, тут па левай руцэ за некалькі сотнях крокаў бачны адзін дом Баравы, выехаўшы з броду, дарога ідзе ўправа адкрытым полем, потым часткова зараслямі да вёскі Бакшты, дзе заканчваецца парафія Навадворская, з гэтай вёскі цераз поле і зараслі дарога ідзе прама да касцёла парафільнага і мястэчка Васілішкі, адтуль ёсць гасцінец і да Ліды, а ўлева ад броду пад назвай Пруд, да вёскі Таневічы, праз лес і часткова полем вядзе прамы гасцінец, далей праз балоцісты лес дарога вядзе да карчмы Кенпіна васпана Александровіча, ад гэтай карчмы бачна вёска Грамкі па правай руцэ за некалькі сотняў крокаў, а праз чвэрць малой мілі ваколіца Яхнавічы, фальварак і вёска Гудзішкі, ад карчмы Кемпіна, па левую руку, праз выган і брод Куюцёўскі, каля самай карчмы куюцёўскай па левай руцэ за некалькіх сотняў крокаў вёска Прудзяны, а за некалькі дзесятках крокаў вёска і фальварак Казакі, ад гэтай вёскі прамы гасцінец, які ідзе болей лесам, чым полем, вядзе да карчмы васпана Нарбута ў Хадзілонях, дзе і заканчваецца парафія Навадворская.

**Дарога да Ляцка**, дзе ёсць касцёл парафіяльны, на зімовы ўсход праз мястэчка Новы Двор, потым адкрытым полем да броду цераз рэчку Навадворку, пераехаўшы яе, па правым баку за некалькі дзясяткаў крокаў будзе фальварак васпана Тубілевіча Сабакоўшчына, а па левай руцэ за некалькі дзясятках крокаў вёска Мілікоўцы, потым прама, праз поле, грэблю і добры мост дарога ідзе да броду цераз тую ж рэчку Навадворку за некалькі крокаў ад фальварка Старынкі васпана Вамперскага (па правым баку, каля самай дарогі), там жа па левым баку два дамы, калі ехаць па дарозе далей, па правай руцэ за некалькі крокаў фальварак Дубічы васпана Вільканца, а па левым баку лес засланяе вёску Скелдычы, якая таму ж фальварку належыць, праехаўшы адкрытае поле, дарога ўваходзіць у лес, дзе па левай руцэ за некалькі сотняў крокаў будзе ўніяцкая вёска Курылаўцы, далей праз балоцісты лес, пясчанае поле, выган, які ўвесну мокры, да карчмы і вёскі ўніяцкай Кобраўцы, з вёскі выехаўшы, адразу балоцісты і камяністы брод рэчкі Кобраўкі, па левай руцэ за некалькі дзясяткаў крокаў другая частка вёскі Кобраўцы і карчма, па правай руцэ за некалькі сотняў крокаў двор Кобраўцы васпана Нарбута, з таго ж боку за чвэрць малой мілі ваколіца Пяскі васпанства Пясецкіх і далей прама праз поле, зараслі, грэблю і цераз два масткі дарога ідзе да Астрыны, мястэчка васпана Зянковіча. Уехаўшы ў мястэчка цераз брод, потым цераз мост і грэблю да карчмы, якая стаіць каля самага рынку, адсюль, па левую руку цераз мост і грэблю каля млына, далей каля царквы і прама на вёску Баклажнікі да фальварка Кульбачына васпана Сцыпіёна, дзе заканчваецца парафія Навадворская. Ад астрынскай карчмы, праехаўшы рынак будзе ўправа гасцінец да Гародні, выехаўшы з Астрыны, дарога вядзе прама да Дэмбрава, дзе ёсць касцёл парафіяльны.

**Дарога да Мерачы**, дзе ёсць касцёл парафіяльны, на летні захад ад касцёла Навадворскага, выехаўшы ўправа вуліца берштанская выводзіць з мястэчка, потым праз поле і густы лес, праз нявыгадныя масты да вёскі і двара Глыбокае, праехаўшы ўправа некалькі дзясяткаў крокаў да могілак і капліцы, далей некалькі сотняў крокаў прама полем да Рыцялоўшчыны васпана Няцецкага, адтуль прама некалькі сотняў крокаў да вёскі плябанскай Баяры, тут ад капліцы ўлева цераз поле і невялікі мост, далей ізноў полем, тут управа будзе карчма ў Пілоўні і пусты млын васпана Мікульскага, адсюль па правай руцэ бачна вёска Савічы, з Пілоўні прама праз масткі і грэблю каля млына дарога ўваходзіць у пушчу, дзе дарога пясчаная, тут па левую руку бачны домік стражніка, далей праз добры мост да каралеўскай вёскі Бершты, дзе і заканчваецца Лідскі павет і парафія Навадворская.

Наша парафія ўваходзіць у Лідскі павет і з аднаго боку мяжуе з Гарадзенскім паветам, Лідскі павет ад Гарадзенскага аддзяляе рака Котра.

*Гэта апісанне маёй парафіі подпісам уласнай рукі падцвярждаю, **кс. Мікалай Эйсмант**, плябан Навадворскі.*

*(Пераклад з польскай Леаніда Лаўрэша.)*

***Леанід Лаўрэш***

# Паўстанне 1863 г. на Лідчыне

## *За нашу і вашу свабоду*

Лідскі павет быў гатовы да паўстання, яго рыхтаваў Павятовы рэвалюцыйны камітэт у складзе:

- *Канстанцін Геншаль* з Валдацішак - старшыня камітэту, так званы "цывільны начальнік";
- *Вітольд Гажыч* з Сегенеўшчыны - прадстаўнік Цэнтральнага Камітэту ў Варшаве, з траўня павятовы камісар;
- *Тамаш Шукевіч* (павятовы суддзя) - павятовы камісар;
-*Ксаверы Аляксандровіч* з Нявішы;
- *Кароль Тышкевіч* з Жырмунаў;
- *Адольф Краінскі* з Палашак;
- *Эдвард Бердаўскі* з Няпрахі;
- *Юзаф Сумарок* з Вярсокі;
- *Уладзімір Паплаўскі* з Ваўчынак;
- *Эдвард Лазоўскі* з Гірак;
- *Стэфан Вільбік* з Ліпкунцаў;
- *Ансельм Патрыкоўскі* з Ліды.

Усю перапіску і допісы Павятовага камітэта захоўваў войт Тарноўскай воласці *Севярын Якубоўскі*. Лідскі камітэт непасрэдна падпарадкоўваўся Віленскаму рэвалюцыйнаму камітэту, які ўзначальваў *Мікалай Гедройць* (ваявода), а пасля яго арышту - *Францішак Канаплянскі*. Віленскі ваявода падпарадкоўваўся Рэвалюцыйнаму камітэту Літвы і яго старшыні - *Зыгмунту Даленгу-Серакоўскаму*[1].

**Канстанцін Геншаль**, сын Людвіка і Стэфаніі з Пуцілоўскіх, пасля заканчэння курса гімназіі ў Вільні вывучаў спачатку медыцыну, а потым матэматыку ў Пецярбуржскім універсітэце. Ва ўзросце трохі болей за 20 гадоў стаў старшынём Павятовага паўстанцкага камітэту. Пасля паразы аддзела паўстанцаў Нарбута перабраўся спачатку ў Вільню, а потым эміграваў у Парыж, дзе скончыў адукацыю і атрымаў дыплом доктара медыцыны. У 1870 г. браў удзел у французска-прускай вайне. На Лідчыну, у Валдацішкі, у 1920-х гадах вярнуліся яго сыны.

**Гажыч Вітольд**, сын Ежы, маршалка Берасцейскага павету і Канстанцыі з Якубоўскіх, вучыўся ў Пецярбурзе, а пасля паўстання - у парыжскай Сарбоне. У 24 гады стаў Павятовым камісарам на Лідчыне. Быў арыштаваны і сасланы ўглыб Расіі, дзе і памёр ад тыфу.

Лідскі камітэт вербаваў прыхільнікаў, збіраў грошы, зброю, адзенне, правіянт і іншае, неабходнае для вядзення баявых дзеянняў. Камітэт працаваў вельмі энергічна, і была сабраная дастатковая колькасць грошай, але ўзнікалі праблемы з закупам узбраення і рыштунку, і тым не менш зброя таемна паступала з Прусіі.




***Канстанцін Геншаль***




***Мікалай Гедройць***




***Тамаш Шукевіч***




***Францішак Канаплянскі***

Напачатку лютага 1863 г. практычна ва ўсіх парафіях ксяндзы з амбонаў урачыста прачыталі маніфест Нацыянальнага Камітэту пра паўстанне, у цэлым, маніфест быў прыняты з запалам.

Мірон Браніслаў Нарбут у нявыдадзенай частцы сваіх мемуараў пісаў: *"У Забалацкім касцёле ксёндз-пробашч Зарэцкі пасля патрыятычнага казання прачытаў вернікам маніфест. Пасля гэтага*



BRONISŁAW NARBUTT z Nikodemowa

***Мірон Бранiслаў Нарбут***



JÓZEF SZALEWICZ z Chodziłonia.

***Юзаф Шалевiч***



***Францiшак Далеўскi, сябар Лiтоўскага правiнцыйнага камiтэту***

*зазванілі касцельныя званы і народ заспяваў "Цябе, Божа, хвалім". Мне распавядалі, што на наступны дзень на пляцы перад касцёлам сабралася больш за 300 сялян, якія там чакалі тры дні, каб атрымаць зброю, якой аднак не было"*. Нарэшце, некалькі дзясяткаў чалавек самастойна рушылі ў бок Марцінканцаў і 16 лютага пад Нашкунцамі напалі на варту партыі рэкрутаў, якіх сілком адпраўлялі ўглыб Расіі. Канвой быў раззброены, а рэкруты адпушчаны па хатах. Пра вызваленне рэкрутаў дакладваў старшыня Эйшышскага рэкруцкага ўчастка Лідскаму земскаму спраўніку[2].

Для пакарання з Вільні быў высланы моцны атрад. Назімаў загадаў начальніку Віленскай жандарскай каманды штабс-капітану Сямёнаву: *"З-за ўзніклых беспарадкаў у некаторых мясцовасцях Лідскага павету, прадпісваю ... неадкладна адправіцца, з нададзенай у Ваша распараджэнне ваеннай камандай, па чыгунцы да Алькенік, адкуль, праз Калеснікі і Салтанішкі ў вёску Забалаць і мястэчка Васілішкі, маеце арыштаваць там плябанаў Забалацкага і Васілішскага касцёлаў і даставіць іх у Вільню роўна як абшарнікаў Гедрайця, які пражывае ў Казіміраўцы, Шалевіча - у Сабакінцах, іншага Шалевіча - у Хадзілонях і Жураўскага - у Вензаўшчыне, эконома з маёнтка Гедройця - Шчуку, і пражываючага ў яго шынкара Міхала Балевіча, і маляра Фрыдрыха ... зрабіць у іх самы строгі ператрус, а гэтак жа зняць сведчанні з яўрэяў-сталяроў, якія знаходзяцца ў маёнтку Казіміраўка, ім вядомы падрабязнасці пра начальнікаў хеўры зламыснікаў, пра месца іх збору ... . Маеце дзейнічаць па акалічнасцях, затрымоўваючы ўсіх узброеных і падазроных асобаў ..."* [3]. Штабс-капітан Сямёнаў 21 лютага арыштаваў *Казіміра Гедройця* з Казіміраўкі, *Герарда Жураўскага* з Вензаўшчыны, *Цыпрыяна Шалевіча* з Сабакінцаў, эканома маёнтка Казіміраўка *Стэфана Шчуку* і *Фрэдэрыка Петарсона* з Хадзілоняў. Ксяндзоў з Забалаці і Васілішак а таксама *Юзафа Шалевіча* і шынкара *Міхала Балевіча* не арыштавалі, бо яны загадзя схаваліся.

Віленская следчая камісія не змагла даказаць віну арыштаваных, а паколькі Мураўёў-вешальнік яшчэ не змяніў губернатара Назімава, усе былі адпушчаны пад строгі нагляд паліцыі.

Падобным жа чынам сітуацыя развівалася і ў Новым Двары: для арышту "падбухторшчыкаў" сюды быў высланы камандзір 42 данскога казачага палка падпалкоўнік Епіфанаў. 17 лютага ён арыштаваў ксяндза-пробашча *Райцэвіча*, ксяндза-вікарыя *Каржанеўскага*, капітана рэзерву рускага войска *Уладзіслава Ваяводскага*, жыхароў Дубічан *Стэфана і Канстанціна Янкоўскіх, Эдвард Бердаўскага, Францішка Бжазінскага* з сынамі *Эдвардам* і *Зыгмунтам*, *Валентыя Мікульскага* з сынам *Баляславам*, *Яна Жавеўскага* з Глыбокага, селяніна *Аляксандр Арцюшкевіча* і каваля *Іосіфа Максімовіча*, усіх "за ўдзел у бунце". У выніку ваенны суд прысудзіў ксяндза Каржанеўскага і Стэфана Янкоўскага да смяротнага пакарання (прысуд быў заменены на 12 гадоў катаргі), капітана Ваяводскага на 6 месяцаў арышту ў цвердзі Дынабург, Яна Жавеўскага да прымусовай службы на 3 гады ў войску, астатніх, за адсутнасцю доказаў, адпусцілі пад паліцэйскі нагляд[4].

У сваю чаргу, інфармацыйны бюлетэнь паў-



***Артур Готгер. Пад экскортам.***

станцаў № 4 ад 6.03.1863 г. інфармаваў пра падзеі на Лідчыне: *"У Лідскім павеце ў некалькіх каталіцкіх і ўсходняга абраду парафіях быў зачытаны маніфест і дэкрэты Цэнтральнага Камітэта і Часавага Нацыянальнага ўраду. У выніку чаго, сяляне самі сабраліся ў лесе каля Забалаці, пачалі самастойна ўзбройвацца і чакаць указанняў. Пасля трох дзён ... 11 лютага, ... высунуліся да Марцінканцаў, дзе 16 лютага адбілі рэкрутаў, якіх везлі па чыгунцы з Кanграсоўкі*[5]*. Далейшы лёс рэкрутаў пакуль не вядомы. Потым 12, 13, 14 і аж да 24 лютага прайшлі арышты мясцовых жыхароў ... . Арышты рабіліся ўзброенымі казакамі, якія пры гэтым рабавалі вёскі і двары. Агіднасці салдатаў дайшлі да найвышэйшай кропкі. Да 40 арыштаваных адвезена ў Віленскую цытадэль"*[6].

Пра гэтыя падзеі на Лідчыне генерал-губернатар Назімаў пісаў біскупу Красінскаму, забараняючы ксяндзам зачытваць маніфесты рэвалюцыйнага камітэту: *"Дайшлі да мяне звесткі, што ў Лідскім павеце, у мястэчку Васілішкі і ў вёсцы Забалаці, а таксама ў іншых касцёлах гэтай жа мясцовасці, тамтэйшыя пробашчы і ... рыма-каталіцкае духавенства ... публічна зачытвае сялянам абуральны маніфест, у якім рэвалюцыйны камітэт аддае ў іх поўную ўласнасць зямлю, якой яны карыстаюцца, і вызваляе сялян ад выканання рэкруцкай і іншых дзяржаўных павіннасцяў.*

*У выніку гэтага, была адпраўленая ваенная каманда для спынення зламысных дзеянняў, я лічу абавязкам звярнуцца ... аказаць архіпастырскае Ваша садзеянне да ўстрымання духавенства ... ад дзеянняў нязгодных з пакліканнем духоўнага сану, для ахілення тым самым духавенства ад хуткай адказнасці за беспарадкі, якія ўзніклі ў выніку іх супрацьзаконных учынкаў"*[7].

На Лідчыне стала неспакойна *"з'явіліся групы мяцежнікаў"* і 21 лютага генерал-губернатар загадаў губернскаму паштмайстру адпраўляць пошту праз Менскі і Лідскі гасцінцы толькі раз на тыдзень пад аховай моцнага канвою[8]. 22 лютага лідскі земскі спраўнік данёс Назімаву пра з'яўленне каля Начы *"хеўры ўзброеных мяцежнікаў"*, невядома *"адкуль яны прыбылі і куды ідуць ..., аднак носяцца чуткі, быццам бы накіроўваюцца ў вялікія лясы, прылеглыя да Троцкага павету"*, спраўнік паскардзіўся што падначаленыя яму тутэйшы прыстаў 5-га стану маўчыць і не робіць аніякіх захадаў супраць паўстанцаў[9]. 6 сакавіка, губернскі сакратар, прыстаў 5-га стану *Сухоцкі*[10] быў звольнены за спагаду да мяцяжу, загадана правесці расследаванне і перадаць яго справу ў ваенны суд[11].

Людвік Нарбут бываў на канспіратыўных сходах у Лідзе[12], весткі пра маніфестацыі ў Варшаве і Вільні ён пракаментаваў коратка: "Дарэмна траціцца запал". Баявы афіцэр чакаў. І вось пры канцы 1862 года брат Баляслаў прывёз яму ў Сербянішкі адозву Цэнтральнага Нацыянальнага камітэту ў Варшаве з заклікам да паўстання. Прачытаўшы адозву, Людвік зняў са сцяны шаблю і пацалаваў. Хутка пасля гэтага ён паехаў у Вільню, дзе сустрэўся з сябрамі Рэвалюцыйнага камітэту Літвы, які рыхтаваў паўстанне ў Беларусі. Камітэт шукаў афіцэраў з досведам і таму не захацеў адразу раскрываць Нарбута, яго баявы досвед яшчэ спатрэбіцца. Людвік вярнуўся дамоў і пачаў чакаць загад ды патаемна рыхтаваць і арганізоўваць людзей, праводзіць вучэнні пад выглядам паляванняў. 13 лютага 1863 г. да яго прыбыў ганец Віленскага камітэта з загадамі, адным з загадаў Людвік прызначаўся вайсковым начальнікам Лідскага павету. Атрымаў ён і загад пра пачатак паўстання. На кароткай сямейнай радзе бацька, стары Тодар Нарбут, сказаў, што "належыць даць сваіх дзяцей на алтар Айчыне, бо яна ў іх мае патрэбу".

Нядоўга доўжылася падрыхтоўка да ад'езду, ўсё ўжо было гатова. Перад ад'ездам сабралася ўся вялікая сям'я Нарбутаў. Людвік быў апрануты ў старую камізэльку, падбітую аўчынай, і ўзброены рэвальверам, на баку вісела старая каўказкае шабля. Сястра Тадора ўручыла яму харугву, вышытую ўласнымі рукамі, а ён перадаў ёй маніфест Камітэту для ксендза з Начы, каб заўтра прачытаць вернікам. Людвік захоўваў поўны спакой і пасля дабраславення бацькамі і развітання з маладой жонкай і сваякамі, у суправаджэнні брата Баляслава і шасці блізкіх паплечнікаў - сяброў маладосці і сялян роднага маёнтка з'ехаў з хаты. Праз некалькі кіламетраў ад хаты, у Салапацінскім лесе, каля Эйшышскага гасцінца аддзел спыніўся, тут было месца збору паўстанцаў.




***Ксёндз Ежы Гатоўт***

Назаўтра, 14 лютага, сястра Тадора прыехала да Нацкага пробашча ксендза Гатоўта і перадала яму маніфест. Гатоўт у той жа дзень зачытаў маніфест паўстанцаў, а потым нейкую афіцыйную паперу, падпісаную губернатарам Назімавым. Гэта яго і ўратавала, бо ўся парафія потым пад прысягай пацвердзіла, што ён чытаў нейкі ўказ генерал-губернатара і больш нічога[13].

У першы лагер нарбутаўцаў, заложаны за тры вярсты ад Начы, у ноч з 13 на 14 лютага з групай у сем чалавек прыйшоў *Леан Краінскі* з Грышані-




***Леан Краінскі***

шак. Усе разам перайшлі ва ўрочышча Сабалюнцы, хутка сюды ксёндз-вікары Эйшышскага касцёла *Стэфан Юзаф Гарбачэўскі* прывёў з сабой 17 сялян, і такім чынам аддзел вырас да 32 ваяроў[14]. Да канца лютага аддзел павялічыўся да 70 чалавек, і ў Сабалюнцах ксёндз Гарбачэўскі прывёў ваяроў да прысягі. Палова аддзела складалася з дробнай шляхты Лідскага і Ашмянскага паветаў, другой паловай былі школьная моладзь, адстаўныя вайскоўцы і сяляне.



*Стэфан Юзаф Гарбачэўскі*

Сяляне забяспечвалі аддзел харчаваннем і паведамлялі пра перасоўванні рускіх войскаў. За дапамогу Нарбуту, пасля паразы паўстання было пакарана ўсё насельніцтва чатырох вёсак: **Паддуб'е, Кракшлі, Зубрава** і **Лініца** - знішчаны ўсе пабудовы гэтых вёсак, а сем'і сасланыя ў Сібір[15].

Галоўным зброяй аддзела былі паляўнічыя стрэльбы, шмат хто быў узброены толькі косамі. Лепшага ўзбраення таго часу - штуцараў і карабінаў з наразной руляй было не шмат, у асноўным гэтую палепшаную зброю закуплялі за мяжой ці здабывалі ў баі. Галоўны склад зброі аддзел меў у Як'янцах (каля Шаўроў) у лесніка *Юзафа Банюшкі*, былі склады ў *Казіміра Гедройця* ў маёнтку Казіміраўка і ў *Альфонса Шэлкінга* з Забалаці.



***Юзаф Хяльмонскі. Касінер.***

Аднастайнага абмундзіравання не было. Большасць амуніцыі ішла ад Віленскага камітэту праз *доктара Тэраевіча* з Салтанішак, пастаўкамі займалася і сястра Людвіка *Тадора Манчунская* (у расейскіх дакументах - Манджунская). Яна разам са сваёй сяброўкай *Антанінай Табенскай* тры разы ездзіла ў Вільню да агента Камітэта *Вярблеўскага*. У яго яна брала порах і свінец, а потым цэлымі вазамі прывозіла ў аддзел. Адзін раз Тадора прывезла нават дзве гарматы. Гэтыя дзве мужныя жанчыны залучылі ў аддзел двух расійскіх афіцэраў - падпаручнікаў *Мікалаі* і *Кліментовіча*, праз іх прыйшлі да Нарбута і некалькі літоўскіх патрыётаў (*Скірмунт* і інш.). Рэгулярна прадукты падвозіў стары селянін з Шаўроў - *Мацей Някратовіч*. За ўсе пастаўкі ад сялян Нарбут плаціў гатоўкай[16].

Любыя выпадкі недысцыплінаванасці, дэзерцірства і непаслушэнства з самага пачатку камандзір сурова караў. Паказальным стаў выпадак з дэзерцірам шляхціцам *Рылам* з фальварка Рубікі (з-пад Тарнова). Ён далучыўся да аддзела напачатку паўстання і служыў пры камандзіры як выведнік. Разам з селянінам па прозвішчы *Ікасала* яны прыйшлі да пробашча Дубіцкага касцёла *Калікста Ставіцкага*, і перадалі яму, нібы просьбу Нарбута, аддаць камандзіру гадзіннік, бо свой ён нібыта страціў. Калі ксёндз адмовіўся аддаць гадзіннік, дэзерціры адвялі яго ў пушчу і прывязалі да дрэва, а самі вярнуліся ў плябанію і абрабавалі яе. Якраз у момант рабавання яны былі арыштаваны ваярамі аддзела. Пасля кароткага ваенна-палявога суда рабаўнікоў высеклі розгамі і пакаралі: яны сабе самі выкапалі магілу і былі жыўцом закапаныя дагары нагамі.

Малады паўстанец *Навіцкі* (20 гадоў) заснуў на пасту, і суд прысудзіў яго да расстрэлу. Толькі заступніцтва ксяндза-капелана Гарбачэўскага выратавала жыццё маладому ваяру, але назаўтра, пад час бітвы пад Руднікамі, Навіцкі гераічна загінуў. Нарбут даводзіў мясцовым жыхарам, што злачынцаў і рабаўнікоў трэба затрымоўваць і перадаваць паўстанцам, а калі паўстанцаў побач няма, дык перадаваць іх нават камандзірам частак рускага войска для пакарання.

Людвік Нарбут не шкадаваў і сябе. Па усёй Літве людзі пераказвалі наступную гісторыю: *"Паўстанцы даведаліся, што адзін са зборшчыкаў грошай - здраднік, які ў чаканні, што да яго па грошы прыедзе сам камандзір, схаваў у сябе 40 казакаў. Ведаючы гэта, паўстанцы атачылі двор здрадніка, і толькі пасля гэтага камандзір разам са сваім ад'ютантам Краінскім прыехаў да яго. Гаспадар радасна сустрэў Нарбута з ад'ютантам і правёў яго ў хату, дзе паўстанцы былі схоплены казакамі. Афіцэр казакаў, дэманструючы сваю павагу да палоннага Нарбута, прапанаваў яму, як баявому афіцэру, застрэліцца, і таму пакінуў палоннага аднаго ў пакоі з рэвальверам. Нарбут зачыніў дзверы і ... стрэліў у акно. У двор з усіх бакоў уварваліся паўстанцы і хутка раззброілі казакаў. Тады прыйшоў час Нарбуту выявіць шляхетнасць. Ён адпусціў ўсіх і нават аддаў казакам здрадніка, якога яны самі правучылі бізунамі"*[17].

дазволіў ён і правесці набажэнства. Сястра Нарбута Тадора, разам з Антанінай Табенскай, доктарам Тэраевічам з Салтанішак і мясцовым пробашчам кс. Ставіцкім, заняліся арганізацыяй пахаванняў. Весткі хутка разышліся па ўсяму павету, і таму ў дзень пахавання, 6 траўня, у Дубічы з'ехалася каля 300 чалавек. Нефарбаваныя труны ў касцёле былі ўсталяваны пірамідай: 6 трун на нізе, зверху на іх яшчэ 4 труны, вышэй - 2 і на самым версе труна з целам Людвіка Нарбута. Пасля службы ў касцёле ўсе труны былі пастаўлены ў рад у адной магіле і пахаваны. Усю велізарную магілу людзі засыпалі кветкамі. Аднак ледзь скончылася пахаванне, як у Дубічы увайшоў казачы атрад атамана Уласава, які меў заданне не дапусціць вялікі сход людзей, а калі людзі сабраліся - разагнаць іх. Але казакі спазніліся і толькі зраўнавалі уровень з зямлёй магільны ўзгорак[59].

Мірон-Браніслаў Нарбут так апісаў пахаванне: *"У 1863 годзе, калі пачалося народнае паўстанне, лідскі аддзел пад кіраўніцтвам Людвіка Нарбута часта быў у Дубіцкіх лясах, і ў гэтых лясах ... адбылася бітва з расейцам на чале з Цімафеевым, у ходзе якой цэлая партыя паўстанцаў здолела перайсці ў іншае месца, але яе кіраўнік з трынаццацццю ваярамі з блізшага атачэння лідскай шляхты паляглі. Маскоўскія салдаты абадралі трупы на полі бітвы і да Дубіч прывезлі іх голыя целы. Тагачасны генерал-губернатар віленскі Назімаў дазволіў ушанаваць памерлых пахаваннем у касцёле. Была сабрана патрэбная вопратка і зроблены труны. Целы гэтыя ляжалі тры дні ў касцельным бабінцы. Рыцарскі катафалк з дванаццаці простых трун паставілі ў касцёле, а слёзы люду віленскага і грамадства, енкі маціярок, сясцёр і сірот палеглых, былі найвыразнейшай мовай на іх пахаванні. Усе прысутныя мелі за гонар несці гэтыя дарагія труны да месца іх вечнага спачывання, і ўложаныя яны ўсе былі ў адной агульный магіле пры касцёле, а людзі ўпрыгожылі гэтае месца найпрыгажэйшым помнікам, бо курган быў насыпаны ўласнымі рукамі з роднай зямлі. Магіла абаронцаў Волі была страшнай для ворагаў: людзі збіраліся ля магілы і чыталі малітвы. Рускія знялі касцёл і, не баючыся святакрадства, раскідалі курган, зруйнаваўшы яго з зямлёй. Аднак не згінула праз гэта памяць пра верных сыноў Краю, захоўваецца яна ў сэрцах усіх справядлівых і годных ліцвінаў ..."* [60].

Нарбут меў гэткую папулярнасць, што доўга па Лідчыне хадзілі чуткі пра тое, што насамрэч ён не забіты, і дзесьці яго ўжо бачылі, і хутка ён вернецца з новым аддзелам.

Праз 70 гадоў магіла паўстанцаў выдзялялася толькі адным каменем з надпісам "Лявон Краінскі, 1863", які ўсталявала сям'я аднаго з 13 пахаваных тут паўстанцаў. У 1933 годзе, па ініцыятыве жаўнераў і афіцэраў 76 Лідскага палка пяхоты ў Дубічах паставілі помнік памяці Людвіка Нарбута і палеглых паўстанцаў. Сродкі на яго пабудову былі сабраны спецыяльным Камітэтам Лідчыны, на чале якога стаяў генерал Эдвард Рыдз-Сміглы. Праект помніка выканаў Фердынанд Рушчыц.

* * *

Па прыбыцці ў Вільню, атрад Цімафеева быў сустрэты генерал-губернатарам, Назімавым, начальнікам дывізіі генерал-ад'ютантам Быстромам і камандзірам палка Світы Яго Вялікасці генерал-маёрам Вельямінавым з аркестрам і ў прысутнасці велічэзнага натоўпу жыхароў горада, якія, дазнаўшыся пра смерць знакамітага Нарбута, былі ахоплены жахам. Губернатар расцалаваў начальніка атрада, падзякаваў афіцэрам і салдатам за паход і хвацкія справы. Потым было адслужаны набажэнства. Хутка начальнік атрада капітан Цімафееў атрымаў чын палкоўніка і быў адпраўлены з данясеннем пра сваю перамогу ў Пецярбург. *"Тут ён меў шчасце прадставіцца Яго Імператарскай Вялікасці, пры чым Гасудар Імператар сказаў: "Дзякую за хвацкую справу, і прызначаю цябе флігель-ад'ютантам. Уладзімір будзе другою ўзнагародаю за другую справу". Потым Яго Імператарская Вялікасць падаў палкоўніку Цімафееву руку і сказаў: "Яшчэ раз дзякую". Неўзабаве пасля гэтага палкоўнік Цімафееў прысутнічаў на прыёме імператарам генерала-ад-інфантэрыі Мураўёва, прызначанага губернатарам у Літву. Цар, прадставіўшы Цімафеева Мураўёву, сказаў: "Вось чалавек, які будзе табе карысны".*

Шмат афіцэраў і шарагоўцаў атрада было ўзнагароджана, **за бой паміж маёнткамі Дубічы і Глыбокім:**

Штабс-капітанам Рэнвальду і Лорыс-Мелікаву - Св. Ганны 3-й ст. з мячамі і бантам.

Св. Ганны 4-й ст. з надпісам: “За адвагу” - паручнікам: Шталю, Зубараву, падпаручнікам: фон Эндэну, Леўману і Арбузаву 2-му.

Георгіеўскія крыжы 4-й ступені: фельдфебелю Яфрэмаву, унтар-афіцэрам: Фірсаву, Любімаву, Ліцвінаву і шарагоўцам: Малацілаву і Бушмялёву.

**За бой пад Дубічамі:**

Штабс-капітанам Рэнвальду і Лорыс-Мелікаву - Св. Уладзіміра 4-й ст. з мячамі і бантам.

Св. Ганны 3-й ст. з мячамі і бантам: паручнікам Шталю, Зубараву, Леўману, Шэрнвалю і падпаручніку фон Эндэну.

Георгіеўскія крыжы 4-й ст.: фельдфебелю Каравіну, унтар-афіцэрам: Верашчагіну, Фёдараву, Лабачову і шарагоўцам - Пятрову, Міронаву, Серыкаву, Недаступу, Канстанцінаву, Палатаву, Жукаву і Бандарчуку[61].

Вось так высока ацэньваўся факт разбіцця "нейкай хеўры" на Лідчыне.

### Згасанне паўстання на Лідчыне

Ваяры адной часткі аддзела Нарбута схаваліся ў лесе і праз некаторы час далучыліся да іншых аддзелаў інсургентаў. Другую частку аддзела брат Людвіка - Баляслаў Нарбуту сабраў у Гарадзенскай пушчы. Але ён не меў ваеннага досведу і не мог замяніць старэйшага брата. 12 траўня рускія войскі пад камандаваннем ваеннага начальніка Лідскага павету палкоўніка Алхазава знайшлі атрад пад Ганэлькамі (над ракой Котрай) і зноў разбілі паўстанцаў. Толькі нямногія байцы змаглі пазней далучыцца да аддзела

Астрогі-Парадоўскага. Сам Баляслаў Нарбут быў арыштаваны каля Друскенікаў і адвезены для ваеннага суда ў Гародню.

Археолаг Вандалін Шукевіч запісаў у сваім дзённіку цікавы выпадак вясны 1863 г. у Лідзе. На падставе загадаў Нарбута, выдадзеных на стаянцы ў лесе пад Дубічамі, Лідскі рэвалюцыйны камітэт арганізаваў новую партыю паўстанцаў пад камандаваннем *Станіслава Калясінскага* і вахмістра *Каэтана Дарашкевіча*. Збор аддзела быў прызначаны на 27 красавіка ў лесе каля Крупава, куды агенты Камітэту *Тамаш Шукевіч* і *Стэфан Вільбік* загадзя даставілі зброю і харчаванне, а ў Гудэлях падрыхтавалі лодкі для пераправы на другі бераг Дзітвы. У землеўладальніка *Зяновіча* ў вёсцы Аўсядава сабраліся кіраўнікі зноў арганізаванай партыі інсургентаў. Тут здраднік Ігнат Каліноўскі напалохаў людзей аповядамі пра тое, што з Ліды сюды ўжо выйшлі казакі з салдатамі, і таму паўстанцы хутка разышліся па хатах. Дарма Нарбут чакаў гэтай партыі паўстанцаў у Дубіцкім лесе. Не абышлося і без элементарнага казнакрадства: швагер Ігната Каліноўскага - Баляслаў Шукевіч, родны брат Тамаша Шукевіча, сябра Лідскага камітэту, завалодаў мандатам скарбніка Камітэта, які належаў Ансэльму Патрыкоўскаму, і прысвоіў сабе 30 000 рублёў - грошы перададзеныя з Вільні і складкі, сабраныя ў Лідзе. За ўчынак Баляслава, да адказнасці быў прыцягнуты яго брат Тамаш Шукевіч. Завочным прысудам Нацыянальны Ўрад прысудзіў іх абодвух да смерці. Прысуд не быў выкананы, але Тамаш Шукевіч быў высланы ў Сібір уладамі.

1 чэрвеня па прысудзе Нацыянальнага Ўраду ў вёсцы Мантаты быў павешаны Адам Карповіч. Потым былі запісаны апошнія словы Карповіча, і мы ведаем на якой мове паўстанцы размаўлялі паміж сабой. Калі інсургенты шукалі вяроўку, каб павесіць здрадніка, ён сказаў ім літаральна наступнае: *"Паны, нашто шукаеце вяроўку, я маю дзяжку, тай павесьце"*, у тэксце кнігі за гэтымі словамі, запісанымі лацінкай, ідзе польскі пераклад. Здраднік вісеў два тыдні перад хатай Баневіча ў Мантатах, пакуль яго не знялі рускія салдаты[62].

**Пераслед сям'і Нарбутаў**

Пасля паразы пад Дубічамі рэпрэсіям падверглася сям'я Людвіка Нарбута.

Бацька, вялікі гісторык Літвы Тодар Нарбут, у гэты час жыў у Вільні, у жонкі сына Людвіка і быў настолькі слабы, што нават не ўставаў з ложка. Браты Францішак і Баляслаў ваявалі ў шэрагах паўстанцаў. У Шаўрах тым часам жылі маці Крысціна, дачка Тадора Манчунская і малодшы брат Станіслаў[63].

З акту справы Віленскай следчай камісіі № 148 пра знаходжанне зброі ў маёнтку Нарбута ў Шаўрах:

*Стараста вёскі Шаўры Георгі Чаркоўскі паведаміў, што фурман Нарбутаў - Томаш Радзюк ведае, дзе закапана зброя. Радзюка прымусілі прызнацца, і ён паказаў месца ў вазоўні, адкуль была выкапана 18 бутэлек пораху і каля 20 фунтаў волава. Потым ён паказаў іншае месца за 7 вёрст ад двара, каля леснічоўкі Клеменса Банюшкі, дзе былі выкапаны 2 гарматы, загорнутыя ў рагожу, і бочка пораху вагой каля 3 пудоў. У наступных прызнаннях Тамаш Радзюк паведаміў, што гэта зброя была прывезена спадарынямі Манчунскай і Табенскай з Вільні, з хаты Верблеўскага. Яны таксама залучылі ў партыю 2 расійскіх афіцэраў і прывезлі іх з Вільні ў Шаўры.*

*Радзюк прызнаўся, што Ізабела Альшэўская, стрыечная сястра Людвіка Нарбута, разам з Радзюком ездзіла да суседзяў і заклікала іх далучацца да паўстання. Таксама збірала правіянт і адзежу для партыі і Антаніна Табенская, якая працавала настаўніцай у Сярбянішках, дзе жыла жонка Людвіка Нарбута, якая сябравала з Манчунскай, яна залучыла ў партыю Скірмунта.*

Віленская следчая камісія пасля заканчэння следства пастанавіла:

*1) Удава Тадора Манчунская з дома Нарбутаў вінаватая у тым, што прымала чынны ўдзел у фармаванні партыі яе брата Людвіка Нарбута, даставіла ў Шаўры 2 гарматы, порах і волава і намовіла 2 афіцэраў да ўступлення ў партыю паўстанцаў: падпаручніка Мікалаі[64] і другога, прозвішча якога невядома. Аднак, Манчунская ўцякла невядома куды, таму ... аддаць яе пад суд завочна ... .*

*2) Антаніна Табенская ўжо асуджана ваеннапалявым судом за дастаўку распараджэнняў рэвалюцыйнага камітэта, гэта яна учыніла пад уплывам кахання ды аднаго з паўстанцаў, ... вінаватая ў тым, што падтрымлівала кантакт з Манчунскай, прывозіла ў Шаўры гарматы і порах і вербавала ў партыю невядомага пакуль па прозвішчы расійскага афіцэра. Пакаранне, раней накладзенае ваенна-палявым судом, падлягае ўзмацненню ў жорсткасці.*

*3) Удава Ізабела, дачка Адольфа, Альшэўская з дома Нарбутаў, гадоў 50, вінаватая ў закліках да ўдзелу ў паўстанні і павінна быць аддадзена пад ваенна-палявы суд.*

*4) Крысціна Нарбут, гадоў 60. Як бачна са справы не магла быць не датычнай да паўстання: двое яе сыноў сфармавалі атрад, адзін быў начальнікам, другі - у ім афіцэрам, дачка Манчунская і пляменніца Альшэўская дапамагалі фармаваць партыю, Манчунская дастаўляла зброю і амуніцыю, у цэлым маёнтак Нарбутаў у Шаўрах служыў складам для паўстанцаў.*

*Усё гэта не магло не быць вядома і Тодару Нарбуту, які хоць і ў пажылым узросце, але не мог не бачыць, што робіцца ў яго ў хаце, і відавочна адмыслова выехаў з Шаўроў у Вільню ... . У сувязі з вышэй апісанымі справамі сям'і, ён вінаваты ў тым, што як гісторык Літвы, даў сям'і такі шкодны кірунак выхавання.*

Камісія пастанавіла аддаць пад ваенна-палявы суд: *Крысціну Нарбут і яе мужа Тодара Нарбута паводле II катэгорыі ..., для таго, каб іх маёнтак перадаць ва ўласнасць ураду, а хату, для прыкладу і застрашвання іншых знішчыць, месца, дзе яна стаяла заараць плугам*[65].

Хутка прыступілі да выканання гэтага прысуду. Аднак Тодар Нарбут ужо не ўставаў з ложка, і яго, каб везці ў ссылку *"патрэбна было б толькі разам з ложкам уладкаваць у кібітцы"*. Мураўёў-вешальнік вырашыў сам убачыць Тодара. Сведкам гутаркі вялі-

кага гісторыка і ката быў князь Шырынскі-Шахматаў. Па яго словах, калі прынеслі старца, Мураўёў вітаў яго бруднымі абразамі, але гісторык быў глухі і не дачуў генерала, як потым стала вядома, ён зразумеў толькі асноўныя моманты гутаркі. "А ведаеш, падлец, твой сын забіты!" - сказаў Мураўёў у канцы. "Маю яшчэ некалькі сыноў і ўсіх іх выхоўваў любіць Радзіму", - адказаў гісторык. "Прэч," - закрычаў Мураўёў і аддаў каманду вынесці Нарбута.

Вялікі гісторык Літвы памёр 26.11.1863 г. і быў пахаваны каля свайго парафіяльнага касцёла ў Начы.

Маці Людвіка, Крысціна, афіцыйна абвінавачаная ў "няправільным выхаванні" сваіх дзяцей, за гэта была арыштаваная палкоўнікам Алхазавым, які кіраваў пяратрусам маёнтка і "хворая, выдраная з ложка без неабходнай адзежы", яна была вывезена на суд у Вільню, адразу пасля суда трапіла ў турэмную лякарню, а пасля яе адпраўлена па этапе ў Сібір. Пяць гадоў знаходзілася ў Пензенскай губерні, потым ёй было дазволена вярнуцца ў родны край, дзе яна і памерла 16 ліпеня 1899 г.

Брат Людвіка - Баляслаў пайшоў у паўстанне адразу пасля гімназіі. Перад самай бітвай пад Дубічамі ён быў пасланы па дапамогу да *Віславуха*, і, верагодна, таму выжыў. Арыштаваны ў Друскеніках, ваенны суд у Гародні прысудзіў яго да смерці, аднак з-за непаўналецця (яму было 17 гадоў), прысуд змянілі на высылку ў Краснаярскую губерню. Пасля амністыі вярнуўся ў родны край з падарваным здароўем і памёр у 1889 г.

Другі брат Людвіка - Францішак, пасля заканчэння шляхочага інстытута ў Вільні вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбуржскага ўніверсітэта. За ўдзел у падпольнай арганізацыі ў 1861 г. быў арыштаваны і быў змушаны хавацца за мяжой. Пасля вучобы ў ваеннай школе для паўстанцаў, арганізаванай эмігрантамі ў італьянскім горадзе Гунэа, вярнуўся дахаты і ваяваў у аддзеле Лангевіча, дзе атрымаў званне капітана. Пасля паразы паўстання эміграваў у Аўстрыю. Памёр у Венгрыі ў 1892 г.

Сястра Тадора, удава службоўца Манчунскага, як адзначалася вышэй, брала чынны удзел у паўстанні. *"Людвік Нарбут дасылаў да сястры розныя даручэнні і заяўкі для аддзела, якія яна заўсёды хутка і дакладна выконвала, не гледзячы на небяспеку. Праз яе ішла да інсургентаў розная інфармацыя, харчаванне, зброя і амуніцыя. Мела ва ўсіх ваколіцах адданых сабе людзей, мела сваіх інфарматараў і даверных асоб, паслугамі якіх карысталася там, куды не магла патрапіць сама. З адвагай, якой маглі б пазайздросціць мужчыны, ішла яна на самыя небяспечныя аперацыі"* - пісаў сучаснік. Была аддадзена пад ваенны суд, але здолела ўцячы, спачатку хавалася ў Гародні, потым жыла ў Парыжы. Пражыла вялікае жыццё, напачатку 1920-х гадоў польскі ўрад ёй, як удзельніцы паўстання, даў пенсію і ўзнагародзіў ордэнам "Адраджэння Польшчы". Памерла ў 1925 г. у Кракаве і там жа пахавана[66].

**Заканчэнне паўстання на Лідчыне**

Пасля паразы пад Дубічамі паўстанне на Лідчыне згасала. Напачатку чэрвеня новы ваенны кіраўнік Лідскага павету **Астрога-Парадоўскі** прыбыў са сваім аддзелам з Ашмянскага павету ў Доцішкі, да яго далучыліся паўстанцы аддзела Нарбута. Аднак узброены супраціў згасаў, не змог узняць людзей і новы энергічны цывільны начальнік павету **Вітольд Гажыч**.

6-я рота лейб-гвардыі Паўлаўскага палка, пад начальствам капітана Ўладзімірава, 2 чэрвеня зноў выступіла з Вільні на пошукі паўстанцаў на поўначы Лідскага павету. 15-га чэрвеня гэты атрад у Рудніцкім лесе каля ракі Вясенча спаліў тры лагеры, а каля засценка Пакернаў, 17-га чэрвеня, рота нагнала і знішчыла невялікую групу паўстанцаў. Лік забітых інсургентаў невядомы, бо безупынны бой адбываўся ў такіх балотах, у якіх некаторыя салдаты правальваліся з галавой. Пасля гэтай справы рота вярнулася ў Вільню.

15-га чэрвеня ў Алькенікі прыехаў палкоўнік Уласаў з загадам ад Мураўёва *"узяць ... 2 роты з 35 казакамі і ачысціць мясцовасць у наваколлях Эйшышак, Дубічаў, Забалаці і Радуні ад мяцежнікаў"*. У склад гэтага атрада ўвайшлі 4-я і 2-я стралковая рота лейб-гвардыі Паўлаўскага палка і 25 казакаў. 16-га чэрвеня атрад выступіў з Алькенікаў і да 21чэрвеня шукаў інсургентаў, спачатку па памежных частках Гарадзенскай губерні, потым у лесе Гарадзенскай пушчы каля рэчкі Котры, але нікога не знайшоў.

16 чэрвеня расейцы атрымалі інфармацыю пра месцазнаходжанне аддзела Віславуха. Паўлаўцы разам з атрадам палкоўніка Алхазава 18 чэрвеня каля Пашышак нагналі аддзел Віславуха і *"прымусілі да ўцёкаў"*[67]. У палон трапілі 6 паўстанцаў, з іх адзін цяжка паранены 15-цігадовы хлопчык. Яго пакінулі ў мясцовых людзей, бо ён не меў шанцаў выжыць. Сярод палонных - начальнік штаба аддзела Віславуха *Задора (Ваньковіч)* і фуражыр *Палівода (Пяроўскі)*[68].

20 ліпеня 2-я стралковая рота паўлаўцаў была адпраўленая ў Алькенікі для канваявання палонных, а палкоўнік Уласаў з 4-й ротай лейб-гвардыі Паўлаўскага палка і ротай Інгерманландскага палка пайшоў у Эйшышкі, куды на раніцы 21 ліпеня прыбыла 2-я стралковая рота. Тут Уласаў атрымаў звесткі, што на поўначы Гарадзенскай пушчы з'явіўся аддзел Астрогі-Парадоўскага. Расейцы, пасля поўдня 21 чэрвеня, выступілі па знаёмай дарозе да Начы, потым, 23 чэрвеня праз Дубічы яны прыйшлі да Шумы, *"тут, пасля грунтоўнага распытвання, атраду было паказана месца, дзе знаходзілася хеўра. Па прыбыцці туды войскаў, вогнішчы яшчэ гарэлі, і шматлікія кінутыя гаспадарчыя прылады паказвалі, што хеўра нечакана і хутка пакінула лагер"*. Расейцы амаль што без перапынку пайшлі па следу паўстанцаў, спыняючыся толькі, каб зварыць абед ці адпачыць некалькі гадзін. Афіцэр лейб-гвардзейскага Паўлаўскага палка Воранаў пісаў: *"За суткі атрад рабіў значна больш за 50 вёрст, не маючы ніводнага адстаўшага... . Калі 25-га ў 11 гадзін атрад прыбыў у Парадунь, тут след хеўры згубіўся. Казакі паехалі адшукваць сляды, а атрад пачаў рыхтаваць абед. Толькі селі абедаць, як прыскакаў казак з весткай, што ў фальварку Доцішкі зноў бачныя сляды. Катлы вывернулі, і роты пайшлі фарсіраваным маршам. Прыбыўшы ў фальварак, пачалі рабіць ператрус. Спачатку гаспадар незвычайна ласкава сустрэў атрад, папярэджваючы ўсе жаданні і*

*патрэбы салдатаў і афіцэраў. Салдаты яго звалі "паўстанчык". ... у адной з адрын знайшлі воз з харчаваннем для інсургентаў, акрамя таго казакі данеслі, што за садам, на плаціне, відаць незвычайна шмат слядоў, туды і рушыў атрад. У лесе за плацінай, палкоўнік Уласаў загадаў рассыпацца 2-й стралковай роце, а астатнім ісці ў рэзерве. Раптам пасярэдзіне ланцуга раздаўся залп, атрад увесь рынуўся на стрэлы, пачалася перастрэлка. Мяцежнікі пачалі адыходзіць. Вялікая колькасць пакінутых імі запасаў, сведчыла, што хеўра моцна стомлена. Атрад пераследаваў яе безупынна да ночы, прычым яны страцілі ўвесь абоз, шмат забітымі і параненымі. Узятыя ў палон паказалі, што хеўрай камандаваў Астрога.*

*У другой палове чэрвеня роты варочаліся ў Вільню.*

*Узнагароды за справу былі наступныя:*

*Палкоўніку Ўласаву - Св. Уладзіміра 4-й ст. з мячамі і бантам. Св. Ганны 3-й ст. з мячамі і бантам - капітанам Юр'еву, Македонцаву і падпаручніку Леўману"*[69].

Паўстанне сціхала, але камандзіры расейскіх атрадаў чамусьці лічылі, што галоўныя бітвы яшчэ наперадзе і чакалі з'яўлення вялікіх паўстанцкіх аддзелаў. Захаваўся цікавы загад Мураўёва-Вешальніка ад 21 (7) чэрвеня 1863 г., у якім ён звяртае ўвагу на *"частыя рапарты начальнікаў войскаў, якія ў сваіх данясеннях часам паказваюць быццам бы мяцежнікі з'яўляюцца ... велізарнымі хеўрамі ў некалькі тысяч. Гэта зусім неверагодна ... таму я прапаную ... паведамляць весткі пра колькасць хеўраў з большай дакладнасцю"*[70]. Але гледзячы па колькасным складзе войскаў, якія суправаджалі перавозкі, страх не праходзіў. Так, напрыклад, *"22 чэрвеня ў 2 гадзіны раніцы выступіў з Вільні атрад з 2 рот Кастрамскога палка пры 9 казаках, пад камандаваннем маёра Вількена, для канваявання палітычнага злачынца і транспарта ў Ліду"* [71].

Пасля некалькіх няўдалых сутыкненняў у чэрвені (Рудня, Шумы), Астрога-Парадоўскі адышоў пад Шчучын і ў Дэмбраўскім лесе злучыўся з аддзелам *Аляксандра Лянкевіча*, злучаны атрад пайшоў у Гарадзенскую пушчу, потым пад напорам царскіх войскаў 9 жніўня перайшоў Нёман і аказаўся ў Аўгустоўскай губерні. Гэта быў апошні акт трагедыі паўстання, бо ў чэрвені паўстанне на Лідчыне скончылася. Але рэпрэсіі новага губернатара Мураўёва-Вешальніка супраць непакорнага краю толькі пачыналіся[72]. Мірон-Браніслаў Нарбут пісаў: *"У ... паўстанні 1863 г. засцянковая шляхта пастаўляла найвялікшы кантынгент моладзі ў шэрагі народныя, несла апошні грош на ахвяру дзеля Краю, таму засцянковая шляхта цярпела найбольшы перослед з боку ўраду. Спальваліся дамовыя пабудовы, забіраліся маёнткі, і цэлыя сем'і шляхецкія высылаліся этапам у Сібір альбо ў глыб Расеі, нават без аніякай прычыны, дастаткова было даносу першага жандара альбо паліцыянта, што захоўваецца зброя, альбо што калісьці ў засценку хавалі паўстанца. Так у Лідскім павеце ў Дэмбраўскай парафіі вынішчана цэлая ваколіца Шчукі і некалькі іншых"* [73].

У чэрвені ў Вільні на Лукішках быў павешаны лідзянін *Баляслаў Колышка*, пра дзеянні якога ў Лідзе перад паўстаннем пісалася раней. Чыноўнік адміністрацыі Мураўёва Масолаў пісаў пра яго: *"... малады чалавек 22 гадоў дваранін Лідскага павету ... вызначаўся сваімі здольнасцямі, характару быў адважнага, з цвёрдай воляй, як кажуць - сарві-галава. Ён стаяў на чале адной з трох галоўных хеўраў на Жмудзі..."*[74]. А відавочца пакарання, рускі афіцэр, князь Імерацінскі занатаваў: *"... трымаў сябе ... з годнасцю і памёр без страху, без маладушных ваганняў: ён сам выштурхнуў лаўку з-пад сваіх ног"*[75].



***Баляслаў Колышка***

11 студзеня 1864 года ў Вільні на Лукішскім пляцы быў расстраляны *Цітус Далеўскі*, які нарадзіўся 13 траўня 1840 года ў фальварку Кункулка Лідскага павету. Цітус Далеўскі - удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Маскве і Пецярбурзе, дзе вучыўся ва ўніверсітэтах. З лета 1863 года быў найбліжэйшым памочнікам Кастуся Каліноўскага па кіраўніцтве паўстаннем.


***Цітус Далеўскі***

Яшчэ адзін удзельнік паўстання *Кастусь Кашыц* (Kaszyc, 1828-1881 гг.), сын Юзафа Кашыца, маршалка Наваградскага. Кастусь Кашыц - выпускнік Дэрпцкага ўніверсітэта, беларускі пісьменнік, уладальнік Тарнова, Белагруды, Малога Ольжава. За ўдзел у паўстанні быў сасланы і да 1866 года быў у высылцы. Яго маёнтак Тарнова быў прададзены расейцу, графу Маўрасу.

У раёне Аўгустоўскага канала ў шэрагах паўстанцаў ваяваў *Валеры Тукала* з Ольжаўскіх Тукалаў. У яго быў канфіскаваны маёнтак Рачкоўшчына.

Найбольш таленавітым военачальнікам паўстання быў *Валеры Ўрублеўскі*. Валеры Антоні Ўрублеўскі (15 снежня 1836 - 5 жніўня 1908) - дзеяч польскага, беларускага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Нарадзіўся ў мястэчку Жалудок Лідскага павету (цяпер гарадскі пасёлак у Шчучынскім раёне Беларусі) у сям'і безмаянтковага шляхціца Антона Ўрублеўскага і Разаліі з роду Юраўскіх. Бацька яго працаваў леснікам, потым скарбнікам у графа Тызенгаўза.


*Валеры Антоні Ўрублеўскі*

Скончыўшы ў 1853 годзе Віленскую гімназію, паступіў у Пецярбурскі лясны інстытут. У час вучобы ўдзельнічаў у студэнцкім руху, быў членам нелегальнага рэвалюцыйнага гуртка, якім кіравалі польскія рэвалюцыянэры-дэмакраты Зыгмунт Серакоўскі і Яраслаў Дамброўскі. У 1861 годзе Ўрублеўскі накіраваны інспектарам лясной школы ў вёску Саколка Гарадзенскай губерні (цяпер Польшча). У 1861-1862 гадах ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі на Гарадзеншчыне, вёў прапаганду сярод навучэнцаў школы. Разам з Кастусём Каліноўскім рэдагаваў, друкаваў і распаўсюджваў нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную газету "Мужыцкая праўда".

У час паўстання 1863-1864 гадоў Урублеўскі кіраваў паўстанцкімі аддзеламі. Ён быў прыхільнікам левага крыла "чырвоных" - найбольш актыўных барацьбітоў, якія прытрымліваліся рэвалюцыйных поглядаў, - апоры на сялянскія масы, ліквідацыі памешчыцкага землеўладання, роўных правоў усіх народаў краю.

В. Урублеўскі вёў актыўную партызанскую барацьбу на Гарадзеншчыне, у Белавежскай пушчы, на Люблінщчыне ажно да 19 студзеня 1864 года, калі ў баі каля в. Руды Карыбутаўскія ў Люблінскім ваяводстве быў пасечаны шаблямі і прызнаны забітым, Па ім былі надрукаваны некралогі ў прэсе, але Валеры выжыў, стаў генералам Парыжскай камуны і першым марксістам Беларусі.

**Лідскія ксяндзы ў паўстанні**

Большасць рыма-каталіцкіх святароў падтрымала паўстанне.

Ксёндз-вікары Эйшышскага касцёла *Стэфан Юзаф Гарбачэўскі* (1837-1895) стаў капеланам у аддзеле Нарбута. Прысутнасць святара ў аддзеле падымала дух змагароў, давала ўпэўненасць у недарэмнасць высілкаў і ахвяраў. Згодна з паказаннямі палонных інсургентаў ксёндз Гарбачэўскі быў забіты ў баі[76]. Але паўстанцы (можа адмыслова) і карнікі памыліліся, паранены ксёндз Гарбачэўскі выжыў, сяляне ўратавалі ягонае жыццё, і яму ўдалося эміграваць у Францыю. Гарбачэўскі працягваў пастырскае служэнне ў Парыжы, дзе нават меў дазвол ад біскупа адпускаць самыя цяжкія грахі ад яго імя[77], у 1880 г. пераехаў у амерыканскі горад Мілуокі, адтуль перабраўся ў Вільню штата Мінесота, а потым вярнуўся ў Мілуокі і працаваў выкладчыкам у школе.

У ліку першых пакаранне смерцю атрымаў ксёндз *Станіслаў Ішора*, вікары з парафіі ў Жалудку. Ксёндз прачытаў у касцёле паўстанчы маніфест і сам здаўся ўладам. Ён быў асуджаны ў Вільні на 5 гадоў катаргі, нягледзячы на амністыю, тых, хто сам здасца ўладам. Генерал-губернатар Назімаў змякчыў пакаранне да 5 гадоў высылкі. На няшчасце, 26 траўня ў Вільню прыбыў новы генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў-Вешальнік і замяніў прыгавор карай смерці. 3 чэрвеня (22.05) 1863 года ксёндз Ішора быў расстраляны на Лукішках і стаўся першай ахвярай Мураўёва ў Вільні[78]. Інспектар віленскай гімназіі Кулін В. П. успамінаў: *"22 траўня ... Ускалыхнулася ўся Вільня. З раніцы на вуліцах, кірмашах і пляцах б'е барабан: аб'яўляе пра смяротнае пакаранне ... . На вуліцах незвычайны рух - усе імкнуцца ... на Лукішкі .... З натоўпам народу бягу туды ж і я. Вось і пляц з фатальным слупам, уся плошча заліта народам, на атачаючых яе вышынях віднеюцца шматлікія групы жанчын у жалобе. Пачуліся крыкі: "Вядуць, вядуць". Наступілі страшныя хвіліны. Сэрца б'ецца пачашчана, цяжка дыхаецца. Чытаюць прысуд, шматтысячны натоўп здранцвеў. Раздаўся залп, за ім стогны жанчын"*[79]. А вось як апісаў пакаранне ксяндза Ішоры чыноўнік Мураўёва Масолаў: *"... па вузкай Дамініканскай ... вялі на пакаранне смерцю ксендза Ішору. Наперадзе ехалі жандары і казакі, далей, акружаны салдатамі, бадзёра ішоў высокі, малады ксёндз прыемнага выгляду, ражкі маркотна дудзелі, побач з асуджаным ішоў духоўнік, а за працэсіяй і вакол яе, кіпеў неаглядны натоўп народу. Жанчыны былі ў чорным і гучна рыдалі. ... казалі, што да 20 тыс. народу сабралася на вялікае поле Лукішкі .... У гэты дзень у горадзе было змрочна .... Віна пакаранага была ў чытанні абуральнага маніфесту народу ў касцёле. Падобнае чытанне ... адбывалася амаль паўсюдна... . Ішора быў затрыманы адным з першых, і таму на яго ўпаў лёсік. Праз два дні былі расстраляны стары ксёндз Зямацкі і малады шляхціч Ляскоўскі. Я бачыў як яны ішлі на пакаранне смерцю ..."*[80].

4 чэрвеня 1933 г. у касцёле св. Якуба ў Вільні была пасвенчана мемарыяльная дошка памяці ксяндза з такім надпісам: *"S. p. ks. Stanislaw Iszora, urodzony w Wilnie 12 kw. 1838 r., wikarjusz w Zoludku, kaplan bohater za sprawe Kosciola i Narodu, stracony w Wilnie na Lukiszkach 3 czrw. 1863 r. Czesc jego pamieci." ("С. п. кс. Станіслаў Ішора, народжаны ў Вільні 12 крас. 1838 г., вікары ў Жалудку, каплан-герой за справу касцёла і народу, страчаны ў Вільні на Лукішках 3 чэрв. 1863 г. Слава яго памяці")*[81].

Мураўёў замяніў пробашчу парафіі Ваверка ксяндзу *Раймунду Зямацкаму* прыгавор, які асуджаў яго на цяжкія працы, смяротнай карай праз расстрэл. Гэты святар таксама прачытаў у касцёле паўстанчы маніфест, быў арыштаваны 4 сакавіка (19 лютага) 1863 г., лідскім вайсковым начальнікам падпалкоўнікам Пініцкім і пад канвоем адпраўлены ў Вільню, дзе і быў расстраляны 5 чэрвеня[82]. Відавочца успамінаў: *"... Зямацкі - высокі, прыгожы ксёндз з блакітнымі вачыма, у якіх блішчала натхненне... ... памёр мужна, ён увесь час ішоў цвёрдым крокам, не глядзеў ні на кога, толькі на неба, і да апошняй хвіліны то ціха, то гучна маліўся"*[83].

23 ліпеня 1933 г. на касцёле св. Рафала ў Вільні адкрыта памятная дошка памяці ксендза: *"S. P. Ks. Rajtmund Ziemacki, ur. w Losku 19 wrzesnia 1810 r.*

*Uczestnik powstania 1831 r. Wikarjusz parafji sw. Rafala w Wilnie, nastepnie proboszcz w Wawiorce, powiatu Lidzkiego, Kaplan-Bohater, zginal smiercia meczecska, rozstrzelany na placu Lukiskim w Wilnie 5 czerwca 1863 r." ("С. п. кс. Раймунд Зямацкагі, нар. у Лоску 19 верасня 1810 г. Удзельнік паўстання 1831 г. Вікары парафіі св. Рафала ў Вільні, пазней пробашч у Ваверцы Лідскага павету, каплан-герой, загінуў смерцю пакутніка, расстраляны на пляцы Лукішкі ў Вільні 5 чэрвеня 1863 г.")*[84].

*Адам Фалькоўскі*, пробашч Ішчалны, прачытаў паўстанчы маніфест і заклікаў сялян да паўстання. Арыштаваны 2 сакавіка 1863 г. і высланы з Ліды ў Вільню. Ён быў расстраляны ў Лідзе 24 (13) чэрвеня. Так пра гэтую падзею піша ксёндз-дэкан Гіпаліт Баярунец: *"... каля 6 гадзін раніцы с.п. ксёндз Адам Фалькоўскі ішоў на месца страты засяроджаны і чытаў малітвы з кантычкі. Яго прывялі з Лідскай вязніцы да месца, дзе была выкапана яма і падрыхтавана свежая вапна ў вялікай бочцы. Яму зачыталі смяротны прыгавор, пасля чаго яго прывязалі да слупа і завязалі вочы. Грымнуў залп з казацкіх карабінаў. Ксёндз абвіс, як ужо мёртвы, потым яго адвязалі, укінулі цела без труны ў яму і залілі вапнай. Магілу закапалі, эскадрон казакаў на конях зацёр усялякі след магілы. Наш люд ціха назіраў і, стоячы ў розных пунктах, перасячэннем ліній акрэсліў месца магілы, а пасля адходу катаў аблажыў магілу камянямі. Паліцыя шматкратна раскідвала каменне, але наш добры народ заўсёды пазначаў тое месца чатырохвугольнікам з камянёў. ... . У 1919 годзе лідскія чыгуначнікі пры ўдзеле лідскіх абывацеляў задумалі ўшанаваць магілу ксендза і паставіць помнік. Чыгуначнік Стэфан Лоўкіс узяў тую справу блізка да сэрца, зрабіў крыж з жалезных труб і падрыхтаваў цэмент для пастаноўкі помніка. Тады наступіла хвіліна, калі трэба было адшукаць магілу. Тыя людзі - жывыя ў 1919 годзе сведкі падзеі, паслухаўшы мае парады, сталі на тыя самыя месцы, як у 1863 годзе і на скрыжаванні ліній знайшлі магілу. Пры капанні ямы пад фундамент помніка натрапілі на камяні, а глыбей на вапну. Мейсца гэтае - бясспрэчна магіла страчанага ксяндза".*

У міжваенныя гады імя Фалькоўскага насіла адна з цэнтральных вуліц горада. У 1940 годзе савецкія ўлады знеслі крыж і зруйнавалі магілу ксендза Адама Фалькоўскага[85]. З 1996 г. грамадскасць горада вяла барацьбу за існаванне помніка на магіле Фалькоўскага, і ў выніку ў 2010 г. помнік на магіле ксендза быў адноўлены.

Да смерці прыгаварылі таксама ксендза *Яна Кажанёўскага*, вікарыя з Новага Двара. Ён таксама прачытаў у касцёле паўстанчы маніфест. Генерал-губернатар Назімаў выступіў, аднак, да цара з просьбай аб замене пакарання смерцю і атрымаў дазвол на кару 12 гадоў катаргі ў шахтах і пазбаўленне духоўнай годнасці. Ксендзу пашчасціла, што яго выслалі з Вільні ў Табольскую губерню перад прыездам Мураўёва.

Апрача ўпамянутага ўжо ксендза Кажанёўскага яго сусед, пробашч з парафіі Васілішкі ксёндз *Сырвід Ануфры*, быў пакараны за прачытанне маніфесту 12 гадамі катаргі ў шахтах Тамбоўскай губерні (Антоні Гжымала-Пшыбытка ў "Ziemi Lidzkiej" № 1 за 1937 г. сцвярджае, што гэта менавіта ксёндз Сырвід быў памілаваны па просьбе жонкі губернатара Патапава, у дзявоцтве княжны Абаленскай).


***Пробашч парафіі Васілішкі ксёндз Ануфры Сырвід***

Ксендза *Рамуальда Скібінскага*, пробашча парафіі Дэмбрава, пакаралі васьмігадовай катаргай у сібірскіх фабрыках, асуджаных на смерць ці на катаргу пазбаўлялі святарскай годнасці[86].

Адразу пасля страты 3 чэрвеня (22.05) 1863 года ксендза Ішоры, паўстанцы страцілі некалькі праваслаўных святароў, дапамагаўшых царскаму ўраду. Ужо 4 чэрвеня (23.05) за дапамагу ўраду быў забіты праваслаўны святар г. Суража Беластоцкага павету Гарадзенскай губерні Канстанцін Пракаповіч, 14 чэрвеня 1863 г. быў павешаны паўстанцамі псаломшчык Фёдар Юзяфовіч, які служыў у з. Святая Воля Пінскага павету, ён уваходзіў у так званы "атрад самаабароны" і для інсургентаў лічыўся жаўнерам варожага боку. Здаецца, да страты кс. Ішоры, паўстанцы не забівалі праўрадавых праваслаўных святароў: ім галілі бароды, падвяргалі маральнай абструкцыі і г.д.[87]

Улады, і ў першую чаргу вышэйшае праваслаўнае духавенства, вельмі пільна сачылі за падпарадкаванымі ім святарамі, не дапускаючы ніякіх ваганняў. Калі два маладыя праваслаўныя святары з Гарадзенскай губерні за непісьменных сялян падпісалі прысягу Нацыянальнаму Ўраду, яны адразу ж былі пазбаўлены сану. Вядомы таксама выпадак святара Скабалановіча. Яго і дзвюх яго дачок (хрышчаных і выгадаваных ў каталіцтве) западозрылі ў сувязях з паўстанцамі, і ў выніку святар адразу быў сасланы ў Гарадзенскі манастыр.

Пра нейкія ўчынкі праваслаўнага святарства супраць інсургентаў і, адпаведна, рэпрэсіі з боку паўстанцаў на Лідчыне, інфармацыі няма, да шчасця паўстанне тут не набыло элементаў грамадзянскай вайны.

### Пасля паўстання

Мураўёў М.М. 7 чэрвеня 1864 г. забараніў насіць жалобную вопратку і розныя "рэвалюцыйныя знакі", вянгеркі, канфедэраткі і доўгія боты пад пагрозай значных штрафаў: на першы раз - 25 руб., у другі раз - 50 руб., а на трэці раз - арышт. Калі заплаціць не было магчымасці, прадавалася маёмасць. Нават жалобу па родных дазвалялася насіць толькі пры наяўнасці адпаведнага дазволу ад паліцыі. Каб пазбегнуць штрафаў, жанчыны, выходзячы на вуліцу, падгортвалі жалобныя спадніцы каля поясу і на вачах паліцыі былі ў каляровых, а, заходзячы да сваіх аднадумцаў, апускалі схаваныя спадніцы і зноў былі ў жалобе. Заканчэнне

паўстання не адмяняла загадаў наконт жалобнага адзення, гэта была своеасаблівая помста з боку ўладаў і надзейная крыніца хабару для мясцовых чыноўнікаў[88].

Усе міравыя пасярэднікі ў паветах з тутэйшых адмовіліся ад сваіх пасад, і на іх месца панаехалі чыноўнікі-абрусіцелі. Вось як адзін з іх, Палявы М., апісвае перасячэнне ўсходняй этнічнай мяжы Беларусі ў 1864 г. і свой праезд да Вільні: *"Адразу за Смаленскам, як толькі я заехаў у Магілёўскую губерню, я трапіў у новы свет. З'явіліся палякі, беларусы, габрэі з іх чужымі для мяне мовай, звычаямі і варожым да ўсяго рускага настроем. Я, рускі гвардзейскі афіцэр, сваёй формай выяўляў сваю нацыянальнасць і адразу адчуў злосны настрой, варожасць ўсіх гэтых людзей. Яны наўмысна гаварылі са мной па-польску, хоць усе выдатна размаўлялі і разумелі рускую мову. Яны абцяжарвалі мяне ва ўсім: у куплі хлеба, абаранкаў, у падліку грошай, лічачы на злотыя, а часта і зусім адмаўлялі ва ўсім, кажучы: "Не разумеем!". ... Ужо з самай мяжы Смаленскай губерні, было прыкметна ваеннае становішча ў краі. У мястэчках бачныя былі войскі, на паштовай дарозе стаялі месцамі заставы і ваенная варта пры іх. На станцыях правяралася мая падарожная. Але калі я заехаў у Менскую губерню, ваеннае становішча убачылася ва ўсёй сваёй сіле і строгасці ..."*[89].

Яскрава адлюстроўвае рэжым, усталяваны на Лідчыне, прашэнне адстаўнога расейскага падпаручніка Міхаіла Васільевіча Страескі на імя Мураўёва ад 29 лістапада 1863 г., якое зберагглося ў паперах былога набліжанага да Мураўёва ў Вільні афіцэра Чарэвіна[90]. Страескі, ехаў з Бесарабіі ў Пецярбург праз Беларусь і зазнаў шмат грубасцяў і здзекаў - спачатку ў Пінску, а пасля ў Лідзе - ад вайсковых начальнікаў Ліды і Пінска і п'яных расейскіх жаўнераў. Адстаўны падпаручнік спачатку быў упэўнены, што рэжым, які ён бачыў на сваёй дарозе, усталяваны без ведама генерал-губернатара і парушае законы, таму, як чалавек чэсны і які жадае дабра Расеі, ён напісаў рапарт да генерал-губернатара. Пра тое, што бачыў на Лідчыне, Страеска пісаў: *"Калі сп. Алхазаў* (лідскі ваенны начальнік - *Л.Л.*) *абыходзіўся са мною так, ... непалякам, маючы перад вачыма 5-6 дакументаў - сведчанняў пра маю асобу, то чаго пасля гэтага можна чакаць ад яго няшчаснаму паляку? Панове Алхазавы* [...] *прымусяць іх кінуць усё і шукаць выратавання "do lasu". ... Паверце, Ваша Высокаправасхадзіцельства,* - піша далей Страескі, - *што ў войсках губерняў нельга ўгледзець прастадушнага, заўжды рахманага расейскага салдата; грубасцю і жорсткасцю яны пераўзышлі там, мабыць, дзікія татарскія орды, што лютавалі некалі на Св. Русі. Калі б да Вас маглі даходзіць стогны і скаргі прыгнечаных варварствам нашага хрысталюбнага воінства, Вы, напэўна, з жахам адмовіліся б ад такіх паплечнікаў"*[91]. Вераемна хутка адстаўны падпаручнік усвядоміў, што ўсе робіцца з дазволу Мураўёва-Вешальніка і з'яўляецца часткай ягонага плана пацыфікацыі краю.




***Карыкатура на Мураўёва-Вешальніка з 1863 г.***

Вось што казаў Мураўёў камандзіру аднаго з карных атрадаў князю Імерацінскаму: *"Не верце ні чаму, што Вам будуць казаць пра ласку, гуманнасць, недаказанасці віны ... няпраўда, усе яны вінаватыя больш ці менш, і самае малое пакаранне - калі хто пасядзіць у каменным мяшку! ... Нам трэба вырваць ім зубы да вясны, а то прыйдзецца пачынаць зноў! Я даў ваенным начальнікам самыя шырокія паўнамоцтвы, распараджэнняў сваіх не змяняю, наадварот пацвярджаю і заўсёды падтрымліваю. Таму не бойцеся адказнасці, не саромейцеся і не глядзіце на тое, што скажа следчая камісія.... Яшчэ раз кажу: калі хто з гэтых ... выглядае невінаватым, малая справа! ... Няхай пасядзіць, падумае, гэта самае меншае з таго, што ўсе яны заслугоўваюць! Калі ўбачыце ... дапамогу або хоць найменшую патуранне гэтым мярзотнікам, загадваю вам усё спаліць, зраўняць з зямлёю - была б гэта вёска, сядзіба, што б ні было! Асабліва строга прыглядайце за панамі і ксяндзамі, за гэтымі шляхецкімі ваколіцамі, не варта цырымоніцца з-за іх шматлюдства: напішыце мне, і я іх выселю ўсіх да аднаго! Ну-с, я рады, што магу вам даць выпадак паслужыць у такі час Гасудару і рускай справе!"*[92].

Як бачым, задоўга да бальшавікоў і фашыстаў, Мураўёў дэ-факта ўвеў прынцып калектыўнай ад-

казнасці.

Нездарма ўжо сучаснік Мураўёва, выбітны рускі бібліёграф Мяжоў В. І. у сваёй "Рускай бібліяграфіі" пасля смерці генерала адзначыў: *"У грамадстве і гісторыі ён* (М.М. Мураўёў) *застаўся пад імем Мураўёва-Вешальніка і наогул вядомы быў сваёю крывапажэрнасцю"*[93].

* * *

Знакаміты польскі палітык Раман Дмоўскі (1864-1939), пісаў пра фатальную ролю "польскага пытання" для гісторыі Расійскай Імперыі: далучэнне земляў Рэчы Паспалітай да Імперыі зрабіла немагчымым нармальнае палітычнае развіццё гэтай краіны: *"Колькі разоў, Расія ўступала на шлях разумных памяркоўных рэформаў і ў часы Аляксандра I, і ў часы Аляксандра II, альбо ў перыяд станаўлення Думы, і кожны раз сыходзіла з гэтага шляху. Галоўнай прычынай было "польскае пытанне", а дакладней небяспека, што палякі выкарыстаюць палітычныя правы дзеля ўмацавання ўласных пазіцый і падрыву расійскай дзяржаўнасці. ... Трэба было выбіраць паміж эвалюцыйным і рэвалюцыйным шляхамі развіцця. У выніку таго, што "польскае пытанне" фактычна заблакавала першы з іх, Расія была прыгавораная да рэвалюцыі. Магчыма, апошнія падзеі у Расіі* (маецца на увазе рэвалюцыя 1917 г. - *Л.Л.*) *з'яўляюцца расплатай за панаванне над Польшчай"*[93].

Разгром паўстання абярнуўся ўзмацненнем русіфікацыі. 10 снежня 1865 г. быў прыняты закон, які забараняў "асобам польскага паходжання" набываць зямлю. Забаранялася распаўсюджванне польскіх выданняў. Часовыя правілы для народных школ краю стваралі выключна вялікарускую сістэму адукацыі. Шэраг загадаў гарантаваў масавы прыток чынавенства з этнічна расійскіх губерняў. Нельга было размаўляць па-польску ў публічных месцах: у нашых гарадах можна была пабачыць аб'явы накшталт: *"Говорить по-польски запрещено"*. Пасля паўстання адбылася хуткая пераарыентацыя палітычна і культурна актыўных людзей, прыхільнікаў ліцвінскай традыцыі: замест працы на патрэбы свайго краю, яны ў значанай ступені пачалі арыентавацца на Польшчу і яе культурныя патрэбы.

У 1863 г. этнограф Павел Баброўскі прапанаваў галоўным крытэрыем вызначэння этнасу лічыць мову. Тады ж, пры падтрымцы уладаў пачалося хуткае развіццё так званага заходнерусізму (яго сэнс - Беларусь этнічная, культурная і дзяржаўная частка Расіі "сапсаваная" палякамі). У той жа час расійскія ўлады дазволілі друкаваць на беларускай мове этнаграфічныя даследаванні, якія павінны былі спрыяць ўмацаванню плыні менавіта заходнерусізму. Былі праведзены шматлікія навуковыя даследаванні народнай культуры. Але этнаграфія, як і любая аб'ектыўная навука, у перспектыве, толькі пацвердзіла існаванне асобнага беларускага этнасу. Другая палова XIX ст. стала для Еўропы часам нацыянальнага абуджэння, усе нашы суседзі прачыналіся ад сну і стваралі нацыі ў сучасным разуменні гэтага слова. Таму, канешне, агульны культурны кантэкст указваў кірункі для далейшага развіцця і нам, беларусам

Развіццё беларускай культуры ішло ў межах ліцвінскай і заходнерускай культурных традыцый, і беларускасць шмат у чым з'явілася іх сплавам. Ужо ў 1870-80-х гадах беларускія народнікі выступілі з абгрунтаваннем тэзы пра беларусаў як асобны народ. Сімвалічна, што на канчатковае афармленне беларускай культурнай традыцыі сваёй творчасцю моцна паўплываў паўстанец 1863 г. Францішак Багушэвіч[95]. Пасля яго станаўленню беларускай нацыі ўжо не было альтэрнатывы, гэтае станаўленне можна было замарудзіць, але ўжо было немагчыма адмяніць.

**Дадаткі**

**Рапарт**
**начальніка Віленскага атрада начальніку**
**2-й гвардзейскай дывізіі са спісам саўдзельнікаў мецяжу.**
**29 красавіка 1863 г., № 15.**[96]

У выкананне прадпісання вашага правасхадзіцельства маю гонар прадставіць спіс асобаў, якія наклікалі на сябе падазрэнне ў саўдзеле ў мецяжы.

1) Сястра Нарбута, *с-ня Манджунская* спрыяла набору паўстанцаў, сама бывала даволі часта ў хеўры і рабіла часам з ёю пераходы, дастаўляла мяцежнікам харчы. Усё гэта па сведчанні, паўстанца, які знаходзіцца ў генерал-маёра Шамшава.

2) *Вільбік*, шляхціц, жыве ў Ліпкунцах, галоўны вярбоўнік.

У гэтай вёсцы ёсць адзін паранены паўстанец.

3) Абшарнік *Янкоўскі* жыве на фальварку Дубічы каля Новага Двара. Дакладна вядома, што на яго мызе было прыгатавана шмат харчоў для разгавення мяцежнікаў.

4) Абшарнік *Мікульскі* - мыза Глямбок, прымаў і частаваў мяцежнікаў, на яго мызе Нарбут і Гарбачэўскі прыводзілі зноў набраных паўстанцаў да прысягі.

Разам з тым лічу абавязкам далажыць і пра асобаў, якія спрыялі адшукванню мяцежнікаў і сваёй стараннасцю, звярнулі на сябе асаблівую ўвагу, а менавіта:

Станавы прыстаў 5 стану Ільін.

Соцкі мястэчка Нача шмат спрыяў да выведвання пра месцы збору мяцежнікаў.

Староста і соцкі вёскі Салтанішкі забіралі палонных і параненых пасля справы 22 красавіка і прыводзілі іх да мяне.

Іосіф Жэгздрын, селянін вёскі Смільчыны, Васілішскага стану. Быў не толькі пры маім атрадзе, але і пры раней пасыланых ад Паўлаўскага палка, у гэты час вярнуўся з атрадам у Вільню з асцярогі быць павешаным мяцежнікамі. Шмат спрыяў пры выведванні і вышуках, захапіў і прывёў вярбоўніка Няверу і параненага *Іосіфа Рачука* ў справе 30 са-

кавіка.

Антон Талыкоўскі, Каняўскай грамады, дзяржаўны селянін, быў сілком узяты ў паўстанцы, уцёк ад іх і далучыўся да майго атрада. Дастаўляў звесткі, ездзіў па вёсках выведваць і ў дзень справы 22 красавіка з другім мужыком накіраваўся выглядваць след хеўры, след прагледжаны потым штабс-капітанам Рэнвальдтам, па якім атрад і напаў на Нарбута.

Адам Базылевіч, дзяржаўны селянін мястэчка Дубічы. Пры руху маім 21 красавіка на Забалаць прыведзены быў казацкім вахмайстрам Кузняцовым, як паказаўшы, што хеўра Нарбута знаходзіцца за возерам Пеляса. З прычыны гэтага апавяшчэння і быў зроблены мною зваротны рух на Дубічы.

Не магу прайсці маўчаннем міма стараннасці жыхароў-габрэяў мястэчка Эйшышкі. У дзень нараджэння Гасудара Імператара 17 красавіка ўсё мястэчка было ілюмінавана, у школах пры поўным асвятленні былі спяваныя гімны ў гонар Яго Вялікасці і Гсударыні Імператрыцы, таксама павінен згадаць пра сына Віленскага святара Багдана Брана, які выказаў жаданне паступіць у вайсковую службу, і ўзятага мною для перакладаў з польскай мовы. Падчас абедзвюх спраў і пры пераследзе знаходзіўся ўвесь час пры ротах і часам нават у ланцугу пад агнём мяцежнікаў.

Начальнік Віленскаго атрада лейб-гвардыі Паўлаўскага палка

палкоўнік Цімафееў.

**Спіс маёнткаў, канфіскаваных у Лідскім павеце (1863-1873)[97]**

| Назва маёнтка | Былы ўладальнік | Дзесяцін |
|---|---|---|
| Вільбікі | Вільбік Стэфан | 23 |
| Ачкевічы | Гжымайла Фелікс | 33 |
| Пакулішкі | Эйсмант Леанард | 76 |
| Мажэйкаўшына (дзялка) | Тубілевіч Мацей | 1 |
| Жылічы | Рудзіцкі | 46 |
| Казіміраўка | Рудзіцкі | 84 |
| Нявіша | Александровіч Ксаверы | 468 |
| Сасноўшчына | Бердаўскі Адольф | 145 |
| Аленшчына | Дабраўлянскі | 205 |
| Дылева (дзялка) | Цыдзік Міхал | 12 |
| Ліпкунцы | Трушунскі Юзаф | 4 |
| Рытаневічы (дзялка) | Кміта Антоні | 4 |
| Кіюнцы | Ёч Багуслаў | 90 |
| Грышанішкі (дзялка) | Краінскі Леан | 97 |
| Грышанішкі (дзялка) | Трушчынскі | 52 |
| Кракшлі (дзялка) | Бадэр Ян | 68 |
| Кракшлі (дзялка) | Бадэр Юзаф | 68 |
| Кракшлі (дзялка) | Сярэйчык Ваўжынец | ? |
| Галадоўка | Ёч Эдмунд | 29 |
| Члоўшчына | Пулоўскі Напалеон | 41 |
| **Разама** | **21 маёнтак** | |

**Маёнткі ў Лідскім павеце, якія пасля паўстання 1863 г. былі выкупленыя расійскімі абшарнікамі на падставе інструкцыі ад 23.VII. 1865 г.[98]**

| Прозвішча пакупніка | Назва маёнтка | Дзесяцін | Кошт, руб. | Дата акта куплі | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| Плаксенка Мікалай | Ачковічы | 33 | 522 | 1868 | |
| Трапіцын Міхаіл | Пакулішкі | 76 | 806 | 1868 | |
| Расільян Леў | Ражанка | 505 | 10 173 | 1869 | |
| Трубяцкі, князь | Радзевічы | 320 | 5 412 | 1869 | |
| Навагродскі Фёдар | Багушоўшчына | 87 | 1 107 | 1869 | |
| Грыгор'еў Маісей | Даўклёўшчына | 288 | 2 730 | 1870 | |
| Шпэер Апаланінары | Калеснікі | 288 | 2 637 | 1870 | |
| Нікіцін Аляксандр | Тракелі | 3 169 | 25 805 | 1870 | |
| Лівэн Вільгельм, барон | Дворышча | 3 088 | 33 856 | 1870 | |
| Гічэла Міхаіл | Паплавы | 113 | 1 603 | 1870 | |
| Маўрас Дзмітры | Ерамеевічы | 191 | 1 182 | 1870 | |
| Піксанава Надзея | Гілвінішкі | 106 | 2 471 | 1870 | |
| Кісела-Загоранскі Караль | Памедзь | 315 | 2 371 | 1870 | |
| Гера Леапольд | Смілгіні | 361 | 1 069 | 1870 | |
| Асаўкейка Разалія | Паўлока | 264 | 1 206 | 1870 | |
| Пенкіна Алена | Забалаць | 308 | 2 277 | 1871 | |
| Цыпін Мітрафан | Дварчаны | 77 | 607 | 1871 | |
| Ушакоў Пётр | Сакоўшчына | 141 | 1 656 | 1871 | |
| Анісімаў Аркадзь | Клунцы | 90 | 682 | 1871 | |
| Чэкалкін Сцяпан | Дубінцы | 199 | 846 | 1872 | |
| Лідскае гарадское таварыства | Ліда | 110 | 5 606 | 1873 | |
| Крылоў | Жылічы | 130 | 1 650 | 1873 | |
| **Агулам** | **22 маёнткі** | **10 199** | **106 274** | | |
| **Кошт дзесяціны 6 руб.** | | | | | |

**Спіс маёнткаў, прымусова прададзеных па ўказу ад 10.12.1865 г.[99]**

| Новы ўладальнік | Былы ўладальнік | Назва маёнтка | Дзесяцін | Кошт, руб. | Дата куплі |
|---|---|---|---|---|---|
| Маўрас Дзмітры | Кашыц Канстанцін | Тарноўшчына | 2 500 | 56 300 | 1866 |
| Шванебах Фёдар | Тышкевіч Караль і Алівія | Жырмуны | 4 000 | 41 000 | 1867 |
| Маўрас Дзмітры | Табенскі Яраслаў | Малкаўцы | 22 | 300 | 1867 |
| Стаховіч Пётр | Пілецкі Юзаф | Лаўчылавічы | 200 | 6 000 | 1867 |
| Васюхноў Іван | Ласковіч Юльян | Малыя Стокі (Чаплеўшчына) | 68 | 2 600 | 1867 |
| Львова Тацяна | Грабоўскі Вільгельм | Семякоўшчына | 880 | - | 1870 |
| Львова Тацяна | Грабоўскі Вільгельм | Рагачоўшчына | 115 | 4 000 | 1870 |
| Станскі Сцяпан | Геншаль Людвік | Валдацішкі | 438 | 10 601 | 1868 |
| Джанееў Мікалай | Сямашка Ян | Гернікі | 320 | 4 800 | 1868 |
| Шпэер Апалінары | Аранскі Антоні | Лаўсюны | 11 | 90 | 1868 |
| Дамбавецкі Ал. | Захватовіч Вінцэнт | Бердаўка | 1 576 | 17 501 | 1868 |
| Маўрас Дзмітры | Табенскі Яраслаў | Зенавічы | 487 | 9 055 | 1868 |
| Шпэер Апалінары | Звяровіч Аляксандр | Доцішкі | 451 | 11 100 | 1868 |
| Элсен Юліян | Ржансніцкі Эрнест | Здановічы | 488 | 8 000 | 1868 |
| фон Фейліцар Мік. | Нарбут Баляслаў | Нікадземава | 191 | 3 000 | 1868 |
| Кукаранаў Мікалай | Табенскі Яраслаў | Утольнікі | 330 | 6 220 | 1868 |
| Кукаранаў Мікалай | Драблячэвіч Ал. Ралукрад Юзаф | Больсі | 9 | 76 | 1868 |
| Міхайлаў Іван | Вайсят Антоні | Цецянцы | 66 | 317 | 1868 |
| Ушакоў Пётр | Вільканец Тодар | Псярцы | 122 | 1 271 | 1870 |
| **Агулам** | **19 маёнткаў** | | **12 274** | **218 231** | |
| **Кошт дзесяціны** | **18 руб.** | | | | |

**Спіс маёнткаў, прададзеных ў 1864-1873 гг.[100]**

| Від продажу | Назва маёнтка | Дзесяцін | Кошт, *руб.* | Дата куплі | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| Вольны продаж | Ельня | 34 | 1 900 | 1868 | |
| | Вялікая Лебяда | 30 | 552 | | |
| | Малое Ольжава | 714 | 37 000 | 1870 | |
| | Парачкоўшчына | 182 | 4 400 | 1870 | |
| | Балкуны | 320 | 6 300 | 1870 | |
| | Вярцянёўка | 183 | 4 100 | 1872 | |
| | Ельня | 85 | 900 | 1872 | |
| | Буячкі | 1 060 | 7 000 | 1873 | |
| З аўкцыёну | Папішчы | 40 | 1 474 | 1866 | |
| | Міканцы | 46 | 795 | 1867 | |
| | Жыжня | 46 | 795 | 1867 | |
| | Андрушкі | 221 | 3 150 | 1867 | |
| | Няцеч | 1 858 | 11 910 | 1868 | |
| | Балічы | 199 | 4 578 | 1869 | |
| | Мелегава альбо Ельня | 868 | 7 444 | 1870 | |
| | Лычкава | 760 | 18 010 | 1872 | |
| | Вавёрка | 357 | 13 185 | 1873 | |
| | Дубічы | 838 | 22 332 | 1873 | |
| | Баранаўцы | 350 | 5 506 | 1873 | |
| **Агулам** | **21 маёнтак** | **11 213** | **150 779** | | |
| **Кошт дзесяціны** | **13 руб.** | | | | |

**Літаратура і заўвагі:**

[1] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 55.

[2] Архивные материалы Муравьёвского музея ... . Вильно, 1913. Книга 4, часть 1.С. 252.

[3] Там жа. S. 244-245.

[4] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 53-54.

[5] Царства Польскага.

[6] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 199.

[7] Архивные материалы Муравьёвского музея ... . Вильно, 1913. Книга 4, часть 1. С. 246.

[8] Там жа. S. 253.

[9] Там жа. S. 259-260.

[10] "Пристав 5-го стана, провинциальный секретарь Райнольд Флориан Фаддеев Сухоцкий, становая квартира в м. Эйшишках, в 36 верстах от г. Лиды" Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1862 год. Вильно, 1862. Ч. 1. С. 120.

[11] Там жа. S. 293-294.

[12] Швед В.В. Вайсковы начальнік Лідскага павета грамадзянін Нарбут // Наш радавод. Кн. 6. Ліда, 1994. С. 84.

[13] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 63-65.

[14] Швед В.В. Вайсковы начальнік Лідскага павета ... С. 85.

[15] З успамінаў Мірона Браніслава Нарбута: "Вясковае насельніцтва Лідскага павету мае глыбокую веру ў Бога і працавітасць ... У часы апошняга паўстання 1863 года не толькі сімпатызавала народнай справе, але нават сяляне скарбовыя ў многіх мясцовасцях станавіліся ў шэрагі, і многія з іх загінулі на полі славы ці былі высланы на пасяленне ў Сібір. Я сам у Арэнбургу сустрэў дастаткова вялікую партыю сялян з парафій Эйшышскай, Нацкай і Радунскай, якіх гналі на пасяленне ў Башкірыю за ўдзел у паўстанні".

[16] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 67-68.

[17] Там жа. S. 69-72.

[18] "Леон Антонович Краинский" Гл: Памятная книжка Виленской губернии на 1862 год. Вильно, 1862. ч. 1. С. 119.

[19] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 73-77.

[20] Там жа. S. 83-86.

[21] Там жа. S. 204.

[22] Архивные материалы Муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863-1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Составил Миловидов А.И. Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 78.

[23] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 207.

[24] Там жа. S. 87-91.

[25] Там жа. S. 208.

[26] Архивные материалы Муравьёвского музея ..., Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 78.

[27] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 92.

[28] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 80-81.

[29] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 94.

[30] Пра Сэфана Віліьбіка пісаў Мірон Браніслаў Нарбут: "У вязніцы ў Вільні ў кляштары св. Пятра бачыў шляхціца засцянковага з-пад Ліды Стэфана Вільбіка. Ён набіраў добраахотнікаў у аддзелы Людвіка Нарбута ў Лідскім павеце і дастаўляў жывёлу. Арыштаваны расейцамі з мандатам Народнага Ўраду, пасаджаны быў у вязніцу і адданы пад ваенны суд. Захоўваў поўны спакой і моцную волю і нікога не скампраментаваў. У калегі па вязніцы, каторы яго мне прадставіў, Вільбік пытаўся: "Скажы, Пан, які можа мне быць дэкрэт?". "Могуць павесіць", - той адказаў. Задумаўся трошкі Вільбік, але праз хвіліну спытаў: "А ці я буду ў гісторыі?" “Абавязкова - гісторыя пераказвае нашчадкам імёны ўсіх, хто заслужыў у Айчыны”, - адказаў той. На што Вільбік з усёй энергіяй выказаў: "Хвала Богу - няхай вешаюць!". Потым яго выслалі на цяжкія работы ў Сібір" - гл. Miron-Bronislaw Narbutt. Szlachta okoliczna // Ziemia Lidzka. 1997, nr 6 (28).

[31] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 89-90.

[32] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 412.

[33] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 96.

[34] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 413-415.

[35] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 97.

[36] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 104.

[37] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 416.

[38] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 98.

[39] Там жа. S. 99.

[40] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 117-118.

[41] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 99-102.

[42] Суднік Станіслаў. Людвік Нарбут // Наша слова № 37 (1084) 12 верасня 2012 г.

[43] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 102.

[44] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 119.

[45] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 103-105.

[46] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 417.

[47] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 111-119.

[48] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 418.

[49] Имеретинский Н.К. Воспоминания о графе М.Н. Муравьеве // Исторический вестник, 1892. Т. 50. № 12. С. 613.

[50] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 120.

[51] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 419.

[52] Имеретинский Н.К. Воспоминания о графе М.Н. Муравьеве ... С. 614.

[53] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 121-123.

[54] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 419-420.

[55] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 128-129.

[56] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 420-421.

[57] Паўстанцы, загінуўшыя пад Дубічамі:

1. Нарбут Людвік, 32 гады.

2. Бразоўскі Аляксандр, 32 гады, лекар з Гурнофеля.

3. Бразоўскі Францішак, 35 гадоў, жыхар Гурнофеля.

4. Грэмза Казімір, 25 гадоў, селянін з Ліпкунцаў.

5. Губарэвіч Стэфан, 35 гадоў, жыхар Галавіч-

поля.

6. Ёдка Станіслаў Ян, 22 гады, жыхар Петрашунцаў.

7. Краінскі Леан, 35 гадоў, жыхар Грышанішак.

8. Пакемпіновіч Юзаф, 22 гады, студэнт Кракаўскага ўніверсітэта.

9. Паплаўскі Уладзімір, 28 гадоў, жыхар Капцюха.

10. Скірмунт Тамаш, 30 гадоў, з Піншчыны.

11. Тарашкевіч Ігнат, 38 гадоў, фельчар з Ліды.

12. Жукоўскі Уладзіслаў Вандалін, 27 гадоў, жыхар Лацка.

13. Адам, прозвішча невядома, сябар Нарбута.

[58] Имеретинский Н.К. Воспоминания о графе М.Н. Муравьеве ... С. 614.

[59] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 123-124.

[60] Miron Bronislaw Narbutt. Dubicze // Ziemia Lidzka" №30-31. 1998.

[61] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 422-423.

[62] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 128-130.

[63] Там жа. S. 131-133.

[64] Мікалаі (Нікалаі) Уладзіслаў, падпаручнік Нараўскага палка, шляхціц Віленскай губерні, паранены у бітве пад Дубічамі, трапіў у палон, 13 верасня 1863 г. расстраляны ў Вільні на Лукішскім пляцы.

[65] Там жа. С. 219-220.

[66] Там жа. С. 134-137.

[67] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 436-4379.

[68] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 223.

[69] История Лейб-гвардии Павловского полка .... С. 438-439.

[70] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 224.

[71] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 227.

[72] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 128-130.

[73] Miron-Bronislaw Narbutt. Szlachta okoliczna // Ziemia Lidzka. 1997, nr 6(28).

[74] Мосолов А.Н. Виленские очерки 1863-1865 гг. С. Петербург, 1898. С. 30-31.

[75] Имеретинский Н.К. Воспоминания о графе М.Н. Муравьеве // Исторический вестник, 1892. Т. 50. № 12. С. 612.

[76] Архивные материалы Муравьёвского музея … Вильно, 1913. Книга 6, часть 2. С. 404.

[77] Быў так званым "penitencjarzem"

[78] Колышка Аляксандр. Лідскія ксяндзы ў студзеньскім паўстанні 1863 // Лідскі Летапісец № 22. С. 6-7.

[79] Кулин В. П. Из записок виленского старожила. // РС, 1893, т. 79, № 7, С. 79.

[80] Мосолов А.Н. Виленские очерки 1863-1865 гг. С. Петербург, 1898. С. 28-29.

[81] Колышка Аляксандр. Лідскія ксяндзы ў студзеньскім паўстанні 1863 // Лідскі Летапісец № 22. С. 6-7.

[82] Архивные материалы Муравьёвского музея .... Вильно, 1913. Книга 4, часть 1. С. 285.

[83] Имеретинский Н.К. Воспоминания о графе М.Н. Муравьеве ... С. 619.

[84] Колышка Аляксандр. Лідскія ксяндзы ў студзеньскім паўстанні 1863 // Лідскі Летапісец № 22. С. 6-7.

[85] Суднік Станіслаў. Адам Фалькоўскі // Лідзкі Летапісец № 6. С. 8-10.

[86] Колышка Аляксандр. Лідскія ксяндзы ў студзеньскім паўстанні 1863 // Лідскі Летапісец № 22. С. 6-7.

[87] Страдания Православного духовенства Литовской епархии от польских мятежников // Литовские Епархиальные Ведомости. - 1863. - №13. - С. 459-460; №14. - С. 512-513.

[88] Лісейчыкава Наталя. Штодзённае жыццё жыхара Гродна ў 1860-я гг. // Веснік ГрДзУ" №4, 2006 - http://harodnia.com/a260.php

[89] Полевой Н. Два года, - 1864 и 1865, из истории крестьянского дела в Минской губ. // Русская старина, 1910. Т. 141. № 1. С. 48-49.

[90] У час задушэння паўстання 1863 г. Пётр Чарэвін палкоўнік, потым генерал-лейтэнант, таварыш міністра ўнутраных спраў і шэфа жандараў, набліжаны імператара Аляксандра III.

[91] Чарэвін Пётр. Паўночна-Заходні край (Успаміны) // Спадчына № 3-1998. С. 31-64.

[92] Имеретинский Н.К. Воспоминания о графе М.Н. Муравьеве ... С. 628-629.

З-за важнасці гэтага тэксту даю яшчэ раз словы Мураўёва без перакладу:

"Не верьте ничему, что вам будут говорить о снисхождении, гуманности, недоказанности вины... неправда! Все они виноваты более или менее, и самое малое наказание - если кто посидит в каменном мешке!... Нам надобно вырвать им зубы до весны, а иначе опять придется начинать сызнова! Я дал военным начальникам самые широкие полномочия, распоряжений своих не изменяю, а напротив подтверждаю и всегда поддерживаю. Поэтому не бойтесь ответственности, не стесняйтесь тем, что скажет следственная комиссия...

Выговорив последние слова, он энергично прихлопнул рукою кипу следственных дел, перед ним лежавших, и продолжал:

- Все это для вас не обязательно, и соображаться с тем, что могут или могли бы сказать, вам не следует. Еще раз говорю: если кто из этих... по виду покажется неви-новным, нужды нет!... Пускай посидит, одумается, это, самое меньшее из того, что все они заслуживают! А если увидите пристанодержательство, пособничество или хоть малейшую поблажку этим мерзавцам, приказываю вам все сжечь, сравнять с землею - будто деревня, усадьба, что бы ни было! Особенно строго присматривайте за панами и ксендзами, а с этими шляхетскими околицами не следует церемониться по их многолюдству: напишите мне, и я их выселю всех до единого! Ну-с, я рад, что могу вам дать случай послужить в такое время государю и русскому делу!"

[93] Русская историческая библиография за 1865-1876 гг. Сост. В. И. Межов. Т. II. Спб. 1882. С. 292.

[94] Смалянчук А.Ф. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864-1917 г. Гродна, 2001. С. 50.

[95] Там жа. С. 43-46.

[96] Архивные материалы Муравьёвского музея ... . Вильно, 1913. Книга 4, часть 1. С. 422-423.

[97] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 178.

[98] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 175.

[99] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 176.

[100] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 177.

***Леанід Лаўрэш***

# Калонія дзяржаўных дамоў у Лідзе (1920-я - 1930-я гг.)

На пачатку 1920-х гг. польскія ўлады сутыкнуліся з неабходнасцю больш-менш прыстойна размясціць чыноўнікаў адноўленай дзяржавы ў гарадах Заходняй Беларусі і Украіны. За часы ваеннага ліхалецця жылы фонд гарадоў прыйшоў у заняпад, шмат дамоў было разбурана. Напрыклад, у Лідзе, падчас так званай "Бітвы на Нёмне" у 1920 г. баі ў межах горада ішлі з выкарыстаннем артылерыі [1].

Каб вырашыць праблему, была распачата дзяржаўная акцыя па будаўніцтву спецыяльных комплексаў адміністрацыйных і жылых будынкаў - так званых калоній дзяржаўных дамоў.

Гісторыя будаўніцтва, існавання і сучасны стан калоній дзяржаўных дамоў - цікавая і дасюль нераспрацаваная тэма.

Адразу пасля заканчэння будаўніцтва гэтых калоній, у 1920-я гады ў Варшаве быў выдадзены шэраг альбомаў з архітэктурнымі праектамі, апісаннямі і фотаздымкамі пабудаваных дамоў:

*“Budowa domow dla urzednikow panstwowych w wojewodztwach wschodnich.” Warszawa. 1925.*

*“Budowa pomieszczen dla Korpusu Ochrony Pogranicza i domow dla urzednikow panstwowych w wojewodztwach wschodnich.” Z. 1-5. Warszawa. 1925.*

Гэтыя кнігі, а таксама артыкулы перыядычнага друку з'яўляюцца галоўнымі крыніцамі для вывучэння гісторыі будаўніцтва калоній дзяржаўных дамоў у гарадах Заходняй Беларусі.

Агульная падрыхтоўка будаўніцтва калоній дамоў пачалася з 1923 г. 28 траўня 1924 г. Міністэрства скарбу пачало фінансаванне гэтага праекту. Для арганізацыі такой маштабнай будоўлі, 12 траўня ўтвораны ваяводскія будаўнічыя камітэты, а 6 чэрвеня ў Берасці створана "экспазітура" на чале з галоўным кіраўніком будоўлі на "Крэсах усходніх", які быў прамым прадстаўніком Міністэрства скарбу. На гэту пасаду быў прызначаны Аляксандр Прачніцкі.

Адразу, у чэрвені, пачалі распрацоўвацца архітэктурныя праекты будучых дамоў для чыноўнікаў. Да ўдзелу ў акцыі былі прыцягнуты архітэктары з Варшавы і іншых гарадоў Польшчы. Архітэктарам давалася замова на распрацоўку тыпавых дамоў для забудовы, сітуацыйных планаў, даручаўся нагляд за ажыццяўленнем праектаў. Сярод патрабаванняў да архітэктараў было і такое, каб новыя калоніі гарманічна спалучаліся з мясцовымі забудовамі і адпавядалі сучаснаму ўзроўню ўрбаністыкі. Праектаваліся муры павялічанай таўшчыні, прыстасаваныя для больш халоднага клімату.

Планавалася амаль што адначасова пачаць будоўлю дамоў у 44 гарадах і мястэчках, пераважна ў цэнтрах паветаў, у тым ліку ў Наваградскім ваяводстве, у склад якога ўваходзіў Лідскі павет. У Наваградскім ваяводстве будоўля пачыналася ў 8 населеных пунктах (у Палескім - у 11, у Віленскім - у 16, у Валынскім - у 9). У нашым ваяводстве планавалася пабудаваць 43 дамы (з іх 21 мураваны і 22 драўляныя), у Віленскім - 27 дамоў (5 мураваных і 22 драўляныя), у Палескім - 69 дамоў (26 мураваных і 43 драўляныя). Акрамя гэтага 9 дамоў для тых жа мэтаў будаваліся за сродкі іншых праграм, а 42 дамы пачалі будавацца раней, чым пачалася рэалізацыя адмысловай праграмы [2, s. 4-6.].

Кіраўнікамі работ у Лідзе, Баранавічах і Стоўбцах былі прызначаныя: інжынеры-архітэктары Вітольд і Зыгмунт Выганоўскія [2, s. 11.].

Для будаўніцтва калоній дзяржаўных дамоў у Лідзе быў куплены пляц за горадам, на так званым "выгане". Трэба сказаць некалькі слоў пра гэты "выган". "Выганам" у Лідзе з XIX ст. называлася забалочаная тэрыторыя, што прымыкала да рэчкі Каменкі агульнай плошчай 345 дзесяцін (377 гектараў), якая выкарыстоўвалася як паша для жывёлы і коней гараджан. З сярэдзіны 1920-х гг. "выган" быў асушаны і на яго тэрыторыі вырас новы раён, якім жыхары горада вельмі ганарыліся.




***Выдаткаванне грошай па кварталах***

Тут акрамя калоніі дзяржаўных дамоў для чыноўнікаў былі пабудаваныя цагляныя будынкі бальніцы (1921-1923), школаў № 1 і 2 імя Нарутовіча (1926-1929), дзяржаўная гімназія імя Караля Хадкевіча (1929-1930), паштамт (1935), стадыён. Частка горада паміж паркам і стадыёнам у 1930-я гг. насіла назву "Вялікая Ліда" ("Wielka Lida"). У канцы 1920-х гадоў вулачка, на якой была пабудавана калонія дзяржаўных дамоў, атрымала назву "Ужэндніча" (Urzendnicza).

За ўвесь час у Лідзе былі пабудаваны 7 дамоў агульным аб'ёмам 6 135,22 м³ (у Валожыне - 9 514,26 м³ , Стоўбцах - 7 715,44 м³, Баранавічах - 12 077,07 м³, Навагрдку - 11 923,54 м³, Нясвіжы - 5 628,51 м³) [3, s. 23.].

Агульны кошт калоніі дзяржаўных дамоў у Лідзе склаў 162 000 злотых. Выдаткаванне грошай адбывалася па кварталах [3, s. 27.]:

Калонія дзяржаўных дамоў у Лідзе, як і ў іншых гарадах Заходняй Беларусі, была пабудавана ў сціслыя тэрміны: "Працы вяліся з амерыканскай хуткасцю" [4].

Дом лідскага старасты пабудаваны ў модным у той час "закапанскім стылі", аўтар праекту інжынер-архітэктар Ежы Беіль (Jerzy Beill). Па гэтым жа праекце будаваліся дамы для стараст у Баранавічах, Драгічыне, Глыбокім, Нясвіжы, Навагрдку, Слоніме, Стоўбцах, Валожыне [2, s. 42-43.], і аўтару вядома, што як мінімум у Валожыне і Глыбокім гэтыя дамы





*Праект "дома старасты" архітэктара Ежы Беіля*



*"Дома старасты" ў Слоніме*



*"Дома старасты" ў Навагрaдку*



*"Дома старасты" ў Лідзе (ЗАГС)*



*"Дома старасты" ў Лідзе (ЗАГС)*

захаваліся і не былі перабудаваныя, як у Лідзе. Па праектах Ежы Беіля (нарадзіўся ў 1885 г.) пабудавана палітэхніка ў Гданьску, гімназія імя Стэфана Баторыя ў Варшаве (1925) і, што істотна для лідзян, дзяржаўная гімназія імя Караля Хадкевіча ў Лідзе, будынак якой і зараз упрыгожвае наш горад.

Пасля перапланіроўкі і перабудовы на пачатку 1980-х гг., да непазнавальнасці сказіўшай выгляд "дома старасты", у ім размясціўся гарадскі ЗАГС.

У Лідзе былі пабудаваны два дамы "на дзве сям'і" па праекце архітэктара Зыгмунта Тарасіна (Zygmunt Tarasin) [2, s. 41.]. Да нашых часоў дажыў толькі адзін з дамоў, пасля капітальнага рамонту і ўнутранай перабудовы ў ім зараз заходзіцца рэдакцыя Лідскага радыё і тэлебачання.

Амаль без пашкоджанняў захаваўся дом "на чатыры сям'і", пабудаваны па праекце архітэктара Тэадора Буршэ (Teodor Bursze). Аднатыпныя лідскаму дому "на чатыры сям'і" былі пабудаваны дамы ў Пінску, Луцку і Роўна [2, s. 49.]. Гэты дом і зараз прыемна ўражвае сваім выглядам і выразна вылучаецца з "шэрых" двухпавярховых дамкоў савецкай забудовы 1950-60-х гадоў.



Widok od ulicy.







Arch. dypl. Zygmunt Tarasin. Dom dla 2-ch rodzin. Typ. B.

***Праект дома "на дзве сям'і" архітэктара Зыгмунта Тарасіна***





***Дом "на дзве сям'і" па праекце архітэктара Зыгмунта Тарасіна, г. Ліда, вул. Чарняхоўскага, 5***

Былі пабудаваны тры двухпавярховыя дамы "на шэсць сямей" па праекце інжынера-архітэктара Стэфана Тамаровіча (Stefan Tomorowicz). З сітуацыйнага плану бачна, што двор гэтых дамоў быў падзелены на 6 пляцовак пад сад-агарод для жыхароў дома. Аднатыпныя дамы павінны былі быць пабудаваны і ў Вілейцы [3, s. 85.]. Усе тры дамы дажылі да нашага часу, але пры канцы 1990-х гадоў былі перабудаваны ў трохпавярховыя.

Цікавымі з'яўляюцца ўспаміны тых, хто жыў у гэтых дамах, але нягледзячы на інтэнсіўныя пошукі, аўтару ўдалося знайсці жыццёвыя гісторыі толькі двух чалавек.

Успаміны дачкі лідскага віца-старасты Кшэнтоўскага, Дануты Тхажоўскай : *"Месца, дзе мы жылі, называлася "Калонія ўжэдніча" - сучасны парк. Сучасны ЗАГС - гэта быў дом старасты, у двухпавярховым доме за басейнам* (басейн - пабудова

канца 1960-х гадоў - *Л. Л.*) *жылі 4 сям'і, у тым ліку і наша. Сям'я Невяроўскага - адваката (ці суддзі), Кажаноўскага і начальніка паліцыі. Бацьку арыштавалі раніцай 24 верасня 1939 г. (...) Тры дні ў турме, дзе зараз друкарня, прымалі перадачы, на чацвёрты сказалі, каб больш не прыносілі. І з тых часоў ніякіх слядоў. Спачатку нас выселілі з дома, а 13 красавіка 1940 г. далі гадзіну на зборы і вывезлі. Жаўнер, які забіраў нас, сказаў, каб мы бралі бульбу і ежу, а кнігі і добрая вопратка нам не спатрэбяцца (...) Вывезлі ў Паўночна-Казахстанскую вобласць (...) Лідскі староста Гансеўскі адразу ўцёк у Літву, мы потым з ім сустракаліся ў Польшчы, ён вельмі дзівіўся з таго, што мы не выехалі ў першыя ж дні (...) Падчас вайны я ўступіла ў дывізію імя Касцюшкі, капітан рэзерву"* [5].

Успаміны Казіміра Казлоўскага, сына школьнага інспектара: *"Нарадзіўся я ў Лідзе. У паявтовым горадзе Наваградскага ваяводства. Мой бацька нарадзіўся ў горадзе Асвенцым і пасля заканчэння Кракаўскага ўніверсітэта прыехаў у Ліду выкладаць у гімназіі. Маці - з лідскай сям'і Ка-*











Arch. dypl. Teodor Bursze. Dom dla 4-ch rodzin. Typ K.

49

***Праект дома "на чатыры сям'і" архітэктара Тэадора Буршэ***





***Дом "на чатыры сям'і" па праекце архітэктара Тэадора Буршэ, г. Ліда, вул. Міцкевіча, 3***

*сакоўскіх... 1 верасня вельмі нізка, так што можна было каменем патрапіць, над горадам праляцеў самалёт. Аказалася, што самалёт, які праляцеў над нашым домам, быў нямецкі. Жылі мы ў "Калоніі ўжэдніцай". Гэта было месца, дзе жылі ўсе функцыянеры дзяржаўных інстытуцый. Гэта былі ладныя дамкі. Дужы сад..."* Бацьку Казіміра Казлоўскага папярэдзіў кватарант, капітан Чырвонай Арміі Капейкін, і бацька паспеў уцячы ў Варшаву, дзе жыла яго маці, таму і не быў арыштаваны. [6]

Якасна пабудаваныя дамы для чыноўнікаў польскай адміністрацыі і зараз упрыгожваюць гарады, дзе яны пабудаваны. Гісторыя калоній дзяржаўных дамоў у гарадах Заходняй Беларусі і лёсы тых, хто жыў у гэтых дамах - гэта яшчэ нерасправаная частка гісторыі нашых гарадоў.



***Праект дома "на шэсць сямей" інжынера-архітэктара Стэфана Тамаровіча***





***Дамы "на шэсць сямей" па праекце інжынера-архітэктара Стэфана Тамаровіча, г. Ліда, вул. Чарняхоўскага, 12, 16, 18***

**Спіс крыніц і літаратуры:**

1. Odziemkowski, Janusz. Lida 1920 / Janusz Odziemkowski. - Warszawa, 1994. - S. 62-71.

2. Budowa domow dla urzednikow panstwowych w wojewodztwach wschodnich. - Warszawa, 1925.

3. Budowa pomieszczen dla Korpusu Ochrony Pogranicza i domow dla urzednikow panstwowych w wojewodztwach wschodnich. 1925. Z. 5. - Warszawa, 1925.

4. Kresy ilustrowane. 1925. - № 8. - S. 4.

5. Мемуары бывших жителей Лиды [Электронны рэсурс] / Рэжым доступу: http://pawet.net/memoirs/sbor/Мемуары_бывших_жителей_Лиды.html - Дата доступу: 07.10.2011.

6. Oral History Archives [Электронны рэсурс] / Рэжым доступу: http://ahm.1944.pl/Kazimierz_Kozlowski?lang=en - Дата доступу: 07.10.2011.

Анатоль Кулеш

# ШМАТВЕКТАРНАЯ ПАРТЫЗАНСКАЯ ВАЙНА Ў ЗАХОДНІХ АБЛАСЦЯХ БЕЛАРУСІ Ў 1941-1944 гг.

Няўмольна бяжыць час. Ужо мінула амаль тры чвэрці стагоддзя як скончылася вайна. Даўно развеяўся у паветры пах дыму і крыві. Не лунаюць па начах заравы пажараў. Выраслі новыя пакаленні людзей. Шмат чаго сцерлася з памяці. Ды толькі не ўсё і не ўва усіх. Той, хто перажыў жахі тых часоў, не забудзе ніколі. Іншы раз нейкая нават самая малазначная рысачка з той мінуўшчыны выклікае ўспаміны і малюе карціны, быццам усё было толькі ўчора.

Вось на гэты раз, праз дзесяціголдзі, трапіла мне ў рукі кніга польскага аўтара Каспера Слядзіньскага "Ціхацёмныя", у якой ён распавядае аб падзеях мінулай вайны. Шмат месца прысвячае падполлю і дзеянням партызан супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У тым ліку значную частку з апавядання прысвячае падзеям на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі і ў прыватнасці на Лідчыне. Мне давялося быць сведкам многіх падзей, пра якія ўзгадвае аўтар, а ў некаторых нават ледзь не прыйшлося самому ўдзельнічаць. І выклікалі яны, гэтыя ўспаміны, далёка не самы лепшы настрой.

Успомніўся верасень 1939 года. З ранку 1 верасня зазванілі царкоўныя званы. Мнагалюднымі ручайкамі паплылі туды зблянцы і жыхары навакольных вёсак. У гэты дзень яны адпраўлялі сваіх блізкіх: бацькоў, братоў, мужоў, сыноў на фронт. На золку таго дня нямецка-фашысцкая Германія напала на Польшчу, пад уладай якой мы ў той час жылі. Ранішнюю цішыню раптам напоўнілі плач дзяцей, галашэнне жанчын, патаемна выціралі скупую слязу мужчыны - не на гулянку выпраўлялі, а, магчыма, на смерць. На шчасце тая вайна забрала толькі два жыцці аднавяскоўцаў - Майсевіча Аляксандра і Шафарэвіча Рыгора.

Ніхто з нас у той час і ведаць не ведаў, і думаць не думаў, што пачынаецца адна з самых трагічных старонак у нашай гісторыі - Другая Сусветная вайна, якая знясе з сабою вынікі векавой працы людзей і нават мільёны іх жыццяў.

Аднак, калі ў другой палове верасня завітала да нас Чырвоная Армія, мы палічылі, што прыйшло для нас збавенне. Ды памыліліся. Усё толькі-толькі пачыналася.

### З чаго пачалося або пра першы этап Другой Сусветнай вайны 1939-1945 гг.

Восень 1918 года. 11 лістапада адбылося падпісанне Кампʼенскага пераміра, абвясціўшага канец Першай Сусветнай вайны, а 29 чэрвеня 1919 года - Версальскага мірнага дагавора паміж дзяржавамі Антанты і Германіяй. Нягледзячы на тое, што даваенная Расія з'яўлялася членам гэтага саюза, на працэдуру падпісання Дагавора яна не была запрошана. Нарэшце ў Еўропе запанаваў мір. Аднак не ўсім дзяржавам, удзельнікам вайны прыйшліся да густу ўмовы падпісання. Больш за ўсіх незадаволенымі, пакрыўджанымі палічылі сябе Германія і Савецкая Расія. Германія - таму што была абмежавана ва ўтрыманні ўзброенных сілаў, што не дазваляла здзейсніць у будучыні рэванш за паражэнне ў вайне. Акрамя таго Германія пазбавілася заморскіх уладанняў у Афрыцы. Савецкая Расія - за тое, што ў выніку Першай Сусветнай вайны зніклі з палітычнай карты Еўропы чатыры наймагутнейшыя імперыі - Германская, Аўстра-Венгерская, Асманская і Расійская, а на іх месцы адрадзіліся былыя і паўсталі новыя дзяржавы. Партыйнае кіраўніцтва краіны палічыла, што ўзнікненне новых дзяржаў - істотная перашкода ў распаўсюджанні сацыялістычнай рэвалюцыі ў Заходнюю Еўропу. Адрадзілася ў тым ліку і Рэч Паспалітая Польшча.

З гэтай нагоды Сталін нават надрукаваў 11 лістапада 1918 года артыкул, назваўшы яго "Перашкода". У ім аўтар пісаў: *"... паміж рэвалюцыйнай Захадам і сацыялістычнай Расіяй узнікла перашкода"*, у якой захоўваюць сваё жабрацкае існаванне за кошт міласціны дажываючых свой век імперыялістаў Захаду буржуазна-нацыяналістычныя ўрады. Няма ніякіх падстаў не верыць, што контррэвалюцыйная перашкода паміж рэвалюцыйным Захадам і сацыялістычнай Расіяй будзе зруйнавана.

Аўтара "Перашкоды", мабыць, напалохала тое, што нацыянальна-вызвольны рух пачаў набіраць моц і ў былой Расійскай Імперыі. Набылі незалежнасць краіны Прыбалтыкі: Літва, Латвія, Эстонія. Стала незалежнай Фінляндыя. Спрабавалі вызваліцца ад расійскага панавання Беларусь і Ўкраіна, але беспаспяхова.

Адроджаная Польшча стала непераадольным мурам паміж Расіяй і Заходняй Еўропай. Сілу і моц яе незалежнасці спазнала Савецкая Расія ў час "паходу на Віслу" Тухачэўскага. Але ні Савецка-Польская вайна 1919-1921 гг., ні 1939 год не развязалі канфліктныя пытанні паміж Расіяй і Польшчай, яны засталіся на гады Вялікай Айчыннай вайны 1941-1944 гг.

### Самая кароткая ў гісторыі ноч 22 чэрвеня 1941 г.

Здзейсніўшы змову з фашысцкай Германіяй, падпісаўшы 23 жніўня 1939 г. Пакт Молатава-Рыбентропа аб сферах уплыву ў Еўропе і падзеле Польшчы, партыйна-ўрадавае кіраўніцтва СССР, мабыць, палічыла сваю задачу-мінімум, адтэрміноўку пачатку вайны, выкананай і ўпала ў стан добрага настрою. З

улацівым генетычна-славянскім даверам яно пачало добрасумленна і бездакорна выконваць свае дагаворныя абавязкі, не падазраючы, што другі бок, фашысцкая Германія, выношвае зусім іншыя планы.

І праз 669 дзён з дня падпісання яны былі абвешчаны на ўвесь свет громам выбухаў бомбаў, разрывамі снарадаў, строкатам кулямётаў ды аўтаматаў. Запылалі полымем родныя гарады і вёскі, пачалі рушыцца масты, разбурацца прадпрыемствы і дарогі. Струменямі палілася людская кроў. Германія нечакана напала на Савецкі Саюз - пачалася Вялікая Айчыннай вайна, якая на самай справе стала працягам Другой Сусветнай. На гэты раз з учарашнім "сябрам, аднадумцам і паплечнікам у міжнародных справах", якая ўвайшла ў гісторыю ўсіх народаў свету, як самая крывавая і бязлітасная ў памяці чалавецтва. Яна адабрала жыццё кожнага трэцяга нашага суайчынніка. У Беларусі што дзве хвіліны гінуў адзін чалавек.

Цудоўная пагодлівая раніца 22 чэрвеня 1944 года ўвайшла ў гісторыю савецкіх людзей пад незвычайнай назвай: "ПАЧАТАК ВАЙНЫ!"

Роўна ў 4.30 у небе над галовамі сонных людзей загулі маторы, паляцелі гітлераўскія крылатыя ястрабы з чорнымі крыжамі на фюзеляжах і крылах. Над нашым горадам нямецкія самалёты з'явіліся ўжо праз паўгадзіны пасля таго, як гітлераўскі вермахт перайшоў дзяржаўную мяжу цераз Буг і рушыў на ўсход. Запалалі заводы і фабрыкі, гарэлі жылыя дамы і дзяржаўныя ўстановы, школы і бальніцы. Адна з бомбаў трапіла ў будынак яўрэйскай бальніцы па сённяшняй вуліцы Савецкай у раёне Лідсельмаша.

Краіна аказалася ў полымі пажараў. Без таго кароткая летняя ноч спыніла свой бег.

Аўтару гэтых радкоў давялося сустрэць вайну 14-гадовым падлеткам, ловячы рыбу на Нёмане. Над гэтым месцам, проста над нашымі галовамі ў вышыні, амаль кожную раніцу мы з захапленнем назіралі, як савецкія лётчыкі - знішчальнікі адточваюць сваё лётнае майстэрства, выконваючы фігуры вышэйшага пілатажу. У гэты дзень мы іх не ўбачылі.

Затое ўбачылі іншае. Ніжэй па цячэнні ракі ляцеў вялізны, падобны да транспартнага, самалёт. Следам за ім імчаўся маленькі аднакрылы знішчальнік. Дагнуўшы, пакуляўся-пакуляўся над ім, пастракатаў з кулямёта. А калі той агрызнуўся кулямётнай чаргой, быццам пастукаўшы кулаком у сцяну, развярнуўся і так жа хутка паімчаўся на базу. І мы зразумелі - ВАЙНА! Пра яе ў вёсцы пагаворвалі ўжо даўно. На гэтую тэму і песні спявалі: "Дан приказ ему на запад...", "Кацюшу", "Если завтра война", "Три танкиста" і ім падобныя.

А ў вёсцы. Хто паспеў управіцца на падворку, тады ў нас яшчэ была прыватная гаспадарка, пешшу, хто трушком, а хто і галопам накіраваліся у хату-чытальню, якая знаходзілася ў пачатку вёскі. Калісьці яна належала Лаўруку. Так яе і зараз звалі. Ды толькі сына ягонага Антона Яновіча савецкія ўлады вывезлі ў Казахстан, а ў пустой хаце зрабілі бібліятэку і месца адпачынку для вяскоўцаў. Ішлі слухаць апошнія навіны па радыё. Прыйшоўшы, уладкаваліся, усталявалася надзвычайная цішыня. Адкрыўшы рот, утаропіліся позіркам у чорную талерку, што вісела на сцяне - радыё.

У 12 гадзін пачуўся шум і трэск, а затым і голас. Са зваротам да народа звяртаўся Старшыня СНК СССР В.М. Молатаў. Ён на ўсю краіну абвясціў аб пачатку ваеннай агрэсіі гітлераўскай Германіі супраць Савецкага Саюза. Між іншым Вячаслаў Молатаў сказаў: *"... Сегодня, в 4 часа утра, без пред'явления каких-либо претензий к Советскому Союзу, без об'явления войны, германские войска напали на нашу страну...".*

Вядома, што Молатаў меў дэфект мовы - калі хваляваўся, ён пачынаў заікацца. На гэты раз такое было вельмі прыкметна.

У словах Вячаслава Міхайлавіча "без об'ъявления войны" ёсць інфармацыя для роздуму. Гэта мая асабістая думка. Прапаную зрабіць выснову самім чытачам.

У 3 гадзіны ночы 22 чэрвеня пасол СССР Дзеканозаў (Дзеканашвілі) быў запрошаны ў Міністэрства замежных спраў Германіі, і там яму Міністр замежных спраў Рэйха Рыбентроп уручыў ноту нямецкага ўраду аб разрыве дыпламатычных зносін і аб абвяшчэнні Савецкаму Саюзу вайны. Вайна пачалася праз гадзіну пасля ўручэння ноты. Рыбентроп уручаў яе за сталом, за якім некалі сядзеў Бісмарк. Што гэта магло значыць, невядома. Але ў дыпламатыі кожная дробязь можа мець якое-небудзь сімвалічнае значэнне ці сэнс. Само сабою разумеецца, што зроблена ўсё было фармальна. За тэрмін у адну гадзіну зрабіць штонебудзь немагчыма. Але на момант выступлення па радыё В.М. Молатаў, як Наркам замежных спраў і старшыня СНК СССР, не мог не ведаць, што вайна была абвешчана.

Да таго ж пытанне: хто ў каго вучыўся такой практыцы?

Такім жа чынам паступіў Савецкі Саюз у адносінах з Рэччу Паспалітай у верасні 1939 года. Тады, у 2 гадзіны 15 хвілін ночы 17 верасня польскі пасол у СССР В. Гржыбоўскі быў запрошаны у НКЗС СССР і яму была прапанавана нота аб разрыве паміж дзяржавамі дыпламатычных зносін і пераходзе Чырвонай Арміяй а 4 гадзіны раніцы мяжы з Польшчай. Пасол ноту не прыняў і ў 3 гадзіны раніцы пакінуў кабінет намесніка Наркама замежных спраў СССР Уладзіміра Пацёмкіна. А калі нота ўсё ж такі была дастаўлена ў Пасольства, яе вярнулі назад звычайным пісьмом. Пасол паведаміў аб змесце ноты свайму ўраду па радыё адкрытым тэкстам.

Дык можа былы "рытуал", якім карыстаўся некалі Святаслаў - "Хачу ісці на вы!" - згубіў свой сэнс у XX стагоддзі?

3 ліпеня 1941 года са зваротам да народа па радыё выступіў І.В. Сталін. Сказаныя ім у канцы выступлення словы: "Вечная слава героям, павшим в боях за свабоду и независимость нашей Родины! Смерть немецким окупантам!" - сталі заклікам на ўсю вайну. Імі заканчваліся ўсе загады Галоўнакамандуючага.

**Захопнікі і іх хаўруснікі**

22 чэрвеня 1941 года ЦК ВКП(Б) і СНК СССР разаслалі ў абкамы прыгранічнай зоны Дырэктыву

№1, у якой прадпісваўся план усім партыйным і савецкім органам улады на месцы іх дзеяння ў ваенных умовах, рабіўся заклік да ўсяго савецкага народа самаахвярна весці непрымірымую барацьбу з захопнікамі. Галоўны акцэнт ставіўся на стварэнні падпольнага і партызанскага руху на захопленай ворагам тэрыторыі. На жаль, амаль палова Беларусі ўжо аказалася захопленай. Нямецкае войска таптала ўжо вуліцы нашай сталіцы - Мінска. Фронт няўмольна набліжаўся да Дняпра.

У такіх умовах толькі адно патрабаванне Дырэктывы мела сэнс і пачало бездакорна выконвацца, у якім гаварылася: *"В занятых врагом районах создавать партизанские отряды и диверсионные группы для борьбы с частями вражескай армии, для расжигания партизанскай войны всюду и везде, для взрыва, мостов, дорог, порчи телефонной и телеграфнай связи, поджига складов и т.д. В захваченных районах создавать невыносимые условия для врага и его пособников, преследовать и уничтожать их на каждом шагу. Срывать все их меропрыятия..."*

І заклік гэты быў пачуты.

Спашлюся на жывыя мясцовыя факты. Ужо ў жніўні 1941 года група Пятра Кузьміча Макарава разбіла і спаліла паліцэйскі пастарунак у Беліцы. Памятаю тую летнюю ноч. Праз нейкі час пасля таго, як



мы пачулі стрэлы ды выбухі гранат, у акно нашай хаты нехта пастукаў. Ды ніхто ў хаце не адклікнуўся. Усе баяліся - вайна! Пастукалі яшчэ раз. І зноў маўчанне. За акном нехта загаварыў і пайшоў. Раніцай даведаліся, што гэта былі чужыя, збілі замок, што замыкаў паром і накіраваліся за Нёман.

Вясной 1942 года група Глухарава спаліла мост цераз Дзітву на шашы Ліда-Слонім, знішчыла некалькі кіламетраў тэлефонна-тэлеграфнай сувязі паміж Лідай-Бярозаўкай-Наваградкам. Трапіўшыя ў акружэнне чырвонаармейцы пад камандаваннем Матросава каля Баравіцкіх могілак на шашы Ліда-Слонім абстралялі і падбілі некалькі легкавых машын з немцамі з Беліцкага гарнізона. Іх іржавыя шкілеты яшчэ доўга валяліся на абочыне дарогі пасля вайны. Захопнікам-акупантам станавілася цесна на нашай зямлі.

У кароткі час у Прынёманні ўзнікаюць шматлікія ўзброеныя партызанскія групы, якія з часам пачалі разрастацца і аб'ядноўвацца ў партызанскія атрады.

Першым з іх: атрад "Кастрычніцкі" пад камандаваннем старшага лейтэнанта Чырвонай Арміі Віталія Ільіча Панчанкава. За ім на базе груп А.І. Феакцістава, А. Ярмолава і В.А. Дзямідава - "Іскра" на чале са старшым лейтэнантам Аляксандрам Андрэевічам Коннавым. На пачатку яны дзейнічалі разрозненна, што зніжала эфектыўнасць іх аперацый.




**Драўляна-зямельнае абарончае збудаванне - нямецкі бункер.**
*1 - абарончая сцяна, 2 - уваход, 3 - амбразуры, 4 - жылыя памяжканні. Фрагменты абарончай сцяны бункера (гарызантальны разрэз) - 1 і агароджы з калючага дроту - 2. Малюнкі аўтара.*

"Малая вайна", якую вялі партызаны і падпольшчыкі з захопнікамі па-за лініяй фронту, была не толькі "каляровай", але мела і адпаведныя адценні. На аку-

паванай ворагам тэрыторыі супрацьстаялі адзін другому цэлыя ўзброенныя злучэнні: савецкія партызаны або "чырвоныя" і "белыя" або АК; нямецкія акупанты са сваімі хаўруснікамі. Да пэўнага часу супраць акупантаў выступалі і акаўцы. Усё змянілася напрыканцы 1943 года. Савецкім партызанам пасля гэтага прыйшлося змагацца на два франты - і з акупантамі, і з акаўцамі.

На баку фашыстаў былі значныя сілы, якія складаліся з частак вермахту, беларускіх калабарацыяністаў і паліцыянтаў (каля 50 тыс.), прыбалтыйскіх - літоўскіх, латышскіх, эстонскіх - прафашысцкіх фармаванняў, расейскіх казакаў (9 тыс.), украінскіх нацыялістычных фармаванняў. Некаторыя з іх мелі сучаснае цяжкае ўзбраенне. Казакі або Руская Вызвольная Народная Армія (РОНА) мелі на ўзбраенні танкавы батальён і артылерыю. Дыслакаваліся часткі РОНА вакол Навагрудка і Слоніма, а таксама каля Ліды. Адзін з такіх гарнізонаў у пачатку 1944 года замацаваўся быў у вёсцы Зачэпічы Дзятлаўскага раёна. У дзень Вялікадня партызаны паспрабавалі выбіць іх з вёскі. Але зрабіць ім гэта не ўдалося. Увесь вечар грымелі гарматы, стракаталі кулямёты і аўтаматы, узрываліся гранаты і міны. Над вёскаю палала зарава пажараў. Панёсшы значныя страты, партызаны адступілі. Пэўна, больш верных хаўруснікаў у немцаў, чым ронаўцы ды ўкраінскія дабраахвотнікі не было.

Дарэчы, адным з актыўных арганізатараў казацкага войска - РОНА - быў былы царскі генерал Пётр Мікалаевіч Красноў. Улетку 1943 года, у час інспекцыі сваіх войск у Беларусі ён наведаў Ліду.

Нягледзячы на значную перавагу ў сілах, нямецкія акупанты і іх хаўруснікі і дзень, і ноч адчувалі жывёльны страх. Свае гарнізоны ў невялікіх паселішчах яны ператваралі ў цвердзі, празваныя ў народзе "бункерамі". Умацаванні гэтыя будаваліся з бярвенняў, паміж якімі засыпалася зямля. Вароты зачыняліся на ўсе засаўкі, і толькі ў сценах былі зроблены адтуліны-амбразуры, каля якіх устанаўліваліся кулямёты, і было можна страляць з іншай зброі. Навокал звонку іншы раз умацаванне абносілася агароджай з калючага дроту. Але і гэтыя збудаванні не заўсёды забяспечвалі ім жаданую бяспеку.

**"Чырвоныя" і "Белыя" - неўтаймаваны збройны канфлікт**

**"Чырвоныя"**

У траўні 1942 года пры стаўцы Галоўнакамандуючага ствараецца ЦШПР - Цэнтральны штаб партызанскага руху. Ягоным начальнікам прызначаецца сакратар ЦК КП(б)Б Панцелеймон Кандрацьевіч Панамарэнка.

Партызанская барацьба набірае большую арганізаванасць і эфектыўнасць падрыўных дзеянняў. 9 верасня 1942 года ствараецца Беларускі штаб партызанскага руху (БШПР), які ўзначаліў Пётр Захаравіч Калінін. У партызанскіх атрадах умацоўваецца ваенная дысцыпліна. Зніжаецца колькасць выпадкаў самасуду, самаўпраўства, марадзёрства і іншых негатыўных з'яў. Адным словам, надышоў канец "партызанскай вольніцы".



*Гапееў Е.Д.*

З вясны 1943 года пачынаецца рэарганізацыя партызанскага руху ў тыле ворага. Акупаваная тэрыторыя падзяляецца на зоны партызанскіх злучэнняў, і адбываецца аб'яднанне атрадаў у партызанскія брыгады, палкі. У нас, у Прынёманні, у гэты час былі створаны партызанскія злучэнні Лідскай і Шчучынскай зон. Лідскую зону ўзначаліў Упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і БШПР, член Баранавіцкага абкаму КП(б)Б Е.Д. Гапееў, Шчучынскую - С.П. Шупеня, сакратар Шчучынскага РК КП(б)Б. Агульная колькасць асабовага складу злучэнняў дасягала 7400 байцоў.



*Макараў П.К.*

За мужнасць і адвагу, умелае камандаванне партызанскімі брыгадамі і кіраўніцтва партызанскім рухам у Прынёманні два камандзіры брыгад былі адзначаны высокай урадавай узнагародай: ім было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза: Барысу Адамавічу Булату - камандзіру партызанскай брыгады "Уперад" і Фёдару Міхайлавічу Сінічкіну - камандзіру (да 1943 г.) партызанскай брыгады імя Кірава.



*Булат Б.А.*

Толькі партызаны Лідскай зоны спусцілі пад адхон 210 ваенных цягнікоў, 191 паравоз, 1103 вагоны. Узарвалі 105 мастоў, разбілі 128 гарнізонаў і паліцэйскіх пастарункаў, разбурылі і знішчылі дзесяткі кіламетраў чыгуначнай калаі.

І пры гэтым, на вялікі жаль, знаходзяцца яшчэ ў Расіі палітыкі (дэпутат Расейскай Дзяржаўнай Думы Жырыноўскі У.В. і інш.), у якіх паварочваецца язык абвінаваціць жыхароў заходніх абласцей Беларусі ў здрадзе. І не чутна ніводнага слова ўдзячнасці нашаму селяніну, які выратаваў не адну сотню, а то і тысячу чырвонаармейцаў і камандзіраў Чырвонай Арміі ад канцэнтрацыйных лагераў ды галоднай смерці.



*Сінічкін Ф.М.*

У заходніх абласцях у

## Колькасны і нацыянальны склад партызанскіх злучэнняў "чырвоных" Прынёмання. 1941-1944 гг.

| № | Назва партызанскай брыгады | Нацыянальны склад | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | белар. | рус. | укр. | іншыя | |
| | **ПАРТЫЗАНСКАЕ ЗЛУЧЭННЕ ЛІДСКАЙ ЗОНЫ** | | | | | |
| 1. | Імя Кірава. Кам. Васільеў. | 479 | 248 | 74 | 277 | 1028 |
| 2. | Імя Дзержынскага. Кам. Шашкін К.Ф. | 721 | 232 | 46 | 53 | 1052 |
| 3. | 1-я Баранавіцкая. Кам. Бубін С.Ф. | 379 | 34 | 13 | 32 | 458 |
| 4. | Уперад. Кам. Камароу Ф.Г. | 288 | 96 | 18 | 69 | 471 |
| 5. | Імя Чапаева.Кам. Кудрын Г. | 245 | 134 | 16 | 69 | 464 |
| 6. | Імя Неускага.Кам. Байкоў А.Г. | 257 | 65 | 7 | 62 | 391 |
| | **ПАРТЫЗАНСКАЕ ЗЛУЧЭННЕ ШЧУЧЫНСКАЙ ЗОНЫ** | | | | | |
| 7. | Ленінская. Кам. Шубін Г.А. | 709 | 203 | 54 | 218 | 1184 |
| 8. | Імя Ленінскага камсамолу. Кам. Станкевіч Ф.А. | 253 | 90 | 30 | 87 | 462 |
| 9. | Імя Варашылава. Кам. Макараў Пётр Кузьміч | 321 | 112 | 19 | 70 | 522 |
| 10. | Перамога. Кам. Булак П.І. | 673 | 105 | 18 | 105 | 981 |
| | **Усяго** | **4327** | **1391** | **295** | **992** | **6933** |

**Заўвага.** Прыведзеныя ў табліцы дадзеныя ўзяты на час злучэння партызанскіх злучэнняў з Чырвонай Арміяй летам 1944 г.

Ва ўсіх брыгадах партызанскіх зон ваявалі: членаў ВКП(б) - 198, кандыдатаў у члены ВКП(б) - 353, камсамольцаў - 1029, беспартыйных - 5421.

той час існавала прыватная сельская гаспадарка. Мо менавіта гэта і ёсць іх галоўнае злачынства? Але ж гаспадары хутароў і прытулілі трапіўшых у акружэнне савецкіх салдат. Адны з іх працавалі за хлеб-соль, іншыя пачуваліся куды лепш. Некаторыя паспелі нават ажаніцца з нашымі дзяўчатамі. Як бы там ні было, але гэта ўсё ж такі не лагер дзе-небудзь у фатэрляндзе.

Дзесьці з восені 1942 года сюды пачалі засылаць з Вялікай зямлі гупы дыверсантаў паветранным шляхам. Іх задачай быў вышук і паўторная мабілізацыя ўсіх акружэнцаў у партызанскія атрады. Ад прысягі іх ніхто не вызваляў. Таму колькасны склад партызан на нашай зямлі значна павялічыўся.

Досыць стракаты сацыяльны і нацыянальны, а таксама партыйны склад партызан. У іх шэрагах змагаліся акружэнцы-вайскоўцы з розных куткоў Савецкага Саюза, мясцовыя сяляне і рабочыя, былыя савецкія і партыйныя работнікі, службоўцы. У нацыянальным складзе пераважалі беларусы, рускія і ўкраінцы. Партызанская вайна у Беларусі насіла ўсенародны характар у глабальным разуменні гэтага слова.

У лясах Ліпічанскай пушчы дзейнічала цэлая група нямецкіх антыфашыстаў пад назвай "Група - 117". У яе склад уваходзілі Гуга Барс, Карл Рынагель, Фелікс Шэфлер, Герберт Гейнчке. На рахунку групы шмат смелых, а іншы раз вельмі рызыкоўных, аперацый. У савецкія часы пра пераход гэтай гупы на бок партызан быў пастаўлены нават даволі драматычнага зместу мастацкі фільм. На жаль, не памятаю ні назвы ні яго стваральнікаў.

Побач з беларусімі партызанамі ў атрадзе імя Будзённага Шчучынскай зоны змагаўся з акупантамі малады французскі шахцёр з Эльзаса Леан Эйер. За мужнасць і адвагу ён быў адзначан высокай урадавай узнагародай - ордэнам Чырвонага Сцяга. Пасля вайны Леан не раз наведваў сваіх баявых сяброў і мясціны, дзе правёў з імі грозныя годы вайны.

Апроч галоўных партызанскіх сіл, былі яшчэ атрады, якія мясцовыя жыхары ахрысцілі “Абы выжыць”. Іх складалі пераважна яўрэі, якім пашчасціла ўцячы з гета, або схавацца яшчэ да прыходу немцаў. Колькасць іх была даволі значная. Аднак удзел у баявых дзеяннях быў абмежаваны. Выключэнне складалі атрады Туўі Бельскага - 1200 і Пымана Зорына - 700 чалавек.

Па меры набліжэння фронту партызаны ўзмацнілі свае ўдары па гарнізонах, паліцэйскіх пастарунках, асабліва па чыгунцы. Паўсюдна былі праведзены дзве адчувальныя для ворага аперацыі: "Рэйкавая вайна" і "Канцэрт", у выніку якіх быў значна паралізаваны рух на чыгунцы. Толькі ў злучэнні Лідскай партызанскай зоны партызаны спусцілі пад адхон 210 ваенных эшалонаў, 191 паравоз, 1103 вагоны. Узарвана 105 мастоў, разбіта 128 гарнізонаў, паліцэйскіх пастарункаў, знішчана дзесяткі кіламетраў чыгуначнай каляі.

### "Белыя"

Побач з савецкімі партызанамі, якія панавалі тут ад пачатку вайны да другой паловы 1942 года, дзейнічалі злучэнні польскай Арміі Краёвай. Пра дзейнасць гэтай ваенна-палітычнай групоўкі на нашых

абшарах шмат хто яшчэ добра памятае, а іншыя не забудуцца, колькі жыць будуць. Некаторыя чулі расповяды сучаснікаў аб яе "ваяўнічай" дзейнасці або чыталі ў кнігах ды перыядычным друку пасляваенных гадоў. Асабліва ў 90-я гады мінулага стагоддзя. У апошні час з’явіліся нават асобныя тэлеперадачы, прысвечаныя гэтай даволі далікатнай у палітычным сэнсе тэме. Стаўленне да АК сярод беларускага насельніцтва далёка не адназначнае. Хутчэй палярнае. І не без падставы.

Дык што ж гэта за "Армія"? Наўрад ці хто сёння задаваў сабе гэтае рытарычнае пытанне.

Армія Краёва як узброенная ваенна-палітычная структура ўзнікла адразу ж пасля паражэння Рэчы Паспалітай у вераснёўскай ваеннай кампаніі з фашысцкай Германіяй, якую зараз у Польшчы называюць “Абарончай вайной 1939 года", існавала з кастрычніка 1939 па студзень 1945 года і пакінула пасля сябе ў Заходніх абласцях Беларусі даволі значны след. На жаль, адмоўны. Выказваю такую ацэнку, як жывы сведка яе дзейнасці на тэрыторыі сённяшняга Лідскага і былога Жалудоцкага раёнаў.

Як вядома, пераможаная Польшча акт капітуляцыі з немцамі не падпісала. Таму дзейная армія Войска Польскага не была распушчана, а перайшла са стану адкрытай барацьбы з ворагам, які акупаваў краіну, у стан падпольны.

Ваеннае камандаванне краіны выдала загад, у якім гаварылася, што ўрад Рэчы Паспалітай не капітуляваў. Таму ваенны стан захоўваецца, і кожны, хто пакіне армейскія шэрагі, будзе лічыцца дызерцірам і будзе пакараны паводле законаў ваеннага часу.

7 верасня 1939 года, калі вораг наблізіўся да сцен Варшавы, урад Рэчы Паспалітай пакінуў сталіцу, пераехаў у гарады Кут і Каламыя каля польска румынскай мяжы і тут працягваў сваю (даволі абмежаваную) працу. Толькі ў ноч з 17 на 18 верасня, калі перайшла польска-савецкую мяжу Чырвоная Армія, роўна у 24 гадзіны сярэднееўрапейскага часу па мосце цераз раку Чарамош польскі ўрад перайшоў у Румынію. Разам з прэзідэнтам Ігнацыем Масціцкім перайшлі граніцу міністр замежных спраў Ю. Бэк і галоўнакакандуючы Э. Рыдз-Сміглы. Акрамя ўраду перайшлі мяжу 23 тысячы польскіх грамадзян, якія не пажадалі застацца пад фашысцкай акупацыяй. Быў перапраўлены золатавалютны рэзерв Нацыянальнага банка РП.

Паводле Гаагскай канвенцыі 1907 года аб ваюючых і нейтральных дзяржавах румынскі ўрад павінен быў дазволіць кіраўніку Польшчы І. Масціцкаму разам з суправаджаючымі яго асобамі перасячы тэрыторыю Румыніі ў трэцюю краіну. Кіраўніцтва РП накіроўвалася ў Францыю.

Аднак усе кіраўнікі Польскай дзяржавы, якія перайшлі румынска-польскую мяжу, румынскімі ўладамі былі затрыманы і інтэрнаваны. Міністр замежных спраў так і загінуў у румынскай турме. Лёс астатніх быў розны. Масціцкі, да прыкладу, пераехаў у Швейцарыю, балазе захаваў за сабой з даваенных часоў двайное грамадзянства. Памёр у Лондане.

**Дзень нараджэння Аміі Краёвай**

Па даручэнні Галоўнакамандуючага маршала Польшчы Э. Рыдз-Сміглага стварэнне ўзброеннага падпольнага супраціўлення акупантам было даручана генералу Міхалу Карашэвіч-Такаржэўскаму. З кастрычніка 1939 года ў сутарэнні ашчаднай касы па вуліцы Свентакрыжскай (Святога Крыжа) ў Варшаве сабраліся: М. Карашэвіч-Такаржэўскі, палкоўнік С. Равэцкі, дэпутат Сейма РП М. Недзялкоўскі, прафесар Р. Рыбарскі і прэзідэнт Варшавы С. Стажынскі. На сходзе абмяркоўвалася адно пытанне: арганізацыя ўзброенай падпольнай барацьбы па ўсёй акупаванай тэрыторыі Польшчы - на Захадзе з немцамі, на Усходзе - з Савецкім Саюзам.

Была створана падпольная арганізацыя пад назвай "Служба звыценьству Польскі" (“Дапамога перамозе Польшчы". Камандуючым арганізацыяй пры эміграцыйным урадзе быў прызначаны генерал Казімір Саснкоўскі.

Тым часам у кіраўніцтве Рэчы Паспалітай адбыліся істотныя змены. Былы прэзідэнт дзяржавы І. Масціцкі 30 верасня 1939 года адрокся ад пасады кіраўніка дзяржавы (за два тыдні да выхаду на пенсію) і прапанаваў на сваё месца генерала Б. Вянява-Длугашэўскага. Аднак з гэтай кандыдатурай не пагадзілася кіраўніцтва Францыі. Прэзідэнтам РП стаў Уладзіслаў Рачкевіч. Ужо ў дзень свайго прызначэння ён на пасаду прэм'ера прызначыў генерала Ул. Сікорскага.

Гэтыя перамены рэхам адгукнуліся на кіраўніцтве падпольнай арганізацыяй "Служба перамозе Польшчы". 13 лістапада "СПП" Сікорскі сваім загадам ліквідаваў і перайменаваў у "Зьвёнзэк валкі збройнай") "Саюз узброеннай барацьбы"), а пасля, з 14 лютага 1942 года - у Армію Краёву, ужываючы часова назву "Польскі зьвёнзэк повстаньчы" - "Польскі саюз паўстанцаў".

Сваім намеснікам Галоўнакамандуючы Сікорскі прызначыў генерала К. Саснкоўскага, вызваліўшы яго ад камандавання ўзброенным падполлем у краіне. Ягонае месца заняў палкоўнік С. Равэцкі, павышаны ў званні да генерала.

Узброеннае падполле было вельмі шырокім, актыўным і рознародным. Паводле некаторых польскіх крыніцаў, хоць усе групы і атрады і былі аб'яднаны пад адной назвай Армія Краёва, нават у канцы вайны, акрамя пракамуністычнага зместу, 360 адрозніваліся сваімі палітычнымі і ідэалагічнымі поглядамі ад АК.

Ужо ў першыя дні нямецкія акупанты зразумелі, што ступілі яны на вельмі гарачую зямлю. Чаго не скажаш пра зону, занятую Чырвонай Арміяй. І нічога дзіўнага ў гэтым няма. Да пачатку 1940 года на занятай Савецкім Саюзам тэрыторыі знаходзілася стацыянарна 745 тысяч войск Чырвонай Арміі і НКУС. Гэта значыць, 75 чалавек на 100 квадратных кіламетраў тэрыторыі або 17 чалавек з ружжом на 100 жыхароў. А калі дадаць яшчэ добра ўзброеную і арганізаваную Рабоча-сялянскую міліцыю з былых падпольшчыкаў ды прыхільнікаў Савецкай улады і шырока разгорнутую агентурную сетку інфарматараў, то стане ясна, што польскаму падполлю разгулявацца тут не было дзе. А калі і здараліся нейкія дыверсіі, то былі яны часцей выпадковымі і малазначнымі. Ніякага ўплыву на грамадства зрабіць не маглі. Па-іншаму ўсё пайшло з па-

чаткам Вялікай Айчыннай вайны 1941-1945 гадоў.

Акрамя Арміі Краёвай на працягу значнага часу незалежна ад яе дзейнічала яшчэ адна даволі буйная колькасна вайсковая групоўка - Канфедэрацыя народаў, стаўшая падмуркам стварэння яшчэ аднаго ўзброенага падпольнага злучэння - "Ударных кадравых батальёнаў", адным з батальёнаў камандаваў Баляслаў Пясецкі - псеўданім "Саблеўскі". Летам 1943 года гэты батальён дзейнічаў на тэрыторыі Лідскага і былога Жалудоцкага раёнаў.



*Баляслаў Пясецкі - "Саблеўскі"*

Падрыхтоўку кадраў - арганізатараў, кіраунікоў і камандзіраў падпольнай барацьбы польскія патрыёты вялі не толькі на акупаванай фашыстамі тэрыторыі свайго краю.

Ужо у лістападзе 1939 года на поўначы Вялікабрытаніі, у Шатландыі, былі створаны дзве базы падрыхтоўкі адмыслова абучаных выканаўцаў дыверсій супраць ворага. Большая колькасць з іх пасля заканчэння навучання была перакінута паветраннм шляхам у Польшчу і некаторая частка - на тэрыторыю Заходніх абласцей Беларусі. З-за спосабу перапраўкі іх на месцы дзеяння пачалі называць "ціхацёмнымі".

Ад 15 лютага 1941 да 26 снежня 1944 года былі здзейснены 82 высадкі. Скінуты 343 парашутысты або "ціхацёмныя". У тым ліку будучы камандуючы Прынёманскім злучэннем АК "Котвіч" - маёр Мацей Калянкевіч, "Пануры" - Ян Піўнік, згаданы ўжо "Саблеўскі" - Баляслаў Пясецкі і шэраг іншых.

Пасля таго, як СССР ануляваў умовы Пакта Молатава-Рыбентропа і іншыя дамоўленнасці, якія раней падпісаў з фашысцкай Германіяй і аднавіў дыпламатычныя адносіны з эміграцыйным урадам Рэчы Паспалітай у Лондане, польскі бок палічыў, што тым самым Савецкі Саюз прызнаў і даваенныя межы паміж СССР і Польшчай. Гэта павінна было азначаць, што Заходнія вобласці - Берасцейшчына і Гарадзеншчына, Віленскі край і Заходняя тэрыторыя Ўкраіны зноў будуць ПОЛЬСКІМІ.

Наступіў доўгачаканы час ажыццяўлення плана стварэння асобнага партызанскага злучэння для барацьбы з акупантамі на гэтых тэрыторыях.

8 ліпеня 1942 года камандуючы "Саюза ўзброенай барацьбы" генерал Стэфан Равэцкі запрасіў да сябе палкоўніка Т. Пэлчыньскага, а таксама адстаўных маёраў Р. Грахольскага і Я. Уладаркевіча. Паміж імі адбылася сакрэтная нарада, у выніку якой было прынята рашэнне аб стварэнні асобнай узброенай ваеннапалітычнай арганізацыі для барацьбы з акупантамі на тэрыторыі Заходніх абласцей Беларусі і Украіны, якія да 1939 года належалі Польшчы. Удзельнікі доўга абмяркоўвалі пытанне аб назве. Разглядаліся два варыянты - "Ослона" ("Заслона") і "Вахляж" ("Веер") - жаночы аксесуар, якім жанчыны, махаючы, асвяжалі твар, каб не пацеў.

Спыніліся на другім - "Вееры". Назва адпавядала форме тэрыторыі, на якой меркавалася весці барацьбу - у выглядзе трохкутніка, адзін з вуглоў якога датыкаўся да пункта месцазнаходжання камандаваня - Варшавы. Камандуючым "Вахляжа" спачатку быў прызначаны маёр Ян Уладаркевіч, а пасля трагічнай яго смерці, камандаванне ўзначаліў маёр Р. Грахольскі.

Уся тэрыторыя была падзелена на 5 сектараў. Наша Прынёманне ўваходзіла ў склад IV сектара, якім камандаваў маёр Тадэвуш Сакалоускі ("Троп", "ціхацёмны").

Кожны з сектараў дзяліўся на ваенны ўзор на акругі і злучэнні. У Прынёманні, г.зн. і на Лідчыне з Шчучынскай зонай, была створана Наваградская акруга, камандуючым якой быў прызначаны палкоўнік Януш Праўдзіц-Шлянскі "Барсук", і Прынёманскае злучэнне з камандзірам ротмістрам Юзафам Свідам ("Лех").

У стварэнні "Вахляжа" немалую ролю сыгралі заходнія саюзнікі Польшчы. І ў першую чаргу ЗША і Велікабрытанія. Дзеянне "Вахляжа" яны разглядалі як замену "другога фронту", які на той час адкрыць не маглі. Аднак, як аказалася, ускладзеныя на яго спадзяванні "Вахляж" не апраўдаў.

Заходнія дзяржавы абяцалі пакрыць дзве траціны выдаткаў, звязаных з баявымі дзеяннямі гэтага нованароджанага злучэння. На самай справе да канца вайны і існавання "Вахляжа" было атрымана крыху болей, як 300 тысяч долараў ЗША. Між тым на ўтрыманне ўсёй АК мелася выдаткаваць 4 млн. долараў Злучаных Штатаў Амерыкі.

Ужо вясной 1942 года пад націскам саюзнікаў "Вахляж" пачаў сваю актыўную дзейнасць. Прадугледжвалася, што дыверсійныя яго дзеянні будуць засяроджаны галоўным чынам на транспартных камунікацыях, сродках сувязі і іншых аб'ектах у гэтай галіне.

**"Вахляж" у Прынёманні. Святло і цені**

Усё, аб чым будзе ісці гаворка - вынік вывучэння аўтарам шматлікіх савецкіх і польскіх дакументаў, прысвечаных Другой Сусветнай вайне, а галоўнае - асабістыя назіранні, звязаныя з дзейнасцю Арміі Краёвай у нашым Прынёманскім краі. Вельмі не хацелася б засяроджваць увагу чытача на тым, хто, каго, дзе і колькі забіў. Наурад ці ў склаўшайся сёння зусім новай сітуацыі варта толькі на такіх бясспрэчных фактах расстаўляць акцэнты. Нічога новага гэта не прынясе, а толькі яшчэ больш растрывожыць балячкі, якія яшчэ не ўва ўсіх загаіліся. Куды больш важна сёння адказаць на пытанне: чаму такое магло здарыцца паміж блізкімі паміж сабой славянскімі народамі - беларусамі і палякамі. Менавіта такую задачу я бачу перад сённяшнімі гісторыкамі. Прычым, зрабіць глыбокае гістарычнадакументальнае даследванне і такую ж аб'ектыўную выснову.

Хаця абысціся без спасылкі на мінулае наўрад

ці ўдасца. Зашмат было розных да таго суб'ектыўных і аб'ектыўных прычын. “Вайна без мёртвых не бывае",- гаворыць народная мудрасць. Паспрабую спыніцца на тым, што паслужыла прычынай такой варожасці ў стасунках паміж здавалася б дзвюмя ваенна-палітычнымі групоукамі, аб'яднанымі адной мэтай - весці барацьбу з акупантамі і як мага хутчэй вызваліць свае краіны ад чужаземцаў.

Амаль да лета 1943 года ў нашай мясцовасці ўздоўж Нёмна ад Дакудава да Орлі панавалі савецкія партызаны або "чырвоныя".

Першыя звесткі аб сваім існаванні на Лідчыне АК або "белыя" падалі ўлетку 1942 года, калі ноччу на хутары Баяры Смалоцкія нечакана напалі на групу падгуляўшых савецкіх партызан і ўсіх перабілі. Выратаваўся, схаваўшыся ў бульбяніку, толькі адзін - Рыжкоў Іван Гаўрылавіч. У той час польскія партызаны АК, якая толькі пачала актыўна дзейнічаць тут, часцяком нападалі на "чырвоных" з мэтай завалодаць зброяй. І гэта ім часта ўдавалася. Пра такую іх дзейнасць мы толькі чулі, але бачыць нікога з іх не бачылі да лета 1943 года.

Мая першая сустрэча з "белымі" партызанамі АК здарылася нечакана на берагах Нёмана. Неяк я паехаў за Нёман. Чаек у той час на рацэ не было - акупанты забаранілі жыхарам вёскі карыстацца ўласнымі. Калі трэба было перабрацца на другі бераг, пераязджалі на пароме. І той пераганялі пры дапамозе доўгага шаста, бо ліна была знята. Так што не кожнаму такая пераправа была пад сілу. Справа ў тым, што ў Занёманскіх лясах знаходзіліся базы "чырвоных" партызан. Яны там паспелі атабарыцца ўжо ў пачатку вайны.

Калі я вяртаўся дадому, убачыў, што ў маім кірунку да парома з-за паdespite паросльх ядлоўцам і іншымі хмызнякамі пясчаных узгоркау ля хлявоў ідуць узброеныя людзі ў вопратцы колерам падобнай да колеру вайсковай формы нямецкіх салдат. Сказаць, што я спалохаўся, значыць нічога не сказаць: мы добра ведалі, чым магла абярнуцца такая прагулка ў партызанскай зоне. Добра, калі б толькі адлупцавалі. Але калі незнаёмцы наблізіліся, і я пачуў іх мову, на душы крыху стала лягчэй. Гутарылі яны на польскай мове, якую я ведаў досыць добра.

Усе, не пытаючыся дазволу, узышлі на паром, селі на памост парома, зняўшы абутак, апусцілі ногі ў халодную рачную ваду. Мне ж трэба было іх перавезці на правы бераг Нёмана, у вёску. Чаго мне гэта каштавала, не цяжка зразумець - меў я ў той час усяго 16 гадоў! А перагнаць трэба было заладаваную да краёў грамадзіну. Памагчы мне нікому з "пасажыраў", мабыць, і ў галаву не магло прыйсці. І перагнаць паром да другога берага мне ўдалося... Нездарма кажуць; у страху вочы вялікія, і сілы ўзрастаюць у шматкроць. Ды і кемлівасцю прырода не пакрыўдзіла. Затое дадому ішоў хістаючыся.

А калі прыйшоў дахаты, не ўбачыў там ні маці, ні бацькі, ні братоў. Усіх іх выселілі ў гумно. У хаце пасяліўся камандзір прыйшоўшага польскага партызанскага батальёна УКБ - “Узброены кадравы батальён” - “Саблеўскі” (Баляслаў Пясецкі). Як пазней я даведаўся, гэта былі польскія партызаны аперацыі "Веер", якія прыйшлі да нас з-пад Варшавы.

За час іх знаходжання ў вёсцы я паспеў пасябраваць з адным з акаўцаў, такім жа падлеткам, як і сам. Ён не меў зброі, насіў толькі вайсковую форму, і багнет матляўся каля пояса збоку. Псеўданім яго быў "Орлік”- "Арляня". Ні імя, ні прозвішча не ведаю. Жыў ён у нашай хаце разам з камандзірам.

Мы цэлымі днямі чысцілі яму ад іржы кавалерыйскія шпоры на боты. Мала што ўдалося зрабіць, Надта ж былі ўжо іржавыя. Мо праз тыдзень ці два яны пакінулі нашу вёску, рушылі ўніз уздоўж Нёмана і расквартараваліся на зіму ў вёсках Пескаўцы, Моцевічы, Чахаўшчына і іншых. Аб іх знаходжанні там досыць падрабязна і змястоўна распавядае ў сваіх успамінах медыцынская сястра батальёна Зоф'я Кабылянская. Пазнаёміцца з гэтай кніжкай нашым краязнаўцам, мяркую, варта.

З таго часу на тэрыторыі Прынёмання пачалі дзейнічаць адкрыта дзве групоўкі АК: адна - “Ударныя кадравыя батальёны” з "Вахляжа", другая - мясцовыя атрады.

У складзе першай былі маладыя хлопцы, якія паходзілі з Варшавы і іншых мясцін Цэнтральнай Польшчы. У складзе другой пад камандаванне “Рагнера" і "Крысі" былі пераважна мясцовыя жыхары. Таму і стаўленне да мясцовых жыхароў у іх было рознае.

Першыя да прыходу да нас ні з кім не сустракаліся і не мелі ніякіх кантактаў. Таму нічым негатыўным у адносінах з мясцовымі сялянамі не былі абцяжараны і адносіліся досыць лаяльна.

"Рагнераўцы", наадварот, былі жорсткімі, бязлітаснымі. У кожным беларусе, асабліва праваслаўным, бачылі "бальшавіка". Мо хто-небудзь у часы савецкай улады кагосьці з іх пакрыўдзіў, і той палічыў, што прыйшоў час паквітацца. Рознае было.

Жаўнеры "Саблеўскага", хоць і стараліся быць больш памяркоўнымі, анёламі не былі. Яны таксама ў адной з аперацый супраць "чырвоных" партызан 30 лістапада 1943 года спалілі ўшчэнт вёсачку Старое Грабава на ўзбярэжжы Старога Нёмана паміж вёскамі Збляны і Панямонцы. Толькі на левым беразе.

Круты паварот у адносінах паміж Арміяй Краёвай і фармаваннямі савецкіх партызан адбыўся напачатку 1943 года. У красавіку гэтага года былі выяўлены пахаванні, расстраляных энкэвэдэшнікамі палонных польскіх афіцэраў у Катыні пад Смаленскам. Напружанне паміж савецкім і польскім эміграцыйным урадам дасягнула апагея. Сталін, мабыць, палічыў, што вострай патрэбы ў саюзе з Польшчай ужо няма, пайшоў на разрыў дыпламатычных зносін. 25 красавіка 1943 года, у 0 гадзін 15 хвілін, у Куйбышаве (сёння - Самара, *заўв. аўт.*) Наркамат замежных спраў уручыў паслу польскага эміграцыйнага ўраду ў Лондане ноту аб разрыве дыпламатычных зносін паміж дзяржавамі. З гэтага часу адносіны паміж СССР і Рэччу Паспалітай Польшчай пачалі толькі пагаршацца. Гэта не магло не адбіцца на адносінах паміж злучэннямі савецкіх і польскіх партызан, а таксама на адносінах акаўцаў да мясцовага беларускага насельніцтва.

Акрамя таго Цэнтральны штаб партызанскага

руху даслаў у партызанскія злучэнні "чырвоных" у Беларусі Дырэктыву, паводле якой усе польскія партызанскія атрады АК павінны быць далучаны да злучэнняў савецкіх партызан ці раззброены. А ў надзвычайных выпадках, нават, знішчаны. Адну такую аперацыю камандаванню савецкіх партызан удалося здзейсніць - былі раззброены партызаны АК Стаўпецкага злучэння. На тым раззбраенне і скончылася. Затое пачаліся крывавыя разрахункі паміж "чырвонымі" ды "белымі", ад чаго больш за ўсё даставалася мірным жыхарам, асабліва безабаронным сялянам.

На гэтай глебе ўзніклі непрадказальныя наступствы, якія прынеслі незлічоныя ахвяры з абодвух бакоў. З вясны 1943 года да лета 1944 толькі ў нашай Наваградскай акрузе ў барацьбе паміж "чырвонымі" і "белымі" загінула прынамсі 400 савецкіх і 300 польскіх партызан. А хто палічыў, колькі загінула мірных, ні ў чым не вінаватых жыхароў?

Іншы раз даходзіла да дзікунства як з аднаго, так і з другога бакоў. Вось што піша ў сваіх успамінах начальнік штаба савецкага партызанскага атрада "За Савецкую Беларусь" С. Нягрэй: *"Малиновского, и его жену, и Боровского расстреляли (путём холодного оружия?!) приблизительно в феврале-марте 1944 года за связь с АК"*. Цытата даслоўная. Хто мне скажа, што гэта за "холодное оружие", якім можна расстраляць?

**Змова з акупантамі**

Дайшло да таго, што асобныя камандзіры партызанскіх злучэнняў АК пайшлі на прамы зговар з нямецка-фашысцкімі акупантамі. З патурання камандуючага Наваградскай партызанскай акругай АК палкоўніка Януша Праудзіц-Шлянскага на такі крок рашыліся сам камандзір Прынёманскага злучэння ротмістр "Лех"- Юзаф Свіда і камандзіры батальёнаў "Рагнер"- Чэслаў Заянчкоўскі і "Бартэк Грубы" - Войтак Стыпула. 30 снежня 1943 года яны правялі першую сустрэчу. У перамовах прымалі удзел з нямецкага боку гебітскамісар Ханвенг і іншыя прадстаўнікі вермахту, СС, гестапа і іншыя. Польскі бок - "Лех" і "Бартэк Грубы". У выніку перамоў паміж бакамі была дасягнута дамоўленасць аб сумеснай барацьбе Прынёманскага злучэння АК і ўзброенных сіл акупантаў супраць савецкіх



*Юзаф Свіда - "Лех"*

**Колькасны склад партызан Арміі Краёвай Прынёманскага злучэння Наваградскай акругі. Стан на май-чэрвень 1944 г.**

| № батальёна | Камандзіры | Крыніцы | | |
|---|---|---|---|---|
| | | I | II | III |
| 1 | "Зых" - Жогла Уладзіслаў | 350 | 350 | 350 |
| 2 | "Крыся" - Барысевіч Ян | 650 | 650 | 700 |
| 3 | "Саблеўскі" - Пясецкі Баляслаў | 500 | 480 | 350 |
| 4 | "Рагнер" - Заянчкоўскі Часлаў | 500 | 1600 | 1000 |
| 5 | "Штрэмер"- Трушковскі Станіслаў | 300 | 300 | 500 |
| 6 | “Паль" - Дэдэліс Станіслаў | 500 | 650 | 600 |
| 7 | "Пануры" - Піўнік Ян | 780 | 780 | 200 |
| 8 | "Ястржэмбец" - Масакоўскі Уладзіслаў | 200 | 200 | 250 |
| 1 рота сапёраў | | 100 | 100 | 100 |
| 2 рота сапёраў | | 100 | 100 | 100 |
| **Усяго** | | **3980** | **5210** | **4150** |

Акрамя таго, былі яшчэ два эскадроны 26-га палка ўланаў - 110 чалавек і дзве роты сапёраў, якія дзейнічалі ўздоўж чыгункі Ліда-Масты-Ваўкавыск - 160 чалавек.

Камандаваў Наваградскай акругай злучэння АК палкоўнік Праўдзіц-Шлянскі Ян, сапраўднае імя да сённяшняга дня так і засталося невядомым. 12 сакавіка ваенна-палявы суд адхіліў яго ад камандавання акругай, а саму акругу зліквідавалі.

Да гэтага часу Прынёманскім злучэннем камандаваў "Лех" - Юзаф Свіда. Як вядома, той жа суд прыгаварыў яго за супрацоўніцтва з акупантамі да пакарання смерцю і адхіліў ад камандавання злучэннем. Камандаванне было перададзена “ціхацёмнаму” маёру "Котвічу" - Мацею Калянкевічу, ягонаму дзядьку, прыбыўшаму з Англіі.

Крыніцы. 1 - Польскія Узброеныя Сілы (стар. 607), II - "Навагрудчына ў барацьбе 1940-1945, Лондан. 1976, стар. 128-130. III - Схема Навагрудскай акругі з архіву Цэзара Хлябоўскага.

партызан. 4 студзеня 1944 года адбылася паўторная сустрэча, на якой зговар быў канчакова замацаваны.

Ініцыятыва ў гэтай здрадніцкай справе зыходзіла ад немцаў. Сваю прапанову яны, як піша аўтар "Ціхацёмных", перадалі камандзіру Прынёманскага злучэння ротмістру "Леху" - Юзафу Свіду цераз селяніна жыхара вёскі Няцеча зараз Беліцкага сельскага савета. Прапанова была зроблена, мабыць, праз камандаванне Беліцкага гарнізона акупантаў.


*Чэслаў Заянчкоўскі - "Рагнер"*

"Лех" паведаміў аб гэтым камандуючаму Навагрудскай акругі АК палкоўніку Янушу Праўдзіц-Шлянскаму. Той, падумаўшы крыху, сказаў у адказ: "Рабі".

Нягледзечы на свой вусны дазвол, Праудзіц-Шлянскі далажыў аб здзейсненым начальніку штаба акругі АК генералу Палчынскаму. Па распараджэнні апошняга ротмістр Юзаф Свіда -"Лех", паручнік Чэслаў Заянчкоўскі - "Рагнер" і Войцах Стыпула - "Бартэк Грубы" былі аддадзены пад ваенна-палявы суд, які адбыўся 12 сакавіка 1944 года ці то ў Голдаве, ці то дзесьці на хутары каля Голдава. Старшынём суда быў камандзір ІІІ батальёна паручнік Ян Піўнік - "Пануры" (“ціхацёмны”). Канваіравалі арыштаваных на суд жаўнеры Саблеўскага. "Лех" узяў усю віну на сябе і быў прыгавораны да расстрэлу, "Рагнер" і “Бартэк Грубы” былі апраўданы. Ротмістр "Лех" быў вызвалены ад камандавання Прынёманскім злучэннем АК. Яго месца заняў “ціхацёмны” Калянкевіч Мацей - “Котвіч”. Новы камандуючы адтэрмінаваў выкананне прысуду да канца вайны. Для такога ўчынку ў Калянкевіча былі два повады. Папершае, як чалавек ваенны, ён прапанаваў і вырашэнне пытання ў духу ваеннага часу; дазволіць змыць кроўю свой грэх на полі бітвы. Па-другое, Юзаф Свіда быў ягоным стрыечным братам па цётцы. Што ў гэтым выпадку вырашыла лёс "Леха", засталося вядома толькі "Котвічу".


*Ян Піўнік - "Пануры"*


*Мацей Калянкевіч - “Котвіч”*

У жніўні 1944 года ў баі з савецкімі салдатамі каля вёскі Сурконты Воранаўскага раёна "Котвіч" загінуў. Са смерцю яго памерла і справа "Леха". У апошні час ён жыў непадалёку ад Вашынгтона ў ЗША. У сваіх успамінах "Лех" узгадвае: "...На працягу студзеня, лютага і сакавіка 1944 года злучэнне атрымала ад немцаў 5 транспартаў са зброяй і амуніцыяй.” *(Зэшыты гісторычнэ. №116, стар.75-79. Парыж. 1985).*

### *Мясцовае насельніцтва*

Усіх іх: і "чырвоных", і "белых", і з атрадаў "Абы выжыць" трэба было карміць, апранаць, абуваць, забяспечваць іншымі прадметамі ўжытку. Усё гэта клалася цяжкім гнётам на плечы мясцовага насельніцтва, галоўным чынам на сялян. Колькасць людзей у лясах была немалая: толькі "чырвоных" і "белых" у прынёманскіх злучэннях налічвалася больш за 12 тысяч чалавек.

Акрамя партызан трэба ж было разлічвацца і з акупантамі, у якіх апетыты таксама былі немалыя. Нормы паставак былі рабаўнічымі: 200 рублёў (у даваенных цэнах) ад кожнага працаздольнага ў сям'і, 30 яек у месяц ад кожнай курыцы-нясушкі, 400-500 літраў малака ад кожнай каровы, масла, мяса - колькасць, на жаль, не памятаю. Трэба было здаць адпаведную колькасць тытуню ад кожнага каліва, воўны ад кожнай авечкі і шмат чаго іншага. Лягчэй былой б сказаць.чаго не трэба было даваць. Вёска на вачах бяднела. Калі б вайна працягнулася б яшчэ год - другі, нямінуча пачаўся б голад. Пазбегнуць яго было б немагчыма або вельмі-вельмі цяжка. Гэта прызнавалі і самі ўдзельнікі партызанскага руху, з кім давялося весці шчырую прыватную гутарку.

### *Абвастрэнне супрацьстаяння*

Чым хутчэй набліжаўся фронт, тым гарачэй станавілася ўзброеннае супрацьстаянне паміж "чырвонымі" ды "белымі" партызанамі. Тым больш было ахвяр сярод мірнага насельніцтва. "Белыя", як і немцы, выкарыстоўвалі так званы "метад калектыўнай адказнасці" - за правіннасць аднаго забівалі ўсю сям'ю і нават палілі цэлыя вёскі.

У вёсцы Збляны 15 студзеня 1944 года ў адзін толькі вечар, за тое, што два дваццацігадовыя хлопцы Саша Місюкевіч і Ваня Майсевіч пайшлі ў "чырвоныя" партызаны, забілі іх сем'і - адразу 7 чалавек, у тым ліку адну маладую цяжарную жанчыну і двух хлопчыкаў па 10-12 гадкоў. Аднаго з іх глуханямога. Дарэчы, гэты выпадак мне іншы раз да сёння сніцца. Хоць я і не бачыў трагедыю вачыма ды чуў вушамі: адбывалася гэта ўсяго праз сцяну хаты на адлегласці мо 10-15 метраў. У апошні раз чуў як плакалі мае двaюрадныя браты, прасіла літасці за іх мая цётка Алеся. Нарэшце, чуў стрэлы, якія аглушылі мяне да непры-

томнасці.

На Вялікдзень таго ж года былі арыштаваны многія жыхары вёсак Сялец, Ганцавічы і іншых у тым кутку. І толькі ў адным Сяльцы забілі 13 чалавек.

13 чалавек. А колькі лягло іх у магілу ні за што - ні пра што ў прынёманскіх вёсках за ўсю вайну!

Хоць і абяцаў не ўспамінаць пра ахвяры: хто, каго, колькі і за што забіў - бяззбройных і невінаватых людзей, ды абысціся без гэтага, мабыць, нельга.

Ужо ў другой палове 1943 года чырвоныя партызаны бывалі рэдкімі гасцямі на правым беразе Нёмана, а ў 1944 годзе мы іх і ўвогуле не бачылі. Амаль ва ўсіх вёсках стаялі стацыянарна акаўцы. Яны цалкам авалодалі ўсёй тэрыторыяй уздоўж ракі ад Налібоцкай да Ліпічанскай пушчаў.

Напрыклад, напрадвесні 1944 года атрад савецкіх партызан з Ліпічанскай пушчы вяртаўся з аперацыі. Партызаны меркавалі пераправіцца цераз Нёман у раёне вёсак Моцевічы-Орля. А там ужо з восені мінулага года панавалі белыя ці акаўцы. У навакольных вёсках расквартараваўся Ударны кадравы батальён "Саблеўскага". Разгарэўся гарачы бой, які працягваўся амаль цэлы дзень. У гэтым баі загінуу адзін з былых маіх школьных сяброў Саша Тупік з вёскі Пескаўцы, з якім у 1939 годзе некаторы час давялося вучыцца ў школе. Усё ж такі партызаны прарваліся на левы бераг і пайшлі на сваю базу ў Ліпічанскай пушчы.

Партызаны АК выношвалі планы апанаваць і левы бераг Нёмана. І здзейснілі спробу пераправіцца цераз раку і "наведаць" вёску Альхоўка. Пра гэтую вылазку ўзгадвае і аўтар "Ціхацёмных" у сваёй кнізе.

18 траўня 1944 года яны пераправіліся цераз раку і ўвайшлі ў вёску. Ды разведка чырвоных спрацавала выдатна і папярэдзіла камандаванне прысуных тут атрадаў. Апошнія падрыхтавалі няпрошаным гасцям прыём па ўсіх правілах ваеннага этыкету. За гэтую "экскурсію" акаўцы заплацілі высокую цану-20-цю жыццямі сваіх жаўнераў. А колькі было паранена?

У разгроме прышэльцаў прымалі ўдзел партызаны двух атрадаў - “Іскра”, камандзір старшы лейтэнант Коннаў А. і "Балтыец" - камандзір Пралыгін.

Пра бой над Нёманам давялося чытаць ва ўспамінах медсястры батальёна "Саблеўскага" Зосі Кабылянскай, а пра разгром акаўцаў у Альхоўцы чуць ад свайго аднакашніка па педвучылішчы, былога партызана атрада "Іскра", які удзельнічаў непасрэдна ў гэтым баі - Івана Радзюкевіча.

І такіх прыкладаў было не адзін і не два.

Быў выпадак, калі і савецкія партызаны здзейснілі вылазку на правы бераг Нёмана. Было гэта глыбокай восенню 1943 года. Група ў складзе 12-14 байцоў пераправілася ў вёсцы Збляны на пароме і ноччу накіравалася на хутары суседняй вёскі - Мастаўляны. Там назапасіўшыся правіянтам, на падводах вярталіся назад. І не ведалі, што ў тую ж ноч у вёску завіталі акаўцы і падрыхтавалі ім засаду. Калі "абоз" пад'ехаў да парома, па ім разануу кулямётны агонь. Партызаны разбегліся, хто куды. Балазе, не было ахвяр. Усе паспелі ўздоўж берага ўцячы з зоны абстрэлу. Быў паранены толькі іх камандзір. І, на шчасце, не вельмі цяжка. Куля трапіла ў кулямётны дыск і рыкашэтам закранула каля бядра нагу. Назаўтра яго знайшлі вясковыя рыбакі, браты Аляксей і Іван Шафарэвічы - па-вясковаму - Алёша і Ванчык Іванушкавы. Яго схавалі. А калі рана загаілася, пераправілі на другі бок Нёмана ў зону дзеяння савецкіх партызан.

Былі і яшчэ дзве ахвяры ў гэтым здарэнні. Загінуў жыхар вёскі Збляны Васіль Тупік, які меўся перавезці партызан з іх з "абозам" на другі бераг Нёмана. І жанчына з вёскі Мастаўляны, што везла на сваёй падводзе партызанскія ладункі. Шалёная куля трапіла ў яе, седзеўшую на возе. Конь, спалохаўшыся, павярнуў назад і як мага панёсся дадому. Так і прывёз сваю гаспадыню ў родную хату нежывой.

Я асабіста не магу ўспомніць выпадак, дзе б партызаны АК правялі ў нашых мясцінах якую-небудзь баявую аперацыю супраць нямецкіх акупантаў. Затое кожная сустрэча з савецкімі партызанамі абарочвалася крывавай бойняй. У сваёй кнізе "Навагрудчына ў барацьбе. 1941-1945 гг." камандуючы Навагрудскай акругай Арміі Краёвай Ян Праудзіц-Шлянскі піша: *"За увесь перыяд, а гэта з другой паловы 1943 па ліпень 1944 года, АК правяла 156 баёў, з іх 83 з савецкімі партызанамі"*. У прыведзеных ім дадзеных ёсць перабольшванне, і гэта мне дасканальна вядома. Але выказванне досыць красамоўнае.

"Вайна без мёртвых не бывае", - такая трактоўка гэтай незвычайнай грамадскай з'явы выказана ў Іпацьеўскім летапісе. Горш іншае. На вайне людзі забіваюць адзін аднаго, загадзя ведаючы - ні ён, ні ягоны праціўнік нічога дрэннага адзін другому не зрабілі. Таму і ахвяры ў ёй бываюць розныя: адны варты такога лёсу, іншыя ні ў чым не вінаватыя - дзеці, жанчыны, старыя, нямоглыя. Але ж гінуць больш, як заўжды, лепшыя з лепшых, жыцце- і працаздольныя, цвет нацыі. Не стала выключэннем і апошняя Другая Сусветная вайна. Шмат людзей гінула не толькі на франтах, але і ў тыле - у падполлі, у партызанскіх атрадах і ўвогуле без усякіх на тое прычын. Немалую ролю ў гэтым сыграла непаўторная стракатасць палітычных поглядаў і мэтаў удзельнікаў вайны.

Ёсць у вайны, як ні дзіўна, і станоўчы бок.

Вайна здольная вучыць людзей, хто выжыў у ёй, і ўвогуле жывых. Гэтую здольнасць можна выказаць так: жывыя закрываюць вочы мёртвым, мёртвыя сваімі магіламі адкрываюць іх жывым. Што бясспрэчна. Такая тут філасофія.

### *Без абеліскаў і эпітафій*

Калі прайсціся па могілках прынёманскіх вёсак і хутароў, знойдзецца там шмат магілаў са сціплымі невялічкімі помнікамі, са збуцвелымі драўлянымі крыжамі, а то і зусім зарослыя хмызнякамі і нават увогуле зруйнаваныя часам. І вось што здзіўляе. Надпісы на помніках і крыжах, што яшчэ захаваліся,"неакрэслена асабістага зместу". Накшталт: "Погибли от рук немецко-фашистских пособников" ды "от рук националистов" і г.д. Па іх нельга даведацца, чыіх рук гэтыя ахвяры, і хто злачынцы? Хто яны, гэтыя "пособники" ды

"националисты?" Нікому не вядома. Чаму?

Тым часам, чым можна растлумачыць такую непрымірымую варожасць паміж двума народамі-суседзямі? Беларусамі і палякамі? Што так глыбока адбілася на адносінах паміж польскімі і беларускімі партызанамі? Мэта ж у іх адна - вызваліць сваю зямлю ад няпрошанага прышэльца - нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Вядомы польскі гісторык Цазары Хлябоўскі так тлумачыць прычыну. Ён піша: *"...таму што і адны, і другія лічылі сябе законнымі гаспадарамі. Расіяне - таму, што верылі ў прававую аснову рашэнняў, прынятых іх уладай пасля 17 верасня 1939 года. Палякі - таму, што памяталі шматвяковую гісторыю гэтых зямель. Апошнія не ведалі аб тым, што лёс "Крэсаў Усходніх" вырашаны без іх у далёкім Тэгеране"*.

Гатовы пагадзіцца з панам Хлябоўскім, але толькі часткова. Бо калі заглянуць глыбей у мінуўшчыну, то можна заўважыць, што землі гэтыя ніколі не былі ўласнасцю ні тых, ні другіх. Яны спрадвеку былі беларускімі.

Адносіны паміж беларусамі і палякамі на працягу многіх вякоў залежалі ад таго, як яны складаліся паміж Масквой і Варшавай. Каб пераканацца ў гэтым дастаткова пазнаёміцца з гісторыяй адносін паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй хаця б пачынаючы з XVIII стагоддзя і да першай паловы XX стагоддзя. Гэта і падзел Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй, і паход Тухачэўскага да Віслы, і ўмовы падпісання Рыжскага мірнага дагавора ў 1921 годзе. І падзеі восені 1939 года з трагедыяй у Катыні 1939-41 гг., і рэпрэсіі польскага насельніцтва ў заходніх абласцях Беларусі, і шмат чаго іншага. З другога боку, такі стан рэчаў у пэўным сэнсе - адпаведная рэакцыя беларусаў на адносіны даваенных польскіх уладаў да беларусаў у часы панавання 2-й Рэчы Паспалітай на працягу 1921-1939 гадоў. Мы, беларусы, паводле меркавання тадышных польскіх уладаў, увогуле не існавалі. Былі мы "тутэйшымі" або "кацапамі". Ішла татальная паланізацыя краю. У гэтай нябачнай барацьбе за "Крэсы Ўсходнія" галоўную ролю выконвалі касцёл і асадніцтва. Апошніх было нямала. Толькі ў Лідскім павеце было паселена 304 сям'і. Адносіны да беларусаў з боку ўлады іншы раз выглядалі як каланіяльныя. І гэтае маё выказванне ўзята не з нечага расповяду, а пераэжыта асабіста самім. Хаця, калі паглядзець з этнічнага пункту гледжання, то паміж нашымі народамі вялікай розніцы няма. Нават мовы зусім блізкія, не то што гісторыя і культуры. Было і застаецца шмат змешаных сем'яў - беларуска-польскіх і польска-беларускіх. На вайне супраць нямецкага агрэсара ў верасні 1939 года побач з палякамі ваявалі беларусы. Шмат хто з беларусаў падзяліў лёс з палякамі на Монтэ Касіна. Не адзін з іх стаў ахвярай Катыні. Многія атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды РП за ўдзел у вераснёўскай кампаніі.

Адным словам, гэта наша агульная трагедыя - і беларусаў і палякаў, водгук рэха гістарычнай мінуўшчыны.

Што тычыцца Расіі, то ўпершыню нашы землі назваў Руссю маскоўскі князь Васіль III. А расійскі цар Аляксей Міхайлавіч Цішайшы, бацька Пятра І, уключыў нас сімвалам у выглядзе трэцяй кароны ў расійскі дзяржаўны герб, назваўшы Белай Руссю. Тэрыторыя сённяшняй Беларусі, як усіх зямель Літвы ды іншых тэрыторый былога ВКЛ, была далучана да Расіі імператарскім указам Кацярыны Другой пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай 25 снежня І795 года і знаходзілася ў яе складзе да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года.

Польшча авалодала нашай тэрыторыяй у выніку падпісання Люблінскай уніі 1 ліпеня 1569 года. Амаль 10 гадоў супраціўляліся магнаты ВКЛ заключэнню уніі. Аднак польскі кароль Жыгімонт II Аўгуст гвалтам прымусіў іх здацца. Пасля гэтага ВКЛ знікла з палітычнай карты Еўропы - узнікла Рэч Паспалітая (па лацінску - Рэспубліка. - *Заўв. аўт.*). Так што, землямі сённяшняй Беларусі валодалі па чарзе то адны,то другія. Гору браў мацнейшы. Так што выказванні пана Хлябоўскага не зусім адпавядаюць сапраўднасці. Нашу зямлю кроілі, перакройвалі, дзялілі паміж сабой і палякі, і рускія. І кожны лічыў сябе гаспадаром. Кожны пакінуў свой адпаведны след у гісторыі, культуры, мове і, нават, у ладзе жыцця. Мо таму мы і сёння такія талерантныя, не можам сказаць у абарону сябе цвёрдага слова.

### *Такі лёс салдата*

З першых старонак і праз усю кнігу аўтар "Ціхацёмных" малюе вобраз аднаго з "ціхацёмных" маёра Мацея Калянкевіча - "Котвіча" як салдата-рыцара, інтэлігентнага, высокаадукаванага, шчырага патрыёта сваёй Радзімы. З ягоным слоўным партрэтам, не бачыўшы ніколі Калянкевіча, нельга не пагадзіцца. Смуткуе з выпадку ягонай гібелі. Адчуваецца нават нейкае глыбокае абурэнне тымі, хто яго забіў. Што ж, яго можна зразумець.

Сапраўды, Калянкевіч загінуў у баі з савецкімі салдатамі-франтавікамі ў жніўні 1944 года пад Сурконтамі Воранаўскага раёна разам са сваімі падкамандными па зброі. Там яны ўсе і пахаваны. Лідзян там - восем: Жураўскі Генрык, Сперскі, Жук, Гейштоўт, Шаптуноўскі Мечыслаў, Грышэль, Клядынст, Смілгін Уладзіслаў (“Сумін”). (Дарэчы, у кнізе “Ціхацёмныя” месцам гібелі “Котвіча” памылкова падаюцца Сукурчы).

А што таму папярэднічала, пан Слядзінскі не вымавіў ні слова. А адбылося вось што. 23 жніуня 1944 года група акаўцаў пад камандаваннем Калянкевіча сустрэла ваенную савецкую машыну каля вёскі Барташуны Воранаўскага раёна

Абстралялі з кулямётаў і аўтаматаў, закідалі гранатамі. У выніку гэтай атакі сярод савецкіх салдат было нямала забітых і параненых. Сярод забітых аказаўся маёр сапёрных войск Канарчык Аляксандр Іванавіч, Герой Савецкага Саюза.

Не адну сотню, а мо і тысячы франтавых дарог прайшоу афіцэр, каб быць забітым з-за вугла, знянацку. Фарсіраваў Днепр. За захоп і ўтрыманне плацдарма

на правым беразе ракі, за праяўленную пры гэтым мужнасць і адвагу ён быў адзначаны высокай урадавай узнагародай - Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза. Хто фарсіраваў Днепр, той ведае кошт Дняпроўскага плацдарма.



***Герой Савецкага Саюза Аляксандр Іванавіч Канарчык***

Праз доўгі час маёр Канарчык А.І. быў пахаваны ў цэнтры гарадскога пасёлка Воранава побач з пахаваннем іншых ахвяр Вялікай Айчыннай вайны. Зараз мясцовыя ўлады раёна вырашылі, што гэта не яго месца, і перапахавалі парэшткі героя на школьным пляцы адзінай у пасёлку школы.

Такая ўжо фабула вайны: "Вайна без мёртвых не бывае". Ды страты і ахвяры бываюць вельмі розныя.

Калі глядзець толькі адзін гэты ваенны эпізод з пункту гледжання чалавечай маралі, шкада і аднаго, і другога. Калі ж з пункту гледжання вайны - такі лёс салдата, а калі разглядаць як носьбітаў палітыкі і ідэалогіі - зусім іншая справа.

***Чым скончылася крывавае супрацьстаянне “белых” і “чырвоных”***

Фінал і наступствы барацьбы паміж савецкімі і польскімі партызанамі ўсім добра вядомыя. Іх можна было нават прадказаць у канцы 1941 года пасля разгрому нямецкай арміі пад Масквой і асабліва пасля гістарычнай перамогі Чырвонай Арміі пад Сталінградам. Іншага і чакаць наўрад ці можна было.

Калі Чырвоная Армія была каля сцен Варшавы, а эміграцыйны ўрад перастаў дзейнічаць, камандуючы Арміяй Краёвай генерал Леапольд Акуліцкі выдаў загад аб самароспуску Арміі Краёвай. Аднак у загадзе існавала асаблівая рэкамендацыя: захаваць існаваўшыя раней структуры падполля, падтрымліваць сувязь з былым камандаваннем, захоўваць зброю. Усім, хто “нашкодзіў”, прапаноўваў пакінуць мясціны сваёй “дзейнасці”.

На нашай тэрыторыі засталіся невялікія групы, якія не падпарадкаваліся загаду Акуліцкага і працягвалі сваю, на гэты раз тэрарыстычную, дзейнасць. Цяжка падлічыць сёння іхнія ахвяры з ліку партыйных, савецкіх, вайсковых і іншых работнікаў. Для вынішчэння тэрарыстычных банд савецкай уладай былі створаны адмысловыя атрады знішчальнікаў. І яны сваю справу выканалі, хоць адзінкавыя выпадкі тэрарызму здараліся да 1953 года. Апошнія ахвяры іх былі капітан КДБ Андрэй Стралкоускі і два салдаты палка НКУС. Адзін салдат быў паранены і застаўся інвалідам на ўсё жыццё.

Помста ў час вайны таксама была надзвычайнай. Напрадвесні 1945 года байцы знішчальнага атрада злавілі аднаго з былых камандзіраў IV батальёна АК пад камандаваннем "Рагнера" - Ежага Баклажаца - "Пазуркевіча"". Судом ён быў прыгавораны да пакарання смерцю цераз павешанне.



***Ежы Баклажанец - "Пазуркевіч"***

Выкананне прыгавору адбылося ў базарны дзень у раёне сённяшняга кінатэатра "Юбілейны". Рынак тады знаходзіўся на вуглу скрыжавання сённяшніх вуліцы Ленінскай і праспекта Перамогі. Насупраць быў будынак Лідскага райвыканкаму. Зараз яго няма.

Аўтару гэтых радкоў давялося прысутнічаць тут у час выканання прысуду. Не буду апісваць акт пакарання. Адзначу толькі, што да слупа шыбеніцы была прымацавана шыльда з надпісам на рускай мове: "Пазуркевич" ... собственноручно убил 100 человек..."

У той жа дзень такое ж пакаранне было выканана адносна мясцовала жыхара вёскі Беліца - "Тыгрыса". Прозвішча забыўся, хоць самаго акаўца добра памятаю.

Шматлікія акаўцы шарагоўцы і афіцэры былі асуджаны на розныя тэрміны адбываць пакаранне ў канцлагерах ГУЛАГ-у. Нямала іх не было прыцягнута да адказнасці. Адслужылі ў войску, былі нават узнагароджаны ўрадавымі ордэнамі і медалямі. А, калі быў абвешчаны дазвол на выезд у Польшчу, большасць пакінула Беларусь. Адны засталіся у Народнай Польшчы, іншыя раз’ехаліся па краінах Еўропы і кантынентах Новага Свету - ЗША, Канада, Аргентына, Бразілія і іншыя.

Такім змрочным аказаўся фінал для тых, хто хацеў адрадзіць даваенную Рэч Паспалітую Польшчу.

***Без права выжыць***

Нягледзячы на некаторыя негатыўныя з'явы ў дзейнасці савецкіх партызан іх уклад у паскарэнне вызвалення сваёй краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў бясспрэчны. Чаго не магу сказаць пра такі ж удзел польскай Арміі Краёвай, а таксама іншых групаў супраціўлення. У іх былі свае мэты, свае планы. Нават зусім палярныя.

Цяжкасці "чырвоных" узнікалі як з-за суб'ектыўных, так і аб'ектыўных прычын. Суб'ектыўнымі прычынамі было, на мой погляд, тое, што ім прыходзілася весці барацьбу на два франты - супраць нямецкіх

акупантаў і польскіх партызан Арміі Краёвай. Аб'ектыўна да 1943 года яны не мелі дастатковай падтрымкі з "Вялікай зямлі". І нават пасля пачалі забяспечвацца толькі сродкамі ўзбраення - вінтоўкі, карабіны, кулямёты, аўтаматы, выбуховыя рэчывы, розныя міны ды сродкамі радыёсувязі, амуніцыяй. Усё перапраўлялася паветраным шляхам.

Затое не было прыслана ніводнага кілаграма харчавання, ніводнай пары абмундзіравання, абутку ды іншых патрэбных бытавых рэчаў. Усё трэба было шукаць і здабываць самім. І шукалі, чым вельмі дакучалі мясцовым жыхарам, выклікаючы ў апошніх незадаваленне і нават варожасць. Сяляне пачалі хаваць прадукты харчавання, дамашніх жывёл - свіней, авечак; вопратку, абутак. Бо даволі часта наведванне партызан у вёску ці на хутар пераходзіла ў звычайнае рабаўніцтва.

Селянін ведаў, за імі прыдуць яшчэ тыя з атрадаў "Абы выжыць", і ім трэба будзе нешта аддаць. Днём прыедуць нямецкія акупанты - паспрабуй ім не даць. І куды падзецца мужыку? Як пракарміць сваю сям'ю?

Адным словам незадаволеннасць сялян нарастала. Гэта па-першае.

А па-другое, была іншая, больш істотная бядапрычына. Усе партызаны павінны былі насіць вайсковую форму сваёй арміі - у дадзеным выпадку форму Чырвонай Арміі. Так дзейнічала Армія Краёва, жаўнеры яе насілі форму даваеннай арміі Рэчы Паспалітай: абмундзіраванне, знакі адрознення і абавязкова белы арол на рагатыўках - "мацяюўках".

Савецкія партызаны насілі цывільную форму. Рэдка ў каго на шапцы была чырвоная чырвонаармейская зорачка або чырвоная палоска стужкі наўскасяк. І нічога больш. Сам у гэтым пераканаңы.

А гэта ўжо своеасаблівы прысуд для іх. Паводле Жанеўскай Канвенцыі партызанам лічыўся толькі той, хто трапляў у палон і быў захоплены, са зброяй і ў вайсковай форме. Толькі ў такім выпадку яго прыраўноўвалі да вайскоца. Інакш лічылі за звычайнага бандыта. Таму і расстрэльвалі ці вешалі на месцы.

І не было ім ніякага паратунку. Ніхто не мог за іх заступіцца. Нават Міжнародны Чырвоны Крыж. Такая ж доля была і ў чырвонаармейцаў да другой паловы 1942 года.

А прычына была ў тым, што Савецкі Ўрад гэтую Канвенцыю не падпісаў і не рэтыфікаваў. У даваенным Статуце Чырвонай Арміі пісалася, што савецкіх палонных не можа быць таму, што іх быць не можа - апошняя куля твая.

Не лепш сустрэлі іх на Радзіме. Пасля вайны дамоў вярнулася 1836 тыс. былых ваеннапалонных, і каля 80% з іх папоўнілі канцлагеры ГУЛАГ-у. А вось што паведамляла беларускае тэлебачанне 29 траўня 1994 года. Усяго ў гады Вялікай Айчыннай вайны трапіла ў палон 5000059 чалавек. Вярнулася на Радзіму 1000836. З іх 334 тыс. было накіравана без перасядкі ў канцлагеры ГУЛАГ-у НКУС.

Таму кожнага, хто ішоў у партызаны, смела можна вобразна назваць беларускімі-"камікадзэ". Ведаў: траплю ў палон - смерць.

Не такімі абсталяванымі былі іх лясныя паселішчы, як нам паказваюць у кіно ды па тэлебачанні. Пасля вайны давялося пабываць на месцах былых партызанскіх лагераў, нават наведаць зямлянкі Героя Савецкага Саюза Пятра Міронавіча Машэрава і Героя Сацыялістычнай Працы Міхаіла Васільевіча Зімяніна, будучых сакратароў ЦК КПБ. Умовы побыту ў гэтых зямлянках мала назваць спартанскімі. Іх маглі вытрымаць толькі фізічна здаровыя, моцныя і маральна ўстойлівыя людзі. Толькі дзякуючы такім кіраўнікам партызанскага руху, нямецка-фашысцкім захопнікам цесна было на нашай зямлі.

### *Без права на ўдзячнасць*

А мо падумаць і знайсці які небудзь спосаб адзначыць і мужны ўчынак нашых сялян, якія сваёй працай, сваім салёным потам, а то і крывёю ратавалі і выратавалі сотні акружэнцаў, партызан ад немінучай пагібелі. І не павінна тут быць розніцы - калгаснік гэта быў ці аднаасобнік. На маю думку, аднаасобнік больш, чым іншыя зрабіў карыснага ў гэтай справе.

Зараз адбудоўваецца нейкая “Лінія Сталіна”, пра якую за 20 дзён да пачатку Вялікай Айчыннай вайны Панамарэнка пісаў Сталіну: “Ніякай лініі няма, ёсць асобныя абарончыя збудаванні”.

А мы туды сыплем мільярды. Ці не лепш аддаць доўг звычайнаму, сціпламу селяніну за яго сапраўды гераічны ўчынак.

**Выкарыстаныя крыніцы:**

1. Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941- июль 1944). Институт истории при ЦК КПБ - филиал института марксизма-ленинизма при ЦК КПСС. Стр. 52-66. “Беларусь”. Мн. 1983.

2. М. Бартушка. Партызанская вайна ў Беларусі ў 1941-1944 гг. Вільня. Інстытут беларусістыкі. Беласток. Беларускае гістарычнае таварыства. 2011.

3. Гістарычная энцыклапедыя Беларусі. т. 1. Выд. "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Мн. 1993.

4. Архіўныя дакументы Лідскага гісторыка-мастацкага музея. Справаздача ўпаўнаважанага Лідскай партызанскай зоны Я.Д. Гапеева.

5. C. Chlebowski. Pozdrowcie Gory Swietokrzyskie. Epoka. Warszawa, 1988.

6. J. Kirchmajer. Warszawskie powstanie, ss. 12-14. Warszawa, 1959.

7. Z. Kobylanska. Ze wspomnien sanitariuszki Uderzeniowych Batalionow Kadrowych. Instytut Wydawniczy PAX. Warszawa, 1988.

8. Zeszyty historyczne, № 164. Instytut literacki. Paryz, 2008.

9. Zeszyty historyczne, № 116. Instytut literacki. Paryz, 1985.

10. Kacper Sledzinski. Cichociemni. Elita polskiej dywersii. Wydawnictwo Znak. Krakow, 2012.

***Руслан Казлоўскі***

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ЭПАС ЛІДЧЫНЫ Ў СУЧАСНЫХ ЗАПІСАХ

Багаты беларускі народ на песні, казкі, прымаўкі, загадкі. Яго гісторыя, побыт, містычныя ўяўленні адлюстраваны ў легендах, паданнях і сказах, вера ў магічную сілу слова - у замовах, дзеяння - у абрадах. Многа аўтэнтычных твораў вуснай народнай творчасці, абрадаў, прымхаў і забабонаў захавалася і да гэтага часу асабліва на Гарадзеншчыне. І сёння ў беларускай глыбінцы на Лідчыне бытуюць разнастайныя эпічныя жанры, людзі на вёсках спяваюць каляндарна- і сямейна-абрадавыя песні, не забываюцца на пазаабрадавую лірыку, сустракаецца дзіцячы фальклор.

Збіранне, захаванне і вывучэнне беларускага фальклору - адна з найважнейшых задачаў, якая стаіць перад айчыннай культурай, навукай і адукацыяй сёння. Ва ўмовах працэсу ўрбанізацыі і памяншэння колькасці вясковага насельніцтва звужаецца арэал бытавання аўтэнтычнага нацыянальнага фальклору, адыходзяць у нябыт жывыя носьбіты беларускіх народных песень, казак, легендаў і паданняў і іншых жанраў вуснай народнай творчасці. Выключна важным становіцца сабраць каштоўны нацыянальна-культурны матэрыял, перадаць багатыя духоўныя скарбы наступным пакаленням беларусаў.

Ужо пятнаццаць гадоў запар студэнты спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" штолета праходзяць у розных кутках Гарадзеншчыны фальклорна-краязнаўчую практыку, якая з'яўляецца неад'емнай часткай навучальнага працэсу ў падрыхтоўцы будучых настаўнікаў-філолагаў і служыць збіранню і захаванню народнай спадчыны. На працягу 1998-2000 гадоў увага маладых збіральнікаў была скіравана на Лідскі раён. Неабходна таксама адзначыць, што на працягу перыяду 1997-2012 гадоў экспедыцыйная праца праводзілася ў Ваўкавыскім, Воранаўскім, Дзятлаўскім, Зэльвенскім, Лідскім, Мастоўскім, Навагрудскім, Свіслацкім раёнах. За гэты час быў сабраны значны аб'ём твораў розных жанраў вуснай народнай творчасці, абрадаў, звычаяў; магнітафонныя запісы песень зафіксавалі старажытныя мелодыі ў арыгінальным выкананні. Лідчына - своеасаблівы край, дзе і сёння гучыць на вёсках сакавітая беларуская мова, чуюцца спевы аўтэнтычных народных песень, з вуснаў у вусны, як і сотні гадоў таму, перадаюцца казкі, легенды і паданні: ад дзядоў унукам, ад старэйшых малодшым... Як і спрадвеку.

Прапанаваныя ніжэй тэксты сістэматызаваны ў асноўным паводле жанравага і тэматычна-алфавітнага прынцыпаў, пасля кожнага падаецца пашпартызацыя запісу. З мэтай даступнасці фальклорнага матэрыялу і лягчэйшага ўспрымання тэксты падпалі пад нязначнае рэдагаванне, хаця пры гэтым у тканіне мастацкіх твораў захоўваюцца лексічныя, фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці мовы апавядальніка. Усе казкі, легенды, паданні і сказы (усяго 18 твораў народнага эпасу) былі запісаны студэнтамі філалагічнага факультэта УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" на працягу 1998-2000 і 2005 гадоў на Лідчыне. Фальклор як мастацтва народнага слова знаходзіцца ў пастаянным руху, таму ў падборцы твораў пададзены тэксты як старажытных пластоў народнай творчасці, так і ўзніклыя ў апошнія дзесяцігоддзі.

## К А З К І

### Лісічка-хітрычка

Ехаў дзед, вёз рыбу. Лісічка бяжыць ззаду і просіцца:

- Дзядуля, падвязі мяне.

А гэты кажа ёй:

- Калі ў мяне няма месца.

- Хоць маю адну лапку.

- Ну, тады сядай дзе-небудзь там, з канца.

Яна села і ўсю гэту рыбку з воза сцягае. Дзед едзе і не чуе, што яна ўзадзі гэту рыбку скідае. Скідала-скідала, наскідала амаль ўсю. Скочыла з воза, падабрала гэту рыбку, а дзед як ехаў, так і паехаў. Глядзіць потым, а яго рыбкі няма й пятай долі: ліса ўсё ўкрала. І вось так дзед прыехаў без нічога дахаты. Баба кажа яму:

- А дзе ж твая рыбка?

А дзед адказвае:

- Я ж вёз яе ўсю, дзе яна падзелася?

А потым і кажа:

- Гэта я лісічку падвозіў, і яна мяне абхітрыла - і я прыехаў ні з чым.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 2000 г. у в. Радзівонішкі Лідскага р-на ад С.А. Місюкевіч, 1933 г.н.*

### Васілёк і ведзьма

Быў дзед і баба. У іх не было дзяцей. Баба бедавала, што няма. Дзед кажа:

- Ціха, баба, пайду ў лес, можа, што знайду там.

Узяў паленца, вычасаў, прынёс яго дахаты:

- Я знайшоў, у нас будзе хлопчык. Як мы яго назавём?

І рашылі назваць Васільком. Зрабіў дзед лодачку, паехаў Васілёк у рэку рыбу лавіць. А баба гэтым часам напякла бліноў і яек, прынесла тваражку, піражку і кажа:

- А, сынок Васілёк, прыплыві да беражку, паеш тваражку.

Ён прыплыў, аддаў рыбу бабцы і паплыў назад. Затым прыйшла ведзьма і кажа:

- Сынок Васілёк, прыплыві да беражку, паеш тваражку.

А ён кажа:

- Гэта не мая маці, бо ў маёй маці тонкі голас.

Ведзьма пайшла да каваля, той пракляпаў ёй язык, і зноў яна прыйшла да ракі і кажа:

- Сынок Васілёк, прыплыві да беражку, твая маці прыйшла, тваражку прынясла.

Ён і прыплыў, тады ведзьма яго схапіла і панесла, зачыніла ў хаце і дала яму гарэхаў. Прайшло паўмесяца, прарэзала ведзьма яму палец, кроў не ідзе яшчэ з Сушчыка-Лушчыка. Трэба карміць яго яшчэ арэхамі. Праз месяц зноў прыйшла да яго, прарэзала палец і пайшла кроў. Тады ведзьма кажа:

Дунька-Лунька, хадзі печ паліць, Сушчыка-Лушчыка варыць.

Прынесла лапату, Васілёк сеў на яе, але не ведаў, як правільна сесці. Тады Дунька-Лунька стала паказваць, як трэба сядзець, і села на лапату. Васілёк шух яе ў печ, а сам уцёк у явар. Прыляцела ведзьма і кажа:

- Пакачуся, Сушчыка-Лушчыка крыві наеўшыся, напіўшыся.

А Васілёк кажа, седзячы ў явары:

- Пакаціся, паваліся, Дунькі-Лунькі наеўшыся, яе крыві напіўшыся.

Пачуўшы гэта, ведзьма выбегла з хаты і пачала сячы явар. На тую пору ляцелі гусі, і Васілёк папрасіў у іх, каб яны скінулі яму пер'е. Гэтым пер'ем ён адзеў толькі ногі, тады ведзьма падыходзіць усё бліжэй і бліжэй. Зноў ляцелі гусі, і Васіль таксама папрасіў пер'я. І яны яму скінулі пер'е. Калі ведзьма канчала высякаць явар, Васілёк узляцеў над яварам і паляцеў з гусямі да роднай хаты. Баба насыпала ячменю, а дзед паставіў гарэлку, і пачалі гуляць.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 2000 г. у в. Шпількі Лідскага р-на ад З.С. Карасцей, 1912 г.н.*

## Іванушка-дурачок

Быў дзед. У яго былі тры сыны, аднаго звалі Іванушкам-дурачком. Аднойчы бацька кажа:

- Вось, як я памру, каб кожны на ноч прыйшоў пераначаваць на маю магілу.

Старэйшыя браты не хацелі хадзіць, а ўсё пасылалі Івана-дурачка. Прыйдзе Іван на магілку, палачкаю стукне, бацька пытае:

- Хто там?

- Гэта я, Іван.

- А чаму старэйшы сын не прыйшоў?

- Вось ён мяне папрасіў, я і прыйшоў.

- Ну, кладзіся Іванка.

Іванка ляжа, паспіць, на другую ночку прыходзіцца сярэдняму сыну ісці. Зноў просяць Івана:

- Схадзі, Іванка, ты.

Зноў Іванка згадзіўся. Прыходзіць ізноў, стукае палачкай. Бацька пытае:

- Хто там?

- Гэта я, татачка, Іван.

- А чаму сярэдні сын не прыйшоў?

- Ён мяне папрасіў, я і прыйшоў.

- Ну, кладзіся.

Прыйшла трэцяя ноч. Яшчэ сонца не ўзышло, а Іван пайшоў на бацькаву магілу. Прыйшоў, ізноў палачкай пастукаў. Тады бацька кажа:

- Ну, кладзіся.

Паспаў зноў ночку Іванка, а на ранку бацька кажа:

- Там на даліне, Іванка, стаіць дуб, прыйдзеш да гэтага дуба і скажаш: "Дубе, дубе, адамкніся". Гэты дуб адамкнецца, а там тры кані стаяць. Вось вазьмі каторага, калі трэба будзе куды ехаць. А гэты дуб ізноў зачыні.

Іван схадзіў, паглядзеў коней і прыйшоў дахаты.

- Ну, што табе тата гаварыў?

- Нічога не гаварыў.

Не расказаў Іван пра коней. У тым царстве, дзе жыў Іван, у цара была дачка прыгожая. Цар аб'явіў: "Хто сарве пярсцёнак у яе з пальца, за таго аддам замуж". Старэйшыя браты вырашылі паехаць туды, пабралі коней, а Іван-дурачок кажа ім:

- Браткі вы мае, можа і мяне возьмеце?

- Сціхні, - кажуць, - дурань.

- Чорт вас бяры. Дай кошычак, я пайду ў грыбы.

Прыйшоў Іван да таго дуба, пастукаў палачкай, дуб адкрыўся, ён узяў аднаго каня і ўспомніў, што бацька яму казаў: "Калі будзеш браць каня, улезь у яго правае вуха, а з левага вылезь, і станеш ты тады прыгожым хлопцам". Так ён і зрабіў. Прыехаў Іван да царскага палаца, праязджае міма, аднаму брату па казырку палачкай трохі стукнуў, другому даў. Царэўна сядзіць на першым паверсе, руку паставіўшы праз акно. Ніхто не змог дастаць пярсцёнак з яе рукі. На другі дзень яна села на другім паверсе. На другі дзень пайшоў Іван зноў да другога каня і паехаў да палаца. Іван падскочыў на кані і амаль не сарваў пярсцёнак. Браты прыехалі дахаты і кажуць, што нейкі прыгожы хлопец на добрым кані прыязджаў.

- Можа я гэта быў?

- Сціхні, дурань.

На трэці дзень Іван узяў трэцяга каня і паехаў у палац. Царэўна была ўжо на трэцім паверсе. Конь падскочыў, і Іван сарваў пярсцёнак. Прыехаў Іван дахаты, паставіў коней, адзеў пярсцёнак на палец і завязаў трапачкаю. Залез на печ і ляжыць. Тады цар аб'явіў, каб усе, хто быў каля палаца, прыехалі да яго на абед, каб выявіць, у каго пярсцёнак. Калі браты

ад'язджалі, Іван стаў прасіцца, каб і яго ўзялі, але тыя адмовілі яму. Пайшоў Іван зноў да дуба, узяў каня, але ў вуха не ўлазіў і паехаў. Селі ўжо ўсе за стол, і Іван разам з імі. А цар ходзіць ды на іх рукі глядзіць. Убачыў цар, што ў Івана рука завязана і пытае, што здарылася.

- Зрэзаў я крышку палец.

- Ну, пакажы.

Развязаў Іван анучку, а ў яго пярсцёнак на пальцы блішчыць. Цар аддаў дачку за Івана, нягледзячы на тое, што ён быў дураваты і брыдкі, і даў ім пакойчык невялікі, каб яны там жылі. Браты прыехалі і расказалі ўсё маці.

Так пажылі яны нядоўга, другі цар аб'яўляе вайну гэтаму. Ну, і паехалі ваяваць. Пайшоў Іван-дурачок да дуба, узяў лепшага каня, шашку і паехаў ваяваць. Як махне Іван шашкаю, то войска таго цара і падае. Так і разбіў ён варожае войска.

На другі дзень знайшоўся асілак на кані і стаў з Іванам на шашках біцца. Конь гэтага асілка, падскочыўшы, разбіў Івану нагу. Тады бацька царэўны завязаў нагу Івану сваім платком.

Прыехаўшы ў палац, Іван пайшоў у свой пакой спаць. Але у гэты момант Іван быў прыгожым, бо перад тым, як ехаць на вайну, улез каню ў вуха. Прыехаўшы з вайны, Іван быў самім сабой. Цар зайшоў у пакой да Івана і ўбачыў у таго на назе свой платок. Калі Іван устаў, цар кліча яго да сябе і кажа:

- Як да цябе мой платок трапіў?

- Вы мне ім на вайне нагу перавязалі.

Іван схадзіў да таго каня, улез яму ў адно вуха, вылез праз другое, зноў зрабіўся прыгожым. Так яны і сталі жыць.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 2000 г. у в. Радзівонішкі Лідскага р-на ад У.А. Багуцкага, 1924 г.н.*

## Купецкі сын і панскі сын

Жыў купец і пан. У купца быў сын, і ў пана быў сын. Такія аднолькавыя, што не адрозніць. І касцюмы яны аднолькавыя насілі, і росту аднолькавага былі. Аднойчы выбраліся яны ў дарогу ехаць. Узялі ў бацькоў коней, пісталеты і паехалі. Прыехалі яны на скрыжаванне, а там стоўб стаіць. Яны кажуць:

- Вось давай выстралім у гэты стоўб па разу, калі з твае дзіркі будзе кроў цячы, значыць ты загінуўшы, а калі з маёй - значыць я. Калі будзеш ехаць дадому назад, да гэтага стаўба прыедзеш, будзеш ведаць, хто з нас загінуў.

Так яны і зрабілі. Адзін паехаў управа, другі - улева.

Прыехалі яны ў лес. Едуць лесам, выходзіць насустрач воўк. Панскі сын дастаў пісталет і хацеў стрэліць у ваўка, але той кажа:

- Не страляй, я табе яшчэ спатрэблюся.

Панскі сын так і зрабіў, не стаў страляць. Так жа сама выйшаў і да сына купца воўк, але і той страляць не стаў. І колькі яны ні ехалі, усю дарогу да іх жывёлы выходзілі. Потым выйшаў мядзведзь, пасля і да другога сына выйшаў леў. Ехалі яны, ехалі і прыехалі да невялічкай хаткі пры дарозе.

Заязджае панскі сын у гэтую хатку, а там стары сядзіць і дачка побач з ім. Вельмі прыгожая. Сталі яны з дачкою жаніцца. Ажаніліся, а ўвечары жонка і кажа:

- У нас такі лес ёсць, хто туды паедзе - ніхто не вяртаецца.

На ранку ўстаў панскі сын і кажа:

- Паеду на паляванне.

А сам сабраў усіх жывёл і паехаў у той лес. Едзе ён, едзе і бачыць навокал вельмі шмат каменняў, а побач старая сядзіць і жарок комкае палкаю. Пад'язджае панскі сын да яе і кажа:

- Бабулька, ці можна ў цябе пераначаваць?

- Можна, кладзіся, чалавеча.

Яны пакладаліся, і панскі сын заснуў. А старая палачкаю па каню стукнула, ды конь каменем стаў. І па ваўку, і мядзведзю, і льву, і панскаму сыну палачкаю стукнула. Усе яны сталі камянямі. У гэты час праязджае купецкі сын каля стаўба на скрыжаванні. Бачыць, што з дзірачкі панскага сына паказваецца кроў. І падумаў ён, што панскі сын загінуў, і паехаў шукаць яго. Едзе-едзе, заязджае да гэтай хаткі. Жонка яго як убачыла, адразу кажа:

- Ну, што там у лесе, расказвай, што там было?

Яна думала, што са сваім мужам гаворыць, а купецкі сын усё сабе на вус матае. На ранку ўстае ён і кажа:

- Паеду я на паляванне.

Сабраў ён усіх жывёл і паехаў. Прыязджае і бачыць тую самую старую. Купецкі сын пытае, ці можна пераначаваць. І тая адказвае:

- Можна, кладзіся.

Купецкі сын палажыў каня, ваўка, мядзведзя, льва, а каня пільнаваў, што старая далей рабіць будзе. А старая стукнула палачкаю па каню, той каменем стаў, і воўк, і мядзведзь сталі камянямі. Тады купецкі сын кажа льву:

- Схапі яе!

Леў схапіў старую і трасе, а купецкі сын кажа ёй:

- Калі ажывіш усіх маіх жывёл, то тады пушчу цябе жывую. Старая кажа:

- Мне трэба ісці ў крынічку па жывую ваду.

Адпусціў яе па ваду.

Набрала старая вады, прынесла, капнула на кожную жывёлу і на панскага сына. І ўсе яны ажылі. Паехалі разам яны дахаты, а па дарозе ўсе каменьчыкі палівалі жывой вадой. І пачалі ўставаць жывыя людзі. Прыехалі яны да той хаткі, а жонка не ведае, каторы яе мужык. Прыйшла яна да старога і кажа:

- Дапамажы мне пазнаць, дзе мой мужык.

Ён кажа:

- Вазьмі шарык, налі туды бурачнага квасу, палажы на грудзі і скажы: "Калі не будзеце прызнавацца, то зарэжуся". І вазьмі ножыкам пракалі гэты шарык. Як пойдзе з яго гэты сок, як кроў, твой мужык

сам да цябе першы кінецца. Як кінецца - трымай яго, гэта і будзе твой мужык.

Так і здарылася.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 2000 г. у в. Радзівонішкі Лідскага р-на ад У.А. Багуцкага, 1924 г.н.*

### Чарнушка-дачушка

Быў дзед і баба. Была ў іх дзевачка, якая не мылася, не прыбіралася - таму яе называлі Чарнушкай. Дзед зрабіў у студні хатку для яе, улажыў падлогу, прарэзаў дырачку, каб можна было падаваць ёй есці, паставілі коечку і столік. Пасадзілі яе туды, сказалі, што калі яна будзе мыцца, то ёй будуць даваць есці. Баба наварыла кашы, прыйшла да дачушачкі-Чарнушачкі і кажа:

- Ці прыбралася, ці харашо зачасалася?

Яна кажа:

- Умылася, прыбралася, харашо зачасалася.

- Дай ручку, дам ложачку кашкі.

Яна руку падала - баба кашы дала. Сядзіць, есць.

Зара прыходзіць воўк і кажа:

- Чарнушка-дачушка, ці прыбралася, ці харашо зачасалася? Дай ручку - дам ложачку кашкі.

- Не ўмылася, не прыбралася, не дам табе ручкі, - адказвае тая.

Воўк пайшоў. Тут жа прыходзіць маці. Дачка дае ёй ручку.

Воўк зноў прыйшоў і кажа тоненькім галасочкам, дачка падала ручку. Воўк схапіў за яе і панёс. Прынёс дахаты і сказаў, каб яна варыла ежу:

- Я пайду ў лес, будзеш клікаць мяне, я ўчую. Прыйдзеш на парог і скажаш: "Хто ў лесе начуе, чый голас чуе, прыйдзі вячэраць". А я буду казаці: "Я ў лесе начую, твой голас чую, іду да цябе вячэраць".

Прыйшоў дахаты, Чарнушка-дачушка падала яму есці, а сама схавалася. Дала мышцы ключык, каб тая званіла. Воўк з печы палена кідае і крычыць:

- Чарнушка-дачушка, вылазь, твая маці памерла.

Яна пытае:

- Хто табе такое гаварыў?

- Варона прыляцела, гаварыла!

- Ну добра, садзіся, паедзем.

Бацькі Чарнушкі ў покуце вырылі яму, нагрэлі вады і чакаюць Чарнушку-дачушку. У гэты час прыязджаюць яны. Пачалі частаваць ваўка. Яму кажуць:

- Сунься, зяцік, бліжэй да покуці.

Ён сунуўся і паляцеў у яму. Зэдлік адсунулі, налілі туды кіпятку і засыпалі пяском.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 2000 г. у в. Шпількі Лідскага р-на ад З.С. Карасцей, 1912 г.н.*

### Калечка

Жыла-была дзяўчына з доўгімі залатымі валасамі. Сказала, што замуж пойдзе толькі за хлопца з залатымі валасамі. Колькі да яе прыязджалі і бедныя, і багатыя, і прыгожыя, і не, а яна не згаджалася.

Знайшоўся адзін хлопец-разбойнік, які пакрасіў валасы і прыйшоў у сваты. Яна згадзілася. Дагаварыліся аб сустрэчы, на пярэгляды. Галя прыязджае да яго, а дома нікога няма. Адчыняе пакоі і разглядае. Чарга дайшла да сыпяльні, дзе стаяла два ложкі. На стале ляжала запіска, дзе гаварылася, каб іх чакалі. Жыў будучы жаніх там з двума братамі. На адных дзвярах яна прачытала:

- Хто сюды ўвайдзе, той адсюль не выйдзе.

Але дзяўчына ідзе ў той пакой і кладзецца спаць, але сон яе не бярэ. Чуе, што нехта ідзе.

Прыйшлі два браты і заўважылі, што тут быў нехта чужы. Дзяўчына залезла пад ложак і назірала. Два браты напіліся і кажуць:

- Прыедзе Галя, мы паздзекуемся і заб'ем яе.

Трэці брат прывёў нейкую дзеўку. Яны выпілі разам, знахалілі яе, адсеклі палец і знялі пярсцёнак. Завялі тую дзеўчыну ў склеп, адрубалі ёй галаву і аставілі там.

Пярсцёнак упаў пад ложак, дзе ляжала Галя. Адзін з братоў кажа:

- У нашай хаце нічога не згіне.

А Галя ўзяла калечка і ўцякла. Скрыпнулі дзверы. Браты прачнуліся, але не здагадаліся.

Чакаюць яны дзень, два, тры. І рашылі самі паехаць да Галі. Прыязджаюць і пытаюць:

- Галя, чаму ты не прыехала?

А яна кажа:

- Я прысніла страшны сон: быццам была ў вас і бачыла, што вы забілі дзяўчыну.

Браты змікіцілі, што папаліся. А брат і бацька дасталі і паказалі калечка. Братоў злавілі і пасадзілі ў цямніцу.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1999 г. у в. Мееры Лідскага р-на ад З.В. Лебядзінскай, 1915 г.н.*

## ЛЕГЕНДЫ, ПАДАННІ, СКАЗЫ

### Пра паходжанне назвы вёскі Ганчары

Ходзіць такая быль. Даўным-даўно, у XVII стагоддзі на цяперашнюю тэрыторыю Лідчыны прыехалі баяры наўгародскія. Стомленыя яны вырашылі адпачыць каля аднаго пасялення. Зацікаўленыя мясцовыя жыхары вырашылі даведацца, што за людзі іх наведалі. Для гэтага вырашылі адправіць да баяр маладых дзяўчат. Аднаму з баяр спадабалася дзяўчына. Яны панаходзілі адзін аднаго. Але бацькі

дзяўчыны перш чым выдаць дачку замуж вырашылі даведацца, чым можа займацца хлопец, якой справай іх здзівіць. Задумлены ён пайшоў на бераг ракі. Сеўшы каля гліны, ён у задуменні пачаў ляпіць посуд. І ў галаву яму прыйшла думка: а што, калі распачаць рабіць вырабы з гліны. З той пары распачалася ганчарная справа. А пасяленне, дзе абаснавалася гэтая сям'я маладога баярына і дзяўчыны, пачалі называць Ганчары.

Ходзіць яшчэ такі павер, што ў 1812 годзе Напалеон праходзіў праз Ганчары, і яму вельмі спадабаліся вырабы, ён нават з сабой узяў некалькі вырабаў. У цяперашні час на тэрыторыі вёскі Ганчары вельмі шмат гліны, але па якойсьці прычыне ганчаровыя вырабы не вырабляюцца.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1997 г. у в. Ганчары Лідскага р-на ад А.А. Літвіна, 1927 г.н.*

## Пра паходжанне назвы горада Ліды

Прыйшоў князь на тую зямлю, дзе цяпер Ліда стаіць. У самым цэнтры пабудаваў вялікі замак прыгожы. Стаў князь думаць, як яму свой горад назваць. А была ў яго дачка Ліда. Вось і вырашыў назваць ён горад так, у гонар сваёй дачкі - Лідай.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1998 г. у в. Тарнова Лідскага р-на ад І.І. Грыцкевіча, 1915 г.н.*

## Шведская гара

Каля вёскі Вялікая Вольнава сёння знаходзіцца гара. Яе называюць "Шведская", таму што лічыцца, што ў шведска-рускую вайну шведы нанасілі яе каскамі.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1999 г. у в. Хадзюкі Лідскага р-на ад І.У. Банцавіч, 1960 г.н.*

## Адкуль зязюля ўзялася

Жылі сабе дзед з бабаю, і была ў іх унучка. У зімовы час захварэлі дзед з бабаю, і захацелі яны вады напіцца. Паклікалі ўнучку і папрасілі яе, каб прынесла вады. Пайшла ўнучка да калодзюся, а там вуж ляжыць. І да яе кажа так:

- Калі пойдзеш за мяне замуж, то дам табе вады, а як не пойдзеш, то не дам табе вады.

Яна, бедненькая, збаялася, спалохалася гэтага вужа і ўжо не ведае, што сказаці, і сказала:

- Добра, пайду за цябе замуж.

Паабяцала яму стаць яго жонкаю. Тады вуж даў ёй вады, яна зачэрпала, прынесла дадому, напаіла дзедушку і бабушку. І яны папраравіліся.

А ўвечары, як ужо час спаць класціся, прыходзіць вуж і стукае ў дзверы. Дзед з бабаю не ведаюць, хто гэта прыйшоў. А ён так спявае:

*Адчыні, хвілю-рылю,*
*Адчыні, жана мая,*
*У той час шлюбавала,*
*Як у студні ваду брала.*

Дзед з бабаю пытаюцца ў унучкі:

- Хто гэта там такі?

І яна расказала дзеду і бабе:

- Гэта вуж ляжаў на калодзюсі, і ён мне вады не даваў, а сказаў, што калі пайду за яго замуж, то тады дасць вады. Ну, я пашкадавала вас і паабяцала яму, што пайду за яго замуж. Вот ён і прыйшоў.

Дзед з бабаю і кажуць:

- То ідзі ўжо адчыняй.

Яна пайшла адчыніла дзверы, улазіць вуж у хату. Напалохаліся яны, але ўжо позна. Вячэраць пара. Зварыла баба вячэру, наліла і яму. Селі яны есці, а ён як сеў вячэраць да міскі, то і кажа:

*Ідзі есць, хвілю-рылю,*
*Ідзі есць, жана мая,*
*У той час шлюбавала,*
*Як у студні ваду брала.*

Баба з дзедам і кажуць:

- Ідзі ўжо садзіся да яго і еш разам.

Яна стараніцца, не хоча, толькі лыжкаю водзіць. Ну вось павячэралі яны. Пасля вуж і кажа:

*Сцялі пасцель, хвілю-рылю,*
*Сцялі пасцель, жана мая,*
*У той час шлюбавала,*
*Як у студні ваду брала.*

Баба і гаворыць ёй:

- Ідзі пасцялі.

Дзеўчына паслала ложка, а сама ўжо думае лезці на печ спаці. А вуж, як стаў класціся спаць, кажа:

*Ідзі спаць, хвілю-рылю,*
*Ідзі спаць, жана мая,*
*У той час шлюбавала,*
*Як у студні ваду брала.*

Яна баіцца, але баба кажа:

- Ідзі ўжо кладзіся да яго спаць.

Прыйшла яна і лягла толькі на край ложка. А ўночы, у дванаццаць часоў, ён з сябе гэту смужку вужовую скінуў, і такі харошы хлопец стаў, такі прыемны. І стаў ён расказваць ёй, што з ім сталася. У даўнейшыя часы, як праклянуць бацькі дзіця, тым яно і становіцца. Яго бацькі праклялі за нейкае непаслушэнства. І вось ён стаў вужом. І шчэ не прыйшоў яго час варочацца да бацькоў. Дзеўчыне так шкада стала яго, і так яна ўжо свайго мужа ўпадабала.

А як толькі зараз уставаць, так ён ізноў гэту смужку сваю вужовую злажыў і зноў - вуж. Яна ўжо

не баіцца яго, ужо і есць з ім, і гаворыць. І жывуць ужо яны добра. Стала баба ў яе распытваціся:

- Чаму ўжо ты не баішся яго?

Яна ўзяла бабе і прызналася, а баба ўначы, калі яны спалі, напаліла печ, узяла яго смужку і ўкінула ў печ. Калі ранкам ён устаў, глядзіць, а смужкі няма, то ён і кажа:

- Што-та смярдзіць, смужка мая смярдзіць, што смярдзіць, смужка мая смярдзіць.

А баба ўжо апраўдваецца:

- Гэта пастушкі агонь бралі, гэта пастушкі прыходзілі агонь бралі.

І не прызнаецца. А ён ужо зразумеў, што яго смужку спалілі, а ён шчэ без яе не можа паказваціся на людзі. Але са сваёю жонкаю жыў ён так добра, ужо было ў іх двое дзетак: хлопчык і дзяўчынка, хлопчык старэйшы, а дзяўчынка малодшая. І вось захацелася жонцы на яго радзіму паглядзець. І просіць яна, каб завёз яе на сваю радзіму. Ён не хацеў, так яму не хацелася. Але як стала яна прасіць. І ён згадзіўся.

А каб дайсці да яго радзімы, трэба было рэчку пераплываць. Ён тады і кажа жонцы:

- Бяры дзіця адно на адну руку, другое - на другую, на мяне садзіся, я цябе перавязу. Але мне не можна шчэ да бацькоў сваіх паказвацiся.

Яна так і зрабіла. Села на яго, і ён перавёз яе на той бок ракі. А на развітанне сказаў ёй так:

- Як прыйдзеш мяне клікаць, то гавары так: плыві-плыві, тупеначка, плыві-плыві да берага, калі прыплыве белая, то паеду, а як чырвоная, то тут буду. Толькі помні гэтыя словы.

Развіталіся яны, і пайшла яна з дзецьмі да яго бацькоў.

Прыйшла да яго роднай хаты, расказала, хто яна такая: што яна жонка іх сына і прыйшла пазнаёміцца з імі, а яго няма з ёю. Бацькі прынялі яе, але ўсё роўна хацелі даведацца пра сына, яны шчэ на яго зэмства мелі. І вось яны сабраліся ў лес па дровы і просяць яе:

- Дай нам хлопчыка пацешыцца.

Узялі хлопчыка з сабою, білі, шчыпалі яго, усяляк мучылі, хацелі даведаціся, што бацька маці казаў, як матка адыходзіла. Але хлопчык не прызнаўся.

На другі дзень яны ўжо просяць:

- Дай нам дзяўчынку пацешыцца.

Пайшлі ў лес па дровы, узялі дзяўчынку, сталі яе біць, шчыпаць, выпытваць. Дзяўчынка і расказала, як бацька гаварыў маці: плыві-плыві, тупеначка, плыві-плыві да берага, калі прыплыве белая, то паеду, а як чырвоная, то тут буду. І яны адпусцілі дзяўчынку дахаты, а самі пайшлі да ракі і гэтак сталі клікаць. Сын іх і прыплыў, а бацькі ўзялі і адрэзалі яму галаву.

А жонцы нешта там хмурна, але ж яна нічога не ведае. І вось ужо збіраецца яна дадому. Прыйшла да ракі, узяла дзяўчынку на адну руку, хлопчыка на другую і кліча мужа свайго:

- Плыві-плыві, тупеначка, плыві-плыві да берага, калі прыплыве белая, то паеду, а як чырвоная, то тут буду.

А тут і прыплыла чырвоная тупеначка, гэта ўжо кроў мужава прыплыла.

Так яна ўжо і засталася. І вот яна перамяніла хлопчыка ў дубочак, а дзяўчынку ў асінку, а сама стала зязюлькаю.

І вось менавіта таму зязюля з дуба на асіну пералятае і ўсё куе, а гэта яна ўсё кліча свайго Якубку: "Якуб-ка, Якуб-ка".

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1999 г. у в. Парачаны Лідскага р-на ад Я.В. Баран, 1931 г.н.*

## Дзе чорт не мог звесці пасварыцproperly ці ся, то бабу паслаў

Жылі сабе дзед з бабаю. І надта ж у згодзе жылі, цэлае жыццё не тое што не пасварыліся, а нават ніколі не перагаварыліся. Вельмі спагадлівыя былі адзін аднаму. А чорт усё шукае якой прычыны, каб звесці. Ну, а іх не мог ніяк звесці пасварыціся.

Ну вось і сядзіць чорт у сваім балоце і прыдумляе прычыну, каб пасварыць дзеда з бабаю. І вось аднойчы пасля зімы ідзе па балоце адна баба па траву, босая, бо не мела ў што абуціся. Чорт у яе і пытае:

- Чаму ж ты, баба, босая ідзеш?

А яна яму адказвае:

- А ў што ж маю абуціся?

Тады чорт ёй і кажа:

- Звядзі такіх і такіх людзей пасварыціся, то дам табе лапці, а то яны ўсю жызню пражылі і ні разу не пасварыліся.

І паабяцаў той бабе лапці. Гэта баба кінула ўсё і пабегла да той сям'і. Прыбегла і пытае ў бабы:

- А дзе твой мужык?

Тая адказвае:

- У полі гарэ.

А тая баба гаворыць:

- А ты тут у хаце стараешся, працуеш, есці варыш, зараз яму панясеш?

- Так, зараз мужу есці панясу, - адказвае баба.

Тады тая жанчына і гаворыць:

- Ты яму есці панясеш, а ён цябе забіваць збіраецца, у яго на патыліцы волас расце. Калі ён вырасце вялікім, ён цябе ўсё роўна заб'е, ды і ў яго другая ўжо ёсць. А ты паслухай, як я табе параджу. Як панясеш яму есці, то калі ён паесць, то прылашчыся да яго, скажы, хай паложыць галаву табе на калені, ты гладзь яго па галаве, няхай абасне, а ты тым часам знайдзі той волас і зрэж яго брытваю, бо як ён урасце, то мужык усё роўна цябе заб'е.

Падгаварыла яна так бабу, а сама пабегла да мужыка. А мужык у полі гарэ. Яна да яго:

- Ах, ты, чалавечку, а ты стараешся, а ты робіш, а ты гарэш, а твая жонка з другім запінаецца, а я ж была ў тваей жонкі цяпер. Яна зараз прыйдзе, прынясе табе есці, і ты, калі паясі, то яна скажа палажыць табе голаў на калені, уродзя яна цябе гладзіць будзе, але ж яна цябе забіць хоча брытваю. Асцерагайся ты яе!

Удала так мужыку жонку, а сама пабегла.

А жонка зварыла есці, наліла ў збанок, хлеба ўзяла і панесла дзеду есці. Прыходзіць на поле, ён гарэ. Дала яму есці, ён паеў. Яна і гаворыць:

- Палажы ты мне голаў на калені, я цябе пашчупаю.

Так ужо прыдабрылася да яго. Бачыць той мужык, што тое і палучаецца, як тая баба нагаварыла. Палажыў ён ёй голаў на калені, а яна грэбалася, грэбалася па валасах, а ён прытварыўся, што заснуў. Дастае баба брытву і шукае той валасок зрэзаць, каторы сівы. А ён як глянуў, што правільна тая баба сказала, што будзе жонка яго рэзаць, спалохаўся, схапіўся і давай жонку біці, а яна стала адбівацiся, давай яны ўжо сварыціся і біціся. Ён крычыць:

- Ты другога маеш!

А яна:

- Гэта ты мяне забіць хочаш!

А чорт за кустом сядзіць і рагоча, што сам не мог звесці пасварыціся за цэлае жыццё, а баба звяла пабіціся. І ўжо цяпер лепей чорту вер, як бабе.

І ўжо лапці перадаваў бабе цераз рэку на патыку, бо ўжо і чорт баяўся да бабы даступіцца.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1999 г. у в. Парачаны Лідскага р-на ад Я.В. Баран, 1931 г.н.*

## Князёўна

Жыла ў адным каралеўстве князёўна. Яна была чараўніцай. У яе закахаўся каралевіч з суседняга каралеўства. Ён пачаў ездзіць да яе, а на мяжы іх краін было дзве гары. Баючыся, каб хлопец яе не кінуў, чараўніца да нагі каня прывязала загавораны клубочак нітак. Паніч ездзіў на чорным кані, а князёўна на белым.

Аднойчы, як раз паміж дзвюх гор, клубок скончыўся і зляцеў з нагі каня. Хлопец ператварыўся ў камень, бо Бог пакараў князёўну-чараўніцу за яе вялікі страх застацца адной, за чары ў каханні, за недавер да свайго хлопца.

Кожны дзень прыходзіла дзяўчына і плакала. Аднойчы яна прысягнула на тым месцы: "Я не буду есці, піць, спаць, я працiснуся ў самую маленькую дзірачку, але нават пад зямлёю знайду сродак вярнуць свайго каханага". І яна пайшла ў свет. У аднаго ведзьмара яна дастала жывой вады. Вярнуўшыся на тое месца, яна пачала крапіць камень вадой і чытаць замовы. І ранкам камень стаў чалавекам. Так дзяўчына вярнула каханне, страчанае з-за свайго недаверу і падазронасці. Хутка яны справілі вяселле.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 2000 г. у в. Белагруда Лідскага р-на ад Я.І. Гонзы, 1939 г.н.*

## Пра абраз святой Маці Божай

Пан меў дзве дачкі. Аднойчы пайшла адна дачка на рэчку купацца. У вадзе яна заўважыла абраз, які зараз знаходзіцца ў касцёле, у вёсцы Белагруда. Абраз плыў па рацэ, а потым спыніўся. Дачка пана падышла да абраза і хацела выняць яго з вады, але абраз ўвесь час адплываў ад яе. Тады дзяўчына пайшла дадому і ўсё расказала малодшай сястры.

Малодшая сястра вырашыла таксама пайсці на раку. Толькі яна нахілілася, каб узяць абраз, як ён апынуўся ў яе руках. Затым яна прынесла абраз дадому. Праз некаторы час яго перадалі ў касцёл.

Сам жа касцёл будавалі больш, чым сотню год.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1999 г. у в. Мохавічы Лідскага р-на ад М.А. Шымунь, 1929 г.н.*

## Збан слёз

У адной жанчыны памерла дачка. Маці доўга не магла ўсцешыцца і ўсё плакала і плакала. Існуе такое павер'е, што калі маці шмат плача па свайму дзіцяці, то на тым свеце надта ж яму цяжка, дзіця ходзіць усё мокрае і яшчэ з сабой носіць поўны збан слёз.

І вось нехта сказаў маці, што яна можа ўбачыць сваю памерлую дачку. Каб гэта адбылося, ёй трэба на ўсе святыя пайсці ноччу ў касцёл. Там у той позні час павінны праходзіць душы памерлых людзей. А калі будзе ісці дачка, то накрыць свечку церлам.

Пайшла маці ў касцёл. Узяла з сабой свечку, церла. Стала і глядзіць. Як мінула дванаццаць гадзін, пачалі ісці душы. Доўга яны ішлі, але дачкі ўсё не было. Глядзіць маці, чакае. Нарэшце ідзе яе дачка самая апошняя. Уся мокрая і нясе збан слёз. Убачыла яна маці і хацела кінуць у яе гэтым збаном са слязьмі. Ды маці паспела навярнуць церлам свечку. Свечка патухла, і дачка не ўбачыла, куды кідаць. Маці пайшла з касцёла і больш ужо не плакала так па сваёй дачцэ.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1998 г. у в. Тарнова Лідскага р-на ад Н.М. Грыцкевіч, 1924 г.н.*

## Здарэнне на могілках

Неяк раз ехаў адзін ксёндз са сваім клерыкам ад хворага. Вёска была дальняя, і застала іх ноч у дарозе. Сталася так, што шлях іх праходзіў праз могілкі.

Вось едуць яны сабе і ў вус не дуюць, гавораць, смяюцца. Раптам у клерыка ажно дух пераняло - бачыць - бягуць за іхнім вазком прывіды. Бялюткія такія, ажно свецяцца. Клерыку трохі адлягло ад сэрца - ён штурхае ксендза. І паказвае яму пальцам на тых

прывідаў. Паўглядаўся ксёндз на тых істот. А потым як прыпусцілі яны каня шпарчэй. А прывіды - таксама хуткасці прыбавілі. Хацеў клерык пахрысціць іх, каб адсталі, ды ксёндз не даў. Дастаў ён з кішэні хустачку, махнуў ёю ў той, у другі бок, што ад сябе, - прывіды і пабеглі туды.

А ксёндз з клерыкам хутчэй ад таго месца, ад граху далей.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 1998 г. у в. Тарнова Лідскага р-на ад І.І. Грыцкевіча, 1915 г.н.*

**Нечысць**

У канцы вёскі нашай вялікае кустоўе. Тут падарожных і заводзіла. Здаецца, гавечка ляжыць. Той дзядзька за ёй, у кусты. А там толькі корч. А ён думае, што авечка, нясе яе ў воз. Толькі ў хаце замест жывёлы заўважаў падмену. Бывала заводзіла і ў гразь. Так было, а пасля на тым месцы паставілі выяву святога Яна. А так гэта чорт блытаў.

А бывала во яшчэ што. Ішоў каваль ад дзеўкі. А да яго выйшла нейкая пані на казліных ножках. А аднойчы на тым месцы побач з возам, на якім ехалі людзі, ішла нейкая істота з капытамі, з конскімі нагамі і хвастом. Але цяпер такое ўжо не здараецца.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 2000 г. у в. Белагруда Лідскага р-на ад Я.І. Гонзы, 1939 г.н.*

## Неўтаймаваная душа

Мне тады было сем гадоў. Гэта была вясна 1994 года. Мы жылі ў горадзе Лідзе. У нашым доме было чатыры пакоі. У трох жылі я, старэйшы брат, мама і тата. А ў чацвёртым - бабуля Воля і дзед Валодзя. Я вельмі любіла дзеда, і ён - мяне. Але ў гэтым годзе дзед памёр. Я вельмі баялася смерцяў і пахаванняў. У гэту ж ноч, пасля таго як дзеда пахавалі, пачалося…

Я заўсёды верыла ў жыццё памерлых і ў тое, што яны могуць з'яўляцца жывым людзям… Усе ўжо паснулі, толькі я ўсё не магла заснуць: могілкі, труна, плач людзей былі ў мяне перад вачыма. Але яксьці я заснула. І раптам мае вочы расплюшчыліся - я глядзела ў акно, сэрца забілася ў два разы хутчэй. Каля ложка пачуліся крокі, падлога рыпела ўсё часцей і часцей. Мне пачулася цяжкае дыханне нейкага мужчыны. І я разумею, што гэта дзед. Я была вельмі напужана, нават не магла крыкнуць ці паклікаць брата. Я нацягнула на сябе коўдру, схавалася з галавой, мне было цяжка дыхаць. І тут, каля маёй галавы, я пачула дыханне і тупаючыя на месцы крокі. Я больш не магла дыхаць, і раскрыла коўдру, і тут усё знікла. Я з цяжкасцю заснула, таму што баялася, што ўсё паўторыцца.

На наступны дзень я нічога не сказала бацькам, а толькі расказала брату, але ён мне не паверыў. Але мы з ім дамовіліся, што калі гэта паўторыцца, то я яго разбуджу, і мы разам будзем не спаць. Так яно і было: пачалося тое ж самае. Я паклікала брата Дзіму, ён прачнуўся і запаліў святло. Я хутка пабегла да яго ў ложак. Мы выключылі святло. Доўга нічога не было чуваць, але праз некаторы час пачалося ўсё спачатку. Дзіма быў у жаху, ён старэйшы за мяне на чатыры гады, а быў так напалоханы, як і я. Мы накрыліся коўдрай і дрыжалі, а потым запалілі святло - і ўсё знікла. Мы разам з братам спалі ў адным ложку з запаленым святлом. Раніцай мы ўсё расказалі маме, тату і бабулі. Але нам не паверылі. На трэці дзень ужо нічога не было.

Праз паўтара месяцы бабуля нам расказала, што за сорак дзён да смерці дзеда яна не спала ні адной ночы: яна чула шэпт нейкіх людзей, тупат ног, рыпенне падлогі; яна заўсёды бачыла карлікавага чалавека, які вісеў на свяцільніку ў цэнтры пакоя. Яна расказвала, як першы час яна баялася гэтага чалавека і накрывалася коўдрай, але хутка прывыкла і нават адважылася запаліць святло, але чалавек вісеў і не знікаў, тады бабуля сказала: "Вісіш тут і вісі, а мне да цябе справы няма!" Пасля гэтых слоў яна больш яго не бачыла, але шэпт і крокі чула. Адзін раз бабуля не вытрымала і пачала сварыцца, як бы адганяць ад сябе ўсю гэту нечысць, і больш такога не паўтаралася. Бабуля схуднела, дрэнна ела, гаварыла сама з сабою, мы хацелі выклікаць урача, але як прайшло сорак дзён, яна пачала прыходзіць у сябе.

*Запісана студэнткай спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" С.Г. Хмялеўскай у ліпені 2005 г. у г.Ліда ад В.В. Гумбар, 1987 г.н.*

## Сказ пра тарноўскую графіню

У Тарнове была некалі графіня, што не мыла цэлы тыдзень твару, каб быць больш прывабнай. Яна ела шпарагус. Вось вясной, як ён маладзейшы і падобны на пачаткі кукурузы, сакавіты, яго збіралі і марынавалі. У гэтым шпарагусе шмат вітамінаў. Іх - пачаткі гэтыя - варылі ў салёнай вадзе. Пасля тапілі кароўе масла, каб яно было амаль карычневага колеру, і ім палівалі вараныя пачаткі шпарагуса. Гэта дзейнічала: графіня мела больш за сорак гадоў, а выглядала менш, як за трыццаць.

*Запісана студэнтамі спецыяльнасці "Беларуская філалогія" УА "Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" ў ліпені 2000 г. у в. Белагруда Лідскага р-на ад Я.І. Гонзы, 1939 г.н.*

***Апрацоўка тэкстаў***
***Р.К. Казлоўскага.***

**Ежы Путрамант**

# ПАЎВЕКУ

## Маладосць*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Дом на Піўной**

А можа гэта ўсё рабілася на год раней? Калі не памыляюся, калі той з'езд адбыўся вясной 33 года, то я забыў падчас аповяду пра вялікі канфлікт: пра разрыў са Шрэдарам.

Восенню 1932 года мы разам з ім жылі ў драўляным аднапавярховым доме пры вуліцы Піўной, у паноў Краснадомскіх.

Быў гэта дом, тыповы для часоў царскай Расіі, бадай што збудаваны з трохі пагабляваных круглякоў. Падобныя вы спаткаеце ў Іркуцку і ў Хельсінках.

Стары Краснадомскі быў, здаецца, пенсіянерам-чыгуначнікам. Меў ён незлічоную колькасць сыноў-напэўна больш, чым паўтузін і адну адзіую дачку. Усе яны былі светлымі бландзінамі. Малодшыя хлопцы мелі бульбаватыя насы і нахабныя, але свойскія характары. Старэйшыя мелі прамыя, тонкія на канцы насы. Былі вельмі ветлівыя, гаворачы губы складалі сэрцайкам, як засцянковыя шляхцянкі. Займаліся ўжо і тым, і гэтым, і не вельмі вядома, чым. Але сям'я жыла беднавата.

Таму здалі нам пакой. Бо, гэта была хутчэй бальная зала. Вокны на тры бакі свету. Паміж імі ложкі: чатыры. Бо жылі ўчацвярых, з малодшым братам Леана Зэнкам і Янкам - Выдрай, які прыязджаў цяпер з Банева кожныя пару месяцаў на пару тыдняў, каб паздаваць калоквіюмы.

Пасярод стаяў стол і чатыры крэслы. Цана была даступная, па пяцьдзесят злотых з носу, таму мы і пайшлі на гэтае вар'яцтва. Прыйшла зіма, адкрылася таямніца: пакой быў нялюдска халодны. Мы хадзілі да Краснадомскіх па дровы. З раніцы малодшыя лабатрасы прыносілі скупое бярэмца паленцаў і пучкі лучын ці жагараў - для распальвання. На нашыя скаргі старэйшыя адказвалі, складаючы рыльцы ў сэрцайкі: усё адбывалася вельмі ветліва.

Не могучы справіцца з холадам, кінуліся ў спорт. Рабілі забегі вакол стала: дзесяць кругоў і нават сто. Бегалі, хто хутчэй, на час. Я меў някепскія вынікі, быў, мусіць, найлепшы. Вырашальнае значэнне мела тэхніка выканання віражоў. Па сутнасці беглася ўвесь час з нахілам нейкіх 30 градусаў у кірунку стала.

Мала таго, рабілі забегі цераз бар'еры, г.зн. цераз столкі. У сэнсе разагрэву магу смела рэкамендаваць гэты спосаб.

Шукалі таксама іншых заняткаў. Вось, напрыклад, такі рацэпт на вельмі моцны зварот галавы як бы не ад удачы. Вінаваты нахіляецца, правым указальным пальцам датыкаецца падлогі. Левай рукой цягнуўся даслоўна да правага вуха, але па-за правай рукой. І цяпер хопіць зрабіць дзесяць кругоў, не адрываючы пальца ад падлогі і левай рукі ад правага вуха. Потым паспрабуйце прайсці роўна па дошцы...

Так мы тады і жылі ў тым пакоі халоднай восенню і марознай зімой, ратуючыся такімі вось заняткамі вяскова-рэкруцкімі. Мелі нават здарэнне вельмі драматычнае з Мілашам, некаторы са Шрэдараў укінуў у гарохавы суп (звярні ўвагу, вельмі цудоўна!) пачак запалак. Быў прыструнены мною ў баксёрскім двубоі. Апісваў гэта сям-там. ("Два глыткі Амерыкі").

І недзе вельмі хутка пасля той гісторыі дайшло паміж Леанам і мной да разрыву.

Перадумова была ерундовай. Я падсмейваўся са Шрэдараў, абодвух, бо абодва мелі пэўныя забаўныя слабасці. Прайшло мне на думку, што іх імёны ў сувязі з тым падыходзяць да каламбурных дзеясловаў. Распавёў, здаецца, Маслінскаму, той паўтарыў...

Леан выбухнуў найгоршай, бо халоднай раз'юшанасцю. Перастаў са мной размаўляць. У сваю чаргу заеўся я. Перасталі адзін другога заўважаць. Калі адзін прыходзіў у кампанію і заставаў другога, атрымоўваў дзіўны стрэс і зараз жа выходзіў. Так, як перад тым былі неразлучныя да той ступені, што блыталі нашыя прозвішчы, так цяпер сталі "нязлучнымі". Колькі разоў, калі хто што арганізоўваў, заўсёды мусіў выбіраць: або Шрэдар, або я.

Трывала так да канца: да вайны, да смерці Шрэдара. Гаворыць гэта, што мусіў быць нейкі больш глыбокі повад, не той каламбур. Напэўна Леан узбунтаваўся супраць маёй манеры пераламвання яго ляноты, балаганства, бязмэтавага існавання. Тое, што мне падавалася з майго боку клопатам пра яго дабро, ён мусіў прымаць як нязносную патрэбу дамінавання над ім. Не гледзячы на смяшкі і каламбуры я цяжка перажыў гэтае расстанне. Праз некалькі год сніліся мне розныя драматычныя сцэны з удзелам Леана. Я не пазбавіўся пачуцця віны па сённяшні дзень. Зрэшты, хутчэй якраз сёння ўдаецца мне лепш усвядоміць уласную віну ў той справе.

Шрэдар адчуў той разрыў яшчэ мацней: папросту перастаў вучыцца. Хадзіў часам на семінары, але ўжо не здаў ні аднаго экзамена і вучобы не скончыў. Не развіўся таксама як паэт, хоць друкаваў часам сям-

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

там, у прэсе галоўным чынам віленскай, вершы, якія вельмі дакладна перадаюць яго асабовасць, цікавую і разамлелую.

Нейкі час яшчэ ў сілу інэрцыі жылі разам. Пакой наш падзяліўся на два маўклівыя лагеры: Выдра стаў на мой бок. Была гэта класічная "халодная вайна". Калі нельга было іначай, гаварылі безасабова, у пустэчу, што трэба зрабіць тое і тое. Чым больш мы мелі рацыі, тым больш "тыя" былі супраць.

З вялікай радасцю ўсе раз'ехаліся нарэшце на велікодныя канікулы.

Абодвух Шрэдараў няма. Леан загінуў, як я ўжо ўспамінаў, на Блізкім Усходзе, пасля побыту ў СССР і выхадзе адтуль разам з Андарсам. Здаецца, памёр ад тыфу. Зянон - які, трэба заўважыць, не меў ніякіх інтэлектуальных схільнасцяў, хутчэй быў схільны да механікі - ажаніўся ў час вайны. 20 ліпеня 1944 года, у час паўторнага бамбавання Вільні, загінуў разам з жонкай у доміку сваёй бабулі на Новым Свеце.

Нават ад дома на Піўной не засталося ані следу. Але гэта яшчэ перад вайной. Памёр Пілсудскі. У Вільні хавалі яго сэрца на Росах. Маршрут урачыстага шэсця вёў цераз Піўную (г.зн. пасля выйсця з Вострай Брамы адразу налева, навукас). Вулачка была смешна вузкая, яе гвалтоўна пашыралі. Дом Краснадомскіх трапіў пад ламы рэгулятараў. Наставілі тычак з чорна-блакітнай драпіроўкай (колеры Віртуці Мілітары) і бела-чырвонай (Крыж Валечных) на перамену, неяк прыкрываючы страшэнную беднату тога закутка Вільні, нават брук трохі паправілі, каціныя лбы (булыжнікі) замянілі брушчаткай (пліткай, чэсанай з каменю).

У той час саркастычна гаварылі, што адзіная ўрэгуляваная ўрбаністычная артэрыя Вільні вядзе на могілкі. З любасцю, якая выцякала з усё большай прывязанасці, я хадзіў і запісваў усе праявы найвялікшага крызісу Вільні, параўноўваючы гэты адрэзаны ад сваіх лагічных гаспадарчых сувязяў горад да дрэва, якому залішне блізкія межы пападціналі карэнні.

**Гарэлка**

Пару крокаў ад Піўной быў Райскі завулак. Так зваўся сапраўды, так фігураваў на плане горада.

Вільня мела сваё Пякельца, мела сто іншых асаблівасцяў гэтага тыпу. Але той Райскі завулак быў неаспрэчным довадам не абы якога пачуцця гумару паноў з Гарадской Рады.

Быў гэта нудны і досыць брыдкі, загнуты пад вуглом завулак, увесь агароджаны высокімі платамі з дошак, за якімі былі нейкія склады дрэва, агароды, нешта такое. Дом наш на тым завулку быў бадай што адзін. Адкуль узялася гэтая назва? Ад гэтага дома, канешне. Быў там адзін з найбольш элегантных бардэляў горада.

Вялікдзень 1933 года быў ранні, я прыехаў у Банева яшчэ падчас разводдзя. Канешне, рушылі адразу ў Дакудава.

Як вядома, адразу перад уездам у вёску Дакудава знаходзіўліся могілкі. Размешчаныя вельмі добра, бо на абрывістым беразе Нёмана, штогод яны станавіліся ахвярай чарговай паводкі, якая адрывала ад іх па некалькі, а то і з дзясятак магіл. Летам на разлеглым мелкаводдзі валяліся шматлікія людскія чарапы і галёначныя косткі.

На гэты раз Нёман яшчэ не рушыў. Тубыльцы на пытанне, ці можна пераехаць па лёдзе, адказвалі: "А, можна, можна, яшчэ ніхто не праваліўся...".

У Дакудаве святочныя п'янкі. Аздобай кампаніі былі паны-паліцыянты. Наладзілі забаву. У Янкялевічаў мне сказалі, што прыехаў новы камендант і што мае вельмі прыгожую жонку. Канешне, аказалася нябрыдкай, хоць мне не падабалася. Затое вельмі чынна круціўся вакол яе Выдра.

На забаве я пазнаёміўся з камендантам, нейкім Б. Быў гэта малы бландзінчык з рудымі вейкамі і блакітнымі вочкамі. Не пасаваў да сваёй жонкі. Была ў тым нейкая таямніца. Асаблівa, што вельмі пазітыўна адносіўся да залётаў Выдры адносна сваёй жонкі. Падобна, як толькі бачыў, што Выдра накіроўваецца да іх дадому, хапаў пас і выскокваў праз тыльныя дзверы.

На забаве - як звыкла ў зале гмінскага будынка - усе напіліся. Выдра любіў гэтую работу наогул, а цяпер меў ужо асаблівую прычыну - пані Галіна, камендантша, раз і другі станцавала з некім іншым.

Напіўся і пачаў паўтараць з упартасцю, што вяртаецца ў Банева. Камендант са слязамі на вачах угаворваў яго, каб застаўся.

- Не магу, - дастаў астатні аргумент Выдра, - Галіна мне здраджвае.

- Мне таксама, - з меланхалічнай пакорлівасцю



***Нёман пад Дакудавым. Варыяцыі на гамлетаўскую тэму.***

кінуў Б.

Абняліся, падперлі галовы, пілі далей.

Піццё было ўсеагульным заняткам ваколіцы. Пілі ўсе. Гарэлка пранікала ў звычаі, суправаджала жыхароў даліны Нёмана ад калыскі да труны. Ад калыскі, бо пры радзінных урачыстасцях давалі немаўляці паўкілішка, каб і яно адчула, што свята. Дабіваючыся дзяўчыны, прыязджалі з гарэлкай. Піў да дзяўчыны, калі з ім выпівала, азначала, што згодная. "Чорныя поліўкі" і гарбузы, сімвалы адмовы з даўніх вякоў з іншых ваколіц, аказаліся выцесненымі тым універсальным сродкам "духоўнага жыцця".

Канешне, спецыяльныя п'яныя оргіі арганізоўваліся з аказіі святаў. Святы тыя памнажаліся зрэшты з пакалення ў пакаленне. Ваколіца была мешаная, пераважна праваслаўныя, трохі каталіцкая. На ўсякі выпадак святкавалі і так, і гэтак. Большым святам дадавалі другі і трэці дзень. І гэта не толькі такім, як Божае Нараджэнне, Вялікдзеньд ці Сёмуха.

Тры дні святкавалі Тры Каралі - па дню на кожнага. Ба, святкавалі таксама і чацвёрты дзень, гаварылі, што ў гонар "фурмана", г.зн. тога, хто тых трох каралёў вёз. Каб палічыць, то выпадала б тых святаў каля сотні на год.

Ну а што ў час свят рабіць? Вялікі працэнт дарослых - непісьменныя. Радыё было рэдкасцю, зрэшты, вельмі яшчэ прымітыўнае. Пра кіно, тэатр ці хоць бы спорт ніхто на вёсцы не меў паняцця.

Заставалася толькі гарэлка. Перш за ўсё, як эрзац культуры, замена ці хутчэй сродак, які запаўняў той лішак часу, які гаспадарчае развіццё, пераход ад збіральніцтва да земляробства, прынесла чалавецтву.

Я піў таксама з многіх нагодаў - з амбіцый, з нуды перш за ўсё. У нашай сям'і выразна ішла пэўная дэгенерацыя п'янства. Дзядуля піў шмат і ахвотна. Бацька ад часу ды напіваўся, вельмі кепска гэта зрэшты пераносячы. У сваю чаргу я піў, бо не выпадала, каб малады чалавек не піў, але гарэлка выклікала ўва мне агіду. І не мала сілы волі трэба было, каб яе пераадолець.

Але бытнасць у Дакудаве неадольна трэніравала тую маю сілу волі. Калі прыйдзеш, трэба нешта рабіць. Пагаворыш з паўгадзіны, і ўсе тэмы вычарпаныя. Часам гулялі ў прэферанс. Часам была забава. І тут, і там без гарэлкі нельга было абысціся.

Недзе ў той час здарылася адзіная ў маім жыцці гісторыя. Сустракалі Новы год. Усе былі ў Ганны, жонкі тога херувімка. Пілі, гаманілі, было вельмі міла. Я начаваў у Янкалевічаў. Назаўтра перад паўднём зайшоў да Ганны. Прынялі мяне вельмі холадна. Ветліва, але холадна. Больш здзіўлены, чым абражаны, выйшаў і пачаў дапытваць Рубіна.

Рубін на ўсе мае пытанні махаў рукой: глупства, нічога страшнага. Правёў мяне да варот і ў сваю чаргу сам пачаў раздражняцца.

- Не прыкідвайся, не прыкідвайся. Ну здарылася, цяжка, няма чаго прыкідвацца.

Няшмат бракавала, каб парваў з ім раз на заўсёды, так мяне раз'юшылі тыя выкрунтасы. Толькі тады распавёў. Падобна, я ўчора ўпіўся і пачаў гаварыць брыдкія словы "пры ўсіх", на спробу супакаення схапіў дзіцячую стрэльбачку і пачаў ёй біць па стале. Зламаў цацку, трэба было мяне выводзіць.

Рубін не хацеў верыць, што я нічога з таго не памятаў.

А тым часам сапраўды ўтварылася мне ў памяці чорная яма, у маёй свядомасці неяк нічога не засталося з тога банальнага інцыдэнту.

**Старшыня**

Вільня, як звыкла, абазначала пераскок з краіны нуды, лішку часу, свойскага алкагольнага сельскага жыцця ў краіну недахопу часу, латання дзірак, вялікх спраў.

1933 год быў у нашым краі, нашым горадзе, нашым асяроддзі нечым цалкам іншым, чым 1932 г.

Восень 1932 года - гэта быў не толькі перыяд узмоцненых настрояў левых, рэвалюцыйных, камунізацыйных, а таксама перыяд пэўнага збліжэння - хутчэй флірту, чым сапраўднай прыязні - нашых урадоўцаў да Савецкага Саюза. Польская прэса тады друкавала шмат рэпартажаў з пяцігодкі. Усе памятаюць вялікі мабыць трыццацістаронкавы нумар "Літаратурных ведамасцяў", прысвечаны савецкай літаратуры.

У гэтым годзе тая атмасфера пачала змяняцца, хоць, здавалася б, сітуацыя на свеце складвалася так, што павінна была абедзве краіны зблізіць паміж сабой.

У студзені скончылася доўгая і крывавая агонія Веймарскай Германіі. Гітлер прыйшоў да ўлады. Было гэта першае вялікае паражэнне, якое пацярпеў лагер пралетарскай рэвалюцыі ад часу, калі я пачаў лічыць сябе за яго члена.

Я страшна перажываў тую паразу. Тым больш кранальна, што раней передапошнія выбары ў Райхстаг прынеслі рост камуністычных галасоў. Не зразумела, нязносна было тое, што тыя шэсць мільёнаў галасоў раптам як бы перасталі існаваць. Не мог чытаць газет з таго часу. Цяжка было сабе ўявіць, каб кіраваць пачаў нехта, хто абвяшчаў такі дзікі, звярыны светапогляд. Не мала цяпер было галасоў у польскай прэсе, што прымяненне практычнае ўлады прымусіць Гітлера да змены праграмы, да таго, каб зрабіць яе больш людскай.

Ужо першыя месяцы паказалі нам тую "гуманізацыю". Асабліва павучальным быў лёс сацыял-дэмакратаў. Была гэта для мяне першая навука па тым нядобрым і нямілым прадмеце, якім для кожнага рэвалюцыянера ёсць гісторыя сацыял-дэмакратыі ў дваццатым стагоддзі. Тыя спробы ўтрымацца на паверхні пасля прыходу Гітлера да ўлады. Тое пагадненне з найдзікшым фашызмам, успрыманне яго як улады, бо "легальная". Тая нядольнасць стварэння супольнага фронту з камуністамі перад тварам супольнай страшнай згубы!

Была гэта першая вялікая параза майго лагеру. Першая, але не апошняя. Яна не паўплывала ўвачавідкі на мае погляды, а хутчэй узмацніла іх. Акрамя іншага моцна паўплывала на мае адносіны да СССР. Чым цямнейшая хмара вырастала на Захадзе, тым непазбежнейшым для мяне станавілася збліжэнне з

Савецкім Саюзам.

Прымаючы інтэрнацыяналізм, як неадлучны элемент светапогляду марксіста-рэвалюцыянера, я ўжо ў тыя першыя, цалкам яшчэ "не арганізаваныя" гады палітычнай дзейнасці навучыўся перажываць паразы рэвалюцыі ў кожнай, хоць якой, краіне свету, як уласнае няшчасце. Кожная такая параза на Захадзе мела яшчэ і тую сутнасць, што тым больш быў разлік на такі бастыён, якім быў Савецкі Саюз.

Не ўсе з даўнейшых жагарыстаў перажылі падобную эвалюцыю. Сярод паэтаў, напрыклад, на працягу таго года ўдалося заўважыць пэўнае аслабленне плыні грамадскага ў іх творчасці. Пачалі ў той супольнасці з'яўляцца трэшчыны, якія найперш праявіліся ў наступныя гады.

Але "група Дамбінскага" як такая той перыяд невялікай актыўнасці ператрывала. Адбыліся чарговыя выбары ў Братняк. Эндэцыя ўтрымала ўладу, тым латвей, што Дамбінскі, наколькі я памятаю, ужо не вылучаўся.

На весну я пачаў браць удзел у цалкам спецыфічнай форме існавання групы, г. зн. у падарожжах. Што нядзелю найактыўнейшая частка групы збіралася дзе-небудзь на прадмесці, найчасцей на Звярынцы. Ішлі некалькі кіламетраў за горад да першага лепшага лясочка. Я апісваў гэта ўжо ў "Рэчаіснасці". Ваколіцы Вільні былі нечувана маляўнічыя. Такія, напрыклад, Зялёныя Азёры, недалёка ад Кальварыі, усе ў двухколернай, цёмна- і светла-зялёнай апраўе ёлак і бярозак, сапраўднага колеру малахіту.

Той жа вясной адбыўся чарговы вальны сход Кола паланістаў. Традыцыйна абышлося без барацьбы. Фаляеўскі закончыў вучобу, сыходзіў. На яго месца выставілі дзве кандыдатуры: маю і Гені. Канешне, я выйграў. Канешне - таму, што абсалютая большасць галасаваўшых, гэта былі дзяўчаты. А тыя галасавалі не столькі за мяне, як супраць Гені. Вось вам і тлумачэнне, чаму жанчыны не кіруюць светам. Не памятаю нічога са сходу, бо было без барацьбы. Памятаю шматкі ўласнага самапачуцця. Як на экзамене. Адразу неспакой, ці не правалюся. Потым усё адбываецца вельмі звычайна, не ведаеш нават, чаму так моцна хваляваўся гадзіну назад.

Сумленна скажу - не памятаю амаль нічога са свайго старшынства. Тлумачэнне простае: нічога асаблівага не зрабіў. Зрэшты, праз пару месяцаў мяне ў Вільні не было. Замяшчаў мяне тады бадай што Трыпуцька.

### Вольныя "Жагары"

Пасля чарговых канікулаў, як звыкла сонечных, зялёных, якія пад канец цягнуліся досыць нязносна, не гледзячы на тое, што ў гэтым годзе нашыя сувязі з Дакудавым асабліва ўшчыльніліся, Вільня прыняла нас новай хваляй актыўнасці. З двух крылаў нашага асяродку больш рухавым аказалася на гэты раз крыло літаратурнае.

Якраз цяпер, у трэці і апошні раз, разжылося яно на ўласны друкаваны орнаг. Пасля "Жагараў пры "Слове" і "Перпендыкулярах" пры "Кур'еры Віленскім" вярнулася яно цяпер да першапачатковай назвы і паспрабавала самастойнага жыцця.

Было яно вельмі кароткім і нерэгулярным. Выйшлі здаецца, два ці тры нумары. Загорскі быў галоўным рэдактарам. У адным ці двух нумарах былі надрукаваны мае вершы. Не ўспрыняў гэта як поспех. Заміж гэтага, як цяжкую няўдачу перажываў тое, што ў тым другім ці трэцім нумары нічога майго не далі. Памятаю нейкія прыкрыя мірныя перамовы, дыпламатычныя выкрунтасы Загорскага ці таму падобную ерунду. Якая ж страшная істота паэт-пачатковец!

Ужо пасля некалькіх вершаў пачынае сябе лічыць за роўнага ўсім знакомым песнярам і становіцца "непрамакальным" для нават самых найзычлівейшых парад. Усялякае "незмяшчэнне" як справу амбіцыйную: а чаму там таго далі? Мой не горшы.

Гэтая апошняя формулка для яго - вяршыня самакрытызму. Бо перш за ўсё ён перакананы, што яго на шмат, на шмат лепшы! Пачынае шукаць прычын. З непазбежнай фатальнасцю абмінае найвідавочнае, г.зн., слабасць свайго верша. Заміж гэтага хапаецца за падазрэнне, што не змяшчаюць, бо зайздросцяць, бо яны горшыя, бо не растуць...

Тая класічная дарога літаратурнай псіхапатыі становіцца асабліва прыкрай, калі пацыент перастае быць маладым.

Выданне мела нашмат больш сур'ёзныя клопаты, чым мой кепскі настрой. За сваю "незалежнасць" трэба было плаціць, і якраз не мела чым. Не вельмі ведаю, на што разлічваў Загорскі, ідучы на аднаўленне. Калі разлічваў на бліскавічны поспех, то памыліўся. Выданне мела прыхільнае, але прыглушанае рэха ў краёвай прэсе, чытачы ў цэлым яго не дабіваліся. Не гледзячы на тое, што не плацілі ні граша за друкаваныя матэрыялы, не гледзячы на тое, што ўсе пасады выдаўніча-рэдакцыйныя былі выключна ганаровыя, самі кошты складання і друку палажылі выданне за пару месяцаў.

Такі быў адваротны бок гэтай "незалежнасці". Дадамо, што і той "не адваротны" не быў такі цалкам выдатны, як бы магло некаму падацца. Пачынаючы ад другога, бадай, нумара выданне сутыкнулася з цэнзурай. Былі нейкія ўгодкі Жаромскага. Загорскі даў на пачатку нумара цытату з аўтара "Прадвесня", не дадаючы ні слова каментару. Ну і цэнзура набралася адвагі і пару цытат выразала. Прызнаемся, што цытаты былі выбраны без лішняга клопату пра поўнае паданне пазіцыі Вялікага Стэфана. Часам грунтаваліся толькі на вырыванні адной фразы з рэплікі героя. Напрыклад: "Паліцыя б'е ўсіх без разбору".

Акрамя гэтага нумара самастойныя "Жагары" страцілі вельмі шмат энтузіязму ў параўнанні з тымі пры "Слове". Не цяжка было зразумець, чаму. Папершае, часы зноў змяніліся.

Восень 1933 года была ў грунце рэчаў пачаткам таго смутнага перыяду нашай найноўшай гісторыі, які называецца перыядам палітыкі Бэка.

Пасля штучнага, кораткатрывалага (павярхоўнага збліжэння з СССР Бэк якраз пераходзіў да другога, істотнага этапу свайго манеўру. Фліртцік з Савецкім Саюзам быў патрэбны яму толькі для абляг-

чэння сабе павароту да гітлераўскай Германіі. Ён хацеў паказаць Гітлеру, што калі той не дамовіцца з палякамі, то палякі могуць дамовіцца з саветамі.

Восень таго году ўжо прадвяшчала і фатальны пакт з Гітлерам. Варта здзіўлення: нашыя паэты як бы гэта ўжо прадчувалі. Іх палітычныя запалы моцна прыгаслі.

Ад часу да часу яшчэ прыносілі ахвяру катастрафізму, але ўжо перасталі надмерна цікавіцца грамадскімі справамі.

Было б несправядліва шукаць з іхняга боку нейкі каньюктуралізм. Справа была больш заблытаная. У кожным разе адбілася на іхняй паэтычнай практыцы адсутнасць ўнутранага інтэлектуальнага і маральнага імпулса, якім быў для іх перш за ўсё Дамбінскі.

Ён жа, разам з Ендрыхоўскім, атрымаў замежную стыпендыю. Была гэта, здаецца, апошняя спроба з боку санацыі адхілення ці прынамсі прытармажвання эвалюцыі тых абодвух выбітных маладзёнаў. Ендрыхоўскі выехаў ў Страсбург, дзе працаваў у консульстве, Дамбінскі трапіў у Рым.

**Расійскі фармалізм**

Яго (Дамбінскага, *рэд.*) адсутнасць адразу адбілася таксама і на ўсёй нашай групе. Мы хадзілі на прагулкі, спрабавалі часам нейкія дыскусіі ці абмежаваныя акцыі на тэрыторыі ўніверсітэта, але гэта не мела размаху і закончылася досыць хутка.

Адважыліся нават на спрабу уласнага групавога выдання. Называлася "Разам". Мела гэта быць падкрэсленнем яго ў нейкім сэнсе маналітна-франтальнага характару. Выданне не мела поспеху. Яно было перагружана цяжкімі матэрыяламі і памерла пасля аднаго ці двух нумароў. Як здаецца, выходзіла яно вясной 1933 года. І я зусім не ў стане размясціць у часе наступную спробу. Памятаю толькі, што называлася "Друк", і што я змясціў там найбольш "грамадска скіраваны" са сваіх тагачасных вершаў "Сны пана дырэктара".

Пры адсутнасці Дамбінскага мая ўласная эвалюцыя ішла вельмі знамянальна-дыялектычна, г.зн. у двух абсалютна спрэчных кірунках. З аднаго боку я што раз бліжай знаёміўся з савецкай літаратурай, з тэорыяй літаратуры, наогул з савецкімі справамі. Мела гэта аднак асаблівыя рысы. Я, які стаяў на грунце марксісцка-ленінскім і прызнаваў не толькі непазбежнасць але і выратавальнасць пралетарскай рэвалюцыі, не мог не зразумець, што вырашальнымі ўмовамі поспеху такой рэвалюцыі ёсць існаванне, развіццё і ўзмацненне адзінай сацыялістычнай дзяржавы на зямным шары, г.зн. СССР.

Роля Савецкага Саюза расла не толькі ў выніку яго ўласных поспехаў, але і ў выніку паразаў рэвалюцыйнага руху ў іншых краях. Параза нямецкага камунізму, найбліжэйшая ў прасторы і часе, моцна паўплывала на ментальнасць і пачуццёвы стан мой і маладых людзей блізкай кандыцыі. Практычна гэта абазначала для нас адно з двух: аддаліцца ад руху або з надзеяй на будучую перамогу яшчэ больш звязаць сябе з Савецкім Саюзам.

З гэтага вынікалі далейшыя справы. Тыя, нікім не накінутыя, а ўзніклыя ў выніку ўнутранай рэакцыі пачуццёва- здуменныя адносіны да СССР прыводзілі да характэрных, вельмі агульных спрашчэнняў.

Усё, што савецкае, падавалася нам слушным, свядомым, прадуманым. Усё, што адтуль, мы ўспрымалі, як безпамылковае.

Вельмі хутка пачаліся правалы. Якраз той зімой я сутыкнуўся з працамі расейскіх фармалістаў-Эйхенбаўма, Шклоўскага, Тынянава. Падаліся яны мне нязвыкла цікавымі. Я не толькі сам прыняў іхнія ўстаноўкі, намагаючыся ў меру сілаў развіваць іх на нашым грунце, але і з усім запалам рэкамендаваў іх Крыдлю і сваім паланістычным кампаньёнам. Пры тым не выклікае сумнення, што значны працэнт майго захаплення тымі тэорыямі быў выклінана не іхняй глыбінёй і трапнасцю, а павагай, якую я меў да дзяржавы, дзе яны паўсталі.

Думаю, што шмат апосталаў камунізму нарадзілася ўласна дзякуючы той псіхалагічнай механіцы, цяжарнай дзвюма цяжкімі памылкамі. Некрытычныя, апрыярычна пахвальныя адносіны да любой рэчаіснасці не маюць нічога агульнага з марксізмам. Па другое, жыццё ў Савецкім Саюзе, як і ўсякае жыццё, складалася, ці хутчэй закладала бесперапынную, уласна дыялектычную барацьбу паміж элементамі старога і новага.

Уласна праз пару месяцаў пасля майго энтузіястычнага прыняцця расійскага фармалізму ў Савецкім Саюзе дайшло да вялікай дыскусіі, у якой фармалізм быў разгромлены. Я прыняў гэта адразу з вялікім жалем. Жаль мінуў праз нейкі час, галоўным чынам пад уплывам таго самага асноўнага чынніка: СССР - вырашальная сіла рэвалюцыі. Значна пазней да мяне прыйшло істотнае разуменне спрашчэнняў расейскага фармалізму. Думаю сёння, што зрабілі яны незвычайна характэрную памылку. Трапна спасцігшы пару асаблівасцяў будовы літаратурнага твору, яны звыш лёгка і звыш фарсіравана намагаліся выдаць з тых асаблівасцяў усеагульную тэорыю. Тую самую больш-менш памылку зрабілі фрайдасты.

Аднак, дзякуючы расейскім фармалістам, я здабыў досыць паважнае "становішча" на семінары ў Крыдля. Ведаючы добра расейскую мову, я аперадзіў у той канкурэнцыі найпільнейшых нават таварышак, з Геняй уключна. На ўсіх гусерляў адказваў я эўгенбаўмамі. Мусілі са мной лічыцца.

Што праўда, нешта заважыў і мой ужо тады! - нястрыманы язык. Ужо тады здаралася мне выступаць аднаму супраць, даслоўна, усіх. Вось прыклад:

Крыдль задаў нам як практыкаванне аналіз мала вядомага верша Славацкага. Атрымалі надрукаваны на машынцы лісток. Адбылася дыскусія. Усе панны навыперадкі захапляліся майстэрствам кампазіцыі. Толькі я кісла цадзіў нешта расхлябанае, бессэнсоўнае. Панны на мяне з гвалтам, што я заўсёды такі. Больш дасціпныя пішчалі: ён Славацкаму зайздросціць. Вельмі злы пайшоў адтуль.

Праз два тыдні новае паседжанне і ... канфузія. Аказалася, што памылка: машыністка забыла надрукаваць апошнюю страфу. Вось тады даў ім перцу! Што

ж гэта за кампазіцыя, калі верш можна рваць на строфы, як чарвяка? Што ж гэта за крытычкі, якія выдумляюць вартасці толькі таму, што нехта Славацкі? Што ж гэта за навука, у аснове якой такія развеўныя крытэрыі.

О, потым ужо так лёгка на мяне не насядалі.

### Зноў Варшава

Але адначасова з паступовай светапоглядавай радыкалізацыяй я станавіўся што раз менш актыўным. Група сапраўды мала што цяпер рабіла, але я ў групе рабіў яшчэ менш.

Пасля разыходжання са Шрэдарам я знайшоў пакой на вуліцы Татарскай, тут жа пры галоўнай вуліцы Міцкевіча. Дробная дэталь: дом быў без каналізацыі. Нават цэнтр Вільні далёкі быў у той час ад "сучаснасці". Зрэшты так было і з папярэднім жыллём. У некаторых не было нават электрычнасці.

Але пакой быў вялікі, відны, чысты. Што найважней, цёплы. Пасля таго на Піўной я перажыў сапраўдны шал патанання ў цяпле. Мабыць не выпадкова першы верш, створаны на Татарскай, апяваў Афрыку. Быў зрэшты жудасны з аднаго погляду: як бы наўмысня грамадзіў у кучу збегі зычных, пад ярмом якіх і так ужо енчыць сучасная польская мова.

Аднак нядоўга я цешыўся тым цяплом. Прыйшоў студзень 1934 года. Самы час было брацца за магістарскую працу. Спрабаваў узяцца за яе ў Вільні. Не ішло. Не столькі з недахопу матэрыялаў, колькі з лішку сяброў. Прыйшла думка паехаць ў Варшаву.

Тыя страшныя прыезды ў Варшаву! Выязджаў са снежнага, чыстага горада. На вуліцах званілі санкі рамізнікаў. У вокнах вата і бессмяротнікі. У цэнтры нярушаны снег Цялятніка.

Ноч у цягніку, ноч у Варшаве. Прыязджаў у пяць з хвілінамі - не ведаю, які крэтын пісаў той расклад. Зусім цёмна, а ўжо велізарны рух. Пасля бяссоннай ночы (пра спальныя вагоны я ведаў толькі з "Мадонны Слекінгаў" Дэкабры, звярніце ўвагу, не прачатанай) той рух, тыя іскры пад трамваямі, аўтамабілі. Таўкатня, зласліва жартаўлівыя мінакі. Усё было адпіхваючым, чужым. У дадатак заміж снегу нейкая абрыдлівая хлюпаніна. Ходнікі поўныя бруднай кашы падраставшага снегу, заўсёды нешта на мяжы адлігі і страшныя вятры з-пад Віслы.

Што рабіць а пятай раніцы? Залажу ў цукерню на рагу Маршалкоўскай і Алеі. Шмат шкла і нікелю. Сяджу доўга над шклянкай кавы і свежай булачкай. Нарэшце выходжу. Толькі шостая. Яшчэ ноч. Што рабіць далей?

Знайшоў пакой у Акадэміку на Нарутовіча. Гэтым разам на першым паверсе, ад Граецкай, што больш важна - на аднаго.

Праз пару дзён упарадкаваўся. Зрабіў сцiслы расклад дня. Уставаў рана. Еў у пакоі снеданне: бутэльку добрага малака з "Агрыля" плюс булкі. Часам нешта дзіўнае. Напрыклад малако і сушаныя слiўкі. Потым ва ўніверсітэцкую бібліятэку. Павыпісваў гадавікі часопісаў з семідзесятых і васемдзесятых гадоў. Гартаў іх, шукаючы ўсё, што падпісана было "Б. Прус". Тэмай маёй працы былі навэлы Пруса.

У грунце рэчаў быў гэта чароўны занятак. Нейкія "Навіны", "Каласы", "Кур'еры" - "Штодзённы" ці "Варшаўскі". Колькі водару эпохі застаецца ў такой пажоўклай газеце! Канешне, найменей у прадмовах, трохі болей у фельетонах, і ўжо найболей у хроніках здарэнняў і абвестках. Год 1880, напрыклад, год вялікага будаўніага руху і адначасова абвалаў свежа збудаваных дамоў. Якраз у тым годзе паўстаў "Міхалка".

Альбо палемікі: я выбраў за скупой бібліяграфіі рэцэнзіі першых твораў Пруса.

Уражвальна нізкі ўзровень і штамповасць, асабліва папрокаў. Ужо тады крытыка яшчэ больш, чым "сапраўдная" літаратура хварэла на хваробу статкавасці. Адзін, з пальца высмактаны папрок, паўтараюць пазней усе наступныя. А тое, што ў Пруса кульгае "кампазіцыя". А тое, што характары "не сапраўдныя". І таму падобныя трызненні.

Ужо тады выбухалі палемікі прыкрыя, не пераборлівыя, непрыстойныя. Ужо тады палітычныя расчараванні маскавалі прэтэнзіямі "мастацкімі". Такі, напрыклад, Свентахоўскі праязджае, колькі ўлезе па навэлах ці нават па "Лялькы" ў сваёй "Праўдзе", і вiдаць выдумвае кожны папрок, каб дапячы "былому" пазітывісту. Ужо тады прымянялі знакаміты прыём - хвалілі перадапошнюю кніжку, каб тым мацней "рэзнуць" апошнюю.

Прыходзіў абед. Заглыблены яшчэ ў тыя запыленыя спрэчкі, я ішоў на Севярынаў, да Уршулянак або ў добрую прыватную сталоўку на Бядкарскай.

Потым вяртаўся ў бібліятэку. Усё было б добра, каб не вечары і нядзелі. Нікога я ў тым вялікім горадзе не ведаў.

Нікога. Або амаль нікога. Перш за ўсё было Кола каланістаў. Пайшоў туды. Так, прыпомніў сабе Трокі і "Трупаманта".

У Коле старшынстваваў, здаецца, Жалкеўскі. Пішу "здаецца", бо не ўпэўнены, ці так было фармальна. Ведаю, што "трос" колам без аглядкі на афіцыйныя функцыі. Маю ўражанне, што ён трохі патрасаў і сваім патронам, прафесарам Уейскім.

Ужо тады ён граміў усіх метадалогіяй і семантыкай. Меў дарэчы моцнае атачэнне. Такі Давід Гопэнштанд ці Францішак Сядлецкі паказвалі задаткі навукоўцаў высокага класу.

Але і акрамя іх было шмат цікаўнай моладзі. Прынялі мяне някепска. Аднаго дня дабіўся найвышэйшага даверу: мяне запрасілі на "цяпельца".

### "Цяпельца" і Чаховіч

Задаволена тым, што нарэшце трохі выберуся са сваёй самотнасці, я з'явіўся ў вызначалы час па вызначаным адрасе. Было гэта вялікае варшаўскае памяшканне, напоўненае тлумам моладзі абоега полу.

Было пару прыгожых дзяўчат. Напрыклад, такая высокая, худзюткая паненка з каштанавымі вачыма і задзёртым носікам. Імя мела Ванда. Ахвотна бы каля яе закруціў, але хутка заўважыў, што занятая - і самім Гетманам. Альбо вельмі мілая іншая Ванда, Мар-

коўская. Альбо яшчэ і яшчэ...

З хлопцаў памятаю такога прыгожага, з вялізнымі румянцамі, па прасту як цукерак. Называўся Ян Аляксандр Кроль. І ён ужо тады гаварыў так мутна, што патрапляў трымаць дыскусію нават з Жалкеўскім.

Я трохі пачуваўся на ўзбоччы: усе тут між сабой былі "на ты". Але вельмі хутка гарэлка растапліла лёд. Выпілі яе зрэшты не шмат і адразу сабраліся да танцаў. Паколькі я не ведаў да канца, хто тут з кім, папросту даў сябе выбіраць самім паненкам. Выпадкова патрапіў на правільны спосаб. Неўзабаве адна з іх узялася тлумачыць мне "таямніцы мадрыдскага двара". Танцавалі мы з ёй цэлы вечар. З кута неахвотна паглядаў на нас ранейшы кампаньён маёй таварышкі. І я глядзеў на яго, але без непрыязні. Затое звысака, ён быў ніжэйшы.

Наогул нейкія нізкія былі тыя варшаўскія паланісты. Не тое, каб бракавала ў Варшаве хлопцаў на славу. Толькі што такія не ішлі на паланістыку.

Танцавалі нейкі час. Потым патушылі святло, і ўсе палеглі па-простy на падлозе. Адразу для прыстойнасці трохі спявалі. Потым неяк усе прыціхлі. Што рабілі, дальбог, не ведаю, было цёмна. Я толькі дамовіўся на пазней з маёй партнёркай.

Не, што тут гаварыць, гэта была сталіца. Вяртаўся дадому пад моцным уражаннем "навізны" тых звычаяў. Як я неўзабаве пераканаўся, адрозніваліся яны грунтоўна ад нялюдска г.зн. негамунітарна прыстойных звычаяў віленскіх.

Другога "цяпельца" не памятаю. Затое неўзабаве трапіў у іншае асяроддзе - младалітарацкае.

Не ведаю, хто мяне завёў да Чаховіча. Бадай ці не Загорскі, праездам у Варшаве. Але, як трапіў туды раз, ужо не мог і не хацеў пакідаць.

Чаховіч жыў недзе на Добрай. Была гэта тады таксама нудная, рухлівая, перагружаная вуліца. Меў вялікі пакой з гуцульскімі "лыжнякамі" на сценах і тапчаном.

Збіраліся па некалькі чалавек, сядзелі гадзінамі і гаварылі. Пазнаёміўся ў Чаховіча з некалькімі хлопцамі, з такімі, пра якіх гаварылі і з такімі, пра якіх было ціха.

Прыходзіў Лабадоўскі. У той час быў гэта заядлы прабальшавік. Як такога я прыняў яго са здзіўленнем і сімпатыяй. Пісаў вершы, трохі зробленыя пад Багрыцкага, моцна запраўленыя расейскай тэматыкай, вобразамі слоўніцтвам, пісаныя "польскім гекзаметрам", спеўныя, раскалыханыя, але зрываўшыеся і на крык.

Мой крэдыт сімпатыі быў атручаны. Сам не ведаю, чаму Лабадоўскі з ходу прыняў мяне іранічна, потым зласліва. Аднаго дня ў кухні Чаховіча дайшло паміж намі да бойкі. Такой тыповай для падлеткаў, без ніякага істотнага повaду.

Я не ўхіліўся ад яе, лішне ўпэўнены ў сваім росце. Лабадоўскі быў на галаву ніжэйшы. Але аказаўся вельмі дужым. Вазіліся мы на кухні добрую чвэрць гадзіны, абодва ўражаныя сілай праціўніка. Памятаю схоплены "ў навес" твар Лабадоўскага выпуклы лоб, выцягнуты падбародак. Малы запаўшы носік, адкрытыя ў высілку губы і два рады кароткіх, дробных, чорных спарахнелых зубоў.

Ніхто не перамог. У пэўную хвілю абоім было дастаткова.

Як і ў Мілаша, "левізна" Лабадоўскага была павярхоўная і прахадная. Недзе ў 1933 годзе выдаваў у Любліне ўра- "левы" штомесячнік "Барыкады".

Але ў тым жа годзе напісаў верш, які заканчваўся так:

*Таварыш Пілсудскі,*
*на досвітку польскай рэвалюцыі*
*крывёй Ваша імя напішам мы на тарчы.*

Толькі такім жаўтадзюбым, як я, не падавалася гэта вырашальным.

Восенню 1934 года Лабадоўскі ў "Літаратурных ведамасцях" апублікаваў дэкларацыю, фармальна разрываючы з польскімі левымі. З таго часу перастаў у нас лічыцца.

Поўнай супрацьлегласцю Лабадоўскаму быў Стась Пентак. Там той - брутальны і ўдаваўшы сябе за брутальнага, хулігана, люмпена. Гэты - ціхі, вясковы, нейкі размараны. Быў, здаецца, ужо пасля "Ўзнагароды маладых" за “Маладосць Яся Канефала”, паэтычную рэч, хоць напісаную прозай, поўную нейкага амаль хваравітага закахання ў надвіслянскі вясковы пейзаж. Заўсёды мілы, усмешлівы, які пры кожнай аказіі знайходзіў найспакойнейшую развязку, меркаванні і развагі, як можна больш лагодныя. Падобна, што хварэў на сэрца. Гаварыў, што лекар забараніў яму смяяцца. Таму толькі ўсміхаўся ўдзячна і безабаронна.

Быў яшчэ Браніслаў Міхальскі, вельмі прыстойны, невысокі, шчуплы брунэт. Мала пісаў, мала гаварыў, мала друкаваў. Найчасцей сядзеў у кутку і слухаў чарговую спрэчку. Я не звярнуў на яго асаблівай увагі.

Аднак праз пару гадоў ён прымусіў людзей гаварыць пра сябе. Я прачытаў у газеце яго некралог. Аказалася, што здзейсніў самазабойства. Але як! Кінуўся ў Віслу. Быў аднак бліскучым плыўцом, не вытрымаў, выплыў. Кінуўся зноў, каля дна ўчапіўся за якарны ланцуг стаяўшай там берлінкі і ўжо яго не выпусціў...

Сталым бывальцам на Добрай быў таксама Генрык Дамінскі. Вельмі непаэтычны, бо арганізаваны, услужлівы, мілы, быў як бы ад'ютантам пры Чаховічу. Акрамя таго выдаваў газетку "АПМ", г.зн. Арганізацыі працоўнай моладзі, нейкай такой санацыйнай прыбудоўкі. Меў клопат з гімнам для АПМаўцаў. Чаховіч прапанаваў заміж гімну слоган. "АПМ - зупа, АПМ.." і г.д. Здаецца, ён загінуў у час акупацыі.

Ведаю, што Чаховіч меў шмат формаў уздзеяння на маладых паэтаў. Тады, майце на ўвазе, я не меў пра тое паняцця. На мяне ўздзейнічалі дзве рэчы: яго вершы і яго спосаб побыту.

Яго вершы былі наступным пасля "Лініі" узорам для ўсёй віленскай моладзі. Але "Лінія" для мяне мела перш за ўсё значэнне негатыўнае, здавалася неаспрэчнай толькі ў сваёй крытыцы "Скамандра" і пасаізму наогул. Пшыбась зацікаўляў, але не ўмеў нікалі захапіць. Падаваўся мне занадта выканцэптаваны, замала натуральны. Не ішло пры тым пра "сорам

пачуццяў", пастулат які падаваўся мне бясспрэчным, але пра надмерны холад у бачанні свету. Недахоп нечага, што можна было б назваць "дадатковай вартасцю" паэтычнай, і што ёсць можа па-просту натхненнем.

Але не менш моцна дзейнічаў ён праз свае адносіны да пачаткоўцаў. Ведаю, як адносіліся да маладых пэўныя тагачасныя літаратурныя аўтарытэты, колькі ў тым было напышлівасці, нецярпення, часта немаскаванай непрыязні.

На іх фоне Чаховіч быў просты і зычлівы. Я не здаваў сабе справы з розніцы ў літаратурнай герархіі паміж ім і, напрыклад, скамандрытамі. І ён, і тыя падаваліся прыналежнымі да той самай недасягальна высокай катэгорыі. Тым больш удзячным я быў, што ён прымае мяне ў сябе, што слухае маю балбатню (сам быў маласлоўны), што заўсёды мае для мяне час. Нават часам дапамагаў у змяшчэнні нечага (сам рэдагаваў нейкі вельмі закрыты штомесячнік пры Саюзе польскіх настаўнікаў), так, напрыклад, у літаратурную калонку "З" я трапіў, дзякуючы яму.

Колькі разоў, заязджаючы паней ў Варшаву, заўсёды спяшыў яго адведаць. Калекцыянаваў зборнікі яго вершаў. Найбольш, зрэшты, пдабаліся мне яго тры першыя і апошні.

Апошні раз спаткаў яго ў 1938 або ў 39 годзе. Я праязджаў цераз Варшаву з-над мора. Ён жыў недзе на Фільтровай, здаецца, у высокім сутарэнні вілападобнага доміка. Было рана, я застаў яго ў лазенцы. Падаваўся занепакоеным, змешаным. Прасіў, каб пачакаў яго на вуліцы. Праз хвілю выйшаў з нейкім хлопцам з маладым, але пашарпаным тварам і нахабнымі вачыма. Прадставіў мне яго неяк без тытулу. Мы ішлі і размаўлялі, а хлопец не адзываўся, пасвістваў, аглядаўся на дзяўчат.

**"S"**

Гэта не быў адзіны літаратурны асяродак, куды я наведваўся. Трохі цераз Чаховіча, трохі цераз Жалкеўскага сутыкнуўся я з клубам "S".

"S" - мабыць таму, што "Sztuka" ("Мастацтва"). Была гэта першая генерацыя выхаванцаў "Кузні маладых", выдання той санацыйнай моладзевай арганізацыі, якая называлася "Пярэдняя варта".

Гэтыя з "S" не падаваліся надмерна прывязанымі да ідэалогіі сваіх выхаваўцаў. Уласна вельмі хіліліся ўлева. Пазнаёміўся з чатырма з іх - найвыбітнейшымі. Яны былі на пару гадоў ад мяне малодшыя - у такім узросце гэта іграе каласальную ролю. Таму я глядзеў на іх зверху, як на смаркачоў.

Былі гэта: Ян Кот, Рышард Матушэўскі, Уладзімір Петрак і Альфрэд Лашоўскі. Тры першыя якраз выдалі супольны зборнік вершаў пад назвай "S". Вельмі гэта было слабое. Падавалася мне, што найбольш што сказаць меў Ян Кот. У адным вершы ў яго знайшоў такое, напрыклад, месца:

*Мора - неба зямлі.*

Праўда, удала? А разам з тым ніяк не змяніўся праз астатнюю чвэрць стагоддзя, так сама гаворыць хутка і выключна рэчы глыбокія і так сама абгрызае пазногці. Толькі што тады і пару разоў пазней быў страшна левы.

Таксама і Рышард Матушэўскі ніяк не змяніўся. І тады быў ураўнаважаны, спакойны, чуйны да думкі старэйшых і голасу іншадумцаў. Падаваўся абсалютна шчаслівым, сапраўды меў толькі адзін сапраўдны клопат: у той самы час у Варшаве пісаў вершы іншы Рышард Матушэўскі - і дзе, у "Жоўтай мусе", жудасным, "гумарыстычным", эндэцкім выданні. Кожны, хто знаёміўся з нашым мусіў выслухваць клятвы, што гэты не той.

Уладзімір Петрак быў таксама спакойны, ураўнаважаны і... дасыць бясколерны. І ён у той час хіліўся ўлева, але меней.

Лашоўскі затое быў пякельна чырвоны. Акрамя таго меў поўна прышчоў.

Гэтыя "эс - аўцы " прымалі мяне, прызнаюся, з пашанай. Не мая гэта заслуга, "Жагараў". Хадзілі каля мяне, як каля прадстаўніка моцных гэтага свету. Я адчуваў гэта, тым латвей мне атрымоўвалася глядзець на іх зверху.

Адтуль запрашэнне на сход клуба. Ба, гэта была сталіца! Такія нейкія "эс-аўцы", а ўжо ўласнае (ці дадзенае ім у карыстанне) памяшканне: камяніца Барычкаў. Меў выступаць Пшыбась. Божа, пабягу.

Камяніца была прыгожая, памяшканні таксама. На першым паверсе вялікая залка. У ёй можа шэсцьдзесят чалавек. Выцягваю шыю, чакаю кракаўскага майстра. Выходзіць нарэшце попельнавалосы, невысокі, моцны чалавек з мілым, звычайным тварам. Воплескі. Здаецца, перашэптванні.

І вось у адказ на вітальны камплімент Пшыбась прамаўляе фразу, якую я запомніў даслоўна:

- Дзякуй за прывітанне. Дазвольце і мне прывітаць прысутнага ў зале найвялікшага паэта Варшавы...

- На хвілю спыніўся. Якое напружанне! Шэсцьдзесят прысутных - гэта столькі ж паэтаў. Кожны з іх думае, што мова пра яго. Толькі я спакойны, бо не з Варшавы.

Насыціўшыся той цішай, Пшыбась абвяшчае вырак:

- Адама Важыка!

Зноў воплескі, але ўжо менш. Пяцьдзесят дзевяць расчараваных.

Важык выходзіць на подыюм і стае каля Пшыбася. Найвялікшыя паэты Кракава і Варшавы не належаць, як вядома, да веліканаў. Не без задавальнення занатаваў гэта сабе ў думках.

У тым дэсерце не бракавала перчыку. Былі схільны ў той час прыняць параўнанне Польшчы з абаранкам: што добрае, тое па баках. На младапаэтычнай біржы значыліся Кракаў з "Лініяй", Вільня з "Жагарамі", Люблін з Чаховічам, не значылася ў той жа час Варшава. А дакладней значылася, але як каштоўнасць адмоўная: сядзіба скамандрытаў. Названне Важыка мела падвойнае значэнне. Значыла таксама: не Тувім, не Ляхонь, не Івашкевіч і не Слонімскі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Менску ў выдавецтве “Медысонт”, выйшла кніга Дзмітрыя Дразда “Землевладельцы Минской губернии, 1861-1900. Справочник. 2-е издание исправленное и дополненное ”, 710 ст. Наклад 100 асобнікаў.**




**У Кракаве ў выдавецтве “Znak” выйшла кніга Кацпера Слядзінскага “Ціхацёмныя. Эліта польскай дыверсіі”, 420 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука”, выйшла кніга С.П. Віцязя “Прусы і яцвягі ранняга сярэднявечча: этнакультурная трансфармацыя ў Верхнім Панямонні”, 412 ст. Наклад 300 асобнікаў.**




**У Кракаве ў выдавецтве “Universitas” выйшла кніга Станіслава Цат-Мацкевіча “Дом Радзівілаў”, 420 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Галіяфы” выйшла кніга Сяргея Пясецкага “Пяты этап”, пераклад Я. Янушкевіча, 296 ст. Наклад 300 асобнікаў.**




**У Ракаве выйшла анталогія “Тварам да шыбеніцы. Кастусь Каліноўскі і паўстанне 1863-1864 гадоў у беларускай паэзіі”, 134 ст. Укладальнік Язэп Янушкевіч. Наклад 700 асобнікаў.**

**Камень з нагоды закладкі Сквера імя героя паўстання 1863-64 гг. Валерыя Ўрублеўскага ў Жалудку ў 2011 годзе.**

*Здымак Станіслава Судніка 9.05.2013 г.*